# ПОЛЫМЯ

КНІГА ЧАЦЬВЕРТАЯ



ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПАЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ
1931
ВЫДАВЕЦТВА

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕСЯТЫ



КРАСАВІК
1931



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1931

# ЗЯМЛЯ Ў ВЯТРОХ

*(Урывак з аповесьці)*

**Цім. Зарэчны**

Глухая восеньская ноч. На двары сьцюдзёна і вільготна. У рабочым пасёлку ў зьвярынай роспачы гаўкаюць сабакі. Нехта падранымі галёшамі хлюпае па гразкай вуліцы. Пад нейчай павецьцю куры хлопаюць крыльлямі. Пеўні спалоханым „ку-ка-рэ-ку“ прарочаць непагоду.

А вецер—бяздомны баламутнік, бессаромнік, усюдызалязайка—скіголіць і вые, як жывая істота. Сарвецца са страхі саламянае, бярэма саломы падхопіць пад пахі,—і круціць, і нясе, і падскаквае, як быццам п'яны хлапчына ў вясёлым казачку. Што яму, ветру, бяздомніку-баламутніку: і гразкасьць, і бруд, і душу выядаючы сум,—у вясёлым экстазе завірух аднолькавы для яго і балота, і поле, і гай,—усюды ён пройдзе, праскочыць, праб'ецца,—няма для яго ні заслоны, ні загарадак.

Студэнты гурбою выходзяць з рабфаку. Ноч прымае іх, як чаканых гасьцей. Сьцюдзёнасьць - вільготнасьць абымае, пранізвае. Вецер-баламутнік падхапляе, падштурхвае, гоніць па вуліцы ў рабочы пасёлак. Шэрыя хаткі забіраюць студэнтаў сабе.

Мужчына з жанчынаю выходзяць з рабфаку апошнімі. Яны таксама накіроўваюцца ў бок рабочага пасёлку. Іх таксама ахапляе сьцюдзёнасьць, і вецер-беламутнік падштурхвае наперад. Жанчына захінаецца крысамі паліто, мужчына ўзьнімае каўнер скуранае тужуркі. Яны напамяць абыходзяць лужыны, канавы, шукаюць сьцежку. На вуліцы гразка і коўзка.

Мужчына гаворыць:

— Дазвольце вас падтрымаць... можаце пасьлізнуцца...

Жанчына адказвае:

— Дзякую, не клапаціцеся... так лепш...

Далей ідуць моўчкі, на два крокі адзін ад аднаго.

За імі няпрыкметнай зданьню крадзецца чалавек. Ён не адрозьнівае сухмені ад гразкасьці, ня шукае сьцежкі,—ідзе проста вуліцаю,—балазе боты ў яго бяз дзюрак,—пільна сочыць за ідучымі наперадзе людзьмі. Ён углядаецца ў цемень, і там бачыць смутныя абрысы постацяў—мужчыны і жанчыны, ідучых адзін за адным. Ён баіцца, каб яго ніхто не заўважыў,—ідзе па-за-вугольлю, пералазіць цераз платы, нацянькі па-за хатамі бяжыць угрунь, каб заскочыць наперад мужчыны і жанчыны,

№ 1523.

прытуліцца дзе-небудзь за кутам, прыгледзецца да іх, прыслухацца, што яны гавораць. Але мужчына маўчыць, жанчына таксама, відаць, ня зьбіраецца гаварыць,—ідуць моўчкі, як быццам усё ў іх перагаворана, перадумана, і мэта іхняга падарожжа—простая, як лінія паміж А і В.

Мужчына з жанчынаю спыняюцца супроць двухпавярховага дома тэхнічна-адміністрацыйнага пэрсаналу. Усходзяць на ганак. Пра нешта гамоняць. Чалавек, што сочыць за імі, таксама спыняецца каля паркану. Ён хоча ператварыцца ў адно вялікае вуха, але пачуць, пра што гамоняць мужчына з жанчынаю, ня можа. Ён толькі разьбірае, што голас мужчыны—лісьлівы і лагодны, жанчыны — нэрвовы і настойлівы. Жанчына гаворыць урыўкамі, злосна. Потым яна сьмяецца. Сьмех яе ненатуральны, фальшывы.

Гэты сьмех выводзіць з цярплівасьці чалавека пад парканам. Ён рашучымі крокамі накіроўваецца да ганку, на якім стаяць мужчына з жанчынаю. Але дзьверы ўжо скрыпнулі і за імі зьнікла жанчына, а потым і мужчына. Чалавек застаўся адзін. Ён усходзіць на ганак,—вецер камечыць яго паліто, сьцюдзёнасьцю дзьмухае ў твар,—чалавек спыняецца, становіцца супроць ветру,—твар перад тварам,—ня то гаворыць, ня то крычыць:

— Таварыш Канабрыкіна! Наста Тарасаўна!

Вецер, шолахі, ях сабачы ў рабочым пасёлку,—голас чалавека патануў у цемені ночы. А потым цішыня і звон увушшу, быццам мільёны бомб выбухнулі ў адно мгненьне.

... Стаць на вятру, раскінуць крыльлі рук—шырока, накасую сажань,—і ўзьняцца буравеем над зямлёю ў вятрох, над хмарамі, каб сусьвет быў пад нагамі, у бездані,—паляцець у бурдовую бязмежнасьць, — хоць чалавек і стаяў на вятру, рукі ў кішэні, у сьлізотнасьці і чарнаце. Ці ўзьняцца на кручу, высока—пад неба, глянуць уніз—у роспач і рызыку, заглядзецца ў вочы сьмерці, падражніць яе, як дзяўчаты дражняць хлапцоў, і ашукаць яе, гэтую старасьвецкую, усё яшчэ не адыйшоўшую ў адстаўку, бабулю,—хоць чалавек і ўзыйшоў на ганак-кручу, заглядзеўся ў вочы цемені, ажна цёмна зрабілася ўваччу...

... Чалавек шпарка выходзіць з ганку. Быццам зачараваны — стаіць супроць дому. Адно з вокнаў на другім паверсе раптам асьвятляецца,—прэменьні снопам падаюць на чалавека, на вуліцу, на гразкасьць, у лужыны. Чалавек адскаквае ў бок, у цемень. Пільна ўглядаецца ў акно. Там жаночая рука апусьціла фіранку, адчыніла фортку. Вецер дзьмухануў, фортка бразнулася аб раму. Жаночая рука кручком прымацавала фортку. Зьнікла.

Трывожныя, некуды заклікаючыя гулы гуты. Як сабачы ў бездані ночы. Глухое шамаценьне ветру. Перапалоханыя „ку-ка-рэ-ку“ пеўняў. І адчыненая, прымацаваная да рамы, фортка. Белая фіранка за вакном, Чорная ноч.

У памяці ўсплывае ўспамін. Даўно, а здаецца ўчора:

Хмуры, па-над рэчкаю, бор. Стромкая, крыльлямі ўгару, сасна. На макавіне, пад небам,—гняздо ґругана. Там зазыўна вішчаць ґруганяты. Хочацца ўскочыць туды, паглядзець на іх, схапіць пальцамі за дзюбкі. Хлапчукі паднакваюць: „Лезь, лезь!"

А ўгары шчакотна, па целу бегаюць мурашкі. А неба сіняе, як пялёсткі пралесак увесну. А лугі шырокія,—у красках і пахучасьці. Дубы на лугах дзябёлыя, як сямёхдзесяцігадовыя старыкі. А ўнізе, пад сасною—круча: арэшнік, вольха, калакалуха, лаза,—яна падае з крутаяру ў рэчку. Вада ў рэчцы ціхая, у ёй відаць болакі і кусты гнуткага лазьняку.

... Э-э-эх, паляцець-бы ў вырай, на лугі пахучыя, на неба ў пралесках, лятаць-бы сокалам—вольнай птахай—над барамі цёмнымі, над гаямі зялёнымі, над усёй сонечнай зямлёй—у вятрох і бурах, — да самага краю сьвета, дзе бабы пранікі хаваюць за болакі!..

... балючыя ўзмахі крыла. Іскаркі полымя ўваччу. Гострыя іголкі ў пятках. А ў грудзёх, здаецца, паласнулі нажом,—гарачая кроў булькаціць, пеніцца, сэрца хоча ваверкаю скакнуць на зямлю.

— Стой! Трымайся!—крычаць яму зьнізу.

... і стома, і радасьць пасьля. Маладая крамянасьць зямлі. Пахучая сакавітасьць травы. Задуменны гоман бору. Драпіны на руках і нагах як-бы не баляць. Хочацца ніцма ляжаць, прыслухоўвацца да свайго дуркаватага сэрца, адчуваць салодкую стому і радасьць свайго нечаканага збаўеньня.

— А сьмешна было, калі ехаў ты ўніз па сасьне!—сьмяюцца хлапчукі.

А па-над соснамі, па-над борам лётае ґруган, сьвяткуючы перамогу над ворагам з чалавечае пароды.

... Так і яна—узмахне крыльлямі, ударыць па твары,—паляціш пад кручу, у рэчку, у вір галавой... Яна сумная, а будзе сьмяяцца сьмехам вясёлым, бесклапотным; цікава наглядаць, як бязвусы хлапчына ляціць уніз, нагамі тарчма... — Але гэтага ня можа быць!—ня можа, ня можа!.. ня будзе!..—чалавек шпаркімі крокамі ходзіць усьцяж дому — наперадназад,—чалавек не адводзіць вачэй ад сьвятлом залітага вакна.

... Гэта можа быць,—думае чалавек.—Чаму можа быць?—запытвае нейчы незнаёмы голас.—Мы на двух розных канцавосьсях,—гаворыць чалавек.—Сустрэнецеся каля экватара, — усьміхаецца незнаёмы. — Хлусіце, хлусіце!—злуецца чалавек.—Гэта ня доказы,—спакойна зазначае нейчы незнаёмы голас...

... Раздвоены чалавек шпаркімі крокамі ўсходзіць на ганак. Адчыняе дзьверы. Ускаквае ў цёмны калідор. Вобмацкам шукае скабу.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... А вецер, а бура—за вокнамі, у бездані ночы,—над рабочым пасёлкам, над балотам, над рэчкай Чарнухай,—па ўсім белым сьвеце. Вецер суровы, буяны, з далёкае поўначы, з-за палярнага кругу.

... Праскочыць устрывожаны дзень—у тэмпах, у сводках, — стане перад табою вечар—як гэта? дзень за плячыма?—захіне зямлю чорным крылом ноч—у вятрох баламутных, у буры,—прыдзеш на кватэру, глянеш на мгненьне назад-на сводкі, на лічбы, на тэмпы,—убачыш.

... Бура, таварыш!—Зямля ў бурах! Зямля ў вятрох! — Будзем змагацца за сёньнешні дзень, лепш за ўчарайшы, за заўтрашні, лепшы за сёньнешні, за сучаснасьць, будуючы будучыню.

Жыць—штодзённа новага жадаць, жыць—бесьперапынна новае будаваць, жыць—цагліну за цаглінай класьці ў падмурак будучыні.

Кожнаму хочацца жыць, але ня кожнаму дадзена права на жыцьцё.

Гаўрыла Таратуй ня мае такога права. Хоць ён і партыец, але выпадкова. Хоць ён і дырэктар, але не надоўга. Нездарма Антось Шалы дражніць яго „цэнтрабабай": тоўсты—удвох не абхопіш, заплылы—мутныя вочы ледзь-ледзь віднеюцца, непавароткі—усім тулавам паварочваецца, як воўк,—але ўсё-такі ён сам сабе на розуме, калі справа датычыцца самога.

... Гаўрыла, седзячы ў крэсьле, гаварыў Насьце Канабрыкінай:

— Вось, бачыш, мы падцягваемся, даганяем іншыя гуты. Усё-такі не на апошнім месцы. Калдобініцкая гута—самая апошняя. Вось, пакуль Шклоаб'яднаньне разьлічыцца з ёй, пакуль дадуць ім наганяй, — мы і падгонім... Нас тады ня ўкусіш... І разгаварваць ня будзем...

— Соладка гаворыш, таварыш Таратуй!—перабівала Наста.

— Як-жа, таварыш Канабрыкіна,—я справу... Я так мяркую... Мы зробім адступленьне, стратэгічнае, так сказаць, а потым з новымі сіламі— гайда наперад!..

— Адрамантуй гуту, прывядзі ў парадак, тады ўжо разганяйся:

— Вось менавіта разгон, таварыш Канабрыкіна... іменна тэмпы... Дзівоснае слова!..

— Гэта ня цацкі, таварыш Таратуй!.. Жартаваць небясьпечна... Гута ходарам ходзіць... ня бачылі?.. Схадзеце паглядзеце. На шкломасе — свіль. Хто вінават? Вы цікавіліся?

— Таварыш Канабрыкіна... вы ўжо лаяцца... Можна па-добраму, патаварыску... Давайце агульнымі сіламі... Я, вы, Альфонс Вітаўтавіч, парткалектыў, заўком, рабочыя,—давайце ўсе абмяркуем...

— Вы толькі разважаеце...

— Мы ўсе... Я не адзін...

— Што вы зрабілі?

— Мы-ж калектывам... адказваем... Я, вы, рабочыя, — усе вінаваты, усім трэба напружыць сілы.

— Я не магу працаваць пры такіх умовах! — усклікнула Наста.— Нейкая спакойнасьць, бясьпечнасьць навокал, як быццам людзі прыехалі на дачу ці на бераг Чорнага мора, ва ўсякім разе не на прадпрыемства, не на працу... Так ня можа быць далей, таварыш Таратуй!

— Я не разумею вас, таварыш Канабрыкіна... У нас, канечне, ня ўсё добра...

— Ня ўсё добра!?—наогул—прымаючы пад увагу—аб'ектыўныя ўмовы?! А ведаеце вы, што ў нас ня хопіць на зіму торфу для электрастанцыі?.. Хоць яна і маленькая—піхнуў—паваліцца, але-ж мы без яе ня можам жыць! Ведаеце, што тэмпэратуру ў печы, дзякуючы зьніжэньню процанту шчалачоў, даводзіцца трымаць больш высокую, і выдатак нафты ўзьняўся з 4,1 тоны да 5,7 тоны ў суткі?!.. Ведаеце, што бой з нармальных пяці процантаў узьняўся да 14?

— Канечне, ведаю, ведаю! таварыш Канабрыкіна! Я прымаю ўсё магчымае... Я на ўсё згодзен... Вы-ж ведаеце... Я-ж разам з вамі...

— Вось іменна, вы на ўсё згаджаецеся!.. Ваш паважаны Альфонс Вітаўтавіч Сакалоўскі быў супроць пабудовы дадатковай печы летась—вы былі згодны. Я падтрымала прапанову вынаходцы — вы былі згодны. Сакалоўскі прапануе перайсьці на адзін бой—вы згаджаецеся. Я ўзьнімаю скандал, патрабую нэфэліну—вы таксама згаджаецеся. Гэта толькі тое, што ўспомнілася: вы заўсёды такі. Вы ўсюды такі.

— Вы пачынаеце капацца ў маёй асобе, таварыш Канабрыкіна. Магу давесьці вам да ведама, хоць і самі ведаеце, — я ня першы год дырэктарам... Я ведаю іншыя гуты... Мне не падабаецца ваша пылкасьць... Яна часта перашкаджае справе... Можна цішэй і больш прадукцыйна... Гэта чорт ведае што!..

— Вы можаце на дапамогу ўзяць ня толькі д'ябла, але і боскую матку, таварыш Таратуй! Мне з вамі няма чаго гаварыць. Няхай разгледзіць ячэйка.

— Ячэйка?!.. таварыш Канабрыкіна! Наста Тарасаўна!.. Прашу вас... Я-ж на вас заўсёды спадзяюся... Вы для мяне—самы найлепшы працаўнік... Вы для мяне ня толькі намесьнік дырэктара, але і самы блізкі таварыш... памоцнік...

— Пры чым тут мае якасьці? Вы ўнікаеце справы...

— Якасьці?—ласкавым голасам затараторыў Таратуй. — А хочаце каб я вам сказаў па сакрэту? На вас уся гута трымаецца... Вы больш падрыхтаваны за мяне... Вы можаце ўсё зрабіць... Нельга-ж гэтым злоўжываць!..

— Дзякую за кампліманты!—насьмешліва адказала Наста. — У вас здольнасьці галантнага прымірыцеля вельмі разьвіты... Хоць на конкурс накіроўвай вас... Ведаеце, чым гэта завецца?

— Наста Тарасаўна...

— Вы апартуніст!..

— Я-а?—падскочыў з крэсла Таратуй.

— Вы!—спакойна пацьвердзіла Наста.

— Мы пагаворым з вамі на бюро... Так, так... на бюро...

... На гэтым абарваліся спрэчкі з Таратуем. Апухлы дырэктар таропка захадзіў па габінэце назад-наперад. Наста ўзьнялася з табурэту і вышла.

Дзень прайшоў у напружанай трывозе. Хапалася то за адну справу, то за другую. Але ніводнай не даводзіла да канца. Усё вывальвалася з рук. Настрой быў такі, што хацелася схапіць нешта вялікае, важкае,— узьняць высока ўгару і кінуць з усяе сілы вобземлю, каб разьляцелася ў пух і прах Вялікае і важкае не траплялася пад рукі, — прад вачыма мільгалі лічбы, сводкі, адносіны. Усе яны крычалі аб прарыве, аб недавыкананьні прамфінпляну, аб зьніжэньні якасьці, аб прагулах, лятунстве, п'янках, дэбошах.

У канцы дня прыехаў прадстаўнік „Цэнтрасьпірту". Быў ён у асеньнім паліто, у гарнітуры, пры гальштуку,—акуратны мужчына з рэдзенькай бародкай, з мігаючымі масьлянымі вачыма. Настрой у яго быў вясёлы, як быццам ён толькі што атрымаў прыемную навіну. Убачыўшы на двары Насту, ён узяў яе за рукаў і пацягнуў у кантору. У габінэце дырэктара ён таямнічым голасам, мігаючы вачыма, запытаў?

— Што-ж рабіць, таварышы дырэктары?

— У чым справа?—не ўзьнімаючы галавы ад папер, буркнуў Таратуй.

— А вось у чым, таварышы... Вы ўжо думаеце, што скончана справа з „Цэнтрасьпіртам"? Заплацілі вам грошы, дык і ўсё скончана? Даёш нам чатырнаццаць тысяч шэсьцьсот пяцьдзесят тры рублі! 14653 рублі! Грошы, як звон! Выкладай на кон і баста!

— Як? Што?—прабуючы быць спакойным, запытаў Таратуй.

— А вось вам па парадку, калі ня хочаце верыць! Камісія экспэртаў, па вашаму, нічога ня значыць? А?

— Якая камісія?—зноў, як быццам спакойна, запытаў Таратуй.

— Экспэртаў, экспэртаў, гавару! Камісія з інжынэраў! Вось яна і знайшла, што наша арганізацыя, купляючы ў вас посуд, пераплаціла вам названую мной суму грошай.

— Як гэта пераплаціла?—ня стрымалася Наста.—Наяўныя-ж грошы за наяўную продукцыю?!..

— Вось тут і ўся бяда! Вы нас ашукалі. Мы пераплацілі вам 14653 рублі...

— Вы гаварэце толкам. Ня круціце!—устаючы з крэсла, сказаў Таратуй.

— Я — кручу? — зьдзівіўся і замігаў вачыма прадстаўнік „Цэнтрасьпірту".—Выбачайце. Калі ваша продукцыя гнілая, дык я кручу? Скажэце на ласку! Вашы вагоны, якія прыбывалі з бутэлькамі на наш адрас, былі напалову загружаны бракам. У некаторых вагонах мы знаходзілі 75 процантаў браку. На гэта ёсьць адпаведныя акты. Брак мы перадавалі „Першамайскай" гуце, а дабраякасную продукцыю забіралі сабе. Мы паведамлялі вас, каб вы больш уважліва аднесьліся да бракоўкі посуду на месцы; ня выканалі—ваша віна.

— Ты ведаў пра гэта?—зьвярнулася Наста да Таратуя.

Дырэктар маўчаў. Ён стаяў каля стала, рукамі перабіраючы паперы. На твары яго нельга было заўважыць ня то што сполаху, але і ценю

трывогі. Ён быў спакойным і бясьпечным, як быццам паведамленае не датычылася яго. Ніжняя губа яго адвісла. Погляд быў апушчан на стол, як быццам там было нешта важнае і вырашаючае ўсю справу.

— Ты ведаў пра гэта?—паўтарыла Наста запытаньне.

— Глупства!—замест адказу кінуў дырэктар.

— Таварыш Таратуй... Наша арганізацыя... Я ўпаўнаважаны... „Цэнтрасьпірт"...

— Чаму-ж вы не падалі ў суд?—запытаў дырэктар.

— Мне патрэбен ваш адказ... Магчыма вы згадзіцеся бяз суду...

— На каго-ж вы будзеце падаваць у суд? На нас?

— Канечне, не абвінавацім-жа „Першамайскую" гуту... яна ні прычым...

— А мы вінаваты?

— Канечне, раз ваша продукцыя...

— А па-мойму, — Таратуй узяўся за гузік у паліто прадстаўніка „Цэнтрасьпірту",—па-мойму вы павінны падаць у суд на чыгунку... Яна вінавата... Мы здалі, мы накіравалі, мы ў разьліку... чыгунка пабіла— няхай яна адказвае...

— Таварыш дырэктар,—перабіў прадстаўнік „Цэнтрасьпірту", мігаючы вачыма,—таварыш Таратуй... Экспэртыза давяла, што ня чыгунка вінавата, а якасьць... Бутэлькі крышацца, б'юцца, да іх датыкнуцца нельга...

— А я кажу—чыгунка! Там шкоднікі сядзяць, на чыгунцы! Іх пастраляць трэба! Яны падрываюць нашу гаспадарку!..

... Прадстаўнік „Цэнтрасьпірту" пайшоў ня солана хлябаўшы. Зараз-жа пасьля яго ў пакой увайшоў Сакалоўскі, і яму Таратуй сказаў:

— Толькі што быў той... з гораду...

— Канечне, вы зрабілі так, як я гаварыў?—ажыўлена запытаў Сакалоўскі.

— Так, я сказаў, што за чыгунку мы не адказваем...

— Правільна, я-ж вам гаварыў...

Убачыўшы Насту, ён замяшаўся, а потым лагодным голасам зьвярнуўся да яе:

— Як вы думаеце, Наста Тарасаўна?

— Я нічога пра гэта ня ведала,—суха адказала Наста.

Замешаны Таратуй ласкава загаварыў:

— Я-ж, здаецца, паказваў табе... Так... так... паказваў... Паперкі прыходзілі... Яны паведамлялі нас...

— Ніякіх паперак я ня бачыла,—сказала Наста і выйшла з пакою.

На дварэ яе дагнаў Сакалоўскі і шэптам, заглядаючы ёй у вочы, папрасіў:

— Вы-ж ведаеце, Наста Тарасаўна... Аб гэтым нельга гаварыць рабочым... Даеце слова, Наста Тарасаўна?

— А чаму вы клапоціцеся так? У першую чаргу я буду адказваць...

— Я за вас, Наста Тарасаўна... Ды і мне, як інжынэру...

— Адкасьніцеся!—адказала Наста і, пакінуўшы Сакалоўскага, пашла ў напрамку да рабфаку.

Увечары, пасьля заняткаў на рабфаку, Сакалоўскі папрасіў дазволу ў Насты праводзіць яе да хаты. Моўчкі ішлі ўсю дарогу. Наста ішла наперадзе, за ёю Сакалоўскі. Кожны сабе шукаў сьцежку. Кожны думаў пра сваё. На ганку дома Сакалоўскі зноў папрасіў Насту маўчаць пра справу з „Цэнтрасьпіртам“.

— Вы-ж ведаеце, Наста Тарасаўна,—гаварыў ён,—калі пра гэта даведаюцца рабочыя... калі гэта зробіцца абгаварэньнем стрэчнага і папярэчнага... калі кожны будзе па-свойму тлумачыць...

— Ну, і што з таго?—запытала Наста.

— Ні ў якім разе... Не падумайце так, Наста Тарасаўна... Я ня супроць самакрытыкі... Я ня супроць шырокага абгаварэньня рабочымі тых ці іншых пытаньняў...

— Гэта мая справа, як я думаю.

— Вось, вось, я толькі гэтага і жадаю...

— Хочаце, каб я маўчала?

— Так, так, Наста Тарасаўна...

— Ха-ха-ха!—голасна засьмяялася Наста.—Да пабачэньня...

Наста адчыніла дзьверы і ўвайшла ў калідор. За ёю ўвайшоў Сакалоўскі. Наста шпарка ўзьбегла па лесьвіцы на другі паверхі. Спынілася перад дзьвярыма свайго пакою. Прыслухалася. Крокаў на лесьвіцы ня чутно было. Сакалоўскі, напэўна, пайшоў на сваю кватэру, якая была ў гэтым-жа доме, на першым паверсе.

Толькі распаліла прымус, у дзьверы нехта пастукаў. Запытала:

— Хто гэта?

— Гэта я... на хвіліну...

— Паркан?

— Так...

Адамкнула. Увайшоў Астап. Твар яго быў чырвоны, прыкметна была замешанасьць. Ён спыніўся каля парога.

— Праходзь,—сказала Наста.

— Я... да вас... на хвілінку... Ішоў міма... убачыў... сьвятло ў акне...

— Таварыш Паркан, чаго вы хвалюецеся?..

— Я?.. Нішто... не, не... Вось праходжу каля вас... успомніў...

— Што-ж вы ўспомнілі?—запытала Наста, нагінаючыся да прымуса. Пасьлязаўтра суд... Вы выступіце...

— Мне гаварылі... ведаю...

— Суд над зрыўшчыкамі... Падрыхтавацца трэба...

— Правільна. Неабходна правесьці ў паказальным парадку.

— Каб гэта было навукаю для астатніх... Вось, вось... Гэта значна дапаможа ўзьняць дысцыпліну.

— Ну... і ўсё... Трэба ісьці да хаты...

— Чаго вы ўцякаеце? Гарбата будзе зараз гатова.

— Дзякую... Я сьпяшаюся...

— На спатканьне з кім-небудзь?

— Не, не... Я да хаты...

— Не апраўдвайцеся... Чырвоны твар выдае...

— Я? не, не!.. Да пабачэньня... дабранач!..

— Уцякаеце? Вось які вы... ня ведала...

— Я сьпяшаюся... спакойнае ночы...

Дзьверы бразнулі, за імі схаваўся Астап. Наста стаяла з разьведзенымі рукамі. Думала. Прымус пыхкаў хваравітым уздыханьнем. Вецер-баламутнік за вокнамі сваволіў акяніцамі. На гадзіньніку ўдарыла дванаццаць. На гуце загудзеў гудок. Наста стаяла і думала. Потым прашаптала:

— А ён-жа добры...

Пасьля нагнулася і пагасіла прымус. У вушшу зазьвінела, як ад сотні званкоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Раздвоены чалавек выскачыў, як абвараны, на вуліцу. Вецер заблытаўся ў крысах паліто. На гуце гудок зайграў трывогу. Зьвярыным яхам завылі сабакі.

Дом тануў у цемені. Ледзь прыкметныя контуры сьцен растайвалі ў ночы. На другім паверсе было асьветлена адно вакно. Там была я н а. Раздвоены чалавек замешана і няўклюда ўцёк ад яе. Яна сьмяецца ўспамінаючы яго—недалужнага і спалоханага.

На першым паверсе таксама асьветлена адно вакно. Там ён. Яна ня пусьціла яго да сябе. Ён хітры, праворны,—ён будзе дамагацца яе. Ён пакладзе ўсе сілы, каб завалодаць ёю. Ён скарыстае ўсе сродкі, каб падначаліць яе сабе. Гэтага нельга дапусьціць. Трэба прыкласьці ўсе сілы, каб адпіхнуць яго ад яе. Неабходна ўжыць усё магчымае, каб ён ня мог нават датыкнуцца да яе.

Ён—паганы. На твары яго—сьлізота і затоеная нагласьць. Здаецца, што ў сярэдзіне яго сядзіць зьвярок. Але ён—хітры, праворны, разумны. Ён умее ня толькі складаць формулы, але і нешта другое, калі яму пагражае небясьпека. Ён умее абараніць сябе. Ён часам паказвае, што ўмее і наступаць!—з падцішка, няўпрыкмець, як вужака. Ён інжынэр, галава гуты. У яго хітрасьць лісіцы і спрытнасьць ваверкі. Яго трэба выклікаць у адкрытую бойку. Ён — вораг.

Але яна не падасца на яго закіды. Яна не такая. У яе маладосьць і дужасьць, і шчырасьць. У яе вочы колеру антрацыту. Яна моцная. Непадатлівая. Яна ніколі ня пойдзе поплеч з ім. Ён будзе заўсёды ганяцца ўсьлед за ёю, покуль не застране дзе-небудзь у балоце.

Яна ніколькі не падобна да яго, і яму ніколі не перамагчы яе. Нядарма ў акне яе пакою сьвятло гарыць ярчэй, нядарма чорныя цені блудзяць на яго вокнах. Яе дарога ляжыць торнаю і прасторнай, але яму ніколі не трапіць на яе.

...Чалавек ідзе па гразкай вуліцы,—успамінае вясну:

...Ы-ы-ы-эх, засьпяваць-бы песьню пра неба ў пралесках, пра горы высокія, пра зямлю ў вятрох,—сьпяваць-бы на ўвесь голас пра маладосьць буяную, пра жыцьцё бунтоўнае, каб голас адносіла ветрам у чыстае поле, у пушчу дрымотную, на лугі, на балоты, за рэчкі пукатыя, за вазёры завірушныя, аж да самага краю сьвета, дзе бабы пранікі хаваюць за болакі... Сьпяваць-бы пра лес задуменны: як ён нямее ў пагожыя дні,—не шалахнецца, стаіць ціхі і пакорлівы, падначалены сваім законам; як стогне, раве ў буру, карэньнямі гойдаючы пад сабой зямлю; як зьвярына дзікая кідаецца тады з бярлогі ў бярлогу, з рава ў пралесак, з гушчэчы ў поле; як паляўнічыя-валацугі страляюць зайца наляту, жмурачы вока на мушку... Сьпяваць-бы пра лугі пахучыя: як яны апранаюцца кветкамі пярэстымі, каб дзяўчаты прыходзілі ірваць кветкі, спавіваць з іх вянкі, кідаць вянкі ў рэчку ў яварох і ў чаротах, гадаючы: „Ці дзяўчынаю век векаваць, ці выйсьці замуж дзяцей гадаваць..."

Лугі пахучыя, а дні сьпякотныя,—хочацца рынуць-бухнуцца ў вір галавой, сьцюдзёнасьцю прагнаць смагу. Хочацца плаваць, ныраць да самага дна—чыстага, у жоўтым пяску; хочацца плысьці пад ваду, узмахамі рук перамагаючы плынь. Але работа—безадкладная, вока гаспадарскае—пільнае,—каса чвікае, трава кладзецца амярцьвелай налева, доўгім і роўным радам,—сьпіна ные ад непасільнае работы. Было тады толькі сямнаццаць год, але ўжо аддаваў юнацкасьць сваю багацею Курачкіну за дваццаць пяць пудоў жыта ў год,—хлеб адвозілі ў бацькаву хату, у сям'ю з сямі ротаў на паўнадзеле зямлі...

...Успамінаючы мінулае, Астап падыйшоў да свае кватэры. Была яна на ўскрай пасёлка, у хаце каваля Швэда. Там ужо спалі. Хата-пяцісьценка была ахутана змрокам. Астап пастаяў хвіліну супроць свайго вакна, абярнуўся навад і пайшоў блудзіць па вуліцы, крокамі пужаючы сабак. Зноў аднавіліся ўспаміны. Усплывалі яны бяз усякага лёгічнага парадку, самавольна, ня выкліканыя ні абставінамі, ні думкамі. Было радасна па дзіцячаму шмат чаго ўспамінаць, хоць і ня было ва ўспамінах ні радасьці, ні весялосьці. Былі яны ўсе сумныя, у тузе і няшчасьці, але дарагія і блізкія. Яны выклікалі ў душы сумяціцу і глыбока затоены на жыцьцё дакор; усю істоту ахаплялі жаданьні—нявыразныя, некуды заклікаючыя, трывожныя.

Прад вачыма мільгалі вобразы блізкіх людзей: маці—у роспачы, перад бажніцаю, на каленях; бацькі—у клапотах, на полі пад дажджом, з пугаю пастуха ў руках; братоў—у цяжкай працы, у барацьбе за лусту хлеба: большы плытнічаў кожную вясну, узімку ішоў на лесараспрацоўкі, зя пяцьдзесят вёрст ад хаты, меншы памагаў старому бацьку пасьвіць авечак і сьвіней; сёстраў—у надзеях на лепшую будучыню, на чужой рабоце, адзінотных... Успаміналіся гады свайго юнацтва, заглушанага і прытоптанага чужымі нагамі, узятыя кулаком Курачкіным у сваю

шырокую кішэню. Успаміналіся ўцекі з катаргі непасільнае работы і першыя дні на гуце, у новых, непадобных на ранейшыя, абставінах, сярод новых і незнаёмых людзей. У першыя часы ўсё здавалася складаным і незразумелым, але патроху, прыглядаючыся і вывучаючы працэсы вытворчасьці, знайшоў сваё месца на гуце,—пэўнае і адказнае перад усімі рабочымі. Спачатку падносіў да печы шыхту, пасьля даввол̆ілі рабіць банкачкі, а потым бутэлькі;—праз тры гады лічыўся адным з лепшых майстроў. Тут-жа прынялі ў комсамол, а потым кандыдатам партыі; адсюль-жа езьдзіў у горад на трохмесячныя курсы пропагандыстаў, пасьля чаго быў апоргам комсамольскага колектыву. Адчыніўся рабфак, пачаў займацца ў ім,—глядзі—праз год можна паступіць у хэмічны інстытут. Цяпер, працуючы старшынёй заўкому, увесь час ідзе на работу і вучобу, некалі нават падумаць пра сябе. Толькі апаўночы знаходзіцца некалькі часу павалацужыць па далёкіх краёх, у глыбокай мінуўшчыне з кніжкаю ў руках.

...На вуліцы была адна чорная цішыня ночы. Скрозь яе ішоў чалавек—рукі ў кішэні, каўнер угору, у падраных галёшах. Думы яго былі важкія, як уласныя крокі па зямлі. Нечакана для сябе ён зноў апынуўся перад акном Насты. Там было цёмна. На першым паверсе таксама ня было сьвятла. Чалавек узышоў на ганак, пастаяў крыху на ім, потым зьнік у цемені ночы. Яго ахапілі хвалюючыя жаданьні. Ён, ціха глытаючы словы, шаптаў: „Яна мая... мая... Будзе маёй“. Яму здавалася, што ён на крыльлях узьнімаецца высока ўгору за болакі, пад сонца,—аж дух зацінае і сэрца трапечыць у грудзёх.

...Чалавек ідзе ў сьлізотнасьці, скрозь дождж,—а неба ў пралесках, зямля ў вятрох,—жыць хочацца ў буянасьці і барацьбе! Стаць радавым салдатам у вялікую армію працы, штурмаваць разам з усімі вышыні будучыні, у чорнай рабоце знайсьці сябе самога; працаваць, аддаючы працы сябе на разрыў, калі гэта патрэбна мільёнам такіх-жа салдатаў; верыць у надыходзячую будучыню—хіба ня шчасьце? ня гонар? ня слава?—жыць і памерці ў барацьбе!..

...Восень, сьлізотнасьць, дождж,—а неба ў пралесках, зямля ў вятрох,—буралomы ходзяць па зямлі! Стаць ветру твар перад тварам, каб дзьмухаў сьцюдзёнасьцю, сіверкай, марозам,—упэўненым крокам пайсьці насустрач, перамагаючы шаленства і злосьць баламутніка, прыйсьці ў суровасьці і вятрох да вызначанае мэты—у бурнасьць і барацьбу!..

...На вуліцы гразкасьць, сьлізотнасьць і вільгаць,—чалавек ідзе на на ўскрай пасёлка скрозь чорную цішыню глухой ночы.

Менск—4-IV-31 г.

## БАТУМ

### Юлі Таўбін

На беразе морскім, сярод мэдуз
стаіць гарадок Батум.
Там грузчыкі грузяць вясёлы груз,
там хваляў стракаты шум.

„Прынц Гамлет“ прышоў у Батумскі порт...
(... а хвалі былі—як львы.)
Абцёршы хусьцінкай паўднёвы пот,
на палубу вышлі вы.

Тады вечарэла. Кудлаты шпіц
зрабіў каля вас прывал
І складкі бялюценькіх нагавіц
старой галавой прасаваў.

Ён кошык трымаў, бы сыгару ў зубах,
на шыі ў абодвых—бант.
Запомніўся: шпіц, і сыгарны пах,
і выгалены капітан.

* * *

Бывала—рэйтарам-коньнікам
налятаў рабаваць сатрап...
Службовец канторы Томпсон і Ко
ступае на хісткі трап.

Вы радзіліся быццам нанава...
Ці-ж другая прышла пара?
Праз тваю шкарлюпу капітанаву
бачу лысіну гандляра.

Да палітыкі вы абыякавы?
Больш турбуе індыйскі тайфун?..
Ну, а ўсё-ж ткі... вось гэта... як у вас?
Так, палітыка ваша—фунт.

Прыбылі вы, значыць, за нафтаю...
Ад Компаніі... Ну, але-ж...
Стой! Хаду я цяпер пазнаў тваю;
абаронца брытанскіх меж.

Бывала—дрэдноўтам шматтоньнікам
гасьцяваў у нас окупант...
Службовец канторы Томпсон і К°
апраўляе на шыі бант.

Я пазнаў гэту постаць хілкую,
гэту скронь на ангельскі ўзор
І руку з сіняватай жылкаю,
што падпісвала прыгавор.

Ты ня з тых, хто ў „шалёных оргіях“
„разлагаецца“ ў Савкіно.
Гэта ты заснаваў Георгію—
меншавіцкую? ўсё адно.

Ты—сумленны і пераконаны
гэтак сама трымаў руку,
калі ў згодзе са ўсімі законамі
рабаваў Батум і Баку.

* * *

Нафта!.. Ты цяжкай жыжкаю
Цячэш у савецкі бак,
ты высачэзнай вышкаю
ўзьнімаеш да неба гмах,

казачнымі фонтанамі
выпростваеш гнуткі стан,
сочышся нечапанаю
чорнай крывёю з ран.

Промінамі хімэрнымі
гарыш ты пад час ліхі,
сьціснутая цыстэрнамі
мінеш з цягнікам шляхі.

Ты за нас лепшым довадам
стала, калі-б праз тлум
вышла ты нафтапровадам
ў Лёндан, а не ў Батум.

* * *

Спаткаецца стагоднік кантор,
службовец „Томпсон і К°“
падпісвае дагавор
у краіне бальшавікоў.

Купіць нафту ён і бэнзын
і заплоціць бяз лішніх прэк...
Банк „Гарысон і сын“
пагасіў тэлеграфам чэк.

Так „Прынц Гамлет“ асеў на дно,
наталіўшы нафтай нутро...
Заўтра—ў мора...
„Ні-нна-нно-но!“
засьпяваў вясёлы матрос.

У добры вецер... Тайфун прайшоў,
так што можна зайсьці ў Кітай—
захапіць там і рыс, і шоўк,
Каб вярнуцца на „войчы край“.

* * *

(Ах, ніколі „Томпсон і К-о“
не давалі сваіх капіталаў
на гэта,
на прадпрыемства такое вялізнае...
Яно пабудуецца ў вяках,
грознаю зданьню яно перад імі ўстала:
прадпрыемцы —
п р о л е т а р ы і   с ь в е т у,
а назва —
с о ц ы я л і з м).

* * *

Каб працягваць пуціны лірычнай хады —
маленькае, але нямінучае публіцыстычнае адступленьне.
**Пяцігодка па нафце выканана ў два з паловай гады.**
**Ударнікі Азнафты і Грознафты атрымалі ордэн Леніна.**

* * *

...і чамусьці мне згадваецца вясёлы матрос —
той самы што сьвістаў: „Ні-нна-нно-но“...
Былі ў яго белыя зубы і дужы рост...
Можа цяпер ён дзе-небудзь б'ецца ў доміно,
можа чысьціць палубу, можа гуляе ў бары...
Добрае табе дарогі, таварыш.

Колькі вас гэткіх —
добрых, вясёлых абліччаў —
маладых хлопцаў комсамольскага ўзросту
краіну Томпсонаў сваёю айчынаю клічуць,
а таго ня ведаюць, што вось яна проста,
тут пачынаецца іхная радзіма шырокая,
ад Батуму да Мурманску,
з Менску да Уладывастоку.
Можа пабачымся, хлопцы?
Што-ж, як шляхі разыйшліся...
Вочы расплюшчацца...
сьвет ня сышоўся клінам на Томпсон і К-о.
Гамлет—можа быць Гамлетам.
Цяпер-бы, я мысьлю,
ён быў-бы таксама —
за бальшавікоў.
Можа там, на чужыне—
трапіць якая газэтка,
тады
шчыра жадаю, каб там вы дазналіся:
(так как было, ня зьменена).
**„Пяцігодка па нафце выканана ў два з паловай гады.**
**Ударнікі Азнафты і Грознафты атрымалі ордэн Леніна“.**

* * *

На беразе морскім, сярод мэдуз
Прылёг гарадок Батум...
Там грузчыкі грузяць вясёлы груз,
там хваляў стракаты шум.

У Батуме пабыў я чатыры дні...
І добра-ж пажыў я-ж там...
Харошае сонца, хлапцы, на паўдні,
жадаю такога вам.

Я часта там слухаў напеўны шум...
(... а хвалі былі, як львы)
Любіў я і штылі... Ніякіх дум
ня выгнеш тады з галавы.

А кніг я тады ня чытаў ані,
Радка не нашкрабаў сам...
Харошае, хлопцы, жыцьцё на паўдні —
жадаю такога вам.

Пасьля ўжо надумаліся ў адлёт
(фінансы—ляцелі ў дым)
На „Грузіі"—агенцтва „Савтаргфлёт"
мы выехалі на Крым.

...Я вышаў з каюты пад вечар... На дне
апошні прамень пагас...
Два твары знаёмых згадаліся мне,
дзьве постаці ўсталі ўраз.

Службовец канторы Томпсон і К-о
усьмешкаю рот скрывіў.
Ён з хваляў ківаў мне сваёй рукой,
запэцканай у крыві.

А той—белазубы, вясёлы матрос
чамусьці тады заціх.
Ён сумным паглядам у далі ўрос —
і хвалі схавалі іх.

І здаўся сабе я мізэрным такім.
На моры быў рэдкі штыль.
Дэльфіны скакалі... і цяжкі дым
за намі ў паветры стыў.

3-IV 1931 г.
Менск.

# АДШЧАПЕНЕЦ

**Тарас Гушча**

XXI

Роўналежна і адначасна адбываліся падзеі і ў Затоньні; адкуль і зачалася ўся гэтая гісторыя.

Нельга сказаць, каб Пракопаў учынак паспрыяў калгаснаму руху ў Затоньні. Калі назаўтра даведаліся затонцы аб тым, што Пракоп сышоў з дому нямаведама куды, абы толькі ня быць у колгасе, што найболей хісткія людзі, што пазапісваліся ў колгас, захісталіся яшчэ мацней. Большая палавіна іх заходзіла ў аўдавейшую цяпер Пракопаву хату, каб даведацца з першых крыніц аб падробнасьцях і матывах яго прочак. Яны спачувалі Пракопу, дзівіліся той упартасьці, якую выявіў ён у сваім нежаданьні ісьці ў калгас, і для большасьці з іх Пракопава постаць вырысоўвалася як постаць героя і калгаснага мучальніка. Дзе-ж гэта відана, каб пражыўшы ўсё жыцьцё на зямлі чалавек, не шалагон, а чалавек сталы, працавік, руплівы гаспадар, раптам кінуў свой дом, сваю сям'ю, увесь набытак і паваловся ў сьвет? Такога здарэньня ніхто не памятае! І людзі моцна задумліваліся над гэтым.

Многа было гутарак аб Пракопу. Разважаючы аб ім і дзелячыся гэтаю нязвычайнаю навіною, часамі і пасьміхаліся людзі, але гэта ня быў вясёлы, жартлівы сьмех—гэта быў сьмех жалю, няпэўнасьці і сумненьня. Трэсьлі галовамі, паціскалі плячыма, і няпрыемнае ўнутранае пачуцьце халадком павявала на сэрца. Ва ўсякім разе знак гэта ня добры: ня ўсьпелі яшчэ і прыступіць да афармленьня калгасу, а ўжо чалавек выбыў з грамады, заявіўшы гэтым свой протэст. І невядома, куды ён пашоў і што ён замысьліў. Некаторыя, найболей уражлівыя затонцы ў потайку прыглядаліся, ці не ляжыць дзе Пракопаў труп. Словам настрой быў панылы. Нават той, „энтузіязм“, з якім група затонцаў на чале з Марынічам і Нічыпаруком, першым падпісаўшым сваёю лёгкаю рукою пратакол аб пераходзе ў колектыўную гаспадарку, ужо гатова была рынуцца на заможнікаў кулакоў, каб паліквідаваць іх трохі, нават гэты энтузіязм апаў, разьвеяўся, як дымок, выпушчаны ў паветра з Марынічавай піпкі. Ды яно і зразумела: гэты „энтузіазм“ быў выклікан не ўсьведамленьнем інтарэсаў клясавых груп сялянства і ня ідэяй колектывізацыі,—ён проста быў вынікам жаданьня кучкі затонскіх аматараў пагрэць свае рукі ў ку-

лацкай шэрсьці. Хоць гэты паход і не адбыўся, дзякуючы Пракопу, і кучка аматараў незаметна распалася, але заможнікі ўсё-ж такі пражылі некалькі вострых мінут небясьпекі.

Бліжэйшым аб'ектам гэтых замахаў быў Чыкілевіч. Ён раней за ўсіх адчуў подыхі гэтай небясьпекі. Але Чыкілевіч быў чалавек прадбачлівы. Хоць у яго і былі некаторыя надзеі, што колектывізацыя не адбудзецца або пойдзе нейк іншым шляхам, ён тым ня меней на ўсякі выпадак прымаў свае меры. Яшчэ з восені выкапаў ён патайны паграбок у сваёй клуні і ў гэтым паграбку хаваў кубел сала, дзьве кадушачкі крупы і іншы свой скарб. Быў у яго добры япрук, і ён закалоў яго нядаўна. Каб людзі ня ведалі аб гэтым, Чыкілевіч не смаліў яго звычайным спосабам, саломаю: агонь і дым прыцягнулі-б людзкую ўвагу. Каб унікнуць гэтага, Чыкілевіч асмаліў япрука ў пограбе жароўняю, для чаго напаліў добрых бярозавых вуглёў. Вынікі гэтай опэрацыі пераканалі Чыкілевіча ў тым, што новы спосаб ніколечкі ня горшы за стары, а пры сучасных умовах проста дасканалы. Разам з гэтым ён зьніжаў і якасьць свае жывёлы: выменьваў яе на горшую, бяручы добрыя прыдаткі, рабіў з ёю розныя камбінацыі, але рабіў ціха, гладка незаметна. Гаспадарскія-ж машыны прыводзіў у такі стан, каб у калгасе яны баставалі, але калі-б яны засталіся ў яго, то працавалі-б належным парадкам пасьля некаторых рамонтаў, з якімі-б лёгка справіўся іх сапраўдны гаспадар, гэта значыць ён, Чыкілевіч. Ціхае шкодніцтва кіравала яго мысьлямі і паступкамі.

Хоць сам Чыкілевіч на сходзе і ня быў, але там былі яго вушы: кожны разумны чалавек павінен мець некалькі пар вушэй. Ён таксама доўга ня спаў у гэту ноч, разважаў над тым, у якой меры закране яго колектывізацыя, што возьмуць у яго ў першую чаргу, што потым і што нарэшце станецца з ім самым. Ня было ніякага сумненьня: яго раскулачаць, раскулачаць зараз-жа. Тэорэтычнае разважаньне асноўвалася на вядомым Чыкілевічу выпадках. Бясьсільны перашкодзіць такому „гвалту", ён увесь трасься ад злосьці і думаў, як папомсьціцца за гэту няпраўду і несправядлівасьць на сьвеце. У гарачай галаве яго мітусіліся самыя страшныя пляны, чым меней ажыцьцёўныя, тым больш фантастычныя. Ён думаў аб розных бяздонных правалах зямлі, дзе калгасы асталююцца, аб заразе, якою-б можна было спустошыць усю скаціну ў колгасе, аб пошысьці для тых трутняў, што пагоняцца на яго дабро, аб забойствах, падпалах і іншых жахлівых рэчах.

Раніцаю даведаўся ён, што яго *ўжо* зьбіраюцца раскулачваць. Яго вушы ў Затоньні мелі і свае языкі. У хваляваньні, у трывозе чакаў ён няўнікнёнага налёту на сваю гаспадарку. Прайшло некалькі вострых мінут напружанага чаканьня. Але яму становіцца вядома і аб тым, што Пракоп сышоў з дому і чаму сышоў. Яму расказалі, якое замяшаньне выклікаў Пракопаў учынак паміж новаяўленых колгасьнікаў.

— „Дай табе, божа, здароўя, Пракопе!"

Лягчэй уздыхнуў Чыкілевіч і чуць не заплакаў ад радасьці, гаруючы па Пракопу: калі Пракоп і ня зусім выратаваў яго, то час раскулачваньня ўсё-ж быў адтэрмінован. Сядзець аднаму на хутары стала не ўцярпеж. У яго зьявілася думка выкарыстаць гэты выпадак. Апранае бравярку, насоўвае лісіную шапку, напускае на сябе від засмучанага чалавека, ідзе на вуліцу, дзе густа снуюць натрывожаныя затонцы.

У невялікай групцы сялян стаіць і Марыніч, як ні ў чым ня бывала, і глыбокадумна пыхкае піпкаю. Вострым і калючым поглядам акінуў яго Чыкілевіч. Марыніч не заўважае гэтага погляду і сам даволі прыязна глядзіць на Чыкілевіча. „Сволач ты, сволач!“ каротка атэстуе ў мысьлях Чыкілевіч Марыніча, а ў голас гаворыць лагодна:

— Дзень добры, мужчыны!

Некалькі хвілін Чыкілевіч стаіць моўчкі, слухае што людзі гавораць. А гаворка ўсё каля Пракопа верціцца. Нарэшце, улучыўшы зручны момант, выступае Чыкілевіч.

— Дзівак, скажу я вам!

Чыкілевіч тут чалавек сьвежы, яго слухаюць уважна.

— Проста сказаць—несьвядомы чалавек, калгасу збаяўся! Гаварыў з ім учора. Упёрся—не хачу ў калгас! Я і так і гэтак, а ён—хоць ты яму грудзі пары, з месца ня зрушыш. „Ось“, кажа, „новую паншчыну робяць, у няволю заганяюць людзей“. І пашоў, і пашоў. „Які-ж ты, кажа, гаспадар у калгасе? Дзе ты прыложыш тут свой розум, свой адум? А на сваёй гаспадарцы, кажа, які ты ні быў гаспадар, але гаспадар, сам сабе галава, сам сабе загадчык і камандзір. Хачу раблю, хачу адпачываю. А ў калгасе я што? Парабак—ня парабак, батрак—не батрак, а волі свае ня маю“. Ну што ты скажаш такому цёмнаму чалавеку?

Чыкілевіч уваходзіць у Пракопаву ролю і пад Пракопавым сьцягам б‘е па калгасу.

## XXII

Мікіта падняўся з пасьцелі раней, як звычайна. Першы раз у жыцьці апанаваў хлопца гаспадарскі клопат. А клопату нарабіў яму бацька ня мала. Тое-ж адчуваньне нявыразнасьці і няпэўнасьці Пракопавага лёсу цяжкім гнётам ляжала на Мікітавым сэрцы. Нахмураны і задумлёны вышаў Мікіта з хаты.

З чаго-ж тут пачаць?

Першым дзелам пашоў у клуню—трэба накарміць жывёлу. Гаспадарскім вокам зірнуў на сена, на салому, на запасы корму, пастаяў разважліва, залажыўшы адну руку за пазуху кажушка.

Корму павінна хваціць, калі яго расходаваць эканомна, сам сабе падумаў Мікіта і тут-жа стаў прыкідаць у розуме, як чалавек сталы, на чым можна зрабіць эканомію, як больш рацыянальна ўжываць корм. Бацька больш налягаў на трасянку. Шмат корму трацілася дарма, ішло проста

пад ногі, у гной. Мікіта тут-жа рашыў абмежаваць дачу трасянкі, пера-йсьці больш на сечку, на паранку. Калі Мікіта запыніў свае мысьлі на паранцы, ён прышоў да вываду, што паранка—гэта і ёсьць той свая-асаблівы від сілосу, аб якім так многа цяпер гавораць. Загатаваць са-праўднага сілосу бацька і ня думаў, хоць пастараўшыся і мог-бы зрабіць невялікі запас. Ну, але што ты зробіш, калі чалавек акасьцянеў у сваім разьвіцьці і ў поглядах на жыцьцё, на гаспадарку?

Гэтыя меркаваньні засланілі сабою на некаторы час мысьлі аб калек-тывізацыі і адсунулі на задні плян і самога бацьку.

У Мікіце пачала абуджацца патроху ўласьніцкая натура, гадаваная на працягу такога доўгага часу. У яго борзда складаўся плян гаспадар-скіх работ на бліжэйшы час, але гэты дзень яшчэ прыдзецца ахвяраваць заведзенаму бацькам парадку, прасьцей сказаць—натрэсьці трасянкі.

Наскуб сена, асакі з лугу, дадаў шапкі са дзьве мурагу, каб хоць на першы раз ня крыўдавала скаціна на новага гаспадара, палажыў трохі грэцкай, трохі аўсянай і трохі ячнай саломы, усё гэта старанна ператрос вілкамі і тады ўжо панёс карове і цялушцы, пільна сочучы, каб ня цярушыўся корм.

Корм быў загатованы добра, карова і цялушка адразу кінуліся есьці, што вельмі ўсьцешыла Мікіту, і ён адчуў вялікую прыязьнь да жывёлы, пагладзіў карову і цялушку. Мож-б ён і даўжэй палашчыў іх, але рах-маны конь лагодна загагокаў яму, напамінаючы аб тым, што ён таксама чаго-небудзь ды варты ў гаспадарцы. Мікіта вярнуўся ў клуню—трэба-ж даць і каню. Конь такая жывёла, што без яды аставацца ня любіць. Каню Мікіта прынёс аднаго мурагу, прычым заўважыў у голас:

— Пачакай, брат: я мажа чаго і лепшага прыстараюся табе.

Словам гаспадарскі інстынкт абудзіўся ў Мікіце ва ўвесь рост.

Падаваўшы скаціне і зачыніўшы хлеў, ён зноў пашоў у клуню. На таку каля пярыла стаяла саматужная сячкарня—бервяно-казлы на чатырох ножках з двума парамі ўбітых наўскасяк сьпіц накшталт зайца-вых вушэй, каб трымалася салома. На гэтай саматужнай прыладзе сечку рэзалі сярпом, для чаго да яго ручкі прывязвалася вяроўка ў дзьве столкі. Паміж гэтых столак прадзявалася нага, як той асноўны рычаг, што прыводзіў сэрп у рух. Рэзаць такім спосабам сечку было і цяжка і марудна. Тым ня меней малады гаспадар так захапіўся работаю, што калі прышла маці клікаць Мікіту сьнедаць, у яго была ўжо нарэзана даволі ёмкая куча сечкі.

— Запрацаваўся, сынок,—з ласкаю ў голасе заўважыла Тацяна і за-плакала.

У той час, калі Мікіта рэзаў сечку, Чыкілевіч стаяў з мужчынамі на вуліцы і дзяліўся з імі сваімі ўспамінамі аб Пракопе, прыпісваючы яму такія погляды на калгас, якія таму і ў галаву ня прыходзілі. Праўда, у аснове ўсёй гэтай лухты хітрага Чыкілевіча была доля праўды, але

Чыкілевіч дыплёматычна абышоў моўчкі, што ўсе такія мысьлі ён сам увёў Пракопу ў вушы, як увадзіў ён цяпер іх сваім слухачом.

Тацяна ўжо дачулася аб гэтай гутарцы. Людзі, інформаваўшыя Тацяну, не абышліся без таго, каб не дадаць сяго-таго і ад сябе. У выніку Пракопава постаць выступіла ў нязвычайна вялікіх памерах ворага калгасу?

Пануры і хмурны, ссунуўшы бровы, сядзеў Мікіта за сталом і слухаў, што расказвала маці, аб усіх гэтых прыкрых рэчах. Крыўда брала хлопца за бацьку, злосьць на Чыкілевіча, як глаўнага звадыяша і баламута. Усё-б гэта было яшчэ паўліха, калі-б яно не адбівалася на грамадзкай справе.

Але горш за ўсё, што сярод падпісаўшых учора пратакол аб уступленьні ў калгас пачалося зноў хістаньне, зноў пашлі гутаркі аб выпісваньні з калгасу. Мікіта адчуваў тут, што і на ім ёсьць нейкая доля віны. Трэба нешта зрабіць і яму. Ён толькі што хацеў падзяліцца з маткаю сваімі думкамі, адгукнуцца на ўсе гэтыя падзеі, але не пасьпеў: у хату зусім нечакана заходзіць сам Чыкілевіч!

Калі-б у хату забег воўк, то маці і сын напэўна зьдзівіліся-б меней.

Чыкілевіч зайшоў асьцярожна, ступаючы мякка і з такою выразаю на твары, як-бы ў хаце быў нябожчык.

— Выбачайце!—лісьліва загаварыў няпрошаны госьць:—проста ня мог стрымацца, каб не зайсьці да вас.

Мікіта яшчэ больш панура апусьціў вочы.

Тацяна занямела на месцы і толькі ўжо трошкі апамятаўшыся сказала:

— Сядайце!

— Пастаю: я не надоўга.

Момант тупога маўчаньня.

— Ну, і што надумаўся зрабіць чалавек!—голас Чыкілевіча быў повен жалю:—мне так і паказалася ўчора, што ў чалавека нешта ёсьць на мысьлях. Як роднага ўгаварваў яго ісьці ў калгас. Не! упёрся, не хачу... І куды ён пашоў?

Тут Мікіта ня мог стрымацца. Закалаціўся ад злосьці, вочы іскрамі бліснулі. Але ўзяў сябе ў рукі.

— Пашоў па сьвеце пахадзіць, каб разьвеяць кулацкія ўплывы,—сказаў ён, як дарослы чалавек.

Чыкілевіч кіўнуў галавою, але ўжо загаварыў да Тацяны:

— І што вы думаеце рабіць?

Мікіта, хоць пытаньне ставілася не яму, пераняў матку і сам, як гаспадар у хаце, адказаў:

— Вось зараз іду ў праўленьне калгасу і падам заяву, каб нас прынялі ў калгас.

Гэта думка прышла Мікіце ў галаву раптоўна, цяпер.

Чыкілевіч шырока расчыніў вочы.

— І гэта будзе згодна з бацькаваю воляю?—і з усьмешлаю паглядзеў на Мікіту.

— Вон з хаты!

Мікіта ўвесь пачырванеў, усхапіўся з месца, згарнуў кулакі.

— Пабойся ты, смаркач, бога, пад абразамі сядзіш!—узлаваўся абражаны Чыкілевіч.

Тады Мікіта схапіў са сьцяны „бога“, Мікалая Мірлікійскага, і шпурнуў ім у ненавіснага Чыкілевіча. Абраз з шумам гвазнуўся аб зямлю каля ног Чыкілевіча і навёў на яго настаяшчую паніку.

— Шалёны!—крыкнуў ён і кінуўся вон з хаты.

## XXIII

Варочаючыся з хутара, Лапко і Пракоп падтрымлівалі адзін аднаго. Хоць дарога была і невялікая, але часу адабрала яна даволі многа. Па-першае, дужа сьпяшацца ім ня было куды, і яны ішлі павольна, падругое, ногі іх трохі зьвязвала Бабурава гарэлка, па-трэцяе, у іх вялася самая жывая гутарка, хоць кожны з іх захапляўся пераважна сваімі мысьлямі і пачуцьцямі, па-чацьвертае, дарога была вузкая, а наабапал дарогі ляжала шмат сьнегу, прыяцелі-ж нашы ніяк не хацелі разлучацца, ішлі плячо ў плячо, хоць амаль не на кожным кроку то той, то другі правальваўся ў сьнег.

— Слаўныя людзі!—сказаў Пракоп і затрубіў носам.

— Людзі! што такое людзі?—запытаў Лапко і сам адказаў.

— Гліна! З гліны добры майстар зробіць усё, што хочаш... усё!

Тут яны стукнуліся плячукамі, і іх ногі, у аднаго левая, у другога правая, праваліліся ў сьнег. Покі яны іх даставалі, Лапковы мысьлі зблуталіся ў галаве, але сувязі з агульнаю тэмаю, на якую ўзяўся ён разважаць, ня гублялі, а толькі пашлі па іншай лініі.

— Я—калгасьнік і... муляр і яшчэ—брыгадзір?.. Ды які я брыгадзір?—раптам перабіў самога сябе Лапко:—які я брыгадзір, як, добра ты казаў, які ты дэлягат?

— Ну, брыгадзір з цябе першы сорт! А я дэлегат ліпавы.

— Ну, няхай так,—згадзіўся Лапко:—але куды я хадзіў? Чаго хадзіў? Ось дзе яна самакрытыка!

— А я? чаго я цягаюся па сьвеце?—жаласьліва азваўся Пракоп:—дома ёсьць гаспадарка: конь, карова цялушка-трацячка, ды якая ўдалая цялушачка! Ну, як родная дачка! Прыдзеш у хлеў, яна табе і шыйку выцягне, здаецца так і гаворыць:“ Пачухай мяне!“. І кінуў усё, паваловся немаведама куды і чаго. Хто-ж будзе даглядаць іх?

Пракоп рэзка мяняе тон, з журботнага пераходзіць на вясёлы.

— Мікіта мой... о, шэльма! калгасьнік, якіх і сьвет не радзіў... Граматны хлопец!.. Ну, раз вы хочаце ў калгас—ідзеце сабе! Мая Тацяна праўду казала: не замінай жыць, хто хоча жыць па-новаму—разумная

баба!.. І я на іх трос кіем! Ну, жывеце сабе, як хочаце, а я пагляджу: Пракопа ты таксама ня возьмеш за тры капейкі. Ось якая мая самакрытыка!—скончыў ён перанятым ад Лапка дасканалым словам, сэнсу якога не разумеў.

Лапко цярпліва маўчаў, покі ня выгаварыўся Пракоп.

— Самакрытыка—штука вострая,—заўважыў ён, адгукваючыся больш на ўласныя мысьлі: запытаюць: а чаго ты хадзіў туды? Да каго ты хадзіў? Хто ты і хто ён?.. Ты—чалавек, ён—чалавек, ты хочаш жыць і ён хоча жыць. Але ты калгасьнік, ты муляр ды яшчэ брыгадзір! Гэтага ня трэба забываць. А ён хоць і чалавек, але воўк, бо ў свой хутар глядзіць. Можа ня поўны воўк, але процантаў пяцьдзесят ваўчэчыны ў ім ёсьць. І ты да яго ходзіш? Хаджу!—журботна прызнаўся Лапко.

— А чаму ты ходзіш? Ну?—Прыяцелі былі, дружылі,—на свае-ж уласныя пытаньні адказваў Лапко, знаходзячы сабе апраўданьне.

— Брэшаш, Лапко!—рашуча накінуўся ён на сябе самога:—ты сьлізьняк, натура твая... сказаў-бы, Пракоп, ды шаную цябе!

Яны зноў моцна стукнуліся плячукамі і на гэты раз абодва паваліліся ў сьнег.—Пракоп на адзін бок дарогі, Лапко—на другі. Рухавейшы Лапко першым стаў на ногі і вылез з сьнегу, а Пракоп яшчэ церабіўся.

— Ну, як ты там, таварыш дэлегат?—запытаў дабрадушна і жартліва Лапко.

— Ось падымаюся і я. Але, ведаеш, лёг-бы ды і ляжаў-бы ўжо так...

— Бачыш ты, як спадабаў калгас: на калгаснай зямлі хочаш ляжаць!

— Добры калгас! Зрабіць-бы нам такі!.. Эх, Мікітка ты мой і Андрэйка і Тацяна мая і цялушачка-трацячка! — лірычна выгукваў Пракоп, упёршыся локцем у сьнег, як-бы забыўшыся, што трэба ўставаць.

— Ну, уставай, браце! пойдзем памалу,—цягнуў яго за руку Лапко.

— Пойдзем!—цьвёрда сказаў Пракоп і падняўся на ногі:—трэба ісьці, трэба! Дарога вялікая, нагамі маімі нямераная... Дзе мой дом? дзе мой прыпынак?

— Кінь ты!—махнуў рукою Лапко:—мой, мой! От у тым-та і бяда, што ўсё мой ды мой! А мой дзе дом? Усюды, дзе ёсьць людзі... Не-е-е! стой! стой! Злавіў, брат, я цябе, Лапко! — раптам схамянуўся муляр і тут-жа стаў выкрываць сваю памылку:—хутары твой дом? Кулакі твае людзі?.. Думай, што гаворыш, Лапко!—пастрашыў ён сябе самога.

— Дом твой—калгас, саўгас, фабрыка, завод, калі ты стаіш на правільнай лініі,—строга зазначыў Лапко і дадаў:

— Іначай сказаць—наш дом там, дзе будуецца соцыялізм.

— А вось ты скажы: Бабура кулак ці не?—пацікавіўся Пракоп.

Лапко пачухаў патыліцу.

— Як табе сказаць? Няма ў мяне на яго цьвёрдага пагляду. Адно гаворыць ва мне, што ён—кулак, а другое кажа як-бы і ня кулак.

— Выходзіць, што, ён кулак двох з палавінаю пальцаў,—пусьціўся ў жарты Пракоп:—а няхай ты скісьні!

— Не жартуй і ня сьмейся, Пракоп,—азваўся Лапко: — адно я табе скажу: не хацеў-бы я, каб нашы ведалі, што я да яго хадзіў, печ папраўляў. Калгасны брыгадзір—і кулаку печ правіць! Дык ты, брат, пра гэту печ маўчы! Калі часамі што якое, дык ты кажы — і я буду так гаварыць,—што ты прасіў мяне правесьці на пасёлак. Чаго? ну, ці мала там якая магла быць патрэба? Ты—дэлягат...

— А ты ўжо, калі ласка, пра маё дэлягацтва таксама маўчы, бо які-ж я дэлягат? — Яно калі па справядлівасьці рассудзіць, то чаму-ж я не дэлягат? Сам ад сябе дэлягат! Ат і ўсё!

— Верна!—згадзіўся Лапко:—дэлягат, ну, і дэлягат! Так і запішам. Але пра печ—маўчок! Натура мая, ведаеш... сказаў-бы, ды шаную цябе.

— Ну, што ты ўсё натуру сваю ганіш? Скажу і я табе тое, што і Анэтка казала: каб такія людзі былі, як ты, то лёгка было-б жыць на сьвеце.

— Не, не!—запротэставаў Лапко: не кажы мне гэтага! Трэба быць цьвёрдым. А я—кісель. Хто ні папросіць — не магу адмовіць! Ну, але калі-небудзь і я ўзлуюся! Тады, брат, сьцеражыся!—пагрозіў Лапко.

Падыходзілі да калгасу. Яны трохі працьверазелі. Час быў даволі позны. Толькі ў вокнах Максіма Шахлевіча сьвяціўся агонь.

— От дзе чалавек! галава! Цьвёрды, справядлівы і ўсё па закону... Адміністратар!—хваліў Лапко свайго старшыню.

Вайшлі ў двор. Лапко правёў Пракопа на яго станцыю.

Запыніліся на ганку.

— Дык пра печ маўчок!—ціха сказаў Лапко.

— І пра маё дэлягацтва ні-ні!

На гэтым яны і разышліся.

## XXIV

У гэты дзень Максім Шахлевіч быў дужа заняты. Апроч звычайнай штодзеннай работы ў калгасе, а работы заўсёды было, даволі асабліва для такога руплівага старшыні, як Максім, яму прышлося ўдзяліць шмат часу камісіі па абсьледваньню быту ў калгасе. Хоць камісія прышла да найлепшых вывадаў аб становішчы калгасьнікаў, і калгас „Хваля рэволюцыі“ быў прызнаны, як узор для другіх калгасаў, тым ня меней старшыня быў моцна заклапочаны.

Я мушу зрабіць тут адну заўвагу.

Нядаўна я даведаўся з газэты, што ёсьць яшчэ адзін калгас з тым-жа імем, якое носіць і калгас, аб якім ідзе тут гутарка. Каб ня было ніякага непаразуменьня, лічу патрэбным заявіць, што мой калгас „Хваля рэволюцыі“— ня той, што я вычытаў у газэце. Калі і той, газэтны калгас, пастаўлен так-жа добра, як і гэты, то я буду дужа ўсьцешаны. А калі ён трохі пакульгвае, то я выклікаю яго на соцспаборніцтва з маім калгасам. „Маім“, само сабою, разумець трэба ўмоўна.

Выпадак, навёўшы на Максіма такую заклапочанасьць, на першы погляд можа паказацца малазначным: старшыні стала вядома, што Лапко потайкам даваў сяды-тады сяму-таму калгасны корм тым калгасьнікам, што мелі свае каровы. У калгасе-ж быў заведзены такі парадак, што калгасьнік, меўшы сваю карову, павінен сам прыстарацца і корму для яе. Вялікай бяды ў тым, што калгасьнік прыкорміць калгасным кормам сваю карову, яшчэ ня было-б, калі-б усё гэта рабілася з дазволу, адкрыта і законна. Пры такіх-жа абставінах паступак Лапко ёсьць злачыннасьць, заслугоўвае ганьбеньня і не павінен быць пакрытым. Але аб пакрыцьці тут гаварыць ня прыходзіцца: па-першае, замазваньне розных недахопаў супярэчыла прынцыпам самакрытыкі, бо самакрытыка — тая здаровая глеба, на якой гадуецца і выхоўваецца новы чалавек, і падругое, гэты выпадак стаў вядомы ў калгасе. Аб ім, між іншым, і ў насьценгазэце „Калгасная Праўда“, якую нядаўна выпусьцілі і ўжо вывесілі для чытаньня, быў зьмешчан артыкульчык пад загалоўкам „Добрачыннасьць ці крадзеж?“ Калгасная грамадзкасьць чутка сачыла за ўсякімі праявамі непарадкаў у калгасным жыцьці.

Старшыні было прыкра, што ў калгасе маюць месца такія выпадкі, і самае важнае тое, што вінаватым аказаўся Лапко, відная ў колгасе фігура. Што тут Лапком кіравала не злачынства, а пакладзістасьць і мяккасьць яго натуры, для старшыні было ясна, але факт трэба браць такім, як ён ёсьць.

У праўленьні калгасу была ўжо гутарка аб Лапковым учынку. Ставілася пытаньне, як адгукацца на праступак Лапка. Член праўленьня, намесьнік старшыні, т. Ваган, стаяў за тое, каб ня выносіць учынак Лапка на шырокую калгасную грамадзкасьць, а зрабіць яму ад імя праўленьня і партыйнай ячэйкі вымову, строгую вымову з папярэджаньнем. За гэтую меру кары стаялі яшчэ тры члены праўленьня: Марына Палеха, Мікола Гнох і камсамолец Гаруй. Але старшыня самым катэгарычным чынам выступіў супроць.—Вы, таварышы, не даацэньваеце факту,—абурана заявіў ён:—такая мера спагнаньня ёсьць ня што іншае, як замазваньне праступку, зводзячы яго на мёртвае канцылярскае ўсчуцьце. Ня трэба забываць, што ў нас ёсьць сотні калгасьнікаў, а сярод іх ёсьць такія, што сваімі карэньнямі стаяць у мінулым, не пазбыўшыся старых замашак. І справа тут ходзіць не аб адным Лапку, але і аб асобах, дачынёных да гэтай справы. Я цьвёрда стаю і буду стаяць на тым, каб яе вырашаць не ў праўленьні, а на агульным сходзе калгасьнікаў.

У якасьці аргументу быў прыведзен і Пракоп, чалавек пастаронні, які зьяўляецца сьведкаю прыкрай падзеі ў іх калгасе. Дык ня інтарэсамі Лапко тут трэба кіравацца, а інтарэсамі калгаснага колектыву і ня толькі іхняга, а і наогул.

Процiў довадаў старшыні трудна было што-небудзь сказаць, ня рызыкуючы зьбіцца з правільнай лініі. З ім згадзіліся ўсе і па-

станавілі склікаць сход калгасьнікаў. Сход быў назначан на заўтрашні вечар.

Правёўшы Пракопа, Лапко памаленьку сунуўся калгасным дваром, бяручы кірунак на свой знамяніты будынак. Яму проста было прыемна прайсьціся каля яго лішні раз. Абагнуў яго з левага боку. Гучней заскрыпеў пад нагамі сьнег, і павольней рабіўся Лапкоў крок, калі праходзіў ён каля акон кухні, дзе мела кватэру Таклюся.

І гэты выяўна падкрэсьлены скрып сьнегу пад нагамі Лапка, і замаруджаны крок яго, і кашаль, што вырваўся з грудзей, калі Лапко параўноўваўся з вокнамі кухні,—усё гэта сьведчыла аб тым, што не адно толькі жаданьне лішні раз палюбавацца творам сваіх рук і галавы прывяло сюды майстра—былі і іншыя прычыны прайсьціся тут і нават запыніцца на кароткі час: Лапку здалося, што ў проразі цёмнага акна як-бы нешта мільгнулася і чыйся няясны абрыс прыпаў да шыбы, на дзьве трацiны заложанай марозам. Лёгкі стук у шыбу сыгналізаваў Лапку, што ён апазнаны. Лапко азірнуўся па бакох і падаўся бліжэй да дзьвярэй. Трошкі пастаяў тут. Дзьверы зараз-жа адчыніліся, і Лапко ўвайшоў у кухню.

— Ня сьпіш яшчэ? —

— Не, ня спала... Нічога ня чуў?

Пытаньне было пастаўлена ў такім тоне, што прымусіла Лапка здрыгануцца.

— Не, ня чуў. А што?

Таклюся момант памаўчала.

— Прыкрая справа, Пятрусь!

Два комплексы прадстаўленьняў у кароткі міг пранесьліся ў яго галаве: ці ня здарылася чаго з скацінаю? ці ня стала ўжо вядома, што ён быў на хутары?

— Ну?—у Лапковым голасе была трывога, і ён чакаў, што ўсплыве тут на верх: хлеў ці хутар?

— У насьценгазэце пра цябе напісалі, што ты — шкоднік: разбазарваеш калгасны корм.

У Лапка адлягло ад сэрца.

— Як разбазарваю?

— А даеш таму, каму ня маеш права даваць.

— Ну, гэта глупства,—стаў трохі храбрыцца Лапко.

— А хіба ты нікому не даваў?

Па голасу заметна было, што Таклюся хацела пачуць ад Лапко адно толькі—не!

Лапко-ж мусіў прызнацца, што корм ён даваў. Ну, але-ж які гэта праступак, што ён дасьць калі-ні-калі мяшок сечкі ды прысыпле з прыгаршчы аўса?

— Ты, Пятрусь, як малое дзіця,— сказала ў засмучэньні Таклюся і нават уздыхнула.

— Каб я карысьць меў якую-небудзь з гэтага, ну, то іншая справа,— стаяў на сваім Лапко.

— Ну, але-ж даваў-жа ты потайкам?

— Да ня ўжо-ж тут бюрократызм разводзіць з-за жмені сечкі?— яшчэ храбрэй заўважыў ён.

— А хто ведае, што ты даваў і колькі даваў? Ты мяркуеш так, а людзі глядзяць іначай. Шахлевіч страшна абурыўся (Лапка пачаў забіраць страх), хацелі абмежавацца вымоваю, а ён паставіў гэта на агульны сход калгасьнікаў. Заўтра вечарам сход будзе.

Лапко раздумліва чухаў патыліцу.

— Натура мая паганая! Хоць-бы не даведаліся яшчэ, што на хутары быў, печ Цімоху правіў... Не, годзі: больш мяне ня ўпросіш, хоць разарвіся!—цьвёрда заключыў Лапко.

## XXV

І на гэты раз абудзіўся Пракоп рана. Ён прыпамінаў падзеі ўчарашняга вечара, пачастунак у Бабуры, разважаньні яго аб калгасе. „Хітры бэстыя, і нешта мае на ўме“, падумаў сам сабе Пракоп: „Цьвярозы гаворыць за калгас, але калі-б ён зьеў тое, што думае пра калгас, то да вечара не дажыў-бы! Выпіўшы, пачаў тррхі прагаворвацца. Адна толькі праўда яго, што ў калгасе траціць кулак“. Нарэшце ўспомніў Пракоп і аб тым, што ён за лішняю чаркаю прызнаўся ў сваім фальшывым дэлягацтве. Ня варта было гаварыць гэтага: карысьці нікому ня будзе, а сабе пашкодзіць можа. Пракопу стала сорамна. І яму прыкра была гэта выдуманая роля дэлягата сярод сумленных і чэсных работнікаў. Але ён заспакоіў сябе на тым, што век тут векаваць ня будзе, і час падумаць яму, што рабіць далей. Ясна адно: трэба ісьці, але куды?

Гэта „куды“ ўстала цяпер перад Пракопам са ўсёй вострасьцю і ў поўнай велічы. Як-бы загадзя вырашаючы адказ на балючае запытаньне, перад ім ясна-ясна ўстала яго вёска, сям‘я, гаспадарка, пакінутая ім на раскрыжаваньні старых і новых дарог сялянскага жыцьця. Што-ж робіцца цяпер там? Колектывізацыя не палохала яго ўжо так, як раней. Ён думаў аб тым, як-бы гэта было добра, калі-б і там завесьці такі-ж калгас, як і тут.

Ня спыніўшыся ні на якой цьвёрдай мысьлі, Пракоп адзеўся і пасунуўся на двор. Надвор‘е было ціхае. Хоць неба было яснае, але мароз адпаў. Адчувалася прадвесьне. Пракопа мацней пацягнула да дому. Ён стаў тварам у той бок, дзе, як здавалася яму, была яго вёска, і стаяў, аглядаючы прасторы. Перад ім паказалася постаць чалавека. Пракоп зірнуў і пазнаў Лапка. Рушыў яму насустрач.

— Здароў Лапко!—ветла паздароўкаўся ён.

— Здароў!.. Куды так углядаўся?

— А думаю ў дарогу рушыць.

— Што-ж так сьпяшаешся? пажыві яшчэ ў нас.

Пракоп зірнуў на Лапка. І выгляд яго і голас, як паказалася Пракопу, былі не такія, як звычайна. У яго закралася падазрэньне, ці не давэдаліся тут, што яны былі на хутары, чаго так баяўся Лапко.

— Ну, што чуваць?—запытаў Пракоп.

— Заўсёды на сьвеце што-небудзь чуваць, — крыху здалёку зайшоў Лапко і потым ужо бліжай падступіў да справы.

— Нічога ня чуў?

— Не!

Пракоп у сваю чаргу з трывогай зірнуў на Лапка і са страхам чакаў навіны. Лапко, ня ўтойваючы нічога, увёў Пракопа ў курс справы. Для Пракопа цяпер зусім стала ясна, што ён не памыліўся, разважаючы аб постаці чалавека з мяшком. Але калі ўчора ён хацеў знайсьці якую-небудзь пляму ў жыцьці калгасу, то цяпер ён шчыра хацеў, каб гэтых плям тут ня было. Перад ім разгортвалася новая старонка ў кнізе калгаснага жыцьця, ставячы яго перад магчымасьцямі шырэй і глыбей убачыць гэта жыцьцё. Яму толькі дужа было шкода, што гэтую старонку разгортвае сабою Лапко, якому ён спачуваў ад усяго сэрца. Хацелася дапамагчы яму выблутацца з гэтай прыкрай справы, параіць, як сябе трымаць на сходзе, што казаць. Але Пракопавы дарады засноўваліся на хітрасьцях зайца, што заблутвае свае сьляды—старая тактыка старой юстыцыі. Для Лапка яна не падыходзіла.

Сход пачаўся роўна а восьмай гадзіне ўвечары. Прасторны клюб рэдка калі бачыў такі поўны збор калгасьнікаў. Уся калгасная грамадзкасьць была прадстаўлена багата: старыя, маладыя, людзі сярэдніх лет, жанчыны, падлёткі мужчынскага і жаночага роду запаўнялі і лаўкі і праходы.

Лапко, няпрыдатны ґерой сёняшняга дня, заняў месца бліжай да сцэны. Сядзець у сярэдзіне ці ззаду і бачыць увесь час, як на цябе паглядаюць, было проста нязручна і няпрыемна. Яшчэ больш укрытае месца заняла Таклюся. Было заметна, што справу Лапка яна прыняла блізка да сэрца і хвалявалася ня менш за яго, бо Лапко быў спакойны, нічым ня выказваў свайго хваляваньня, можа толькі бровы яго трохі ніжэй спусьціліся над вачамі. Пракоп сеў ззаду, непадалёку ад Лапка. Ён хацеў быць поруч з ім, але некаторыя меркаваньні не дазвалялі зрабіць гэтага.

Над узвышкам, дзе зьмяшчалася сцэна, а цяпер стаяў стол для прэзыдыуму, гарэла вялікая лямпа, і там было даволі сьветла, увесь-жа клюб затапляўся ў слаба асьветленай цемнаце.

Лапко сядзеў нярухліва, павярнуўшы голаву ў бок сцэны, дзе вось-вось павінен зьявіцца старшыня і адкрыць сход. Лапковы вочы запыніліся на партрэце Леніна. Гэты партрэт выступаў цяпер у новым для Лапка асьвятленьні. Ён зьвярнуў увагу на гэты мудры, удумлівы, крыху прыжмураны погляд, трохі насьмешлівых, але строгіх вачэй, пазіраўшых

паўзьверх галоў многамільённых мас, правадыром якіх ён зьяўляецца, і азіраўшых тое, чаго ня ведаюць і можа яшчэ няясна прадастаўляюць яны.

Але на сцэне паказаўся старшыня. Шум галасоў, поўніўшых клюбу, адразу стаў радзець і зараз-жа сьціх, толькі некалькі хвілін глуха тухкалі ногі, покі не паселі ўсе ці не занялі найболей выгодных для сябе позыцый.

Для парадку і ўжо па сходаўскай традыцыі старшыня пазваніў. Заля замерла.

— Агульны сход калгасьнікаў абвяшчаю адкрытым,—урачыста і гучна зазьвінелі словы старшыні:—членаў праўленьня прашу заняць месца ў прэзыдыуме.

Непарушная цішыня стаяла ў залі клюбу. Праўленьне было ў поўным зборы.

— Таварышы! сёнешні наш сход—сход, так сказаць, непрадбачаны, выпадковы. Праўленьне калгасу пастанавіла склікаць вас з поваду вядомага вам артыкулу ў нашай „Калгаснай праўдзе“... Ці трэба зачытваць яго?—запытаў старшыня.

— Ведаем, чыталі!—загуў сход.

— А калі хто ня ведае, дык даведаецца з далейшага,— пачуўся адзінокі голас.

— Я каротка аформлю, таварышы, сэнс гэтага артыкулу,— казаў старшыня далей:—у нашым калгасе, як пішацца ў артыкуле, выяўляецца нездаровая зьява, на якую мы не павінны і ня маем права заплюшчваць вочы. Дык вось мы і павінны абсудзіць гэтае пытаньне і зрабіць усё ад нас залежнае, каб такія і ўсякія іншыя нездаровыя зьявы ня мелі больш месца ў калгасе.

— А хто пісаў гэты артыкул?—запытаў хтось з калгасьнікаў.

— Калі выявіцца тут, што напісанае ў артыкуле — ня праўда, тады я скажу, хто пісаў,—быў адказ старшыні.

— Другіх пытаньняў ня будзе?

— Не!

— Дык хто, таварышы, хоча ўзяць слова па сутнасьці артыкулу?

Пастаноўка пытаньня была ня зусім ясная. Ні Лапко, ні яго хаўрусьнікі тут не ўпаміналіся. Проста як-бы трохі было няёмка называць імя ўсім вядомага Лапка. У гэтым быў грэшан і сам старшыня. Але так было толькі спачатку.

## XXVI

Пасьля кароткай і няпрыемнай у такіх разох замінкі і паўторнага запытаньня старшыні, хто хоча выказацца, падняўся Сымон Таркевіч.

Таркевіч рабіў ураджаньне сярдзітага чалавека. Бровы яго пераважна былі нахмураны, меў звычай бубніць і прыгаварваць: „Ці гэта парадак?“ А калі ён зьбіраўся гаварыць больш-менш доўга, то шоркаў правым

пальцам па два разы па адным і па другім боку свайго носа, уцягваючы ў сабе паветра. Так зрабіў ён і цяпер, „намянціў нос“, як казалі пра яго людзі.

— Як тут выказвацца?—сярдзіта запытаў Таркевіч:—трэба наўперад ведаць, што гэта са сход: ці гэта чыстка, ці суд? А то ня ведаюць, як прыступіць... Ці гэта парадак?

— Мне здаецца, што пытаньне стаіць даволі ясна,— адказаў старшыня:—сход павінен сказаць сваё слова і вынесьці пастанаўленьне аб учынку т. Лапка і тых таварышоў-калгасьнікаў, што былі з ім у згаворы—Мулейкі і Ступіка. Ці мелі яны права рабіць вось так, як значыцца тут,— старшыня паказаў насьцэнгазэту, што ляжала тут-жа на стале,— ці не?

Тады слова ўзяў калгасьнік Мікіта Ганчар.

— Таварышы! мы добра ведаем т. Лапка. Гэта—наш лепшы калгасьнік, чалавек без усялякіх хітрыкаў, сумленна працуе на калгас. Ён-жа, можна сказаць, сваімі рукамі пабудаваў склеп і кухню... Дзе вы знойдзеце такога чалавека? Дык што аб ім казаць? Які праступак ён зрабіў? Што выдаў некалькі мяшкоў сечкі? І каму? сваім-жа калгасьнікам. Але я запытаюся: калгасная, абагуленая скаціна, якую даглядае Лапко, пацярпела ад гэтага ці не? У якой меры гэтыя некалькі мяшкоў няшчаснай сечкі адбіліся на запасах калгаснага корму? Вось, т. т., што трэба ўлічваць, калі мы гаворым сёньня аб Лапку. Што-ж на чалавека накідвацца адразу...

— Тав. Ганчар! ніхто не накідваецца на т. Лапка,—заўважыў старшыня.

— Да мы і ня ведаем, колькі выдана гэтай сечкі: можа мяшок, можа два. Няхай сабе дзесяць, ну, дык што-ж! Прадаваў ён яе? грошы браў за гэта?.. Скажы, Лапко, дзе ты там сядзіш? многа ты наскладаў за гэтую сечку грошай?

Старшыня зноў зрабіў увагу прамоўцу.

— І ніякага тут згавору ня было,— адвакатаваў далей Ганчар:—папрасіў чалавек сечкі карове, ну ён і даў. Мы павінны тут сказаць, каб такіх выдач больш ня было, і іх ня будзе. Вот і ўсё!

З вялікім задавальненьнем, з асалодаю, можна сказаць, слухаў Пракоп гэту прамову. Калі прамоўца кончыў, ён быў ужо шырока разгарнуў рукі, каб адпаведна гэтай шырыні пляснуць далонямі. Але ў зале ня было падтрыманьня, і яго рукі, ня пляснуўшы, зноў зашыліся ў рукавы кажуха. Зірнуўшы на прэзыдыум, Пракоп запыніўся на старшыні: ясна было відаць, што прамова Ганчара нядобрае зрабіла на аго ўражаньне.

— Хто яшчэ, т. т., хоча выказацца?..

— Няхай скажа сам Лапко,— пачуўся голас ззаду.

— Тады, т. т., дазвольце мне,— узяў слова сам старшыня.

— Гэта праўда, т. т., Лапко мае вялікія заслугі перад калгасам, як і шмат хто з іншых таварышоў-калгасьнікаў, і ніхто гэтых заслуг ад яго не адбірае. Але, т. т., ня ў гэтым справа. Пытаньне трэба ставіць так: ёсьць

парушэньне парадку ў калгасе ці не? Ёсьць!—падкрэсьліў старшыня:—факт праверааны. Але гэтага мала: калгас, т. т., не багадзельня і не скарбонка, адкуль дабратою таго ці іншага таварыша, у даным выпадку т. Лапка, будуць браць калгаснае, аграмаджанае дабро для задавальненьня ўласьніцкіх патрэб. А гэта, т. т., чым пахне? Спрыяе гэта калгаснаму росту? Падымае яно аўторытэт калгасу? Служыць гэта на карысьць самай ідэі калектывізацыі, ажыцьцяўленьне якой паставіла партыя і савецкая ўлада? Тва. Ганчар пытаў, ці многа наскладаў т. Лапко грошай за сечку. Я лічу ганебным такое пытаньне ў вуснах калгасьніка! Я ўпэўнены, як і большасьць з вас, калі ня ўсе вы, што не карысьць кіравала тут т. Лапком,— сход шумна далучыўся да думкі старшыні,— але давайце разьбяром і дабрату т. Лапко.

Лапко заварушыўся за выступам сьцяны: у гэты час ён, як мажа ніколі, праклінаў сваю дабрату.

А старшыня бяз жалю аналізаваў яе.

Т. Мулейка і Ступік маюць па карове. Добра: калгасны парадак дазваляе гэта. У іх, аказалася, бракуе корму. Яны ідуць да т. Лапка, просяць, Лапко цішком дае ім, у Лапка добрае сэрца. Таварыш Лапко! зьвярнуся і я да цябе: ці думаў ты, даючы ім корм, над тым, чаму ў іх корму раптам ня стала? Ці запытаўся ты ў іх аб гэтым? Мажа-б яны табе сказалі, што свой корм яны тайком прадавалі? Як-жа ты мяркуеш: чаму служыла твая дабрата, таварыш Лапко? Вось, т. т., у чым сэнс і значэньне гэтага факту, і мы павінны кваліфікаваць яго, як зьяву нездаровую і ня толькі гэтак расцэньваць, а і ў ніякім разе не дапускаць яго, бо гэта ёсьць пачатак развалу калгасу, гэта—ігра ў руку кулаку! Гвалтам нікога мы ня трымаем у калгасе.

Апошнія словы былі адрасаваны Мулейку і Ступіку. Лапко, Таклюся і Пракоп, Мулейка і Ступік і шмат хто з калгасьнікаў слухалі гэту прамову з апушчанымі галовамі, а на гэта ў кожнага былі асабістыя прычыны.

Сваім выступленьнем старшыня даў моцную зарадку сходу. Чулася непераможная праўда і сіла яго логікі. Яго прамова мела бясспрэчны ўплыў на выступленьне іншых прамоўцаў, хоць усе яны імкнуліся знайсьці нешта сярэдняе паміж двума першымі прамовамі.

Але самую горкую пілюлю паднёс Лапку, а разам з ім і Пракопу, той-жа сярдзіты Таркевіч.

Ён з асаблівасю энэргіяй паторгаў пальцам свой нос, так што ўсе зьвярнулі на гэта ўвагу і з некаторым страхам за Лапка чакалі прамовы.

— Зусім правільна, т. т.,— спакойна пачаў Таркевіч, а гэта азначала, што ў яго прыпасены нейкі моцны аргумант-даўбешка,— падышоў да пытаньня наш старшыня. Мы цяпер бачым, куды можа павесьці чалавека дабрата—старшыня давёў гэта ясна. Ці-ж гэта парадак? І старшыня, т. т., не памыліўся... Па дабраце сваёй наш брыгадзір, прыкладны калгасьнік з вялікімі заслугамі перад калгасам, таксама хадзіў і на хутар да кулака Бабуры, што нам некалі жняярку падараваў, ведаючы, што

яе ўсё роўна забяруць ад яго. І хадзіў наш т. Лапко ня далей, як учора. І што-ж вы думаеце ён там рабіў? Правіў печ кулаку! Чарано, бачыце, праваліласа. Хто-ж яму, беднаму, паможа?—з едкім сьмехам запытаў Таркевіч і сам адказаў: Ну, вядома: наш добры т. Лапко! Ці-ж гэта парадак? Такую дабрату вытручваць трэба. Я пашоў-бы печ кулаку правіць? Да няхай яго шэсьць разоў халера задушыць!—сярдзіта кончыў Таркевіч.

Да пералічаных ужо апушчаных галоў далучылася цяпер і чубатая галава камсамольца Гаруя.

Страшныя мінуты перажываў у часе гэтай прамовы і наш „дэлегат". З аднаго боку страшна было за сваё дэлегацтва, з другога—трэба было заступіцца за Лапка. Яму раптам як-бы нешта стрэліла ў голаву.

— Дазвольце мне слова!

У гэты момант Пракоп ня помніў нічога, у вачох завіўся туман, але ён узяў сябе ў рукі.

— Таварышы! Як я тут ёсьць чалавек пастаронькі, то... можа мне і ня трэба ўмешвацца... Агледзіў я ваш калгас. Скажу—дай божа ўсім добрым людзям такі калгас...

Мысьлі яго блуталіся, але ён учапіўся за слова „добрым", успомніў, што за дабрату крыюць Лапка.

— Гэта мая віна, т. т, што т. Лапко хадзіў на хутар. Прызнаюся вам, т. т., што я хацеў пачуць, як людзі збоку гавораць пра ваш калгас. Мне хацелася ведаць усё: і ваш моцны бок, і слабы. І я павінен сказаць вам, што калі ў калгасе парадак, лад, такі, як у вас, што калі калгас моцна стаіць на нагах, як у вас ён стаіць, то ніякі кулак не зганьбіць яго. Дык гэта я, таварышы, папрасіў, падбіў Лапка схадзіць са мною, бо я-ж тут дарог ня ведаю. Я пайду дамоў, буду расказваць пра ваш калгас, буду гаварыць усім, каб ішлі ў калгас. І нашы калгасьнікі прыдуць вучыцца ў вас. І каб засталася добрая памяць аб вашым калгасе, я прашу вас, таварышы, ня ставіць у віну таварышу Лапку, што ён хадзіў на хутар. Няхай гэта віна ляжа на мяне.

Ніколі ў жыцьці не гаварыў Пракоп такой доўгай прамовы. Ногі яго дрыжалі, у грудзях было горача, і пот выступіў у яго на лбе. Затое-ж яму папляскалі—ці то, як чужому чалавеку, ці за добрыя словы аб калгасе, ці то за гарачую абарону Лапка, і Пракоп адчуў, як высока ўзьняўся яго ўласны дух.

Апошняе слова сказаў сам Лапко, і яму прышлося выйсьці з свайго кутка на трыбуну. Лапко быў зусім спакойны, і прамова яго была нядоўгая.

— Усё гэта, таварышы, праўда, у чым тут абвінавачвалі мяне, і я шчыра дзякую таварышам за праўдзівыя словы. Натура мая,—тут Лапкоў голас загучэў злосьцю:—паршывая натура! Але я зламлю яе!.. Праўда і тое, што гаварыў наш госьць, т. Пракоп, але ня ўсю сказаў ён праўду, я і без яго зьбіраўся на хутар. Толькі тут нашы дарогі супалі, і я нават меркаваў прыкрыцца т. Пракопам, бо я ведаў, што калгасьнік не павінен вадзіць кампаніі з пасялкоўцамі. Дык я, таварышы, прызнаюся ў сваёй

віне, і мне будзе лягчэй на сэрцы, калі вы так ці іначай пакараеце мяне за гэта!

Пастанавілі—зрабіць Лапко вымову, а Мулейку і Ступіку здаць сваіх кароў у калгас, калі самі яны хочуць астацца ў калгасе.

Вечарам, калі скончыўся сход, а Лапко і Таклюся асталіся ўдваіх, дык вось што сказала яму Таклюся, пагаварыўшы наперад аб сходзе:

— А чаму-б, Пятрусь, нам не запісацца?

Пытаньне гэта дужа кранула Лапка.

— Ты мяне шкадуеш Таклюся? Твае словы—дарагія для мяне словы—запішамся.

## XXVII

Мяккая, утульная і лагодная сінеча-смуга тонкаю покрыўкаю засьцілала лясы, што цёмнымі рысамі значыліся па краёх далёкага кругу сьнежнага прастору. А над гэтым прасторам разгортвалася бяздоньне яснага прадвясеньняга неба. Адчувалася воля і радасьць, поўная і шырокая, як і гэтыя прасторы неба і зямлі, атуленыя цішынёю і сонцам.

Пракоп ішоў памалу, разважліва аглядаў сюды-туды дарогу перад сабою, а часамі прыпыняўся на кароткі час, пазіраў назад, адкуль ён нядаўна рушыў у дарогу. Калгас „Хваля рэвалюцыі“ ўжо чуць-чуць значыўся на белым полі цёмнымі кропкамі сваіх будынкаў. Постаці калгасьнікаў, іх справа, якую робяць яны, інтарэсы, якімі яны жывуць,—усё гэта зьлівалася ў адзін суцэльны комплекс уражаньняў, пакінуўшых глыбокі адбітак у Пракопавай душы, і навявала на яго лёгкую журботу з прычыны разьвітаньня з гэтым калгасам.

Прайшоўшы яшчэ з вярсту, Пракоп ізноў спыніўся. Дарога падышла да самага лесу, пралёгшы прыгожым завіткам па правым яго баку. Каля самае дарогі стаяў густы зялёны хвойнік, а трошкі далей старыя стромкія хвоі, узносячы над ім курчавыя верхавіны, так весела песьціліся на сонцы, і такі быў тут прывабны зацішак, што Пракоп ня мог не паддацца жаданьню прысесьці на гладка сьпілованым пні і трошкі пагрэцца на першым цяпле яшчэ ўсё-ж такі зімняга сонца. На ўгрэве каля шурпатых камлёў разложыстых хвоек і пад хвойкамі раставаў сьнег, і мясцамі сям-там выбіваліся з-пад сьнегу жоўтыя плямы пясчанай зямлі, мёртвыя цыбуры пабітых марозам красак і засохлыя вусікі леташняй травы.

Даўно не адчуваў Пракоп такой лёгкасьці, такога спакою душы, як цяпер. Было так лёгка, як-бы з яго плеч зваліўся нейкі цяжар, і ён памаладзеў на цэлых дзесяць гадоў. Ці то гэты першы дзень цяпла, прадвесьнік вясны і абуджэньня жыцьця, ціш і шырыня вольных прастораў спрыялі такой лёгкасьці і спакою сэрца, ці яшчэ іншыя прычыны, Пракоп ня ведаў. Яму проста было лёгка і добра, і ён некалькі разоў казаў сабе: „Годзі цягацца, лавіць ветра ў полі, шукаць немаведама чаго“. Усе падзеі апошняга часу, увесь клопат і згрызоты яго, дабравольнае вырачэньне свайго дому, бадзяньне ў дарогах і гэты сьлізкі і няпоўны

шлях дробнага ашуканства, на які стаў ён, і неакрэсьленасьць яго ролі,— усё гэта ўставала перад ім, як прыкры сон, як нейкая цяжкая хвароба, ад якой ён стаў ачуньваць. І калі ў Пракопа і былі яшчэ хістаньні, то ўчарашні вечар, сход, дзе разьбіралася справа Лапка, быў паваротным пунктам у Пракопавым жыцьці, прымусіўшы паглядзець на яго другімі вачамі. І што асабліва ўрэзалася ў памяць Пракопу, дык гэта Лапко і яго праўдзівае прызнаньне, і той прысуд, які вынесен быў яму сходам калгасьнікаў. Над гэтым сходам Пракоп многа думаў. Спачатку ўсё гэта паказалася яму дзіўным, але калі ён узважаў усе аргументы за і процiў і ўспомніў пры гэтым, якую ролю адыграў у яго бадзяньні Чыкілевіч, то ён мусіў прызнаць праўду і глыбокі сэнс такіх сходаў у фармаваньні новага чалавека ў новых формах яго быту.

З іншымі мысьлямі, з іншым настроем варочаўся Пракоп у Затоньне. Ён там раскажа, як жывуць людзі ў добрых калгасах. Ён растлумачыць і прычыну свайго зьнікненьня, нават прызнаецца, што ён выдаваў сябе за дэлегата: свайго дэлягацтва Пракоп ня судзіў строга, бо яно вывела яго на правільную дарогу.

А што-ж рабілася далей у Затоньні?

Пасьля таго, як Чыкілевіч выскачыў, як апараны з Пракопавай хаты, а каля парога ляжаў разьбіты абраз, сьвяты Мікалай Мірлікійскі, паміж Тацянаю і Мікітам была такая гутарка.

— Што ты нарабіў, сынок?

Мікіта быў сур'ёзны, і злосьць яго яшчэ не астыла, але ўсё-ж такі ён меў выгляд чалавека, адзяржаўшага вялікую перамогу.

— А што-ж ён мне пагражае богам ды яшчэ смаркачом называе!.. Бацьку зьвёў, а цяпер прыходзіць спачуваць і адгаварваць ад калгасу!.. Сволач кулацкая!

— Ну, як-жа ты абразом кідаешся? што людзі скажуць?—страх і трывога чулася ў Тацяніным голасе, і яна нагнулася над абразом. Шкло пабілася на друзачкі. Абраз ляжаў тварам да зямлі.

— Чорт яго бяры! Калі ён падымецца сам, то я тады скажу, што ён сьвяты,— заўважыў Мікіта.

— Не даруе ён табе гэтага—помсьціцца будзе.

— Хто будзе помсьціцца?

— Чыкілевіч!

— А я думаў—сьвяты Мікалай... Няхай помсьціцца. Паглядзім яшчэ, што з гэтага выйдзе,—задзёрыста адказаў Мікіта.

Ну, зусім ён быў мужчына!

Маці падабрала друзы шкла.

Куды-ж цяпер падзець сьвятога Мікалая? Вешаць яго ізноў на сьцяну бяз шкла і пасьля таго, як ён быў здорава ашальмован, было нейк проста нязручна. Нават сьвятым, што яшчэ віселі на сьцяне, наўрад ці было-б цікава аставацца з ім у адной кампаніі.

Тацяне было трохі прыкра ад Мікітавага ўчынку. У глыбіне яе душы туліўся страх, што гэты ўчынак можа наклікаць якое-небудзь няшчасьце, яшчэ горшае за тое, што ўжо налучыла іх. І яна дала сабе абяцаньне, што калі вярнецца Пракоп, то яна няпрыменна зашкліць сьвятога Мікалая і павесіць яго на старое месца. Яна ціхенька вынесла абраз у камору і перш, чым схаваць яго, у мысьлях папрасіла прабачэньня ў сьвятога Мікалая і пацалавала яго ў худашчавы твар.

Мікіту-ж мала цікавіў цяпер сьвяты Мікалай. Мысьлі яго былі заняты зусім іншым. А калі маці вярнулася з каморы, то ён сказаў:

— Трэба нам падаць заяву аб уступленьні ў калгас.

Тацяна пасьля ўсіх гэтых падзей зусім бязудзельна прыняла гэтыя словы.

— Як сабе хочаш,— даволі спакойна адазвалася яна і ўздыхнула.

Мікіта маўчаў, а маці дадала:

— Можа-б трохі счакаць. Паглядзім, як і што будуць рабіць людзі.

Тады Мікіта самым катэгорычным чынам запярэчыў мацеры:

— Чакаць тут якраз і ня можна. Пакі мы будзем чакаць, гэты кулачэчына будзе весьці сваю работу, выкарыстае бацьку на ўсе сто процантаў. А потым нас будуць вінаваціць, што мы—прычына развалу калгасу. Калі бацька зрабіў памылку, то мы павінны яе выправіць. Ды бацька-ж і не пярэчыў нам уступаць у калгас.

Калі Мікіта ішоў у праўленьне калгасу, учора толькі абранае і яшчэ ня прыступаўшае да работы і таксама зьбянтэжанае, ён сустрэў на вуліцы Чыкілевіча, хоць і паказаў від, што не заўважыў яго. Чыкілевіч правёў Мікіту злосным вокам... „У, шчанюк!"—працадзіў ён скрозь зубы.

Мікіта доўга блытаўся па затонскіх хатах, пакі не знайшоў старшыню праўленьня, Лукаша Гулака. Гулак—чалавек сярэдніх лет, маламоцны серадняк. У яго хаце таўклося ўжо чалавек з дзесяць затонцаў і Марыніч у тым ліку. Гулак быў узрушаны і меў выгляд сярдзітага чалавека. Відаць, угневілі яго. Усе са зьдзіўленьнем пагладзелі на Мікіту. А Мікіта адразу прыступіў да справы:

— Запішэце мяне і маю матку ў калгас!

Гулак грозна зірнуў на мужчын, а потым на Мікіту, і тады яго твар праясьніўся. Ён зноў павярнуў сваю галаву ў бок мужчын і сказаў:

— Ну? Яшчэ чарніла ня высахла, а вы ўжо прышлі выпісвацца. Вот вам прыклад, дуракі вы!

— А чаго-ж яго бацька зьбег?

А Мікіта сказаў:

— Бацька, выходзячы з дому, сказаў нам, каб мы запісваліся. А калі вы паслухалі Чыкілевіча, то гэта ваша справа. Але чакайце — найдзем мы ўправу на Чыкілевіча!

— Малайчына, яй-богу малайчына!

І Гулак па-прыяцельску пахлопаў Мікіту па плячы.

26/III 1931 г.

(*Працяг будзе*).

## РАЗМОВА З НАРОДНЫМ ПОЭТАМ

**Юрка Лявонны**

Было цяжка бадзяцца па сьвеце,
сьпяваць вёсны
насустрач зіме...
Не сьсячы ненавіснае вецьце
ўзьняў Купала поэзіі меч.

Гэта ў тыя глухія пацёмкі,
калі крыўды цьвілі на зямлі,
грукацеў браняносец „Пацёмкін“
і натоўпы
да Зімняга йшлі.

Ў тыя часы крывавую пожняй
з намазоленых катаргай скур
заліваў Мікалай Апошні
жаль Цусімы і Порт-Артур...

І тады, вось,
сьлязамі над гольлю,
не заўважыўшы выйсьця ніяк
пачалі вы сьпяваць пра нядолю,
як жыве беларускі бядак.

І жалейкай сваёй берасьцянай
над абшарам палёў і балот
вы будзілі нязжытыя раны
і жывілі сухое быльлё.

Вам за гэта
ў краіне свабоднай,
дзе ня пырскае кроўю раса,
даравалі высокую годнасьць,
між поэтаў пачэсны пасад.

Шлях пясьнярскі—
шырокі струмень:
там—каменьні, і мелі, і парогі...
Не адразу віталі вы дзень
гістарычнае перамогі.

Надта-ж моцны традыцый палон,
надта цяжкія новыя дзьверы.
Я чытаў гэты пасквільны „Звон"
і ў імя ваша там—ня верыў.

Мусіць бачыў я гэта
ўва сьне,—
як паэта далонямі пляснуў
Тым, што ўзятай на штурме вясьне
рыхтавалі крывавую лазьню...

Цамантуем, узводзім, пяем
(песьня—лепшае часу адзеньне);
У радкох агнявейных поэм
адгукаецца сонечны дзень наш.

А наўкол точаць
здраднікі джала
ў нашы вёскі і гарады...
Хочу я вас паслухаць, Купала,
больш, як шмат каго з маладых!

Хачу я, каб адкінуўшы цяжар
і туман,
што ў балоце вадзіў,
найвялікшы поэта ўзважыў
непаўторнасьць нашых гадзін;

Каб вось там, за кардонам, дзе гола,
Дзе на крэсах—і лямант, і боль,
з вашай песьняй
(на поўны голас)
Мільёны ішлі на бой!

Ні на хвілю
тузе не аддацца,
на будоўлі сьпяваць і жыць!

. . . . . . . . . . . . . . .

І зьмяце Дыктатура Працы
перашкоды і рубяжы!

# КАДРЫ

## І. Мікітэнко

Прысьвячаю студэнцтву, што ў буры і націску зруйнавала задушлівыя „храмы“ буржуазнае навукі і стварыла вогненныя кузьні пролетарскае рэволюцыйнае думкі.

*Аўтар.*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Студэнты:

Цярэнь Крыжэнь.
Алена Чарада.
Мося Шкіндэр.
Тарас Рабацяга.
Мікола Прадка.
Смала.
Антоніо.
Коля Няронаў.
Кацярына Грыцэнка.
Грушкіна.
Мамаева.
Таня.
Варка.
Кіра Богаяўленская.
Фіцкі.
Рабашапка.

Профэсары:

Белы.
Богояўленскі.
Воранаў.
Качарга.
Сьлёзкін.
Кукушкін.
Асыстэнтка.
Гармаш—старшыня прыймовае камісіі, пасьля — профэсар.

Коця—бяспрытульны.
Юля Булатовіч.
Андрыян—служачы інстытуту.
Кума.
Саквояж.
Бэкеша.
Попік.
Гармонік.
Шынэль.
Панначка.
Поўная дама.
Пэнснэ.
Чырвонаармеец.
Політком.
Шпак—басяк (ракло).
Бык—яго супражнік.
Манька—дачка кумы.
Комэндант — тып з пасажыраў.
Пасажыр.

Пасажыры, студэнты, публіка на вокзале, група рабочае моладзі.

Дзея адбываецца ў Одэсе 1923—1927 г. г.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### 1. Сьмела, таварышы, ў ногу!

1922 год. Разьбегліся рэйкі на вузлавой станцыі. Поезд стаіць на трэцяй пуці. Пасярэдзіне—чырвоная абшарпаная цяплушка гасьцінна рассунула свае шырокія дзьверы нібы запрашае да сябе ў сярэдзіну, хоць там паўнюсенька рознага люду. Новыя пасажыры, тымчасам, валяць у вагон з клункамі, клуначкамі, мяшкамі, спатыкаюцца на рэйках, ціснуцца, чапляюцца на буфэры. Сэрцы тых людзей напоўнены голасам, роспаччу і лаянкаю. Што плешча і хлюпоча з іх ратоў, смыкаецца на губах, булькоча ў несамавітай анархіі рухаў і штырханьняў, якімі кожны намагаецца здабыць сабе месца пад сонцам і, асобна ў бласлаўленнай цяплушцы. Ды іх ня пускаюць туды тыя, якія ўжо занялі там сабе месца. Над усім тым безладзьдзем і енкам пануе ў воддалі сакавіты посьвіст манэўровага паравоза.

Кума. Жанчына я, ці не жанчына?

Саквояж. Ваісьціну, сьмешнае запытаньне ў эпоху рэволюцыі.

Кума. Прапусьці, кажу, бо раздушу!

Пасажыр. Падважце яе каромыслам ззаду.

Цяплушка (*іржэ ўсім сваім чэравам*). Ха-ха! Паддай! Навальвай!

Пасажыр. Сып, кума! Скакай сюды!

Комэндант. Задзірай ножку. Толькі бэбахі пакінь начальніку. З бэбахамі ня пусьцім.

Цяплушка. Га-га-га!

Кума. Ды куды-ж я бяз бэбахаў? Можа ў бэбахаў уся мая жызьня цяпер, а ён „пакінь“.

Саквояж. Бабілён.

Комэндант. А што за бэбахі, кума? Можа такія, што можна есьці?

Цяплушка (*зараўла*). Давай!

Кума. Зьелі ўжо цара і імпэратара, няхай вас чэрві зьядуць.

Комэндант. Ім з цябе, кумуся, больш наедку. Аднаго заду за год не зьядуць.

Цяплушка. Га-га!

Попік. Грамадзяне, дадому вяртаюся...

Пасажыр. Цішэй! Чуеце, сьвяшчэньнік просіцца.

Комэндант. А скудава, айцец, вяртаецеся?

Попік. З Афону, брацьце. З Афону вяртаюся.

Комэндант. Няма месцаў. Смалі, айцец, зноў на Афон.

Цяплушка. З богам! З госпадам богам!

Кума. А ты што тут за начальнік? Якое маеш поўнае права? Пусьці, кажу! Уласьць наша!

Саквояж. Трагічная памылка. Самагіпноз.

Пасажыр. Твая ўлада над бэбахамі, у бэбахах і пад бэбахамі.

Цяплушка. Ха-ха!

Гармонік (*чыркнуў*). „Ох, і яблачка!“ (*і змоўк*).

Попік. Праваслаўныя...

**Комэндант.** Хто вам сказаў? Мы пяты ўжо год, як бязбожнікі, спэкулянты, мяшочнікі, дэзэртыры, сабатажнікі і мануфактурнікі. А вы кажаце.

**Пасажыр.** На Ахвон, сказана вам. Каўбасою, ды божаю расою.

**Цяплушка.** Ге-ге!

**Пасажыры** (*ідуць на штурм*). Напірай! Чаго слухаеш? Жарні яму.

2

Мося Шкіндэр з чырвоным сыгнальным сьцяжыкам, згорнутым вакол дрэўца, аўторытэтна падыходзіць да вагона. Аколышак свае шапкі ён падпяразаў чырвонаю істужкаю і вось так выглядае—прынаймні дзяжурным па станцыі. А жвавасьць вясёлага сялянскага хлапца з яго так і прэ.

**Мося.** Грамадзяне (*супакоіліся*). За чатыры гады рэволюцыі, як я бачу, вы не пасьпелі дысцыплінаваць сябе. Чаго вы крычыце?

**Цяплушка.** Лезуць... з Афону... бэбахі!..

**Пасажыры** (*якія ня ўлезьлі*). Дзе праўда на сьвеце?

**Мося.** Ша! Якія бэбахі? Які Афон? Хіба вы ня ведаеце, што рэволюцыя аддзяліла дзяржаву ад царквы, а таксама ад бэбахаў? Факт. І што дзяржава наша—гэта таксама факт. Гэта, нават першы факт. (*Офіцыйна*). Дык вось, на падставе другога факту, не настойваю на правозе служыцеля культу ў вагонах, даручаных мне шляхоў зносін УССР. Але... (*шум*). Чаго вы крычыце? Я кажу „але“, значыць гэта будзе „але“. І калі вы яго ня выканаеце, дык поезда не адпраўлю. Зразумелі?

**Цяплушка.** Таварыш начальнік, нам ехаць трэба! Якое „але“? Круці, Гаўрыла!

**Мося.** Вы думаеце, што робіце рэволюцыю? А як-жа. Вы едзеце зайцамі, вось і ўсё. А рэволюцыю мы ўжо бяз вас зрабілі. Вашы білеты, грамадзяне...

**Цяплушка.** Усё ў парадку. За што стррррадалі?

**Мося.** Ну, дык вось што я вам скажу. Білетаў я правяраць ня буду, але зараз-жа пасуньцеся ў глыб, расьцярушэцеся па кутках і аслабанеце месца каля дзьверы, не для служыцеляў культу, а для герояў культуры. Прынаймні, на пяць чалавек.

**Комэндант.** Што такое? Якое такое культуры?

**Саквояж.** Сьмешна. Культуры.

**Мося.** Дык вось што я вам, нарэшце, скажу: у гэтай цяплушцы будуць ехаць студэнты. Тэрміновы загад. Дырэктыва з цэнтру. Тэлеграфам з Харківа. Вось. (*Дастаў паперку, чытае*). „Пасуньцеся і дайце месца зараз-жа“.

**Пасажыр.** Так-бы і казалі. Студэнты—гэта канечна, раз студэнты.

**Комэндант.** Пасунься, ня чуеш?

(*У цяплушцы рух, метусяніна, лаянка*).

— А-ай! На жывот наступілі!

— Асьцярожна, чорт!

— Грамадзянін, сволач!

Мося (*сьвіснуў*). Студэнты! вас просяць у цяплушку.

3

Тры будучыя студэнты—шахцёр з данецкіх капальняў—Цярэнь Крыжэнь, буйны, як зямля, вясковец-партызан Тарас Рабацяга і вельмі рухавы юнак Мікола Прадка,—нагружаныя кніжкамі і клункамі, трушком бягуць на шкіндэрава запрашэньне. Але за некалькі крокаў да вагона зьмяншаюць хаду і ідуць ужо вельмі павольна.

Тарас. Можна садзіцца?

Мося. Ня „можна", а павінны садзіцца. Дырэктыва цэнтру. Тэлеграфам з Харківа. Ну? Барждэжай. Зараз адпраўляю поезд.

Цярэнь (*усьміхнуўшыся, уступчыва*). Калі такі загад, лезьма, хлопцы.

Лезуць у цяплушку, займаюць месца каля дзьвярэй, зьвешваюць ногі ўніз. Пасажыры спрабуюць выкарыстаць момант, каб таксама ўлезьці і самім.

Бякеша. Садзіцца, дык садзіцца. Прапусьцеце, кажу. Іскранна трэба.

Кума. Ірады! Парасьсядаліся...

Мося. Ша, не напірай! Дайце мне па служба ўлезьці ў цяплушку.

Цярэнь. Прапусьцеце начальніка.

Тарас. Лезь пакуль ёсьць месца! Хапай за нагу!

Прадка. Мося! Кх. Чаго-ж ты? Кх (*аж захлынуўся з радасьці*).

Комэндант. Які Мося? Протэкцыя? Кумаўство? Які Мося?

Мося (*ужо ўзьлез, сеў паміж сваіх*). Ша, кажу! Які Мося? Бачыў? Будушчы студэнт, будушчы інжынэр, доктар, пэдагог, а можа й Наркомшлях (*зьдзірае з шапкі істужку, перадае „комэнданту"*). На, таварыш, на ўспамін. А хустку захаваем, бо яшчэ прыдзецца ўціраць нос. (*Разгортвае чырвоную хустачку, дрэўца выкідае, а хустачкай выцірае лоб*). Ну, цяжкі шлях да Наркрмшляху.

Цярэнь. Ня дрэф, Мося.

Цяплушка (*разабраўшы ў чым справа*). Гэ! Купіў.

Гармонік (*рыпнуў*). Ох, яблычка...

Бякеша. Сукін сын.

Кума. А жэншчыні ня можна.

Цярэнь. Цябе шпалы ня вытрымаюць.

Цяплушка. Ха-ха!

Кума. Цьфу на вас! Бацюшка, вунь другая цяплушка, бяжэм!

Цярэнь. Крый, цётка!

Тарас. Займай удваіх са сьвяшчэннаслужыцелям і замыкайся.

Пасажыр. Уяві сабе, што ты Ахвон-гара. (*Кума і поп пайшлі*).

4

Бякеша. А яшчэ студэнты. Машэньнікі вы, а ня студэнты.

Мося. Тарас, дай яму адказ. Па суці.

**Тарас.** Па суці? Слухай, бякеша. Яшчэ мы пакуль што ня студэнты—гэта праўда. Але біць спэкулянта і цяпер умеем, гэта таксама праўда. Як прыпячатаю, дык і ўспухнеш. Лепей за студэнта.

**Цярэнь.** Пакінь, не чапай барахла.

**Кума** і **Попік** зноў прыбеглі. За імі яшчэ некалькі пасажыраў.

**Попік.** Праваслаўныя, там поўна. Няма куды ўлезьці.

**Мося.** Па-першае, я яўрэй і да таго—не праваслаўны.

**Тарас.** А па-другое—бога няма, а рэлігія опіум для народу.

**Саквояж.** Опіум. І гэта студэнты! Опіум.

**Кума.** А-а! Вунь хто цяпер езьдзіць. Вунь чыя ўласьць. Вось да чаго дажыўся рускі народ. Беце яго, чаго вы глядзіце? Ён яўрэй!

**Мося.** Благаславенны будзь, госпадзі, што ты не стварыў мяне жанчынаю.

**Кума.** Што ён дурманам забівае? Беце яго!

**Цярэнь.** А ну, цішэй ты, баласт рэволюцыі, цёмны паразыт.

**Прадка.** Саюз рускага народу.

**Тарас.** Хочаш, дык я ўдару. Ну, я ўжо калі ўдару, то язык твой,—ворган агітацыі, адразу сапсуецца.

**Саквояж.** І гэта студэнты! Ворган агітацыі...

**Цяплушка.** Факт!

**Гармонік.** ...Куда коцішся.

**Мося.** Тарас, прымі бот. Бі культураю.

**Цярэнь.** Вазьмі яе на іспыт.

**Хлопцы.** Правільна.

**Тарас.** Добра, толькі з якога боку заходзіць? Як яе, з політэкономіі, ці з гістарычнага матэрыялізму жарнуць?

**Цярэнь.** Яе наўрад ці заб'еш з гарматы.

**Мося.** А ўсё-такі пытай з вышэйшае матэматыкі.

**Тарас.** Добра. Вось скажэце, цёця, колькі разоў на тыдзень вы возіце ў горад на таўкучку мукі, калі рэволюцыя галадае? І колькі папяровых мільёнаў у вас ужо мышы пагрызьлі?

**Кума.** Мільён табе чартоў на ўспамін, калі ты такі разумны. (*Плюнула, палезла на буфэры, адтуль на дах вагона. Цяплушка дрыжыць ад рогату*).

6

**Коця Вуркаган** бяжыць, цокаючы лыжкамі, заціснутымі паміж пальцаў. Спыняецца каля вагона, сьпявае:

Один я юнош одинокий,
Один у бога сирота...
Пойду, пойду я на кладбище,
Где там зарыта мать моя.

Прости, прости моя старушка,
Зачем не слушался тібя...
До етіх пор я думал шутка,
Но шуткой погубил себя...

Дзя, на Одэсу?

Цярэнь. А што? Мо' па дарозе?

Комэндант. Глядзеце, бо торбу ўкрадзе.

Коця. Алёша, ша. Думаеш па цібе пашол? (*Да хлапцоў*). І на Одэс. А барышню возьмеце? Ох, і барышня! Строгая, вумная. Э-ей! сюд-дою!

Хлопцы. Дзе? Давай сюды! Да нас таварышка! Го!

Коця. Дзя, а я тут у первым класі (*шуснуў пад вагон, вытккнуўся адтуль*). На перасядцы пабачымся. Барышня-а! Топайце сюды, тут свае. Дзя, а шамаць няма?

Мося. Як гэта няма? Ёсьць! На, ня губіся, пагаворым. Як завуць?

Коця. Коцька. Міне ўвесь Одэс знае. Са мною не прападзеш.

Цярэнь. Ды лезь сюды. Там заб'ешся.

Коця. Хто, я? А ранша? (*зьнік пад вагонам*).

7

Алена Чарада (*падыходзячы да вагона*). Таварышы, ці тут ня можна ўлезьці?

Мося. Ох, і дзяўчына. Якія могуць быць размовы.

Цярэнь. А куды едзем, таварышка маладая?

Алена. Ды пад навуку выправілася, братва. У інстытут, ці як ён там.

Цярэнь. Ня можа быць.

Алена. Чаму-ж ня можа, калі ёсьць.

Цярэнь. Наша выходзіць? Чаго-ж стаіш? Лезь сюды.

Тарас. На маё месца.

Прадка. На маё.

Мося. Усе нашы месцы! Давайце лапу!

Алена. Хапайце. (*Кідае Цярэню чэмадан. Хлопцы адзін перад адным стараюцца захапіць гэты чэмадан. Алена ўзлазіць, умошчваецца*). Ну, вось і добра. А вы куды хлопцы?

Цярэнь. Як гэта куды? Па навуку.

Алена. Разам, выходзіць?

Цярэнь. Выходзіць што так. А зваць вас як?

Алена. Алена Чарада.

Цярэнь. Алена Чарада. Падхадзяшча. Вось дык гісторыя. Цікава. Значыцца, сапраўды разам?

Мося. Вельмі цікава. Толькі не забывай, што мы разам... А то ты, здаецца, забыўся.

Цярэнь. Не, Мося, не забыўся. Вось гэта, значыць, Мося Шкіндэр, „начальнік станцыі“, хлапец падхадзяшчы, А гэта—Тарас Рабацяга, як ты й сама бачыш. А гэта—Мікола Прадка!

Прадка. Кх. Гэта я Мікола Прадка. А ён—Цярэнь Крыжэнь.

Цярэнь. Правільна. Цяпер, выходзіць, яшчэ ты, Алена Чарада. Вось, значыцца нас чацьвёра і ты пятая. Разам хлопцы? (*Падаў да іх руку*).

Хлопцы. Разам (*і свае рукі моцна паклалі на яго руку*).

Пасажыр. Відаць, дружныя хлопцы.

Коця (*вытknуўшыся з-пад вагона*). Спрашуіш. Я адразу бачу—свае ў дошку.

Саквояж. Студэнты. Гіронія. Парадокс.

Цярэнь. Гэта каторы там закардоннымі словамі лаецца? Пакажыся.

Саквояж. Калі ласка, гэта сказаў я. Так, я сказаў і паўтараю: Гі-ро-ні-я! Па-ра-докс! Што вы студыявалі? Зямлю, ды кулямёты? А восем клясаў клясычнай гімназыі ведаеце? А сямнаццаць грэцкіх асаблівасьцяй ведаеце? Як-жа вы будзеце сьпяваць „гаудэамус“, калі вы ня ведаеце латынскае мовы? Гіронія.

Хлопцы. Цю!

Цярэнь. А вы, мяшок са старою парахнёю, ня турбуйцеся. Мы іншую засьпяваем.

Прадка. Зьеў, грэцкая гымназыя? Ну, цяпер закусі.

Алена. Вы вось латыньскую мову ведаеце, а смаленага ваўка бачылі?

Цяплушка. Гі-гі! (*Саквояж у натоўпе зьнікае*).

Алена. Ну, дык вось. Хлопцы, там яшчэ адзін недзе згубіўся. Хацеў усё мне памагчы сесьці, дый сам недзе згубіўся. Вунь ён ідзе. Гукніце.

Хлопцы. Дзе? Вось гэты? А-гоў! Сюды!

## 8

Да цяплушкі падыходзіць Смала.

Смала. Вось і я. А вы, бачу, спрытнейшая за мяне. Ужо сядзіце? Добра. Значыць едзем?

Алена. Едзем.

Мося. Адкуль будзеш? З якога гасударства?

Смала. З Бязродненскага раёну. А вы? Пачакай, я нібыта цябе дзесьці бачыў.

Цярэнь. Можа землячок?

Мося. Не, я ў Бязродненскім раёне ня жыў.

Смала. Мо' сваяк які?

Мося. Сваякоў таксама ня было там. У мяне, браце, сваякоў ня густа. Былі, ды загулі.

Смала. Значыць, памыліўся. Ды як-жа тут улезьці?

Цярэнь. Камандыроўка ад каго?

Смала. Бязродненскі камбед.

Цярэнь. Выходзіць, бядняк?

Смала. Ён самы. (*Да Мосі*). Дай руку. Так ня ўскочу.

Мося падае руку, але Смале не ўдаецца схапіць яе. Вагоны раптам бразнулі буфэрамі, і пад неспадзяваны сьвіст паравоза, рушылі.

Цяплушка. Паехалі! Го-го!

Смала. Хапайце рэчы!

Хлопцы. Кідай!

Смала кідае свой клунак, але натоўп адбівае яго, ён падае на зямлю. Смала бяжыць падымае, пасьля чапляецца на задні буфэр, гукае:

Смала. Пакуль што—тут, а на першай астаноўцы сяду.

(*Гармонік зайграў „Тоску по родине*).

Цярэнь. Пачакай. Ня тую. Сьмела, таварышы, ў ногу. (*І ўдарылі маладыя, дужыя галасы*).

Сьмела, таварышы, ў ногу
Духам акрэпнем ў барбе.
У царства свабоды дарогу
Самі пралОжым сабе...

Мося яшчэ і хустачкаю чырвонаю махае. А на заднім буфэры вісіць Смала і таксама падпявае.

9

Калі поезд ужо зьнік, прыбягае Юля Булатовіч, зьбянтэжана.

Юля. Поезд... пайшоў?..

Голас. Паехаў.

Юля. Як-жа гэта? (*Абводзіць усіх вачыма*). Як-жа цяпер?

Злосны голас. А я ведаю? Усё роўна нам на гэты поезд няма мясцоў.

Саквояж. Да-с.

Нечы голас (*сьмяючыся*). Пяшком, барышня. Ногі на плечы— даганяй ветра ў полі.

Юля. Даганяць? (*задумалася*). Нам няма месцаў... А ён паехаў. (*Схістанулася, быццам пад ёю закалацілася зямля*).

## II. Першы бар'ер

Вялікая аўдыторыя—амфытэатрам. Унізе, каля стала, пакурваюць члены камісіі. У аўдыторыі паўнютка рознастайнае публікі. Гарадзкі элемэнт—на нагах „дзеравяшкі“. Інтэлігэнт паблёквае тандэтным пэнснэ. Поўная дама—з акушэрак. Нэрвовая паненка. Чубатыя загарэлыя вяскоўцы; некалькі барадачоў і вусачоў. Рабочыя постаці. Чырвонаармейцы ў баявых шынэлях і падраных будзёнаўках. Шуміць аўдыторыя высокім нэрвам. Хва-

люецца. Перагукаецца. Часамі і песьня ўсхопіцца—паімчыцца ўверх. Сьмех расколіцца, ды заблытаецца ў гомане. Быццам перад наступам—трывожна, страшна, урачыста, весела. Так адбіваецца настрой розна на розных абліччах. Хваляю коціцца гоман

— А ў якім годзе першы інтэрнацыянал?

— Ракун, на якім зьезьдзе раскалоліся бальшавікі? Ракун?

— Ды бальшавікі ніколі не расколваліся і не расколюцца, дзівак.

Паннаўчка. Правалюся. Госпадзі! Правалюся... (*перахрысьцілася*)

Другая паннаўчка (*глянула ў люстэрка*). А я ня сябе надзеюся. (*Пудрыцца*).

Поўная дама (*да шынэля*). Вам што? Вы соцыяльным возьмеце. Дайце-ж мне азбуку. Вы соцыяльным...

Шынэль. А што-ж? І вазьму. А чаму-ж мне ня ўзяць. Абавязкова вазьму.

Пэнснэ. Божа! Чаму я ня сын ламавога возьніка? (*узьнялася песьня*).

Вышлі мы ўсе з народу,
дзеці сям'і трудавой...

(*А нехта прасіў, надрываючыся:*)

— Азбуку комунізму!

Цырэнь. Прыпякло некаму. А вы, хлопцы, ня дрэфце. Чаго ня ведаеш, бяры клясавым чуцьцём.

Алена. Ясная рэч.

Тарас. Я Ўрангеля не баяўся, а тут бальшавіка Гармаша спужаюся?

Мося. Сячы з пляча і ўсё. А дзе гэта Прадка падзеўся? (*Гукнуў*). Прадка!

Гармаш (*пазваніў*). Таварышы, будзем прадоўжваць. (*Сьціхлі*). Тут нехта падаў у камісію запісачку. Бяз подпісу. Запісачка цікавая, але чаму бяз подпісу? Між іншага, і напісана яна друкаванымі літарамі. (*У аўдыторыі сьмех*).

Голас. Каб не спазналі рукі.

Смала. А што ён піша?

Аўдыторыя. Прачытайце.

Гармаш. Зараз прачытаю. „Таварыш, старшыня, просім даць адказ на такія запытаньні. Першае: колькі яўрэяў у гэтым годзе будзе прынята? Ці зусім без процэнтнае нормы?“

Аўдыторыя. Ш-ш-ш-ш... Цішэй!

Гармаш. „Другое: колькі украінцяў? Трэцяе: колькі расійцаў? Чацьвертае: чаго вы так чапляецеся да сацыяльнага пахаджэньня? Хіба савецкай уладзе лепей мець ва унівэрсытэце няпісьменных студэнтаў, дзікіх, някультурных, абы толькі яны былі з рабочых і мужыкоў? А хто будавацьме культуру? І пятае: Якое вы нацыянальнасьці? Яўрэй?“

Аўдыторыя. Ганьба! Да сьценкі! (*Сьвіст*).

Мося. Словам, нашага брата прымаюць добра.

Цярэнь. Дурань ты, Мося. Гэта-ж фронт. Трымайся.

Мося. Я трымаюся.

Тарас. Дай нам узяць позыцыі.

Смала. Дай нам умацавацца.

Алена. Гэта запіска пагромніка!

Аўдыторыя. Правярайце дакуманты! Да костачак дабірайцеся!

Мося. Чаго вы крычыце? Вы-ж яго можаце спужаць. (*Сьмех*). Цішэй!

Аўдыторыя. Знайці хто напісаў! Ганьба, калі прапусьцім!

Гармаш. Таварышы, спакой і вытрымка. Вышэйшая школа—гэта новы Перакоп. Узяць яго будзе нялёгка. Вораг будзе люта бараніць свае астатнія цьвярдыні, форт вышэйшае школы. Ён з падыходам будзе браць брахнёю, ашуканствам. Ужо ён пачынае атаку. Але сьмела, таварышы, ўперад! Армія рабочых і сялян усіх нацый і рас: украінцаў, расійцаў, яўрэяў, латышоў і ўсіх, бяз усякае розьніцы, усіх, хто на сваіх грудзях вынес рэволюцыю, хто разбурыў турму народаў і збудаваў дыктатуру пролетарыяту,—сьмела, ўперад!

Як хваля ў моры пракаціліся ў аўдыторыі бурлівыя воплескі. Перайшлі ў буру, у шторм Аўдыторыя ўстала.

Аўдыторыя (*гукнула*). Слава!!

Чырвонаармеец (*падняўся на лаўку, паправіў будзёнаўку, махнуў рукою*). Таварышчы! Ат імені Бясьсьмертнай. І непабядзімай. Перакопскай. Дывізыі. Ат імені Байцоў. Каманднага. Політическага Састава! І ад імені. Усей. Расійскай! Савецкай! Фэдэратіўной! Соціалістіческой! Рэспублікі—да здравствует высшая наука на пользу пролетаріата!

Аўдыторыя. Слава!

Чырвонаармеец. Таварышчы! Прадаўжайце работаць. Красная армія стаіт на стражэ рэволюцыі!

Аўдыторыя з громам садзіцца, стукаючы партамі, тапочучы нагамі.

Гармаш. Цярэнь Крыжэнь.

Цярэнь. Ёсьць! (*сходзіць уніз да стала, садзіцца*).

Гармаш. Тарас Рабацяга.

Тарас. Ёсьць (*сходзіць, садзіцца*).

Гармаш. Рабацяга, значыць? Дзе-ж вы працавалі, Рабацяга?

Тарас. Спачатку ў эканоміях. Пасьля—у кузьні. Далей—у партызанах. Пасьля—у Прыймака, у чырвоным казацтве.

Гармаш. Добрая работа. (*Аўдыторыя задаволена загаманіла*). Майсей Шкіндэр.

Мося. Ёсьць. (*Сходзіць, садзіцца*). З Кукуеўкі, Александраўскага павету.

Гармаш (*усьміхнуўшыся*). Ну, добра, будзем ведаць, што з Кукуеўкі. Алена Чарада.

Алена. Ёсьць.

Гармаш. Чарада? Сялянскае, стэповае прозьвішча.

Алена. Дзед пастухом быў.

Гармаш. А бацька?

Алена. У капальнях працаваў. Там і задушыла.

Гармаш. А сама?

Алена. З заводу.

Гармаш. Так. Шлях нішто сабе. Член партыі?

Алена. Так.

Гармаш. Смала, Васіль Іванавіч.

Смала. Ёсьць. (*Сходзіць, садзіцца*).

Мося. А гэты—бядняк. На буфэры прыехаў. (*Рогат*).

Гармаш. На буфэры? Цікава. Ну, давайце далей. Мікола... Мікола...

Прадка (*зьверху*). Мікола Прадка! Гэта я Мікола Прадка. (*Бяжыць уніз, садзіцца*).

Гармаш (*да Шкіндэра*). Ваша пахаджэньне?

Мося Шкіндэр. Асаблівых пахаджэньняў у мяне ня было. У партызанах быў, гэта праўда. Меў бацьку і брата. Бацька быў рымар, а брат у шаўца за падмайстра. У часе пагрому забілі. Сам я памоцнік машыніста з паравіка кукуеўскага земаддзелу. Усё?

Гармаш (*спачуваючы*). Пакуль што—усё. Пабачым, як вы будзеце адказваць нам на запытаньні з програмы.

Мося. Так буду і адказваць: што ведаю,—скажу, ня буду ўтайваць. Чаго ня ведаю—не скажу. Прымеце—буду вучыцца, ня прымеце—пайду назад у млын, за машыніста буду (*да хлапцоў ціха*). Чаго вы сьмеяцеся? Праўду кажу.

Алена. Забілі брата?

Мося. І бацьку... (*Цішыня*).

Гармаш (*счакаўшы да Цярэня*). А ваша пахаджэньне?

Цярэнь. Шахцёр.

Гармаш. А бацька?

Цярэнь. Шахцёр.

Гармаш. А дзед?

Цярэнь. Шахцёр. (*Сьмех, воплескі ва аўдыторыі*).

Гармаш. Член партыі?

Цярэнь (*сьцьвердзіў галавою*). Ясна.

Гармаш. Таварыш Смала.

Смала. Селянін. Бядняк. Працаваў у барацьбе з бандытызмам. Быў сакратаром у выканкоме і ў камбедзе працаваў.

Гармаш (*да Прадкі*). А вы?

Прадка. Я? Наймiт. Значыць на заработках, уродзі, як батрак. Член камсамолу, канечна.

Гармаш. Што-ж, пачнем?

Член камісіі (*да Смалы*). Ну, вось, скажаце вы, таварыш, Смала, хто-б мог напісаць такую запіску, якую вы тут чулі?

Смала. Хто? Я думаю, што такую запіску, якую мы тут чулі, мог напісаць толькі вораг, які ня хоча, каб усе нацыі былі роўныя і мелі правы.

Гармаш. А для чаго гэта яму?

Смала. Для чаго? Яму трэба пасеяць нелады сярод працоўных, каб у канцы канцоў, зьнішчыць рэволюцыю і вярнуць сабе свае багацьці, якія ў яго забрала рэволюцыя.

Гармаш. Гэта правільна (*да Шкіндэра*). А што такое рэволюцыя?

Мося. Рэволюцыя? (*Падумаў і ясна ўсьміхнуўся*). Дык гэта так і будзе: рэволюцыя: рэ-во-лю-цыя. (*У бок*). Здаецца ў точку...

Член камісіі. Так, але навукова.

Мося. Навукова? Дык, няхай, калі я навучуся, тады я буду адказваць навукова. А пакуль што, я толькі рабіў рэволюцыю, а не вывучаў. (*У бок*). Ух, і адбрыў. (*У аўдыторыі рогат*).

Гармаш (*да Тараса*). Вы, таварыш.

Тарас. Рэволюцыя? Па суці... кг... Значыць... рэволюцыя... (*Сьціснуў кулакі, насупіў бровы*) значыць... клас... от... ху... Разумею, а ня выкажу. Вось у нас у чырвоным казацтве, значыць... А ну, дайце другі вопрос.

Гармаш (*да Алены*). Вы, таварышка...

Алена. Рэволюцыя, значыць, насільна скінуць стары лад. Ну, вось буржуазію разьбілі, стары лад скінулі, вось табе і рэволюцыя.

Гармаш (*да Смалы*). Згодны?

Смала. Правільна. Узброенае скіданьне старога ладу пролетарыятам разам з незаможным сялянствам.

Гармаш. Таварыш Крыжэнь, згодны?

Цярэнь. Па суці сказана правільна.

Тарас. Ну так, калі па суці, дык яно...

Цярэнь. Але пролетарыят і сялянская бедната разам з ім—гэта ўжо, калі пролетарская рэволюцыя. А ёсьць яшчэ буржуазная. Вялікая француская, наша лютаўская.

Мося (*раптам*). Правільна! Я ўспомніў. Экспропрыяцыя экспропрыятараў. Пролетарыят--магільшчык буржуазіі. (*У бок*). А што? На табе навукова. (*І горда павёў вачыма на аўдыторыю*).

2-гі член камісіі. А скажэце нам такую рэч...

У аўдыторыю, у вайсковым шынэлі, увайшоў палітком інстытуту. Сказаў нешта Гармашу, а пасьля да ўсіх.

Палітком. Таварышы! Організаваны пролетарыят нашага гораду зараз выйдзе на вуліцу дэмонстраваць сваю салідарнасьць з нямецкімі рэволюцыйнымі шахцёрамі...

Аўдыторыя. На вуліцу!

Гармаш. Камісія абвяшчае перапынак. Таварышоў Крыжня, Рабацягу, Чараду, Шкіндэра, Прадку, і Смалу, якія вытрымалі папярэднія экзамены

і цяпер здалі палітмінімум, можна прывітаць з паступленьнем у інстытут. Для рэшты—працяг экзаменаў заўтра. А цяпер—на вуліцу, таварышы.

Аўдыторыя. Пайшлі! На вуліцу.

Голас. Ракун, пачынай!

Палітком. Арганізавана. Бярэце штандары.

У шуме, у выгуках, у песьнях патануў палміткомаў голас. Шырока разьлілася і паплыла ўзбуджаная маса з аўдыторыі. Толькі штандары гараць над галавамі.

Каля стала затрымаліся: Цярэнь, Алена, Мося, Тарас і Прадка.

Цярэнь (*абняў усю групу, радасна*). Браточкі! Першы бар'ер узялі. Цяпер ня дрэфце, хоць далей цяжэй будзе. Дай руку, Аленка!

Алена (*пачырванела*). Добра!

Прадка. А тая грэцкая гімназыя казала, што мы ня будзем студэнтамі

Тарас. Я яму як сакануў наконт класа...

Мося. Адно слова—гэроі. Пачакайце вазьму шапку. (*Бяжыць да парты, знаходзіць пад нагамі картку*). Таварышы! Мамзеля! (*Падбягае да хлопцаў*). Глядзеце.

Тарас. Жанчына, што й казаць. Хм...

Алена. Абвясьціць...

Цярэнь (*глянуў з другога боку*). Э, пачакайце. Гэта картка належыць таму, хто напісаў запіску. Вось сьляды выдушаныя алоўкам (*чытае*). „колькі яўрэяў будзе“...

Усе. Вось дык яно... (*Прыбег у аўдыторыю Смала*).

Смала. Згубіў аловак.

Цярэнь. А мы знайшлі.

Смала. Аловак?

Цярэнь. Не, картку.

Смала. Якую картку?

Прадка. Жанчына, браце, вочы так і граюць.

Цярэнь. Глядзі.

Смала (*глянуў*). Цікава.

Цярэнь. З другога боку яшчэ цікавей. (*Паказвае*).

Смала. ...„без працэнтнае нормы...“ Ідэя! Абвясьціць, што знайшлі картку. Так можна будзе злавіць... Пойдзем-жа, а то прамаргаем мітынг.

Цярэнь. А аловак?

Смала. Праўда-ж. Забыўся. (*Глядзіць пад стол*). Вось ён.

Цярэнь. Знайшоў? Ну, пайшлі. Пасьля мітынгу ўсім сабрацца на кватэры, калі нашу дзірку можна так назваць.

Усе. Ёсьць. (*Вышлі*).

5

Профэсар Белы ўвайшоў у аўдыторыю, гадліва павёў носам.

Белы. Андрыян!

6

Уваходзіць Андрыян.

Андрыян. Чаго вам?

Белы. Адчынеце вокны. Асьвяжэце паветра.

Андрыян. Дык мітынг-жа. Усе пайшлі, а я што? Мальчык? (*Зьнік*).

7

Белы (*задрыжэў*). Андрыян! С-скаціна!

8

Увайшла асыстэнтка.

Асыстэнтка (*кінулася да яго*). Я ўсё зраблю. Ідзеце. Вам ня трэба, ня можна хвалявацца. Ня трэба выходзіць. Ідзеце-ж, прашу вас... малю...

А адказам толькі гул:

## III. Няхай жыве агульнае памяшканьне!

Тротуар паслаўся ўніз—паўз мураваны будынак. На гэтым будынку напалову сьцёрты, размыты дажджамі надпіс: „Буфэт". Пад ім аркаю дзірка ў сьцяне. Яна заложана белымі каменымі брускамі, толькі ўнізе засталася выбоіна, праз якую ледзь можа ўлезьці чалавек. А там, далей—мора, скалы, пляж—пустынны, асеньні. Зрэдка хто пройдзе тут палюбавацца асеньнім морам, якое ўвесь час няпрыветна і аднастайна шуміць.

1

З дзіркі чуваць адзінокі сьпеў: „Клавачка служыла ў Энпэка, Клавачка работала сьлегка, барышня савецкая, юпачка ня дзецкая, картачку імела літар „А"!..

2

З дзіркі вытыкаецца чубатая галава Коці. Ён нейкі час слухае, як шуміць мора, пасьля філёзофічна канстатуе:

— Шуміць, зараза...

Вылазіць на тротуар, выглядае, ці ня вяртаюцца на „кватэру" студэнты.

3

Зьнізу па тротуары валачэцца дарослы басяк Шпак. Напявае:

Радзіла міне мать у ніволі,
І с тех пор я пошел в ніщету,
А прірода не знала преступленьня
І дала мне жыганску красоту...

Шпак (*падыходзіць да Коці, тупа глядзіць*). Аслабані кватэру.

Коця. Не мая кватэра, студэнцкая.

Шпак. Коцька! Брось шуткі! Кімаць няма дзе. Кажу, аслабані без разгавору.

Коця. Уркан свайго не зачэпіць. Плыві, Шпак, а то ўкушу (*ляснуў зубамі*).

Шпак насунуў шапку, рукі—глыбока ў кішэні, і моўчкі павалокся далей. Павярнуўся.

Шпак. Буду йці назад, каб была вольная (*зьнік за рогам*).

Коця (*усьлед яму*). Танцуй далей! Ён яшчэ будзе мне ўказваць. Мне. Ён. Указваць. Хі! Во! Дзівачка з торбаю! Хапнуць! (*Хутка, нібы суслік зьнікае ў нары*).

5

Дамачка са Шмэндрыкам ідзе да мора.

Дамачка (*туліцца да Шмэндрыка*). Куды вы мяне вядзеце? Тут страшна.

Шмэндрык. Са мною? Вам са мною страшна? Ды я... Ды вы ведаеце што я... Я нікога не баюся.

Дамачка. Тут зусім пустынна і нікога няма.

Шмэндрык. Гэ, як раз добра. Мы і мора... адзіны сьведка маіх найчысьцейшых намераў.

Праходзяць паўз дзірку. Коця спрытна прасоўвае грубы дроцік і, зачапіўшы ім за „торбу“ у момант уцягвае яе да сябе.

Дамачка. Ах!

Шмэндрык. Няўжо вы такая палкая?

Дамачка. Ды не! Рэдыкюль! Сумачка!

Шмэндрык. Што рэдыкюль, сумачка!

Дамачка. Дзе мой рэдыкюль? Сумачка?

Шмэндрык. Тут ёсьць катакомбы, бандыты і піраты. Я-ж казаў... уцякайце. (*Хутка пайшоў. Дамачка залапатала за ім*).

Коця (*высунуўся, вынуў з „торбы“ грошы, а „торбу“ кідае ёй на ўздагон*). Барышня, барахло згубілі.

Дамачка. Ах! (*азіраецца, хапае рэдыкюль і яшчэ шпарчэй рванула з месца*).

Коця. Барышня называецца. На мора ходзіць мічтаць, а ў торбе толькі два лімоны. Ну, нічога, хлеб і памідоры будуць. Каб толькі дзе Цярэнь не дазнаўся. Лаяць будзе. Вунь і кватэранты йдуць. Ух і народ студэнты! Гопкампанія. І цёця Чарада з імі. А то хто такі з гузікамі?

Згары ідуць, горача аб нечым спрачаюцца студэнты: Цярэнь, Алена, Мося, Антоніо, Кацярына Грыцэнко, Смала, Варка, Грушкіна, Няронаў.

Цярэнь. Блытаеш ты, Антоніо. Усё блытаеш. І сам ты блытаны.

Антоніо. А трагэдыя асобы? Разумееш асобнага чалавека?

Алена. Даволі там з трагэдыямі. Цікава, што тут у вас за харомы?

Смала. Я таксама яшчэ ня бачыў.

Усе. Гэта тут? Стоп. Тарнуй машыну.

Антоніо. Дзівосна! Ды вы-ж тут як бурсакі. А мора! Якое мора!

Цярэнь (*на Коцю*). А вось і гаспадар. Ты чаго дрыжыш? Нібы холадна?

Коця (*ляскаючы зубамі*). Не. Жара. Цёце Чарадзе паважаньне.

Алена. Здароў, Коця. Не забыўся?

Коця. Не, толькі вы пачакайце, я зараз. (*пабег*).

6

Алена. Куды гэта ён?

Мося. Справы ў чалавека. Напэўна пабег у фінаддзел, заплаціць падаткі.

Антоніо. Сябры мае! На мора!

Галасы. Спачатку на мора. Кватэру паглядзім пасьля.

Смала. Мося, хадзем пакажаш нам свае марскія ўладаньні (*абняў яго за плечы*).

Усе накіраваліся на бераг, адтуль пасьля далятае іхні сьмех і гоман разам з шумам мора.

7

Каля будынку засталіся Цярэнь і Алена.

Цярэнь. Вось што я хацеў сказаць табе, Чарада. Пасьлязаўтра будзе пасяджэньне партячэйкі. Ты, значыць, павінна быць. Цяпер ужо ясна, што мы не знайшлі аўтара тае запіскі. Хоць у мяне сёе-тое намотваецца. Пакуль што не скажу. Але партячэйка ставіць шырэй. Каб правясьці ўсё з масаю.

Алена. І правільна. Цяжка нам будзе, Цярэнь. Камуністаў у нас ой як мала. А народу рознага тысяча чалавек на нашым курсе. І што за народ?

Цярэнь. Адсеюцца. Адразу ня можна.

Алена. Цярэша, гэта-ж праўда, што ты будзеш сакратаром партячэйкі?

Цярэнь. Так хочуць. На маю думку—глупства робяць. Які з мяне сакратар?

Алена. Не, Цярэша. Правільна робяць! Ты... ды ну цябе.

Цярэнь. Ну? Чаму-ж не дасказваеш? Га? Кажы, што хацела сказаць.

Алена. Я хацела сказаць, што з цябе будзе... добры сакратар.

Цярэнь. Угу. А вось што Алена. Што я хачу табе сказаць...

Алена. Ня трэба. Хадзем туды. Ня трэба казаць...

Цярэнь. Не, я скажу. Па чэснаму, па-шахцёрскі, як бальшавік, скажу. А не спадабаецца,—скажаш: к чорту.

Алена. Я так не скажу. Бо я, Цярэша... усёй сілаю... вось ты-ж бачыш... усёй сілаю... Ды ну цябе! Бачыш—дурная, і сказаць толкам ня ўмею. Толькі скажу адно: хочацца мне вывучыцца. Так хочацца, што аж зубы часамі сьцісьнеш. У людзі—у добрыя, разумныя, у такія, што ўмеюць штосьці вялікае зрабіць для рэволюцыі. Чуеш, Цярэша? А тады... (*Узяла яго за рукі, сьціснула іх*). Толькі тады. Так мы павінны рашыць. Інакш ты не шахцёр.

Цярэнь. Не, я шахцёр, Аленка. Я толькі хацеў, каб ты ведала...

А з мора, напэўна на нечую рэпліку, даляцелі воплескі і выгукі: „Правільна! Цудоўна!".

Цярэнь. Хадзем.

8

Але з берага ўжо ідзе назад уся кампанія.

Варка. Ды як, як, Антоніо?

Антоніо. Вось так. (*Прыкладвае правы кулак да грудзей — на сэрца—і робіць такія рухі: уніз, пасьля пад простым кутом коратка ў правы бок*). Вось так.

Грушкіна. Сымпатычна. Мне падабаецца. Гэта-ж так романтычна.

Няронаў (*паправіў дроцік сваіх акуляраў*). Н-да. Дзіўныя ў вас ўпадабаньні, таварышка Грушкіна.

Цярэнь. Хто гэта так?

Антоніо. А гэта ў нас на мяшчанскай слабадзе так робяць — нажом. Дзірку ў грудзях.

Цярэнь. Каму?

Антоніо. А на каго закіпіць сэрца. За здраду больш.

Няронаў. Нічога сабе, мэтод.

Усе. Та-ак.

Антоніо. Арыстократычны. Але, сябры мае! У вас-жа тут цудоўна. Хоць у романе апісвай.

Мося. Што ў романе, ты спрабуй пажыць.

Антоніо (*зазірнуў у дзірку*). Толькі паветра там... ведаеце...

Мося. Нішто сабе паветра. Мабыць Коця спаў. Шмат, кракадыл, забірае кісларoду.

Кацярына (*голасам ад зямлі*). Няхай яго чорт, як-жа тут вучыцца ў такім гнязьдзе? Папрыяжджалі дурні, а тут таксама ня вельмі навучышся. Што, гэта жыцьцё?

Алена. Ну, даволі, Каця. Ты зноў сваё. (*Да Антоніо*). А ты-б пастараўся для хлопцаў памяшканьне якое, пакуль дадуць агульнае. Ты-ж стары судэнт, усе ўваходы і выхады тут ведаеш. І тужурка ў цябе з гузікамі.

Цярэнь. Агульнае памяшканьне ня сёньня, заўтра будзе. Ня дрэфце, таварышы.

Смала. Хто сільны, хто ня пужаецца цяжкасьцей, хто ведае, чаго ён хоча, той ніколі ня здрэйфіць. Так што памяшканьне...

Антоніо (*загарэўся*). Што такое памяшканьне? глупства! А вось я бачыў на вуліцы Тэодора адну дзяўчыну. Ведаеце? Гэта не дзяўчына. Гэта—вось такое неўлавімае, цудоўнае, што стаіць над будзёншынаю, над політыкаю, над барацьбою, над усім. Гэта — жанчына. Не, жанчына гучыць вульгарна. Абстракцыя жанчыны. Не, і не абстракцыя.

Мося. Можа экстракцыя?

Антоніо. Глупа. Ідэал жанчыны! Вось так-бы йшоў за ёю, куды яна, туды і я...

Алена. І далёка-б зайшоў?

Мося. Зусім недалёка: яна-б паклікала міліцыянэра і наш Антаніо зайшоў-бы ў раён (*рогат*).

Тарас і Прадка бягуць з гары. Тарас яшчэ здалёк размахвае рукамі й гукае:

9

Тарас. Зьбірайцеся! Чаго стаіце? Складайце гардэробы! Вяжэце кнігі! Зьнімеце з ганка мае зімнія штаны.

Прадка. У паход!

Усе. Тарас! Прадка!

Цярэнь. Што здарылася?

Алена. Памяшканьне?

Тарас (*урачыста*). А! гуль! на! е! па! мяш! каньне!

Усе. Кватэра!!?

Мося. Тарас! Ты-ж гэніяльны!

Прадка. А я?

Мося. Ну, ты... Ты-ж член комсамолу, вядома.

Тарас. Вось! (*Пераможна трасе паперкаю*). Вось! На машынцы надрукована. Хэмічным алоўкам падпісана. Здароў, Нярон! Сам старшыня Кубуча папляваў і на мокрым расьпісаўся. Здарова Варка. У новае агульнае памяшканьне пролетарскага студэнцтва ордэр нумар 134! Вось ён нумар 134-ты! Здарова, таварышка Алена! Вось ён! Зараз-жа зьбірайце багаж... Ого! І Каця тут!.. бо расхапаюць жылплошчу па ўсіх кутках...

Цярэнь. Ды няўжо ордэр? Дай сюды. Сапраўды ордэр. Браточкі Перамога. Цяпер пажывем. Цяпер ня страшна. Тэхнолёгія, мінэралёгія, геолёгія...

Алена. Зоолёгія...

Мося. Біолёгія...

Тарас. І эмбрыолёгія!

Цярэнь. Усё пераможам. Нават супраціўленьне матэрыялаў! Няхай жыве агульнае памяшканьне!

Усе. Няхай жыве агульнае памяшканьне!

Цярэнь. Антоніо, табе спадабалася гэта нара: лезь, цягні барахло!

Мося. Куды? Ён без працівагазу. Я ў адзін момант. (*Улазіць у нару і выкідае адтуль рэчы*). Хапайце: раз!

Усе. Раз! Два!

Мося. Тарасавы штаны—тры!

Хлопцы. Штаны квартэрмэйстэра—даёш!

10

Шпак вяртаецца з гары. Падыйшоў, спыніўся.

Шпак. Аслабаняеш? Замяці пасьля сябе, каб было чыста. Я люблю чыстату.

Мося. Праходзь, юнак. Тут табе няма чаго рабіць. У нас сакрэты.

Шпак. Глядзі, бо я дам табе сакрэты. Замяці пасьля сябе, кажу табе раз. (*Пайшоў, насунуўшы шапку*). Сакрэты...

11

Цярэнь. Бачылі тыпа?

Усе. Та-ак.

Алена. Такога, лепш не чапаць. Мося, давай далей.

Мося. Неарганічная хэмія—чатыры!

Усе. Даёш.

Мося. Партызанскі чайнік—пяць!

Тарас. Мой верны таварыш! Даёш!

12

З гары ідзе Коця. Яшчэ здалёк прыкмеціў, што тут нешта нязвычайнае робіцца. Падыходзіць і моўчкі глядзіць. У руках—памідоры і кавалак чорнага хлеба. Рукі яго задрыжалі, голас быццам зламаўся.

Моця. Чаго вы кідаеце?

Усе спыніліся. Перад усімі раптам паўстала пытаньне. „А як-жа Коця?"

Алена. Коця.

Коця. Я Коця, а вы—цёця! Кудою-ж гэта вы маіх кватэрантаў?

Алена. У агульнае памяшканьне, Коця. Разумееш?

Коця. У натуры. Значыць, заставайся, Коця, з вуркаганамі?

Алена. А ведаеш што?

Коця (*ня слухае*). Тожі кватыранты... когці рвуць. А я вам памоўкі прынёс. Думаў... (*Ня вытрымаў, адвярнуўся і заплакаў*). Ах вы... сволачы... (*Усе стаяць нахмурыўшыся*).

Цярэнь. Алена, бяры справу на сябе.

Алена. Добра. Хочаш, Коця, жыць?

Коця. Гэта... у прыюці кукаць? Не хачу.

Алена. Зусім не пра гэта.

Коця. Заманьваеце. Не пайду.

Алена. Нікуды я цябе не заманьваю. Заставайся, пакуль што тут, а праз колькі дзён топай да мяне. Пагаворым.

Коця. Пагаварыць можна. Шё мне жалка! Наце шямоўку. Рубайце.

Тарас. Хлопцы, ня ведаю, як у вас, а ў мяне ўжо чамусьці апэтыт зьявіўся. І што гэта за знак такі, кожнага дня хочацца есьці? Клімат такі, ці што?

Усе. Ды давай, не прастарэкуй! (*У момант зьелі харчы*).

Алена. А цяпер, бывай, Коця. Надумаеш—прыходзь. Дай лапу.

Коця. Яна брудная.

Алена. Нічога. Вось так. Значыцца, прыходзь.

Цярэнь. Помні, мы—таварышы (*цісьне руку*).

Тарас. Выручыў, брацішка. Можа й мы калі-небудзь выручым цябе.

Антоніо. Бывай, незалежны ні ад якіх умоўнасьцяй, вольны, як птушка, Коця!

Коця. Яна брудная...

Нярнаў. Жыцьцё. Вось у чым суць. Н-да (*цісьне руку*).

Цярэнь. Правільна, Нярон, жыцьцё... Яно будзе для нас, калі мы яго заваюем і пераробім на свой кшталт. І пераробім. Значыць, ня дрэф, браточкі, падцягвай жываты і слухай каманду.

Хтосьці пачаў і ўсе падхапілі:

На сьвеце няма веселейшай пары,
Як нашы студэнцкія рокі.
Плыві, карабель наш, да яснай зары,
Да ясных прастораў шырокіх.
Карабель наш бель,
Прыстань—гуртажыцьце!
Жыцьце, жыцьце
Наш пражытак—
За капейку ў дзень!
Мы сьмерць пераможам у бойцы-віхры,
Філёзофу з намі—марока.
Плыві, карабель наш, да яснай зары,
Да ясных прастораў шырокіх!
Карабель наш бель і г. д.

Тарас (*камандуе*). Рыхтуйся! (*Узялі рэчы, падрыхтаваліся*). На-а позыцы! пралетарскае навукі... бі-івуак у агульным памяшканьні (*гуртажыцьці*)... ша-а-агам! Марш!!! (*Пайшлі*).

## 13

Коця доўга ўглядаецца ім усьлед. На вачох сьлёзы. Выцер рукавом вочы, закусіў губу. Міжвольна, ціха рушыў за імі...

*ЗАСЛОНА*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### IV. Мільёны

Суровая зіма ў агульным памяшканьні. Халодная зіма. Студэнты не раздзяваюцца, так і жывуць, так і рыхтуюцца да лекцый, так і сьпяць—адзетыя ва ўсё, што маюць, нават у рукавіцах.

1

Смала (*не адрываючыся ад газэты*). Курс савецкага рубля падае і далей.

Другі. Але затое тэмпэратура стаіць на месцы.

Трэці. Сёньня колькі градусаў?

Другі. Па Рэомюру—15. Па Цэльсію—19. Па Фарэнгейту—35 ніжэй нуля.

Рабашапка. Цётка мая заўсёды мне казала: трымай чэрава—у голадзе, галаву—у холадзе, а ногі—у цяпле, пражывеш на зямлі сто гадоў. Дык вось, скідай башлык з галавы, ды ўкручвай ногі.

Другі. Нават такі абыватаць, як ты, часамі можа параіць што-небудзь пуцёвае. (*Робіць так, як яму параіў Рабашапка*).

Смала (*з газэты*). Пуд дроў каштуе 1 мільён дзевяцьсот тысяч рублёў.

Тарас. К чортавай матары! Я больш не магу. Я замярзаю!

Няронаў. Рабі гімнастыку.

Смала. Фунт бульбы—сто пяцьдзесят тысяч рублёў.

Няронаў. Н-да. Суць ня ў рублёх, а ў таварным індэксе. А вынікненьне ідэі таварнага індэксу забягае ў далёкае мінулае, аж да XVIII стагодзьдзя, калі зрабілі першую спробу вымераць вартасьць грошай праз параўнаньне таварных цэн у розныя пэрыоды. Дык вось, нельга браць фунт бульбы ізолявана ад гістарычнага мінулага, ад нашага сёньняшняга жыцьця.

Смала. Яйкі—сто тысяч рублёў штука. Дзесятак адзін мільён рублёў.

Тарас (*усхапіўся*). Даволі! не магу. Што хочаце рабіце, а я не магу.

Смала. Слабадух. А яшчэ партызан. Ты павінен іншым даваць прыклад, а ты замест таго падрываеш энтузіязм пралетарскага студэнцтва.

Тарас. А ты ня вучы мяне, шавецкая смала! Ты, мо' пад мамінаю спадніцаю сядзеў, калі я ўладу заваёўваў. Вучыць мяне...

Смала. Пачым ведаць? можа й не сядзеў. Можа ня менш за цябе актыўна біўся. І цяпер духам ня падаю, а ты... (*З газэты*) Цікава! Фунт цыбулі дзьвесьце тысяч. Фунт цыбулі! Вось гэта я разумею. Ну мне трэба на пасяджэньне. Раскісаць няма калі (*выйшаў*).

2

Рабашапка. Цётка мне казала: Хомка калі будзе дрэнна, прыяжджай лепей дадому. Вось я і ня ведаю. Трымаўся, трымаўся, а далей ня вытрымаю. Мусіць так і пакіну. Бо няма рацыі. Вось так тут і прападзеш.

Тарас. Цётка? Цьфу, чорт. Цётка...

3

Прыбягае Прадка.

Прадка. Таварышы! Ёсьць навіна. Больш таго: ёсьць закурыць!

Галасы. Закурыць? Дзе? Прадка!

Прадка (*паказвае сабе на галаву*). Тут у шапцы.

Галасы. У шапцы? Давай!

Прадка. Пачакайце. Папяроскі канфіскавалі ў Пеці Юржэнкі. Канфіскаваны за неэтычны спосаб, якім ён настраляў іх. Разумееце? Ідзе Пеця Юржэнка на рынак. Падыходзіць Пеця Юржэнка да спэкулянта.— Табачок?—пытае Пеця.—Табачок,—адказвае спэкулянт.—А па чом?—Па стольki-то.—Ага. І круціць Пеця Юржэнка папяроску. Пробуе. Скруціў закурыў.—Не,—кажа,—вельмі моцны. І пайшоў Пеця далей. А папяроску ў кішэню. Падыходзіць да другога, зноў пробуе.—Не, вельмі лёгкі. І далей, а папяроску зноў у кішэню. У трэцяга кіслы, у чацьвертага—горкі, у пятага дарагі. І вось бачыце. (*Скінуў шапку, паказаў*). Трынаццаць пяпяросак настраляў, шпана беспартыйная.

Хлопцы. Давай! Няхай жыве Пеця Юржэнка і Мікола Прадка! Давай!

Прадка. „Няхай жыве“ не паможа. Закурыць дам таму, хто пойдзе зараз са мною, куды я скажу, хоць на край сьвету.

Хлопцы. Чорт яго бяры, давай!

Прадка. Слухайце-ж. Вы сядзіце тут, мерзьнеце і нічога ня ведаеце, што робіцца на сьвеце...

Хлопцы. А што такое? Што здарылася?

Другі. Лёйд Джорж павесіўся?

Прадка. Лепей! Дровы прывезьлі!

Хлопцы. Дровы? Ня можа быць!

Прадка. Факт! Зараз-жа ўсе на двор—скідаць.

Хлопцы. Дровы! Цеплавая энэргія! Няхай жывуць дровы! Няхай жыве фунт цыбулі за дзьвесьце тысяч. (*Усе выбягаюць*).

4

Насустрач—Кацярына Грыцэнка. Затрымала Тараса.

Кацярына. Пачакай, Тарас. Маю табе нешта сказаць.

Тарас. Катруся! Дровы!

Кацярына. Дзе дровы? Ніякіх дроў. Слухаць больш не хачу. Самі скора як дровы станем. Як сабе знаеш, а я еду ў вёску.

Тарас. Ты здурэла!!!

Кацярына. Здурэеш тут. Профэсар такое гаворыць, што ў галаве круціцца, нічога не разумею, сядзіш, як доўбня. А ён яшчэ знарок закручвае. От закручвае, закручвае, каб найбольш незразумела было. Прыдзеш дадому—замярзаеш. Сядзеш пісаць—а рукі драньцьвеюць. Каб кніжку пачытаць—няма кніжкі! торбу грошай трэба на кніжку. Дык гэта такая навука? Няхай яно спаветрае. Ня сьвеціць нам вучыцца, вось і ўсё. Цярэнь ужо застудзіўся, пляўрыт схапіў. Дык гэта, каб і табе так было?

Тарас. Дык Цярэнь-жа ўстаў ужо. Дурная ты!

Кацярына. Вось і дурная. Вось і я так кажу: профэсар лекцыю чытае, а я не разумею. (*Іраха ня плача*). Шкада... вядома шкада... але паеду. Ты заставайся... Значыць нам ня суджана... Паеду... А ты заставайся... Бывай... (*каб не зайсьціся перад Тарасам з плачу, Кацярына выбегла з пакою*).

5

Тарас (*уздыхнуў*). Эх і справы. (*Сеў за стол, разгарнуў кніжку, зноў загарнуў яе, ляпнуў пераплётам*). Не шанцуе на культурным фронце... (*Пачынае складаць свае рэчы*). Справы...

6

Уваходзіць Мося.

Мося. Справы, Тарас! Ды яшчэ якія справы. Цярэня няма?

Тарас. Няма.

Мося. Ты разумееш якая штука? Паехалі мы ў чыгуначныя майстэрні: Алена Чарада, я і яшчэ некалькі таварышоў. Там у нас гурткі. А тут пасяджэньне стыпэндкому разам з курскомам. Прыехалі адтуль, а пасяджэньне стыпэндкому толькі што адбылося. І што ты думаеш? Адмовілі Бондару і Кацярыне Грыцэнка, а далі Ціхаплюеву. Ты разумееш? Наймітам адмовілі, а Ціхаплюеву далі! Стыпэндыя добрая! Пяць фунтаў мукі з высеўкамі, пляшка сьвірэпага алею і талёны ў АРА.

Тарас. Што? Кацярыне? і Бондару? Значыць нашых заціраюць?

Мося. Факт. І ведаеш хто гэта зрабіў? Смала зрабіў. Трэба неадкладна склікаць пасяджэньне выканбюро, я даю адвод яго кандыдатуры!

Тарас. Ну й справы! Гэта-ж кулацкая лінія! А я хацеў ехаць дадому, у вёску.

Мося. Што? У вёску? Чаго?

Тарас. Жыць. Працаваць. Паглыбляць рэволюцыю!

Мося (*памацаў яго лоб*). У цябе тэмпэратура?

Тарас. Па Рэомюру 19 градусаў ніжэй нуля.

Мося. Значыць нормальная. Што-ж ты мяне купляеш?

Тарас. Не купляю, а праўду кажу. Кацярына едзе і я хацеў. Вось і зьбірацца пачаў быў.

Мося (*так і сеў*). Факт, што тэмпэратура.

7

Увайшоў Рабашапка.

Мося (*да яго*). Слухай, Рабашапка. З ім можа размаўляць толькі ідыёт. Пагавары, калі ласка, ты з ім... Я зараз... (*пабег*).

8

Рабашапка. У чым справа? Чаго ён на цябе напаў?

Тарас. Адчапіся ты... цётка!

Рабашапка. Вось ты кажаш—цётка. А ты ведаеш, што ніякіх дроў няма?

Тарас. Няма? Як няма?

Рабашапка. А так што няма. Прадка проста справакаваў нас на суботнік. У майстэрнях, разам з рабочымі, прыбіраць жалеза. Адкідаць сьнег, ачышчаць двор. І ўсе, як тыя дурні, хапаюць лапаты. Рыхтуюцца ісьці. А дроў ніякіх няма. Вось табе й цётка. Я еду дадому.

Тарас. Ну і чорт з табою і з тваею цёткаю. Я йду на суботнік.

Рабашапка. Туды да д'ябла. Дагаварыліся...

9

Уваходзяць пяць студэнтаў.

Рабашапка. Вось і яны едуць. Зьбірайцеся. Чаго марнавацца? Ідзем і кончана. Даволі...

Пяць студ. К чорту. Мы хацелі вучыцца, а тут у сьнезе прападай, у холадзе. Жалеза насі... (*Складаюць рэчы*). Фунт цыбулі дзьвесьце тысяч...

Тарас. Ды вы што? Павар'яцелі ўсе, ці што? Ну, няхай я быў здурнеў. А вы чаго? Гэта-ж... Зрыў! А ну вас к чорту! (*вымае свае рэчы*).

10

Уваходзіць Цярэнь.

Цярэнь. Здаровы хлопцы. (*Маўчанка*). Здаровы кажу! (*Маўчанка*). Што гэта з вамі? Навошта пакуеце рэчы?

Рабашапка. Едзем!

Цярэнь. Куды едзеце?

Тарас. Ты, Цярэнь, ня злуйся, але... тут і я вінаваты... Цяжка браць гэты Перакоп. Захісталіся хлопцы.

Цярэнь (*наблізіўся да яго, доўга нічога ня мог сказаць, ціха кашлянуў*). Цяжка? А ты як думаў? Нехта за нас возьме яго? (*Лёгка*

*адсунуў карзінку).* Закрый барахлішка. (*Да ўсіх*). Выкладай каторы— у чым справа? Чаго лыпаеце?

Голас. Фунт бульбы паўтараста тысяч...

Другі. Навука цяжкая.

Цярэнь. Так. Значыць, бульба—раз, навука—два. Прычыны сур'ёзныя, што й казаць. Так што падмазвай, хлопцы, пяткі і ў кусты.

Голас. Парадку няма. Дроў няма. Рэспубліка ня спраўная. Фунт цыбулі дзьвесьце тысяч.

Рабашапка. І холадна.

Цярэнь. Правільна. І цыбулі няма, і фабрыкі ня спраўныя, і машыны барахольныя, і шахты затоплены вадою. Транспарт ні к чорту. Адным словам, дрэнную спадчыну дасталі ад генэралаў і Пятлюр.

Голас. Значыць, няхай дзяржава падрамантуе, а тады й... Маўчы, сабатажнік! Колькі інтэлігенцыі здрадзіла, не пайшла за намі. Ты ведаеш? Свая патрэбна. Зразумеў ты? З кім будзем рамантаваць? З кім будзем будаваць, падымаць дзяржаву, калі свае інтэлігенцыі, сваіх спэцаў няма? А вы ўцякаць? Мы заваёўвалі, а вы прадаваць за бульбу? Выходзь, хто ўцякае!

11

Мося, Прадка і ўсе студэнты, якія накіраваліся на суботнік,—у сьнезе з лапатамі—сталі ў дзьвярох, у пакой насунуліся.

Мося. Вось яны. Гордасьць, гэроі культуры!

Цярэнь. Ну? Выходзь, кажу! (*Усе стаяць моўчкі*).

Тарас (*падыходзіць да Цярэня*). Ну, даволі... Заскок зайшоў быў у галаву... Вінаваты... Чаго там... калі па суці, дык яно...

Цярэнь. Не перада мною вінаваты,—перад рабочай клясай. Яму й дасі адказ. (*Больш мякка*). Зьбірайся на пасяджэньне факультэцкае камісіі.

Тарас. Ёсьць, Цярэша.

Цярэнь. Шкіндэр, зьбірайся! Скажы Чарадзе і ўсім студпрадстаўнікам. (*Зусім па-сяброўску*). Эх, вы... гэроі. (*Засьмяяўся. І ўсе засьмяяліся, з палёгкаю, амаль весела*).

12

Алена прывяла Кацярыну Грыцэнка.

Алена. Ну, ідзі, ідзі. Сьмялей. Кажы пры ўсіх. Кайся, бо я цябе і ведаць не хачу.

Усе. Што? Таксама?

Алена. Кажы.

Кацярына. Ну, што?.. Ну, чаго? Ну, я, Тарас. Нікуды не паеду... і табе ня раю...

Тарас (*радасна*). А я хіба еду? Ды я й ня думаў. (*Хлопцы засьмяяліся, аж лапатамі ляснулі*).

Цярэнь. А вы?

Пяць студ. А мы таксама нікуды... памылка...

Цярэнь. Эх, вы, дзівакі... Хто гэта вас настроіў так?

Галасы. Ды Смала... Мільёнамі дапёк. Дровы—мільён. Яйкі—мільён. Цыбуля—дзьвесьце тысяч.

Цярэнь. Смала? Зноў Смала? Так. І там Смала і тут Смала. Разьбярэмся. Пайшлі на факультэт. А вы, хлопцы—марш на суботнік.

Прадка. Запявалыя наперад.

Галасы. Ёсьць, якую пачынаць? (*Пайшлі, толькі загуло ў калідоры*).

13

Мося (*да Цярэня на адыходзе*). Маю справу пра стыпэндком.

Мося. Давай. Я крыху ведаю. (*Пайшлі*).

14

У пакоі застаўся толькі Рабашапка. Ён падыходзіць да сваіх рэчаў і пачынае іх зьвязваць.

Рабашапка. Ну, мяне на агітацыю ня возьмеш. Цётка мне казала, калі будзе дрэнна—прыяжджай, Хомка, да дому. А ён залівае...

## V. Абыйдземся бяз белых

Суровая зіма наклала ялінкі на вокны факультэцкай залі інстытуту. Стройна стаяць крэслы каля доўгага стала.

1

У залю увайшлі: профэсар Белы і яго асыстэнтка. Яны надзвычайна добра адзеты, урачысты, падкрэсьлена з'асыроджаны.

Белы. Мы рана прышлі. Члены факультэцкае камісіі напэўна недзе латаюць боты, альбо сякуць дровы. Нам давядзецца чакаць, пакуль яны скончаць сваю, дзяржаўную работу.

Асыстэнтка. Можа лепей вярнуцца ў лябораторыю і прыйці пазьней.

Белы. Але як гэта орыгінальна. (*Павёў рукою па крэсьле*). Невядомага прайдзісьвета прызначылі рэктарам імпэратарскага унівэрсытэту, і ён дбайліва бальшавіцкаю рукою парасстаўляў крэслы для профэсараў і побач—для ўчарашніх бандытаў, сёньняшніх дыктатараў, тупых, як той дуб, з якога зроблены гэтыя крэслы. Яднаньне навукі й працы. (*Папраўляе каўнярок*). Я задыхаюся.

Асыстэнтка. Мы ўмовіліся ня траціць спакою. Перамагчы можна толькі тады, калі верыш у перамогу.

Белы. Верыць у перамогу. Верыць нават тады, калі ад белае гвардыі застаўся белы саван, ад яе гэрояў—белы кадзільны дымок. Верыць да краю.

Асыстэнтка. Верыць... І змагацца.

Белы. Так. Мы дрэнна стралялі ім у лоб, калі яны ціснулі нашу армію. У другі раз мы ня будзем лятуценьнікамі і баягузамі. Але калі надыдзе той дзень адплаты? Мне здаецца часамі, што мы жывем не надзеяй, а нянавісьцю. Гэтая нянавісьць робіцца дужэйшай за мяне. Яна задушыць мяне.

Асыстэнтка. Не! *(Экзольтавана схапіла яго за рукі, паглядзела яму ў вочы і прынікла губамі да яго рукі)*. Чуеце? Мы... задушым іх...

2

Раптам уваходзіць у залю, абсыпаны сьнегам, захутаны башлыком, Мося. Аббівае сьнег.

Мося. Не мароз, а контррэволюцыя нейкая. А, добры дзень, таварыш професар! Значыць пасяджэньне факультэту? От здорава! Сьняжок, ведаеце. Сьвежае паветра. Нашы зараз прыдуць.

Белы. Хто гэта вашы?

Мося. А студыозы. Алена Чарада, Крыжэнь, Тарас Рабацяга, Кацярына Грыцэнка.—Кругасьветны пролетарыят.

Белы (*наступае на Шкіндэра*). Вельмі прыемна, што яны таксама з „вашых“. Вельмі... вельмі прыемна „таварыш“ яўрэй... (*Амаль у няпрытомнасьці выходзіць з залі. Асыстэнтка за ім*).

3

Мося ніякава і зьдзіўлена аглядаецца. А ў дзьвярох стаіць Смала. Пакланіўшыся профэсару, які прайшоў паўз яго, ён паварочваецца да Шкіндэра і глядзіць на яго гостра, пранізьліва з нянавісьцю.

Смала. Чаму ён вышаў бледны, як сьмерць?

Мося. Пайдзі запытай. Можа ён табе скажа.

Смала. Гэта ты так заваёўваеш вышэйшую школу?

Мося. Як умею, так і заваёўваю. Цябе ня буду пытаць.

Смала. Вунь як. Ты вельмі храбры. Але ты не хвалюйся. Я ня зьбіраюся біць цябе, будзь спакойны.

Мося. Няўжо? Ну, тады я цалкам спакойны.

Смала. Вось і добра. (*Ціха*) Ты што? Закапаць мяне хочаш? Ня ўдасца. Я бядняк. Чуў? Трыста гадоў пакутаваў. (*Гостра ў вочы яму*). Кроў нашу пілі. А цяпер я тут і ты мяне не зьясі. Палкі мне ўстаўляеш? З курскому адводзіш? Загубіць хочаш? Нічога ня выйдзе. Усё роўна буду асыстэнтам. На меншым не пагаджуся. Так і ведай.

Мося. Скончыў?

Смала. Скончыў.

Мося. Ну, дык ты такі сволач. Трыста гадоў сволач. А я яшчэ меў сумненьне...

Смала (*з кулаком*). Ты!

Мося. Ну? (*Падняў крэсла і... ціха паставіў яго перад Смалою*). Сядайце, калі ласка.

Смала (*апусьціў кулакі, засьмяяўся*). Ну, і дурань-жа я. Мы-ж таварышы. Прабач.

Мося. Не таварышы мы. Хто здраджвае клясавай лініі, таму я не таварыш.

Смала. А я здрадзіў? Дзе я здрадзіў? Калі? Хто дакажа?

Мося. Кулаку Ціхаплюеву, хто даў стыпэндыю? Бандару і Грыцэнка як пасьмелі адмовіць?

Смала. Лгаьнё! Гэта ня я. Ты проста маеш супроць мяне зуб. Ты проста... нэрвовы.

Мося. Угадаў. Маю зуб і нэрвовы. (*Сеў за стол, разгарнуў кніжку*).

4

Цярэнь, Алена, Кацярына Грыцэнка й Тарас—усе ў сьнезе—увайшлі ў залю, гукнулі.

— Ну й холад! (*Абтрушваюцца, грэюцца, барукаючыся, б'юць рукавіцамі*).

Мося. Не перашкаджайце. Толькі спакойна заняўся акадэмізмам, а вы перашкаджаеце.

Цярэнь. Нічога, Мося, мы цябе ў факультэцкую камісію—там табе будзе акадэмізм.

Мося. Што? У мяне й так дванаццаць нагрузак.

Цярэнь. Выходзіць, што гэта будзе трынаццатая. (*Да Тараса*). А табе, рабацяга, прыдзецца ісьці ў стыпэндком. Смала, стударганізацыя цябе са стыпэндкому здымаюць. Яшчэ адзін такі ўчынак і мы здымем цябе з усіх нагрузак, і з камбеду к чортавай матары.

Смала. Што гэта такое? Я павінен...

Алена. Што ты павінен—скажаш пасьля, а мы павінны зараз пачынаць. Час дарагі. Пачынай, Цярэнь.

Усе. Пачынай.

Цярэнь. Што тут пачынаць. Гармаша прызначылі рэктарам.

Усе. Наша бярэ!

Цярэнь. Бярэ, ды яшчэ не ўзяла. Гармаш—гэта той чалавек, які паставіць інстытут на ногі. Але...

Кацярына (*Салідна, па-гаспадарску*). Дужа сярдзіты.

Тарас. Цы! Мы ўжо сёньня выявілі сябе...

Цярэнь. Гармаш павінен на нейкага абаперціся. Вы ведаеце, што сярод профэсараў...

5

Увайшлі профэсары: Богаяўленскі, Качарга, Сьлёзкін, Воранаў, Кукушкін. Крытычна глянулі адны на адных—студэнты на профэсароў і наадварот.

Богаяўленскі. Гаспада студэнты? (*Хлопцы так і пырснулі*).

Тарас. Не.

Богаяўленскі. А хто-жа?

Алена. Проста пролетарскія студэнты.

Богаяўленскі. А-а. Ізвініце, гаспада. Вінават... пролетарскія студэнты.

Тарас. Калі ласка.

Кацярына. Хіба мы паліняем, калі нас гаспадамі назавуць? (*Пырснулі*).

Цярэнь. Просім сядаць. Таварыш Гармаш затрымаўся ў губпарткоме. Зараз прыдзе. (*Да студэнтаў*). Таварышы, на хвілінку ў той пакой. (*Вышлі*).

6

Профэсары яшчэ раз пераглядаюцца. Адсоўваюць крэслы, моўчкі сядаюцца. Ніякава. Паўза.

Богаяўленскі. Н-да... (*Паўза парушана рогатам*).

Воранаў. Цяжкавата, Павал Міхайлавіч? Нічога, прывыкніце. Я, вы ведаеце, дома кожнага вечара практыкуюся. Перад люстрам вось так стану і пачну: „Таварышы студэнты". І прывык. А вы гаспада. Хіба-ж можна?

Сьлёзкін. Я-ж вас вучыў, як трымацца з тымі... галубчыкамі. Як гэта вам падабаецца? Таварыш Гармаш у губпарткоме. Гэта рэктар унівэрсытэту. У губпарткоме! Рэктар. Вы што-нібудзь разумееце? У губпарткоме! А можа ён яшчэ і ў губчэка?.. (*Усе аглядаюцца*).

Богаяўленскі. Гаспада, нельвя-лі без эціх ужасных названій, я чалавек старый і нервный.

Кукушкін. О, тэмпора, о морэс!

Качарга. А вы зьвярнулі ўвагу на тое, як гэты студэнт сказаў „просім сядаць"?

Сьлёзкін. Да, да. Гэта-ж...

Кукушкін. Нек плюс ультра.

Сьлёзкін. Нахабнасьць. Просім сядаць.

Качарга. Шкада. Вы ўсё-такі не зьвярнулі ўвагі на тон. Так можа сказаць толькі гаспадар.

Воранаў. Цікава. Іменна—гаспадар. Нуціс, далей.

Богаяўленскі. Чэпуха! Е-рун-дас, Іван Паўлавіч. Ерундас чэпуха-с.

Сьлёзкін. Ультра чэпуха.

Качарга. Ну, як сабе хочаце, а я адчуваю сябе вельмі добра. Праўда, майго месячнага акадэмічнага пайка хапае толькі на 17 дзён, але я адчуваю, што на нашай плянэце запахла азонам.

Богаяўленскі. Н-да-с...

Сьлёзкін. Значыць вы так? Вы за іх? Так-с... Ага. Вы, значыць за іх... Так, так... у партыю ня думаеце паступаць?

Качарга. Ну, ведаеце, дрэннае вы маеце ўяўленьне аб партыі, калі думаеце, што ў яе так лёгка ўступіць. Але магу вас заспакоіць: працую і буду працаваць з бальшавікамі. Слаўны народ.

Сьлёзкін. Вы чуеце? Усе чулі? Так-с. Значыць, чэкіст? (*Рух*).

7

У дзьверы высунулася кудлатая галава Коці.

Коця. Дзя, я ізьвіняюсь. Тут цёці Чарада і дзядзі Мосі няма? (*Профэсары павярнуліся на крэслах, застылі*):

Богаяўленскі. Что за ерунда?

Коця. Зусім ня ерунда, а сур'ёзная справа. (*Сьвіснуў носам*).

Качарга. Ты хто такі?

Коця. Я? Натуральна хто—Коця, з іхняе арцелі. Ёсьць падрад—секчы дровы і параход грузіць, а іх не знайду. (*Профэсары пераглянуліся*).

Качарга. Яны ў тым пакоі, ззаду ў цябе.

Коця раптам кітаеццa бегчы і стукаецца галавою ў профэсара Белага, які ўваходзіць у залю.

8

Белы. Пардон.

Коця. Што? Шкада, што мне няма часу... (*Пабег*).

Белы. Цераз басякоў скора ня можна будзе ўвайсьці ва ўласны габінэт.

Воранаў. Вы памыліліся. Гэта падрадчык, а не басяк...

Асыстэнтка. Гэта проста пляма на нашай чэсьці.

Белы. Чэсьць... Дзе яна? За морам наша чэсьць.

Воранаў. Нічога, Уладзімер Міхайлавіч, організуем ячсоды, рэформуем унівэрсытэт, увядзем новыя мэтоды навучаньня, новыя програмы, словам, збудуем новы сьвет... дзе ня будзе басякоў... Я ўжо, ведаеце, прывык... Стану перад люстрам...

9

Увайшоў Гармаш і з ім студэнты.

Гармаш. Добры дзень. (*Профэсары зьлёгка кланяюцца*). Я спазьніўся на пяць хвілін, па незалежных ад мяне прычынах. (*Да студэнтаў*). Таварышы, сядайце, будзем пачынаць. На нашых пасяджэньнях старшынёю мае быць рэктар. Дык вось я бяру на сябе гэты абавязак. Трэба таксама мець аднаго сталага сакратара.

Смала. Спраўнага чалавека...

Гармаш. А хіба ў факультэцкай камісіі можа быць які-небудзь сарванец, ці гультай? Вядома спраўнага чалавека.

Цярэнь. Прашу слова. Студэнцкая фракцыя рэкамэндуе таварыша Шкіндэра?

Мося. Я ня ведаю, чаму як раз Шкіндэра? Калі ў яго і так дваццаць нагрузак?

Смала. Я таксама ня ведаю ці ўправіцца таварыш...

Цярэнь. Раз вылучаем, значыць управіцца. Мы разгрузім яго ад іншай работы.

Гармаш. Хто за гэту кандыдатуру? (*Студэнты і профэсар Качарга падымаюць рукі*). Хто супроць? (*Няма*) Хто ўстрымаўся? (*Профэсары апрача Белага і асыстэнткі падымаюць рукі*). А вы, профэсар, Белы?

Белы (*падняўся, залажыў руку за край сурдута*). Грамадзянін Гармаш. Я прышоў сюды, каб заявіць вам, браць удзел у гэтай камэдыі я не магу і ня буду. (*Рух сярод прысутных*).

Сьлёзкін (*спужана*). Што ён меле? Што ён меле?

Багаяўленскі. Чэпуха-с і ерунда-с.

Белы. Ваша „ўлада“ хоча выкарыстаць нас як спэцыялістаў. Гэта ганебнае слова „выкарыстаць“... Хоць некаторыя, як я бачу мірацца з гэтым. Але... (*Папраўляе каўнярок, хрыпла кажа далей*) засядаць на факультэце, поруч з вашымі, сэкратарамі, гэта ўжо выбачайце... Ёсьць межы людзкому цярпеньню. Ёсьць таксама межы бязтактнасьці, і калі іх пераходзяць, то выбачайце, Мне, прадстаўніку навукі, няма чаго рабіць сярод „політыкаў“ бальшавізму. Я гэтага не разумею, а ведаю толькі, што вы руйнуеце асьвячоныя традыцыямі програмы унівэрсытэту і ўстаўляеце ў іх нейкі гістарычны матэрыялізмы, марксызмы, дыялектыкі. Якіясьці практычныя, мэркантыльныя доктрыны... Якіясьці ўтопічныя тэорыйкі... Вы хочаце падначаліць профэсара Шкіндэрам ды Гольдманам! Мы для гэтага ня здатны. Нам не застаецца і месца сярод вас і таму мы робім лёгічны для сябе вывад. Мы ідзем. (*Выходзіць з-за стала*).

Асыстэнтка. Так, мы ідзем. (*Падтрымоўвае яго*). Ї спадзяюся, што ідзем ня самі. За намі пойдуць тыя, у каго яшчэ ня ўмерла навекі пачуцьцё ўласнае годнасьці, каго пячэ таўро ганьбы. А вы... вы можаце засядаць... Можаце будаваць ваш... „Новы сьвет“... можаце!.. (*Вышлі*).

10

Паўза. Студэнты пераглядваюцца. Прэфэсары адчуваюць сябе ніякава.

Цярэнь. Які парадак дню?

Гармаш. Таварыш Шкіндэр, калі ласка, займеце месца.

(Шкіндэр маўчкі садзіцца на сэкратарскае месца).

Гармаш. Таварышы, на вашых вачох здарыўся выпадак, які не патрабуе асаблівых комэнтарыяў. Профэсар Белы нарэшце выявіў сапраўдны свой твар. Заклікаю вас спакойна весьці работу далей.

Богаяўленскі. Чэпуха-с. Вы, мілы чалавек, успакоіць яго далжны былі, а ня так... ерунда-с, і чэпуха-с.

Гармаш. Ну, профэсар Богаяўленскі, заспакоіць Белага мы ня можам.

Алена. Дайце слова. Таварышы, пайці за профэсарам, пагаварыць з ім, заспакоіць, калі ён нават абразіў сабраньне, можна і гэта ня сорам. Але за якім профэсарам?

Студэнты. Правільна.

Алена. За тым, што можа пайці з намі, а не за тым, які можа йці толькі супроць нас. А гэты, відаць, прапашчы.

Тарас. Нейк-жа вытрымаем бяз белых.

Качарга. Што-ж, профэсар Белы меў час падумаць пра свае паводзіны... Клапаціцца аб ім ня прыдзецца. Аб ім паклапаціцца хто-небудзь іншы... (Профэсары пераглянуліся).

Гармаш. Абвяшчаю парадак дню: Першае—пра дзейнасьць ячэек спрыяньня, так званых „Ячсодаў". Другое—перагляд некаторых навучальных праграм і ўнясеньне ў плян гістарычнага матэрыялізму. Трэцяе—падрыхтоўка да залікавае сэсіі. Чацьвертае—пра рэгулярнае наведваньне лекцый. І пятае—парадак практычнага навучаньня. Хто мае дадаткі?

Богаяўленскі. Ізвольце відзець... шапак ня здымаюць у аўдыторыі гаспада студ... вінават (*махнў рукою*) не магу... пролетарскія студэнты...

Гармаш. Зробім гэта адміністрацыйным парадкам. Ня турбуйцеся, профэсар, усе будуць скідаць шапкі.

Богаяўленскі (*падбадзёрыўся*). Няуж-то? Харашо, очэнь харашо. Есьлі пры савецкай уласьці будут всё-жа сыймаць шапкі, то это ужэ не такая плахая ўласьць. І уж касацельно адзежды... не разьдзяваюцца ведзь...

Тарас. Дык-жа холадна, профэсар. У аўдыторыях вада замярзае.

Воранаў. Пасьля... некаторыя прыходзілі да мяне на зачот, а з кішэні рэвальвэр тырчыць. Я звычайна, не баюся. Але не зразумела: для чаго-ж рэвальвэр? Зачот я й так пастаўлю, калі чалавек што-небудзь ведае. А то, ведаеце, рэвальвэр... Чалавек глядзіць табе ў вочы і так, ведаеце, многазначна кажа: „Вы, профэсар, яшчэ не адмецілі мне ў кніжцы зачоцік"... хе-хе.

Цярэнь (*суха*). Таго студэнта ўжо выключылі з інстытуту. Выключылі кажу.

Воранаў. Ужо? Ну, тады я ніякіх дадаткаў ня маю.

Гармаш. Хто за такі парадак дня? (*Усе падымаюць рукі*).

## 11

Коця (*у дзьверы*). Ёсьць секчы дровы. Скажэце дзядзю Мосю... і параход грузіць. На два месяцы работы.

Алена (*падыйшла*). Пасьля. Зараз тут парадак дню грузілі. Работу затрымай. Кацiся.

Коця. Кацюся.

## VI. Спосаб лімпрыхтаў і спосаб смалы

Порт. Студэнцкая арцель нагружае параход пакляю на палубу з пакункам, а з палубы— в кніжкаю. Стане каторы, зачытаецца, іншым перашкаджае. Сходы-ж вузкія, разьмінуцца нельга. А то яшчэ й сшытак дастане, пачне рабіць конспэкт. Надыходзіць вясна, трэба вадагнаць залікі. Аднак і работа ідзе. Толькі выгукваюць: „Сьцеражыся", „У правы бок", „Канчаем, хлопцы", падцягніся"... Тарас і Мося сустрэліся на сходах.

1

Тарас. Чорт яго ведае, забыўся спосаб лімпрыхта даставаць альдэгіды...

Мося (*адарваў вочы ад кніжкі*). А спосаб лімпрыхта гэта-ж... Нуда... Спосаб лімпрыхта даставаць альдэгіды... Дык я яго таксама забыўся...

Студэнты (*з пакункамі*). Дарогу! Чаго закупорылі?

— Не затрымлівай студэнцкага руху.

— Сядай, пакурым.

Цярэнь (*спускаецца з палубы*). Чаго застрайкавалі?

Антоніо. Ды ну яго, нарэшце, к сьвіням сабачым! Хіба гэта жыцьцё?

Цярэнь. Вось табе й на. А што-ж гэта, Антоніо? Ня падай духам, скора канчаем.

Коця. Пака дванаццаць засталося. І па рашчот. Так што ня журэцеся, дзядзя Антон.

Тарас. Забыўся спосаб лімпрыхта.

Галасы. Тлушчавая кіслата... сухая прагонка... кальцыева соль...

Мося. Ды ня ўсе адразу.

Цярэнь. Сухою перагонкаю кальцыевае солі, мураўінае кіслаты з такою самаю сілаю тлушчовае кіслаты—атрымоўваем альдэгіды. Вось табе і спосаб лімпрыхта,. Значыць маем: 2 цэ аш тры, цэ о аш, плюс 2 цэ о тры цэ а.

Тарас. Як, як? Пакажы формулу.

Студэнты. На вось крэйду. Пішы на дошках.

Тарас (*піша*). Пачакайце, вадарод замешваецца мэталем... Цэ-о-аш!

Антоніо. Цэ-о-аш, цэ-о-аш... Ды ад гэтага здурнець можна. Перайду на вобразатворчае мастацтва. У трох інстытутах быў, паспрабую чацьверты. Прынамсі ня трэ' будзе марнаваць дні й ночы на гэтыя праклятыя формулы. Эх, Цяроша! Калі-б ты ведаў, якую я дзяўчыну бачыў.

Тарас. Ды йдзі ты са сваею жанчынаю к чортаваму бацьку. Цэ-аш-тры, аш-цэ-о.

Антоніо. Не, ня ўмееце вы, сябры мае, любіць жыцьцё.

Цярэнь. Эх, ты, вакса. Ты-ж сам нічорта ў жыцьці не разумееш.

Няронаў. Н-да... І ў гэтым уся суць.

Антоніо. Я? Але я затое адчуваю. І гэта ня горш, а лепей. Не рацыо, а эмоцыс кіруе мною. Душа!

Цярэнь. Дрэнны ў цябе кіраўнік. Глядзі, каб ён не зацягнуў цябе ў яму.

Антоніо. Ніколі! Душа не сьляпая. Яна ведае, чаго прагне. Мая мэта—трагічная, але цудоўная жанчына, і я дасягну яе. Мая трывожная любоў да яе, невядомае, маё бунтарскае чаканьне—не абдурацъ мяне. Я знайду!

Мося. Каго?

Антоніо. Тую, якую я шукаю.

Мося. Хваробы ты шукаеш. (*Хлопцы засьмяяліся*)

Тарас. Романтык няшчасны! Загаварыў зубы, а я зноў зьбіўся. Цэ-аш-тры, а далей што, Цярэнь?

Цярэнь. А далей—яшчэ раз цэ-аш-тры. Пяць гадоў засаб, пяць галодных гадоў, браточкі, а толькі наша возьме верх. Гэта нават профэсар Белы зразумеў і ўцёк за кардон.

Коця. От калі-б я быў галоўны камісар, я-б яго, гада, ня пусьціў.

Цярэнь. Ды ён уцёк, Коця.

Коця. А, уцёк. Ну, уцякаць натуральна можна. Шкода, што я яго тагды ня стукнуў галавою ў пуза так, каб ужо і ня ўцёк.

Цярэнь. Чуеш Антоніо? А твая філёзофія не падхадзяшча пад нас. Мы ў баю. Рэспубліка гукае, крычыць: даеш спэцыяліста! Нашага, пролетарскага. Так што, пагрузім гэтае барахлішка, ды няхай плыве, куды яму трэба плыць, а мы стукнем апошнія залікі, пярэйдзем на наступны курс, а там ужо лягчэй нам будзе, а далей—яшчэ лягчэй... А пакуль што—паедзем на лета на работу, падхарчавацца, падрамантавацца, набрацца сіл. Ці так я кажу, браточкі, ці так?

Студэнты (*з захапленьнем*). Так. Сып, Цярэшка, далей!

Мося. Ша! Я супраць. Цярэнь сказаў галодныя гады. Чаго-ж яны галодныя? Хіба вы ня ведаеце, што на Грэцкай вуліцы, у краме Джузэпе Марыяні, да вашых паслуг—вэнджаная шынка, балонская каўбаса, міланская каўбаса, мортадзелі—проста з Італіі. Надзвычайныя гастрономічныя вырабы. У, я вам кажу, можна есьці. У яго-ж і сапраўдныя італьянскія макароны, хто любіць, і сыцылійскія сушаныя каштаны, і міланскае каровінае масла, смачнейшага за якое няма на цэлым сьвеце, і марынованы тон, і тлустыя анчоусы, лепшыя за ўсякую тлустую кіслату. І сыр такі, што сам у рот лезе, пармезан называецца. І зрэз такі, разумееце, пераліўны... як пэрлямутравы.

Хлопцы. Даволі. Ня муч! Дзе-ж гэта ўсё? Дзе яно?

Мося. Дзе? (*усьміхнуўся*). У публічнай бібліотэцы, у кнізе дэ-Рыбаса пад назваю, „Старая Адэса". Учора чытаў. Страшэнна цікава...

Хлопцы. Начытаўся, інквізытар, каб ты прапаў.

Цярэнь. Дзякуем, Мося, папаелі трохі. Цяпер давайце канчаць. Раз, два.

Хлопцы. Пайшлі. Кончым і возьмем разьлік. (*І зноў пабеглі з пакункамі*).

2

Пад сьцяною склепу, у баку ляжаў Шпак, злаваўся. Падыме галаву, плюне і зноў ляжа. Яго супражнік Бык, які ляжаў поруч з ім, нарэшце, зьвярнуўся да яго.

Бык. Чаго харкаеш? Кімаць (*спаць*) хочацца, а ты харкаеш.

Шпак. Грузюць, гады, а ты прападай, хрысьціянская душа. На пляшку самагонкі ня вырвеш. Гэта парадкі.

Бык. Раскалупаць ім картачкі, каб ведалі.

3

З-за сцэны высьлізнуў Смала. Падышоў да іх і так, няўважна запытаў.

Смала. Грэемся?

Шпак. Да, нагрэешся тут...

Смала. А чаму-ж не працуеце?

Шпак. А можа я дзеля здароўя ляжу, дыхаю сьвежым воздухам. Можа я з дваранскага саслоўя. Можа ў мяне нявеста з галубымі глазамі і ў каракулевым саку белую грудзь саграваіць, а на вакне цьвяты дзелаюць запах. Ты знаіш?

Бык. А можа студэнты захапілі работу.? Ня бачыш?

Смала. Ды бачу. Я вось—сам без работы. Стары грузчык. Не даюць. Прападаць нашаму брату хрысьціяніну. А ён, глядзі вось, яўрэйчык, іхні камісар, бегае, сволач, зарабляе.

Бык. Іч, сволач!

Шпак. Скінуць, заразу, у мора...

Смала. Ты-ж пабаішся, ракло.

Шпак. Хто? Я пабаюся? Сенька, нас аскарбляюць.

Смала. Ды чаго ты. Я-ж пажартаваў. А калі хочаце гаварыць сурёзна, хадзеце сюды. (*Усе ўтраіх зьнікаюць*).

4

Па сходах нясуць апошнія пакункі.

Мося. Адзін застаўся. Хлопцы, налятай на кантору. Я зараз.

Студэнты. Пайшлі?

Цярэнь. Можа ўдваіх...

Мося. Адзін аднясу. Мушу агледзець усё як сьлед.

Студэнты. Кантора, рыхтуй грошы! Заробнікі ідуць! (*засьпявалі*).

Сьвяцеце нам зоры, сьвяці нам месяц,
І яснае сонца, ясьней нам сьвяці!
А мы ўпярод, ўпярод за волю,
Шляхам навукі будзем іці... (*Пайшлі*).

5

Шпак і Бык выходзяць з-за склепу.

Шпак. Сенька! Бач... ад бога, га? Пашэнціла, га? (*Пляшка*).

Бык. Дай на зуб. Душа ноіць. (*П'е*).

Мося сходзіць з палубы, нешта закатоўвае ў сшытак. Абудва басякі вокамі кідаюцца на яго.

## VII. Першыя ландышы.

У расчыненае вэнецыянскае вакно агульнага памяшканьня ўрываюцца сонечныя зайчыкі, скачуць па сьценах, па кніжках, перацінаюць наўскоснымі праменьнямі пакой, кладуцца залатымі плямамі на твары студэнтак, якія групамі й па адзіночцы вучацца, гутараць, дурэюць, уваходзяць і выходзяць, гудуць нібы пчолы ў вульлі.

1

1 група. Значыць так... Дэтэрмінізмам называецца абумоўленасьць цалкам усіх зьявішч... не... Зьявішч у грамадзтве... абумоўленасьць... Не... Зьявішч абумоўленасьць... усіх... завецца дэтэрмінізмам...

Мамаева. Ды не тарахцеце. Гэта-ж не сыстэма.

Грыцэнка. І нічога ня чуваць. Як сарокі шчабечуць.

Таня. Аж замарылася, няхай яго паралюш.

Грыцэнка. Паўтары яшчэ пра дыялектыку: не разумею.

Мамаева. Толькі па сыстэме. Бяз сыстэмы нічога ня выйдзе. А вось калі сыстэма, тады зусім іншае, выходзіць сыстэматычна, думкі лажацца ў пэўную сыстэму. Наогул павінна быць сыстэма.

2 група. Ха-ха. Ня можа быць.

Варка. Факт. Чарцяка, кажу. Ты, кажу, будзеш наводзіць мне антымонію? Ды раз па мордзе, раз! Аж эха пайшло.

1 група. Ха-ха. Правільна. Раскажы пра гэта Алене.

Варка. Дэ-юрэ, можа й няправільна. Дэ-факто—набіла морду, а там як хоча... (*Дзяўчаты аж пакаціліся ад сьмеху*).

2

Увайшла Алена. У руках кніжкі і пучок ландышаў.

Алена. Цудоўна. Гэта вы так працуеце? Добра працуеце, дзяўчаты.

Дзяўчаты. Чарада! (*Кінуліся да яе, закруцілі, жартуюць*). Аленка, Мы ўжо скончылі разьдзел. А конспэкт прынесла?

Алена. Ёсьць. Ды годзе вам! Пусьцеце. Каго гэта ты, Варка, так прыпячатала?

Варка. Адзін, фінцік з Інаргасу. Я, кажа, чалавек без забабонаў. Цэлая тэорыя, разумееш. Мы, кажа, новыя людзі. Перш-на-перш справа,

абавязак, экономія дарагога часу. Выйдзіце, кажа, увечары. Тут у канцы калідора ёсьць адно зацішнае месца, калі вы не мяшчанка.

Грыцэнка. Іч. Стэрва!

Мамаева. Цэлая сыстэма. Ну, яна яго, значыць, і блаславіла.

Варка. Вядома, кажу, якія ў мяне могуць быць забабоны? Я цябе без забабонаў, па рабоча-сялянскаму, трах у морду!

Дзяўчаты. Ха-ха. Ой, здорава.

Алена. Маладзец, Варка, бі. Ведай, што не свайго б'еш, а чужога. Свой так ня скажа.

Грушкіна. (*Засьпявала, брынкнула на гітары*).

В акно врывался аррамат сірэні,
К вам аднаму несьліся мечты маі-гі...

Глупства вы, дзяўчаты, кажаце. Прынамсі чэсны хлопец. Эх, ма! Я не апалёгетка зацішных калідораў, але паважаю чалавека за шчырасьць.

Грыцэнка. Шчырасьць? Вось гэта дык шчырасьць! А няхай яна яму ўскруціцца.

Алена. Пачакай, Кацярына. Ты, Грушкіна, як гэта? Сапраўды?

Грушкіна. Сапраўды. Ня люблю, ненавіджу ўсялякіх багародзіц сарамяжлівых на сто працантаў, аднак-жа—ласых да каханьня, быццам тая кошка на сала. Ненавіджу. І гэта сапраўды?

Алена. Пачакай. Такога накруціла языком, што й не разьбярэш адразу. Ты проста скажы: выходзіць, што таго халамідніка трэ' было яшчэ й пахваліць за шчырасьць? Так?

Грушкіна. Гледзячы які халамідпік. Калі хлопец цікавы... (*брынкнула*).

Я вас ждала з безумнай жаждай ласкі...

Ісьціна заўсёды конкрэтна. Што-ж так казаць, ня бачыўшы кавалера. Мажа такая морда, што толькі памардасіны й просіць...

Алена (*кінула кніжкі*). Пачакай. Гэта што-ж за тэорыя такая? Рась-півачна і на вынас? Га? Гэта значыць, сёньня цябе адзін вярціхвост упадабаў, заўтра другі, а пасьлязаўтра—трэці?

Грушкіна. І нават сто дваццаць трэці. Чаго ты, уласна хвалюешся? Жыцьцё вялікае, падсумаваньня наперад рабіць нявapт, ды й ня можна.

Алена. Ну ведаеш... Цяжка нам будзе згаварыцца. Трохі не такія людзі нам патрэбны. (*Радасна*). Дзяўчаты, вясна на двары. Птушкі шчабечуць. На дрэвах пупышкі. Ішла праз рынак, купіла ландышы. Гэта першыя ландышы гэтае вясны. Вось, гі... (*Самой ніякава стала*).

Дзяўчата. Ландышы...

Грыцэнка. Дай панюхаю... Пахне, чортава зельле, аж на сэрцы соладка... Аж лес стаіць перад вачыма. А каля лесу—поле...

Варка. А ў полі трава...

Грыцэнка. А на траве спаць добра...

Таня. Калі сонца зойдзе за лясок... Эх, дзяўчата... памятаеце?

Зайшло сонца за лясок
Прыдзі мілы, чарнабрывы,
Хоць да мяне на часок...
*Дзяўчаты падхапілі:*
Прыдзі мілы, чарнабрывы,
Мы пастаім, пагаворым,
Хоць апошні вечарок.
Мы пастаім і пагаварым,
Сон пра цябе, сон пра мяне
Сон пра нашую любоў...

Алена. Было, ці ня было—прайшло. А можа не да ўсіх і прыходзіў. (*Паставіла кветкі*). Няхай стаяць. А мы, дзяўчаты, за работу. Я трохі адстала. У ячэйцы многа работы. Давай, Танюша. На чым мы спыніліся?

Таня. Мы спыніліся на тым, што нават першыя ландышы, якія ты выпадкова купіла на рынку, таксама дэтэрмінаваны, бо нічога на сьвеце выпадковага ня бывае. Такім чынам, твае ландышы—цалкам дыялектычнае зьявішча і з гэтым мы цябе сапраўды шчыра, сапраўды з захапленьнем і сапраўды без усякага падробку вітаем. (*Раскаціўся вясёлы сьмех*).

Грушкіна. Ландышы. Ха-ха! (*Засьмяялася*).

Ён был шахцёр, прастой рабочы,
Служыл в данецкіх рудніках...

Алена. (*Моцна палажыла руку на гітару, прыцісьнула струны*). Моця. (*І спынілася, не знаходзячы слова*). Ты, не бранчы на гэтай тарантайцы і языком не махай. Бо, ведаеш, за гэта я магу ня так махнуць...

Варка. От іменна.

Грушкіна. Я магу ня толькі не бранчаць, а нават не размаўляць з вамі. Думаеш, ня ведаю для чаго прынесла з рынку вось гэта барахло? Калі ласка. Ён мне не патрэбны. Можаш абсыпаць яго ландышамі... на гэтым, пакуль што ауфвідэрзэйн. (*Узяла кніжкі, вышла*).

Алена (*пацісьнула плячыма*). Давайце-ж нарэшце працаваць. (*Хапае кніжку, гартае яе і не прыкмячае, што дзяўчаты панахмурваліся, кожная нібы замкнулася, пасьля выхадкі Грушкінай*).

Грыцэнка. Вось-жа на злосьць—пайду, вазьму Тарасаву сарочку і зашыю. Ён мне ўсёроўна, адналькова, ці ён ёсьць, ці яго няма. А вазьму й зашыю. Бо хлопец абадраўся, ходзіць, як ад галінкі адарваны.

Дзяўчаты. Сапраўды. Хлопцы ўсе паабдзіраліся.

Алена. Маладзец, Кацярына. (*Горача абняла яе*)). Хадзем. І Мося ходзіць драны, і... І ўсе хлопцы...

Таня. І Коля Няронаў. (*Засаромілася*).

Мамаева. Сыстэматычна ўсім пазашываць... (*з узьнятым настроем выходзяць*).

4

Праз хвіліну ў пакой увайшоў Няронаў. Таксама ландышы ў руцэ. Увайшоў, паглядзеў блізказорымі вачыма, зьняў акуляры, працёр, зноў паглядзеў.

Няронаў. Няма. (*Засмуціўся. Падыйшоў да гітары і брынкнуў аднэй струною*). Н-да. Звук—гэта хілітаньне паветра. Хм. От, чорт яго... Простая штука, а Хмыраў пяць разоў пасадзіў мяне... (*Ідзе да дзьвярэй*).

5

Смала (*запыхаўшыся прыбег, спыніўся*). А, Нярон! Ніяк не спадзяваўся. Што ты робіш тут самотны ў атачэньні жаночых туалетаў?

Няронаў. Я? Так, ведаеш.. Зайшоў... хацеў кніжку пазычыць. (*Ландышы схаваў за сьпіну*).

Смала. Якую?

Няронаў. Ды... біолёгію. Рашыў пачытаць. Вясна, ведаеш, паветра такое, чорт яго.., А заўтра залік.

Смала. Біолёгію. Калі ласка. У мяне вольная. (*Дае сваю кніжку*) Бяры, ды йдзі на сьвежае паветра, бо дрэнна выглядаеш. Вучыся, Нярон, вучыся. Навука ўзьнімае душу.

Няронаў. Н-да. Звук ёсьць хілітаньне паветра (*Выйшаў*).

6

Смала прайшоўся па пакоі. Спыніўся ля стала. Узяў кніжку, разгарнуў і прачытаў.

— Капітал:

Павярнуўся. На яго ўглядаецца з портрэта стары Маркс. Смала падышоў, устаўіўся, глядзіць.

7

Алена (*вярнулася нечага, увайшла у пакой*). Смала? Чаго?

Смала. Нарэшце! Мушу пагаварыць.

Алена. Пра што? Коратка.

Смала. Я прышоў заявіць, што хоць я, пакуль што і беспартыйны, а зьдзекавацца з сябе і з грамадзкае работы не дазволю, калі хтосьці ня прыходзіць на пасяджэньне профкому, а я, як дурань, павінен чакаць па тры гадзіны, дык дазвольце мне заявіць пра гэта ў вочы сабатажнікам, якія зрываюць...

Алена (*гостра перабіла*). Хто зрывае? Кажы!

Смала. Ды хто-ж? Шкіндэр, Тарас, уся гэта вядомая кампанія. Сядзеў, сядзеў, як дурань, чакаў іх. Няма. Ігнаруюць.

Алена. Трапач! Ня ведаеш, што яны нагружаюць параход? Ці мо, думаеш, што яны гэта робяць для гімнастыкі?

Смала. Мяне гэта ня тычыцца. Грамадзкая работа вышэйшая за шкурныя інтарэсы! А ты на мяне крычыш. Я не халуй.

Алена. Ты...

8

За дзьвярыма гоман: „Асьцярожна": „Адчыняй дзьверы". Хлопцы ўнесьлі на руках Мосю Палажылі на ложак,

Алена (*нарэшце ўцяміла*). Што гэта значыць?

Цярэнь. Мосю... пабілі... Дай чыстае вады, трэба яго асьвяжыць.

Смала. Шкіндэра? (*забегаў*). Сволачы! Мосю Шкіндэра?

Алена. Хто?

Цярэнь. Мы яшчэ ня ведаем.

Хлопцы (*глуха*). Уведаем...

Смала. Гэта неймаверна. У нас яшчэ цьвітуць пагромы! Трэба абраць камісію, якая возьмецца і адшукае злачынцаў...

Коця. Я бачыў, як адзін уцякаў ад склепу. А хто—не пазнаў.

Смала. Не пазнаў! Дурань ты, Коця, пасьля гэтага.

Коця. Сам ведаю, што дурань.

9

Прыбегалі дзяўчаты.

Таня. Алена, даставай ніткі! У Мосі... (*і спынілася*) Што гэта ў нас?

Алена. Цішэй, ён няпрытомны. Яго пабілі... (*Прылажыла Мосю да ілба ручнік*).

Мося (*чуць прыкметна зварухнуўся*). Вады... Кроплю...

Смала. Ух... сволачы! Я йду!

Цярэнь (*рэзка павярнуўся*). Куды?

Смала. У міліцыю. Трэба ўсю міліцыю на ногі! (*Выйшаў. Усе паглядзелі яму ўсьлед*)

*ЗАСЛОНА*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

*1925-1926 г. г.*

### VIII. Бактэрыі пашыраюць тэрыторыю.

Прыёмны дзень у рэктара Гармаша. Зялёны масыў стала і цёмна-залацістае поле кніг на паліцах.

Качарга (*стоячы гаворыць Гармашу*). Альбо яны нас, альбо мы іх. Гэта ясна, як дзень.

Гармаш. А ўсё такі—яны нас, ці мы іх, як вы гадаеце?

Качарга. Я не гадаю, а ўпэўнены, што мы іх.

Гармаш. Верыце?

Качарга. Калі-б ня верыў—не змагаўся-б.

Гармаш. Добра. (*Сьціснулі адзін аднаму рукі*).

Качарга. Сумненьняў няма і ня можа быць. Асабліва цяпер, калі нашага палку прыбыло. Гэта добра, гэта больш чым добра, што вы сталі профэсарам. Ну? Яшчэ раз вітаю. Да вечара.

Гармаш. Да вечара. (*Качарга выйшаў*).

2

Гармаш. Прашу, хто там!

3

Увайшла Юля Булатовіч.

Гармаш (*паказаў на крэсла*). Слухаю вас.

Юля. Я.. у мяне адно запытаньне. У вас вучыцца студэнт Галашчук.

Гармаш. Галашчук? Не. Такога прозьвішча я ня помню.

Юля. Мне трэба яго знайці. Ён вучыцца. Трэба знайці.

Гармаш. Аднак я нічым не магу вам памагчы. Такога студэнта ў нас няма.

Юля. Не, ён павінен быць! Вы... вы забыліся, памыляецеся, ня ведаеце. Я прашу праверыць сьпіскі, расшукаць.

Гармаш. Ладна. Я магу запытаць канцылярыю, каб заспакоіць вас. Праз паўгадзіны пазванеце па тэлефону.

Юля. Дзякую... Добра... Я пазваню... (*Разгублена абводзіць вачыма габінэт і хутка выходзіць*).

4

Стукнула і ўляцела ў габінэт Кіра Богаяўленская.

Кіра. Можна? Студэнтка Богаяўленская.

Гармаш. Пажар, ці што?

Кіра. Плату налажылі. Гэта-ж як выходзіць? Чаму на мяне налажылі? Таму што я профэсарава дачка? Выходзіць, што профэсар Богаяўленскі надумаў сабе нарадзіць дачку, а я адказвай? (*Стук у дзьверы*). Няхай-бы ён не нараджаў, які мне інтэрас? Я нарадзілася-б ад каваля альбо ад сьлесара. (*У дзьверы стукаюць мацней*). Пачакайце, хто там стукае.

Гармаш. Прашу.

5

Увайшоў профэсар Богаяўленскі.

Кіра. Чаму ён не запытаў, ці хачу я, каб ён мяне нараджаў?

Богаяўленскі. Кіра, што ты кажаш? Ты разумееш, што ты кажаш?

Кіра. А, гэта вы, прафэсар? Цудоўна. Я добра разумею, што я кажу А вось ты, мусіць, дрэнна служыш Савецкай уладзе, калі на мяне накладаюць плату за права навучаньня?

Богаяўленскі. Я? Кіра?

Кіра. Так, так. Ты прасоўваеш свае трухлявыя ідэалістычныя канцэпцыі. Твае лекцыі ня маюць нічога супольнага з марксызмам, а я адказвай? Дудкі. У мяне свой цар у галаве.

Гармаш. Маеце да мяне справу?

Богаяўленскі. Я, уласна, хацеў пагаварыць з вамі аб гэтай самай плаце. Ты можаш ісьці. Дома я табе пакажу, які ў цябе цар у галаве.

Кіра. Дамастрой? Ну, гэта ўжо дудкі. Я сама аб сабе магу пагаварыць. Студэнтка я, а ня вы. А вы, прафэсар, ідзеце і пастаўце сабе на пячонку компрэс. Вам ня можна хваляваццa, вы чалавек стары і нэрвовы.

Богаяўленскі. Я прашу прыпыніць! Вы рэктар. Вы дазваляеце студэнтам абражаць прафэсара. Няхай яна давядзе, якія ў мяне ідэалістычныя канцэпціі...

Кіра. Імпэрыялістычныя канцэпціі.

### 6

Узайшлі студэнты — Алена, Цярэнь, Няронаў, Тарас, Кацярына, Мося. Мося кульгае на адну нагу, перабілі. У руках папкі.

Мося. Можна ўзайсьці? Ці тут важныя размовы?

Кіра. Вось няхай яны скажуць.

Цярэнь. У чым справа?

Гармаш. Таварышка Богаяўленская абвінавачвае прафэсара ў тым, што ў яго лекцыях ёсьць імпэрыялістычныя тэндэнцыі. Так вы сказалі?

Кіра. Так.

Богаяўленскі. Ой! (*схапіўся за сэрца, пасьля наліў вады і выпіў*). Я буду скардзіцца ў цэнтр.

Алена. Дарэмна. Калі хочаце, прафэсар, праўда не на вашым баку. Скажам проста: казалі вы на лекцыях, што бактэрыі, вырастаючы на пажыўных асяродках, прагнуць пашырэньня свае тэрыторыі, як і кожная, маўляў, культурная нацыя?

Студэнты. Так. Казалі. Усе чулі.

Цярэнь. Гэта-ж якая, па вашаму тэндэнцыя? Пролетарская?

Студэнты. Імпэрыялістычная.

Богаяўленскі. Але прашу. Гэта-ж факт, што бактэрыі прагнуць пашырэньня тэрыторыі.

Тарас. Ну так. Гэта факт. Але які з гэтага вывад? Хіба мы бактэрыі?

Няронаў. Н-да. Не марксыцкая, а нейкая бактэрыяльная тэорыя.

Цярэнь. Навошта вы біолёгічны закон падтасоўваеце пад соцыяльны?

Мося. Гэта папершае. І падругое — прабачайце, профэсар, нам цікава ведаць, што-б хацелі вы? Каб мы захаплялі, ці каб нас захапілі „культурныя“ нацыі?

Богаяўленскі. Ерунда-с. Ня вам, маладыя людзі, вучыць мяне. Я пасівеў на бактэрыях.

Цярэнь. Мы вельмі паважаем сівізну, але нам пажадана, каб профэсар ня толькі сівеў, а пачырванеў на савецкай катэдры.

Кіра. Чулі профэсар? А я вам што казала?

Богаяўленскі (*успылеў*) Я... вы мяне... (*мяняе тон*). Я падумаю пра тое, аб чым вы мне так далікатна намякнулі. Студэнты пачынаюць вучыць профэсара. (*Выйшаў*).

Кіра. Цяпер без кампрэса не абыйдзецца... (*Выйшла*).

7

Кацярына. Вы нас, а мы вас вучым.

Мося. Гэта называецца сымбіоз.

Гармаш. Не, гэта называецца „хто каго“. Але змагайцеся-ж умела. Ня кідайцеся на людзей, як мядзьведзі. Вы-ж перапужалі яго.

Цярэнь. Нічога. Трохі каструбавата вышла, затое здарава (*кашляе*). Стары злуецца, бо сам разумее свае памылкі. Хацеў абаперціся на малодшых выкладчыкаў, але тыя з намі. А са Сьлёзкіным у яго таксама контры. Ну, вось і пераацэнка каштоўнасьцяй. Пабачыце, ён яшчэ пачне вывучаць марксызм.

Гармаш. Дык-жа будзьце мудры і ўважлівы. Трэба абкружыць яго ўвагаю, каб чалавек адчуў гэта. Вось глядзеце, Воранаў канчаткова парваў са Сьлёзкіным.

Тарас. А праўда. Мы гэта адчуваем.

Гармаш. Цяпер яшчэ трэба адваяваць профэсара Кукушкіна. Тады Сьлёзкін застанецца бяз арміі. Качарга зараз спэцыяльна ўзяўся за гэту справу. А вы яго падтрымайце.

Кацярына. Качарга, гэты наш. Ён зробіць. Ён такі. Ня спужаецца Сьлёзкіна.

Алёша. Ух, Сьлёзкін. Я ўпэўнена, што Белы піша яму з-за кардону дырэктыўныя лісты. А найгорш тое, што за Сьлёзкіным ідзе ўвесь штат яго асыстэнтаў і частка студэнцтва.

Цярэнь. А гэтую частку студэнцтва вядзе Смала. Ужо прысмактаўся да катэдры. Гнаць трэба. (*Кашляе*). Чакаю яшчэ адказу на адзін мой ліст. Калі адна рэч будзе пацьверджана, тады крышка.

Гармаш. Пара ўжо. Далей.

Алена. Сустрэча з рабочымі. Ваш даклад.

Гармаш (*запісаў*). Даклад. А вось што, таварышы. Даклады—усё гэта добра, але ліквідуйце свае хвасты. У некаторых па два, па тры хвасты. Буду націскаць не шкадуючы.

Цярэнь. Ну, добра, добра. Без націсканьня ліквідуем. Вось (*Паказаў ліст*). Свае з Данбасу пішуць. Новую шахту адкрываюць. Людзі патрэбны, ды якія людзі! Так што ліквідуем, ня турбуйся. А ты нам вось што: памяшканьне дай для гурткоў. Няма дзе працаваць. Студэнты адстаюць ад палітычнага жыцьця.

Гармаш. Для профгурткоў—ніжні паверх пры рабфаку.

Студэнты. Вельмі добра.

Мося. А то насі на сабе ўсю канцылярыю, як вярблюд у пустыні аравійскай. А тут яшчэ і транспарт з аднаго боку папсаваны. (*Прачыкіляў па габінэце*).

Гармаш. Усё? (*Звоніць тэлефон. Узяў трубку*). Так. Слухаю. Зараз. (*Да студэнтаў*). Я на хвілінку. (*Выходзіць у другі пакой*).

9

Тарас. Значыцца, справа гатова? Ну, вы тут, таварышы, канчайце, а мне трэба пайці. Пойдзем, Кацярына. Маю табе нешта сказаць (*узяў яе пад ручку*).

Кацярына. Ага? Глядзі, павывучваліся пад ручку... (*Сьмех. Тарас і Грыцэнка выйшлі*).

10

Мося бачыць, што Цярэнь таксама хоча „нешта сказаць" Алене. Бярэ пад ручку Няронава.

Моця. Пойдзем, філёзаф, я таксама маю нешта сказаць табе... Такая наша доля. Не забудзься толькі, Алена, што нам скора трэба йці на пасяджэньне прадметнае камісіі. (*Выйшаў з Няронавым*).

11

Застаўшыся ўдваіх, Цярэнь і Алена нейкі час не знаходзяць слоў.

Цярэнь (*кашлянуў*).

Алена. Зноў? Цярэша, я, нарэшце, пастаўлю пытаньне на бюро. Ты павінен пакінуць работу. Паехаць у водпуск. Адпачыць.

Цярэнь. Пакінь, Алена. Нікуды я не паеду. Ня так многа засталося часу да заканчэньня, і яго нельга скарыстоўваць на адпачынак. Апрача гэтага, я ня кіну справы са Смалою, пакуль не давяду яе да канца.

Алена. Не. Ты павінен паехаць.

Цярэнь. Даволі, Алена... Давай лепш пра што іншае... мы з табою так рэдка гутарылі аб чым-нібудзь іншым, апрача студэнцкіх спраў. Зусім рэдка. Я баюся... каб мы ня сталі зусім чужымі.

Алена (*горача*). Цярэша! Ты нічога ня ведаеш, таму й кажаш так.

Цярэнь. Праўда, Аленка? Ну... ну... Я-ж хачу толькі сказаць, што жыцьцё добрае. А ты кажаш—ехаць. Разам, Алена, паедзем. На Данбас

паедзем. Вось (*паказвае ліст*). Шахты новыя адкрываюць. Завод новы пачалі будаваць. Ад ліста агнём вее. А людзей — сваіх мала. Крычаць хлопцы. Ну? Дзе-ж тут адпачываць?

12

Нечакана ўвайшоў Антоніо.

Антоніо. Цудоўна. Бачу сяброў перад разлукаю.

Цярэнь. Перад якою разлукаю, чорт бы цябе ўзяў?

Антоніо. Пакідаю вас. Даволі. Пераходжу на вобразатворчае мастацтва. Рэктара няма? А я прышоў па дазвол.

Алена. Антоніо, не рабі глупства. Знайдзі грунт, інакш прападзеш. Чаго ўцякаеш?

Антоніо. Эх, Алена! Не хацеў вам гэтага казаць, але скажу. Ад вас уцякаю, ад усіх вас. Як хочаце, так і разумейце. Не магу. Вось так магу зрабіць... (*паказвае вядомы ўжо рух нажа на грудзях: уніз і пад простым кутом у правы бок*). Нудна мне. Вы, вось, змагаецеся, засядаеце, бегаеце, профком, парт'ячэйка, акадэмаддзел, сходы, спрэчкі. А якая рацыя? Усё роўна возьме сьмерць і канец. Усяму канец. Вы думалі пра гэта? Прыдзе сьмерць і нічога вам тады ня трэба. Ні палітыкі, ні барацьбы. Вы толькі зразумейце: ні-чо-га! Бязьдоньне. Цёмная ноч. Абсалютнае „нічога". А пакуль што—жыцьцё цячэ міма, як вада.

Цярэнь. Усё прыгожымі славечкамі забаўляемся. А ты зразумей, што дробная буржуазія для таго й падгатоўвае сваю інтэлігенцыю грэцкаю кашаю, каб яна „прыхарошвала" яе дрэньненькае, безнадзейнае дробнае жыцьцё. Ідэалізмам, ды прыгожымі словамі. (*Кашляе*). Вось што такое твае ўпадніцкія „тэорыйкі".

Антоніо. А ведаеш, мой сябра, ты дрэнна выглядаеш. Трэба адпачыць. (*Звоніць тэлефон, узяў трубку*). Я слухаю. (*Да Цярэня*). Цудоўны жаночы голас. (*У трубку*). Так, габінэт рэктара. Што? Не, такога студэнта няма. У сьпісках? Нідзе няма. Я ведаю. Можа ў іншым інстытуце. Але... пачакайце. Як жа вы яго згубілі? Вы слухаеце? Хвілінку! Вы ня слухаеце? Чорт! Яна ўжо ня слухае. (*Палажыў трубку*). Вось гісторыя. Жонка шукае свайго мужа. Вось вам жыцьцё... Да рэчы. Ты ведаеш каго я бачыў? Жанчыну з твайго партрэта. Божэсьцьвенная жанчына. Я йшоў за ёю паўгадзіны. Пада мною хісталася зямля...

Цярэнь. Ты бачыў?

Алена. Дзе?

13

Увайшоў Гармаш.

Антоніо. Таварыш рэктар, я пакідаю вам інстытут.

Гармаш. Вітаю.

Антоніо. Прашу дазволу перайці ў інстытут вобразатворчага мастацтва.

Гармаш. Не супярэчу. Вы выпадкова патрапілі да нас. Падайце заяву.

Антоніо (*асекся*). Значыць... канец? Добра, напішу заяву. (*Выйшаў*).

14

Увайшоў насустрач Мося.

Мося. Куды гэта ён?

Гармаш. Ня вытрымаў.

Мося. Шкада. Але нам трэба йці на пасяджэньне прадметнай камісіі. Чакаюць.

15

Антоніо вярнуўся да Гармаша.

Антоніо. Тут званілі, пыталіся студэнта Галашчука, я сказаў, што такога ў інстытуце няма.

Гармаш. Так. Я запытваў канцылярыю, няма. (*Антоніо выйшаў*).

16

Цярэнь. Студэнт Галашчук? Антоніо! (*Выбег*).

Мося. Галашчук? Чакайце... (*таксама выбег*).

17

Гармаш (*да Алены*). Яны ведаюць яго? Ды дзе-ж ён? На якім курсе?

Алена. Ня ведаю.

Гармаш. Ёсьць навіна. (*Дае ёй паперку*). Як яна вам здаецца?

Алена (*прачытала*). Вы—профэсар? Далі катэдру?

Гармаш. Як бачыце. На конкурсе я прайшоў першым.

Алена. Вось гэта я разумею. Чаму-ж вы пры ўсіх не сказалі? (*з захапленьнем паціснула яму руку*). Вітаю. На нашай вуліцы сьвята

Гармаш. Дзякую.

Алена. Вы шчасьлівы. І мы за вас, профэсар Гармаш, страшэнна рады. Гэта-ж такая перамога. Сапраўдная перамога. Пабягу да таварышоў. Скажу ім гэтую радасную навіну. А як Цярэшка ўзрадуецца. Ён вас любіць нейк асабліва... глыбока. Ён кажа, і гэта, бясспрэчна, праўда, што вы ўсіх нас узьнесьлі на вялічэзную вышыню. З руін, з хаосу ўздымалі інстытут, арганізоўвалі яго і нас. Успомніце, якія мы былі, калі прышлі сюды... (*Глянула на яго і спынілася*). Хіба гэта ня праўда?

Гармаш. Мажліва, што праўда. Вам відней.

Алена. Так. Нам відней. Ну, вітаю яшчэ раз. (*Цісьне яму руку*). Я йду (*Выйшла*).

Гармаш. Куды-ж вы?

18

У дзьвярах зьяўляецца Смала.

Смала. З катэдры мяне зрываеце? Бедняка? За што зрываеце?
Гармаш. Хто вам дазволіў увайці?
Смала. Як гэта? Мяне з катэдры зрываюць!
Гармаш (*залаваўшы*). Прэч адсюль к чорту!!!

(Смала зьнікае).

19

Гармаш усхвалявана прайшоўся па габінэце, адчыніў акно. Грузная музыка гораду ўварвалася ў пакой. Дзесьці на заводзе загуў гудок. Гармаш падыйшоў да рабочага стала.

## IX. Замыкайце кола

1

Восень. Падае з дрэў залатое лісьце. Вецер мяце яго па алеі бульвару. Вецер кружыць яго ў паветры, падсьвіствае, падыгрывае яму пад сумны танец. На лаўцы ляжыць Коця. Ногі задзёр на сьпіну лаўкі, чытае.

Коця. А, плюс бэ, скобка, цэ плюс дэ, скобка... (*усхапіўся*). Гад. Ух, гадзіна. Ну, цяпер мы табе пакажам. (*Зноў лёг і, злосна адцінаючы словы, зноў пачаў*). А плюс бэ, скобка, гадзіна!

2

Шпарка падыйшла Алена.

Алена. Коця. Што робіш?

Коця (*усхапіўся*). Га? (*твар расплыўся ўсьмешкаю*). Напужалі. Якраз заглыбіўся быў у навуку.

Алена. Што чытаеш?

Коця. Зубрачу складаньне адначленаў. Ох і цяжка. Скобка заядае. Ма' быць не пабару.

Алена. Ня дрэф, Коця. Пабораш. Будзеш на рабфаку, ручаюся. Але аб гэтым пасьля. А цяпер кажы: даведаўся? Ну?

Коця. Усё ўведаў. Шпак пакінуў вольную жызьнь, усё сказаў па праўдзе. Смала быў, падкупіў. Калі-б мы тады не наскочылі, яны-б Мосю насьмерць укоцалі.

Алена. Яшчэ не такое будзеш ведаць, Коця. Мяне ўсю трасе. Дзе Цярэнь?

Коця. Там, у тым канцы. Там многа народу. Нешта ім даказвае. А ў самога вочкі, то белыя стануць, то як агонь. Ну, куды гэта гадзіцца! Калі-б мая воля, я-б яго выключыў са студэнтаў месяцаў на тры. Які быў гвардыён, а цяпер вунь які стаў.

Алена. Шкада, Коця, ня слухае ён нас (*нэрвова закусіла губы*). Ня слухае.

Коця. І вас ня слухае? А вы з ім так... па-харошаму... каб паслухаў. От я, дык паслухаў-бы вас, што-б ні сказалі — усё зрабіў-бы. Ну от... узьлез-бы на высокі будынак, скокнуў-бы на брук, каб толькі вам было добра і каб таварыш Цярэнь паслухаў.

Алена. Рыцар мой галадраны! Лепей не скачы. Смалу выкрыем, зробім у інстытуце чыстку — тады прымусім Цярэня легчы ў бальніцу (*Рашуча, амаль з пагрозаю*). Прымусім. Хадзем туды.

Коця. Не, я тут—сачу. За Смалою.

Алена. Добра. (*Пайшла*).

3

Коця. Ну, гад смаляны! (*злосна разгарнуў кніжку і забубніў*) Складаньне адначленаў называецца... бандыст падмочаны... аш у галаву ня лезе. Плюс. Плюс. Плюс.

4

Прайшла Мамаева. Яна шэпча і час ад часу заглядае ў кніжку. Крыху счакаўшы ідзе Няронаў, глыбокадумна прыткнуўшы палец да ілба. Прайшло яшчэ некалькі студэнтаў. Коця ні на каго не зьвяртае ўвагі.

5

Прыйшоў з кніжкаю Смала. Сеў на лаўку. Буркнуў на Коцю.

Смала. Ану мне! Ня бубні тут.Ракляня!

Коця (*яшчэ мацней*). Плюс! Плюс! мінус. Гадзіна! Скобка!

Смала. Ты скобка. Каму сказана?

Коця. Уйдзі, а то міліцыянэра паклічу. Таварыш міліцыянэр! Да мяне прыстаюць.

Смала. Маўчы, вуркаган! Ракло. (*Павярнуўся да яго сьпіною*).

Коця. Ад такога чую. (*Таксама павярнуўся сьпіною*). Быў вуркаган, ды няма, увесь выйшаў. А ты, як быў гад смаляны, такім і застаўся, яшчэ й пабольшаў. Так што ня лайся вульгарнымі словамі.

Смала. Цьфу. Зараза. (*Устаў, перайшоў на другую лаўку, што насупроць*).

Коця. Што, слаба стала? Пачакай, мы скора пабачым, хто зараза, а хто чэсны памоцнік качагара пры студэнцкім агульным памяшканьні. Усе пабачаць...

6

Па алеі ідзе Юля, а за ёю назіркам—Антоніо. Коця ўпусьціў кніжку, увесь выструніўся, выцягнуў шыю, раскрыў рот ад зьдзіўленьня, калі Юля стомлена й нерашуча падыйшла да Смалы.

Коця. Цяпер каюк... (*усхапіўся, пабег да студэнтаў*).

7

Юля (*не глядзіць на Смалу, пытае*). Студэнцік... екушна? Можа пойдзем?..

Смала. Праходзьце, цыпачка. Ня маю грошай. Студэнту недаступна гэтая раскоша.

Юля (*страшэнна зьдзіўлена*). Гляньце на мяне.

Смала (*міжвольна падняў галаву. Ад жаху вытарашчыў вочы. Кніга выпала з рук*). О...

Юля (*ціха, злоўцешна засьмяялася*). Нарэшце...

Смала. Ты?..

Юля. Так. Я. Ты стаў сапраўдным консьпіратарам. Цябе ня лёгка было знайці.

Смала. Я бядняк (*незаможнік*). Чуеш? Я ня ведаю цябе.

Юля. Сапраўды? Тады я напомню. (*З вялікаю нянавісьцю*). Дачка двараніна Булатовіча. Памятае свайго пажа Паповіча Юрку Галашчука. Гэта-ж мы разам растрэльвалі. Ты навучыў мяне страляць з кулямёту. Ты кляўся тады, што да канца будзеш біцца за мяне, за бацьку, за ўсё, што ў нас было і чаго цяпер няма. Паглядзі-ж, на якім цікавым „заняцьці" я цяпер. А ты—з імі. Давай пасквітаемся.

Смала. Рахункі? (*Аглядаецца, ня прыкмеціўшы Антоніо, хоча ўчарэпіцца пазурамі ў яе горла*).

Антоніо (*кідаецца да іх*). Прабачайце, калега. Але мне здаецца, што вы былі недалёка ад таго, каб абразіць гэтую жанчыну. Эй, сябры мае, сюды!

8

На кліч Антоніо прыбягае група студэнтаў на чале з Цярэнем.

— Што тут?

— А-а... Галашчук!

— Пра воўка размоўка... а ён тут.

Тарас. Яна жанчына, што на портрэце!

Антоніо. Гэты валкалак замахнуўся на гэтую трагічную жанчыну. (*Папраўляе ў яе на плячах шарф*).

Няронаў. Гомо гомоні люпус ест... Выраз Плаўта, разьвінуты Гобсам. (*Зьняў акуляры, хукнуў на іх, працёр і дадаў*). Чалавек чалавеку—воўк. А гэты воўк—ты, Галашчук. І ня проста воўк, а клясавы.

Юля. Ну... вось... і канец...

Антоніо (*рвануўся да яе, застыў, з выглядам спачуваньня*). Я бачыў ваш портрэт...

Цярэнь (*бледны, худы, хваравіта бліскае вачыма*). Таварышы! Абкружайце—Галашчука. Замыкайце кола. Цясьней плячо к плячу, каб ён ня прабіўся праз нашы рады, ня шуснуў на другі канец рэспублікі. Мося, будзь мужным, глянь яму ў твар. Запытай яго, дзе твой бацька і брат. Бядняк? Сукін сын!! (*Закашляўся, прылажыў хустачку да рота*).

Алена (*адняла хустачку, з жахам глянула на яе*). Цярэнька! Што гэта? Ты зараз павінен іці адсюль.

Цярэнь. Маўчы, Алена. Кажы, Мося.

Мося (*ледзь пачынае гаварыць, далей усё больш хвалюецца, нарэшце, даходзіць да роспачы*). Я... хачу сказаць... вось што... Ты забіў старога рымара Ёселя Шкіндэра. Ты забіў таксама маладога шаўца Абрама. І ня ведаю яшчэ каго... Але гэта... гэта так... гэта—зразумела, бо ты быў камандзірам пагромніцкага атраду. Але, як ты пасьля гэтага прабыў з намі доўгія чатыры гады? Як? Я... дыхаў адным з табою паветрам! І толькі цяпер... аж цяпер мы знайшлі цябе. Чуеш? Мёртвая яўрэўская галота... разарваная... з вырванымі языкамі... Таварышы.. я... не магу... гаварыць...

Алена. Мося... (*абняла яго*).

Прадка. Мося, сябра... Заспакойся... Будзь гэрой...

Цярэнь. Бярэце.

Смала. Брэшаце! Ня зьнішчыце! Аднаго зьнішчыце—дзесяць застанецца! Сто! Тысяча народзіцца!

Цярэнь. А нас мільёны.

Студэнты (*натапырыліся, азьвярэлі*). А-а-а! (*адзін момант і яны разарвуць яго*).

Смала (*раптам сьціснуўся і ўтраціў усю сваю ўпэўненасьць*). Ня беце... Усё... усё прапала... Усё... ня беце... Я-ж абясьсілены... ня беце...

Кацярына. Бі, Тарас!

Тарас. Б'ю клясавага ворага.

Цярэнь. Толькі не кулаком. (*Цісьнуць Галашчука, ён стуліўся, адступае*).

Юля. А-а... (*пахіснулася*).

Антоніо. Вам дрэнна? Дазвольце я праваду вас дадому. Я магу даць вам свой пакой. Я доўга шукаў вас і я вас знайшоў...

Цярэнь. Замыкайце круг.

## IX. Мяшчанская слабада

Чуваць навойлівае, аднастайнае, як шэрая імжака, дзвынганьне балалайкі на 2—3-х тонах. І голас, які падпявае таксама нудна й аднастайна.

„Ой, барыня, цім-да-ра-да,
ой, барыня, цім-да-ра...
Ой, барыня, цім-да-ра-да,
ой, барыня, цім-да-ра“.

Паволі з суцэльня задняга пляну вымалёўваюцца глухія вароты са званком на дроце, Далей—брудныя, пакрыўленыя, абвешаныя хатнім „інвэнтаром“ сходы на „антрэсолі“, дзе разьбітага й залатанага шкла больш, чым цэлага. Расчыненыя дзьверы, кухня, пакой напоўсутарэньне з бруднымі вокнамі—пад „антрэсолямі“. Чэрава глухога мяшчанскага будынічка выглядае з вакон, з кухні, з кожнае шчыліны — сваімі сіткамі, самаварамі

геранямі, і бутлямі з настойкамі. На, „антрэсолях“ Бякеша, адзеты цяпер у цэрабкопаўскі піджак, наярвае на балалайцы—„спакушае“ дачку кумы. На сходах сама кума — затрымала бледнага, распатланага Антоніо, які ў распачы парываецца вырвацца і бегчы куды-небудзь. Кума, чырвоная, ад спажытых трункаў і неўгамонная ў сваіх дамаганьнях тупае шырокім, з шырокім плацьцем, задам на сходы і, трымаючы Антоніо за крысо студэнцкае тужуркі, усеўладна заяўляе:

— Ня пойдзеш!

Антоніо. Гэта вар‘яцтва. Гэта... вар‘яцтва Агафія Гаўрылаўна. Я мушу яе знайці...

Кума. Ня пойдзеш! (*лісьліва*). Антошачка, сукін ты сын. Мярзавец ты. Як-жа ты пойдзеш, калі ты чэсьць маю забраў... удовіну... я-ж табе, маланхольнаму, і гузік скрозь, дзе трэба, прышывала. І платы ня брала. А ты, як аддзякаваў? (*Уладна*). Як, пытаю цябе? Лампаду сьвяціла мірлікійскаму чудатворцу... малілася яму за наша супружаскае шчасьце. А ты благородную знайшоў? Трагічыцкую... каб яна табе павесілася на першай галіне. Ой-і-і.. няшчасная я ўдава... Ня пойдзеш кажу!

Антоніо. Пайду. Будзьце вы прокляты ўсе. Будзь ты проклята — мяшчанская слабада, што трымала мяне й ня выпусьціла да гэтага часу. Агафія Гаўрылаўна! Я праклінаю тыя гузікі, якія вы мне прышывалі. Праклінаю мірлікійскага чудатворца з лампадкаю... (*Вырываецца*).

Бякеша. Ой, барыня, цім-да-ра-да, ой, барыня, цім-да-ра.

Кума. Антошка! Антошачка... сволач ты маланхольная...

Антоніо. Дзе яна?.. Дзе тая чыстая, трагічная жанчына, што праляцела перада мною, быццам той мэтэор? і зьнікла...

Заціляпаўся званочак над варотамі нібы ў ліхаманцы.

Бякеша. Ой, барыня, цім-да-ры-да...

Манька. Ой, барыня, зво-няць, зво-няць...

Бякеша. Ой, барыня, цім-да-ра...

Антоніо. Яна! (*Бяжыць да варот*).

Кума. Антошка-а! (*Грузна падымаецца, бяжыць у кухню*). Дайце мне жалязка. Я раскавялю ей галаву. Жалязка мне.

## 2

Антоніо адчыніў калітку. Увайшла Юля.

Антоніо. Гэта вар‘яцтва... Ты зьнікла... Ты... здаецца, п‘яная? Юля!

Юля (*бледная, як сьмерць, хістаючыся йдзе да дзьвярэй*). Не... Я проста нанюхалася кокаіну (*раптам павярнулася*). Ты рыцар мой... Я прышла сказаць табе адну рэч... За тваё добрае сэрца, за тваю любоў... за твае словы, такія добрыя, такія салодзенькія, як сахарына... за ўсё, што ты мне хацеў даць і ня даў толькі таму, што сам ты, апрача салодзенькіх слоў, нічога ня маеш... я табе зрабіла адзін невялічкі падарунак... Ты яшчэ ня ведаеш пра яго, але скора будзеш ведаць... Так

і трэба. Ты-ж кволы і бясьсілы, як і я, дык і аднальковую долю са мною годны ты... хіба гэта ня радуе цябе. Мы згніем разам...

Антоніо. Пра што ты гаворыш?.. Што ты хочаш сказаць?

Юля. Ты кемлівы, мой рыцар. Ты ўжо ўгадаў. Я дала табе ў падарунак рэч, што складаецца з літар, якія сьвішчуць пры вымаўленьні гэтага сымпатычнага слова... кожная літара сьвішча... Вые і сьвішча... Адкрыта й нахабна ў твар воўчаму сьвету. А ты... ты не вінаваты... і я не вінавата... Тося мой... Тосік...

Антоніо. Што ты зрабіла? *(Ціха)*. Ты ўбіла маю веру... мой сьветагляд. Усё, чым я жыў... Ты разумееш? Усё!

Юля. Разумею, студэнцік мой. Я-ж некалі вучылася ў Смольным. Разумею. Ты чэсна служыў нам. Служыў за шчарбатую капейку. І жыў ценямі мінулага... а я толькі дапамагла табе пазнаць яго рэальнасьць... Але мне ўжо страшэнна круціцца галава... Я вынюхала тры порцыі кокаіну...

Антоніо. Рэальнасьць? А сьмерць ты бачыла? *(Бяжыць у сутарэньне)*.

Юля. Тосік!!! *(Бяжыць за ім. З сутарэньня чуваць енк)*.

3

Кума выбягае з жалязкам. За ёю—Бякеша з балалайкаю і дачка Манька з папяровымі кветкамі.

Кума. Дзе яна? Дзе трагічыцкая?..

Бякеша. Агафія Гаўрылаўна! Плюньце на ета дзела... Ой, барыня, цім-да-ры-да.

Манька. Мамінька. Вспакойце нэрвы.

Кума. Раскавялю жалязкам стэрву!

Бяжыць уніз да сутарэньня. Бякеша й Манька за ею. Кума у сутарэньні зьнікла.

Бякеша (*усьлед ей*). Агафія Гаўрылаўна! Яшчэ раз кажу: плюньце. Ой, барыня, цім-да-ры-да... (*і замёр на гэтай ноце*).

4

Кума выбегла з сутарэньня, глядзіць на ўсіх страшнымі п'янымі вачыма. За ёю Юля

Кума (*упусьціла жалязку*). Антошка...

Бякеша. Ну?

Кума. Зрабіў... вось так... (*Паказвае на грудзях: уніз і пад простым кутом—у правы бок*).

Юля (*бездапаможна ўзмахнула рукамі*). Панове... лёгічна... (*хацела падняцца на гару. Пахіснулася і ўпала на сходах*).

*ЗАСЛОНА.*

## ДЗЕЯ ЧАЦЬВЕРТАЯ

### XI. Генэральны бой

Вялікая аўдыторыя паўнютка наліта студэнтамі. Паміж сьвітэрвў і сарочак з косымі каўнярамі, відаць і белыя каўнерыкі, відаць і гальштукі. Маса прыхарашылася, хоць выглядае ня зусім парадна, але непараўнана з часам паступленьня ў інстытут, больш сьвяточна. Уважна даслухоўваюць выступленьне Алены Чарады. На яе запальныя словы вырываюцца воплескі і энэргічныя выгукі.

1

Алена *(з катэдры)*. Я пытаю: Што такое Галашчук? Хто ён? Ці ён адзін? (*шум*).

Голас (*выгукнуў*). Галашчук—гэта сыгнал! Цішэй!

Алена. Сыгнал! Цёмная кулацкая сіла прабуе падняць галаву. Таварышы! нас хочуць схапіць за горла...

Выгук. Назнарок сказана. Для распальваньня клясавае барацьбы!

Алена. Засуджаная гісторыяй кляса эксплёататараў на сьмерць намагаецца цяпер узяць нас тэрорам. А там крычаць, што гэта незнарок распальваецца клясавая барацьба. Хто крычыць? Ты! Чаго стуліўся? Хочаш памірыцца з ворагам? Але мы гэтага ня хочам. Мы не памірымся. Час праверыць нашы рады. Таварышы!

Выгукі. Правільна, Чарада! Прэч Галашчукоў з вышэйшае школы!

Алена. Таварышы! Прэч Галашчукоў з вышэйшае школы! Прэч пластуноў буржуазіі, паповічаў, кулачкоў, ворагаў пролетарскае навукі!

Грушкіна. Цішэй на паваротах!

Алена. А ты, Грушкіна, запамятай, што на гэтым павароце, за пагромнікам Галашчуком выляцяць з інстытуту ўсе яго аднадумцы й таварышы. Вышэйшая школа заваёвана нашаю кроўю, і яна будзе для нас і для тых, што прыдуць за намі, для тых, якія не здадуць нашых рэволюцыйных традыцый, панясуць іх далей, як несьлі мы—ад фронтаў, ад халоднага ветру, ад голаду—да тых дзён, калі мы расьцем, як полымя на ветры! (*Раптам грамавыя воплескі, шум*).

Выгукі. Так, Чарада! Правільна, Чарада!

Сьлёзкін. Я даўно прашу слова! Я прасіў слова.

Тарас. Даю слова профэсару Сьлёзкіну.

Галасы. Цікава. Даўно ня чулі.

Сьлёзкін. Шаноўная грамада! Энтузіязм—вельмі добрая рэч.

Тарас. Ня дрэнная.

Сьлёзкін. Дарагая рэч, каштоўная. Ультрадарагая рэч. Эм, да.

Воранаў. Нуці-с далей. Хе-хе.

Сьлёзкін. Але адным энтузіязмам нічога ня зробіш...

Выгукі. Правільна! Цішэй! Не перашкаджайце! Куды ён хіліць?

Тарас. Таварышы, паважайце прамоўцу.

Прадка. Цяжкае заданьне...

Аўдыторыя. Гу-гу! Цішэй! А! Не перашкаджайце! Гу! Га! Просім!

Сьлёзкін. Нічога ня зробіш. Апрача энтузіазму, патрэбны яшчэ веды, патрэбна культура, бадай у мікроскопічных дозах...

Выгукі. Амэрыка!.. У Колюмба хлеб адбіваеце?

Сьлёзкін. Дас іст айне альтэ гешыхтэ, але што-ж зробіш, калі гэтая ісьціна заўсёды новая, як сказаў поэт —дох бляйбт зі эвіг ной...

Тарас. Профэсар, ня пужайце нас Гэнрыхам Гайнэ, бо мы ўжо так сама пасьпелі прачытаць яго.

Аўдыторыя (*зашумела воплескамі*). От! Так! Ха.

Сьлёзкін. Вядома, можна ня даць профэсару выказаць сваю думку. Можна прымусіць яго маўчаць, затуліць яму рот. Гэта ўсё вы лёгка можаце зрабіць, нават вельмі лёгка, але што вы гэтым дакажаце? Уласную някультурнасьць. Толькі някультурнасьць.

Выгукі. Даволі! Зразумелі! Дэмагогія!

Алена. Профэсар, мы просім вас свае думкі пра культурны ўзровень гэтай аўдыторыі трымаць пры сабе.

Сьлёзкін. Добра. Я трымацьму іх пры сабе. Я заўсёды трымаю іх пры сабе (*сьмех*). Але я хачу сказаць, што нам патрэбны спэцыялісты. добра адукаваныя людзі, культурныя, дзелавыя і... усё такое іншае. Ультра патрэбны. Як удала сказаў адзін чалавек: патрэбны да зарэзу. А тут, я чую, зьбіраюцца выключыць траха не палову інстытуту. Каго-ж вы зьбіраецеся выгнаць? Тых, што патрэбны нам, значыць дзяржаве, хацеў я сказаць, патрэбны да зарэзу. Кім раскідаецеся? Вось, што цікавіць нас, профэсуру. Кім раскідаецеся? А энтузіазм, вядома, рэч добрая. Ультра добрая.

Выгукі. Зразумелі! Дзякуем. Будзьце здаровы!

Воранаў. Вось толькі дарэмна вы ад імя профэсуры гаварылі.

Богаяўленскі. Чэпуха-с і ерунда-с тое, што вы сказалі. Я пасівеў на бактэрыях і мала разумеюся на політыцы. Аднак, магу сказаць: чэпуха-с, ерунда-с.

Фіцкі (*высокім фальцэтам*). Слова! Чаму, цкаць. мне не даюць...

Тарас. Слова мае студэнт Фіцкі.

Фіцкі. Я, цкаць, узяў сабе, цкаць, слова, цкаць, каб коратка сказаць, цкаць, сваю думку. Таварышы, цкаць, можна крычаць і цюкаць, але, цкаць, варта было-б і падумаць. Профэсар, цкаць, Сьлёзкін, па сутнасьці сказаў глыбокую ісьціну. Страшэнна глыбокую, цкаць, ён, цкаць, што сказаў? Ён, цкаць...

Выгукі. Чулі! Не абараняй! Прэч з трыбуны!

Фіцкі (*фальцэтам*). Ён, цкаць, мае рацыю! Мы, цкаць, апрача агню, цкаць, нічога, цкаць... Мы, цкаць, ня маем... Цкаць, убогія, цкаць...

Аўдыторыя. Даволі, цкаць! Брахня, цкаць!

Фіцкі (*крычыць*). Убогія людзі, цкаць! Ня культурныя!..

Выгукі. Прэч! Згодніцтва. Буржуазны падлабузьнік! (*страшэнны шум*).

Тарас *(выйшаў наперад)*. Таварышы! *(Заціхлі)*.

Кацярына. Тарас, дай яму адказ.

Тарас. Па суці? (*усьміхнуўся*). Ды вось, таварышы, па суці. Калі настаў час ударыць клясавага ворага так, каб ён ужо ніколі ня ўстаў, тады супроць нас, як зброю, высоўваюць абвінавачаньне ў някультурнасьці і адначасна абграняюць культурнасьць нашых ворагаў. Старая гісторыя. Толькі вы забыліся, шаноўны профэсар Сьлёзкін, пра адну вельмі цікавую рэч. Менавіта: што прайшлі гады і мы ўжо ня тыя, якімі прышлі сюды. Залічаючыся ў вышэйшую школу ад рэволюцыі, мы не маглі як сьлед вытлумачыць, што такое рэволюцыя.

Сьлёзкін. А цяпер?

Тарас. А цяпер вы ня зможаце супярэчыць, што мы заўсёды прыкмячаем, калі вы на лекцыях беспардонна пачынаеце блытаць... (*сьмех, воплескі*). Выходзіць, што мы досыць узброіліся для таго, каб нават без палявога бінокля пазнаваць адкуль ворог паліць па нас з цяжкае артылерыі старога ідэалізму, папоўшчыны і містыкі. А другая ўльтракаштоўная для нас рэч, як вы кажаце, гэта той самы энтузіазм, які мы прынесьлі сюды з франтоў і ня ўтрацілі яго тут, не разбазарылі яго, а падкавалі, навукаю, тэорыяй Маркса і Леніна, так, што ён стаў у нас матэрыяльнаю сілаю. Цяпер і папрабуйце ўзяць нас голымі рукамі. *(Бурныя воплескі)*.

Выгукі. Брава! Тарас! Правільна, Тарас!

Тарас. А вы хочаце, каб мы ня прыкмецілі ворага, хочаце закрыць яго дзяржаваю, якая трэбуе кадраў. Моцны аргумант, але ён супроць вас, шаноўны профэсар. Кадры патрэбны, але якія? Свае, а не варожыя. Патрэбны такія кадры, для якіх соцыялізм — справа іхняга жыцьця. Ведайце, што ўсяму, што нам варожа, перагародзім шлях калючым дротам, ня выпусьцім яго з гэтых сьцен з мандатам чырвонага спэцыяліста. Вось і ўсё, што я хацеў сказаць.

Выгукі. Правільна, Тарас! Правільна, Рабацяга! Правільна!

— Дэмагогія!

— Прэч падлабузьнікаў!

Качарга. Таварышка Чарада!

Алена. Слова мае профэсар Качарга. (*Воплескі*).

Качарга. „Кім раскідаецеся, вось што цікавіць нас, профэсуру". Так сказаў профэсар Сьлёзкін. Формула абсолютна правільная — нас вельмі цікавіць, хто застанецца нашым слухачом, а хтоназаўсёды пакіне сьцены вышэйшае школы. Толькі цікавіць нас гэта зусім ня так, як цікавіць профэсара Сьлёзкіна. (*Шум, воплескі*).

Сьлёзкін. Я протэстую! Гэта інсынуацыя...

Качарга. Інсынуацыя? Вы кажаце, што я маню?

Аўдыторыя. Гэта подла.

Качарга (*грамавым голасам*). А ліст ад Белага з Парыжу? Ліст Белага, які ходзіць па руках профэсуры! Гэта што, пытаю вас? Ліст,

які пашырала галашчукоўская кампанія. Інсынуацыя? (*Выняў ліст, чытае*). „Ня падайце духам, верце і майце надзею. Час вызваленьня наблізкаецца. Мы куем новы булат, вы-ж рыхтуйце на месцы кадры, выкоўвайце дух праваслаўнага народу, каб ён гатовы быў прыняць богаданную нагароду за ўсе свае пакуты, у якіх ён столькі гадоў жыве пад чырвоным ботам барбара"...

Аўдыторыя. Інтэрвэнцыя! Наступ. (*Узьняліся на парты, нейгамонны крык*).

Выгукі. Таварыша Гармаша! Рэктара! Слова профэсару Гармашу.

Тарас. Спакойна! Апошняе слова мае рэктар інстытуту, профэсар. Гармаш. (*Авацыя*).

Гармаш. Усё ўжо сказана. Усё ясна й зразумела. Змагаюцца два сьветы. Імпэрыялісты знаходзяць тут сваіх агентаў. Мабілізуюць сілы супроць рэволюцыі, супроць новага сьвету, супроць вялікага будаўніцтва соцыялізму.

2

Прыбег Мося Шкіндэр. Ён усхвалёваны, але не перапыняе прамовы Гармаша

... дзеля якога пролетарскі студэнт аддае сваё жыцьцё. Жыцьцё, якое ён надарваў у барацьбе з такімі сукінымі сынамі, як Галашчук...

Алена. Мося! Яму дрэнна?

Мося. Яму зусім дрэнна. З горла кроў. Ён няпрытомны. (*У аўдыторыі цішыня*).

Алена. Што-ж рабіць?

Гармаш. Зараз-жа ідзеце туды. Таварышы, адзін з найлепшых студэнтаў... лепшы з нашага пролетарскага колектыву...

Аўдыторыя (*ціха*). Цярэш?

Алена (*стаіць, нібы скамянела*). Цярэш...

Гармаш. Ідзеце-ж. Я зараз прыду. (*Алена, Мося, Тарас хутка выходзяць*).

3

Гармаш. Таварышы, на фронце, як заўсёды, не абыходзіцца без ахвяр. За сваю клясавую навуку пролетарыят плаціць жыцьцём лепшых сваіх прадстаўнікоў. Але гэтыя ахвяры могуць спужаць, альбо спыніць толькі боягузаў. Думаю, што мы з вамі ня спынімся. Ворагу няма чаго радавацца. Разгорнутым фронтам на яго! З поўнаю вераю ў свае сілы станавецеся на баявыя пасты далейшага будаваньня соцыялізму. Улівайцеся ў рады героічнага пролетарыяту. Вышэй штандары комунізму! Няхай жывуць новыя кадры чырвоных спэцыялістаў. Няхай жыве авангард рабочай клясы ленінская комуністычная партыя! (*Гул воплескаў, нібы гул мора*).

## XII. Сьвяцеце нам зоры...

1927 год. Пэрспэктывы пяцігодкі. Сымфонія важкае індустрыі. Праплывае пад'ёмны кран. На тоўстых жалезных вяроўках бягуць ваганеткі з вугольлем. Снуе безьліч тэлеграфнага дроту. Палыхаюць в цемені яскравыя электрычныя аганькі, бліскае прамень растопленага чыгуна, асьвятляе пахмурную цэглу дымароў. Наўскоснымі лініямі, перацінаючы прасторы, падымаюцца вогненыя транспаранты—„Данбас“ „Дніпрэльстан“, „Рабочы клюб“, „Магнітагорск“. „Трактарны завод“. І раптам чуваць радыё:—Кур'ерскі поезд выйшаў з астатняе станцыі. Альлё.

2

Блiснуў прожэктар. Асьвятліў постаць Алены. Яна на пэроне з чэмаданам у руках. Стаіць каля слупа, на якім, нібы крыльлё птушкі разьвінаюцца ўгары плякаты—надпісы УССР, РСФСР, БССР. На Харкіў. На Сталіна. На Маскву. На Крываарыжжа. На Ленінград. На Запарыжжа. Алена стаіць задумаўшыся.

3

У шырокім коле прожэктараў вызначыліся постаці: Тараса, Кацярыны, Шкіндэра Тані, Мамаевай, Прадкі, Няронава, Коці. Далей углыбіні відаць яшчэ сьцяна юнакоў, гатовых да ад'езду. Мося Шкіндэр, накульгваючы на адну нагу падыходзіць да Алены, ціха пытае:

Аб чым Алена?

Алена. А вось... пра дарогу.

Мося. А я табе хачу расказаць пра славутага амэрыканскага фізыка Дайтона Мілера. Гэты вучоны, вядомы ўсяму сьвету сваімі досьледамі ў галіне тэорыі адносасьці, у апошні час, галоўную сваю ўвагу пачаў аддаваць досьледам акустыкі, г. зн.—навукі пра гукі, якую найлепей з усіх нас усвоіў, ях табе вядома, Коля Няронаў...

Няронаў. Гук ёсьць хілітаньне паветра, гэтага я ніколі не забудуся.

Мося. Дык вось, гэты самы Дайтон Мілер вынайшоў, што гук музычнага інструманту, будзе тым чысьцейшы, чым больш шчыльны будзе матэрыял, з якога зроблены інструмант. І вось ён зрабіў флейту з чыстага золата. Флейта зайграла так, што гукі яе нельга апісаць, так запэўняюць тыя, якія самі чулі тую флейту.

Алена. Што ты хочаш сказаць, Мося?

Кацярына. Ці ня думаеш ты зрабіць сабе такую флейту?

Тарас. Не перабівай, Каця. Ну, што-ж далей?

Мося. Каця ўгадала. Я хацеў-бы мець цяпер вось тую залатую флейту. Я зайграў-бы. Зайграў-бы так, што Алена забылася-б пра тое, чаго яна, як і мы, ніяк ня можам забыць! А йграў бы доўга, іграў бы датуль, пакуль б'ецца ў маіх грудзях сэрца, пакуль гараць нашы нязвычайныя, непаўторныя дні, пакуль... ты не сказала-б...

Алена. Даволі...

Мося. Так. Але, выходзячы з конкрэтных заданьняў соцыялістычнага будаўніцтва, я кажу свайму сэрцу: „ша“. Я адкладваю ў бок чароўную флейту і кажу табе: Алена Чарада, ведаеш што? Рэктар Гармаш кліча

цябе на катэдру. Ідзі. Ты патрэбна ў штабе. Будзеш працаваць і будзеш шчасьліва, і ўсе таварышы, і... я таксама буду шчасьлівы, бо ведацьму, што табе добра, што ты ня падаеш духам,— што ў табе палымнее тая сіла, з якою ты прышла сюды. І на гэтым дазвольце мне закончыць.

Алена. Мося, ах, ты-ж, Мося!.. любы сябра! Якое-ж у цябе цудоўнае сэрца.

Мося. Сэрца ў мяне, Аленка, дурное. Што такое сэрца? Гэта вузкае месца, на якое ня прыходзіцца орыентавацца, памятаючы заданьні соцыялістычнага будаўніцтва, заданьне дагнаць і перагнаць Амэрыку з усімі яе Дайтонамі і залатымі флейтамі... Так што, Аленка, мая табе парада: заставайся на катэдры.

Усе. Ну? Алена. Як-жа?

Алена. Як?

Коця. Заставайцеся, цёця Чарада, бо як-жа яно будзе: скобку я перамог, на рабфак прынялі і адчуваю, што буду за профэсара. А зьмены няма...

4

Пачуўся гудок паравоза. Зашумеў вялікі вакзал. Здалёк бліснулі агні сэмафораў. І прышлі на пэрон: профэсар Гармаш, профэсар Качарга, Богаяўленскі, Воранаў.

Кіра. Таварышы! Акадэмія на сонца вылезла. Татуля, а на жывот свае прылады не забыўся надзець? Глядзі, застудзіш пячонку... (*раскаціўся дружны рогат*).

Богаяўленскі. Кіра... Кіра...

Кіра. Тата, тата! Едзем на будаўніцтва—факт бясспрэчны. Ня тужы, ня плач. Гэта-ж з таго часу, калі ты пачаў вывучаць марксызм, менш баліць пячонка...

Богаяўленскі. Кіра, не жартуй. Марксызм—вялікая рэч. (*Сьмех*).

Качарга. А мы баяліся спазьніцца. Добрага здароўя, таварышы!

Галасы. Вельмі добра. Якраз у пару прышлі.

Гармаш. Добрага здароўя, таварышка Чарада.

Алена. Добрага здароўя, таварыш Гармаш.

Гармаш. Можа перадумаеце, хоць у апошнюю хвіліну? Вы-ж ведаеце, што Галоўнавука не супярэчыць. Ведаеце, што нам патрэбны асьпіранты. Праз тры гады вы будзеце асыстэнткаю, а там...

Кацярына. А там і профэсарам. Знай нашых. Чаго раздумваеш, Алена? Заставайся і ўсё. Будзеш нам пісаць, а мы будзем табе пісаць, а ты нам будзеш адказваць, а праз пяць гадоў сустрэнемся. У мяне будзе тры сыны. Тарас, так? Рыхтуем кадры?

Тарас. Пяцігадовы плян выканаем.

Кацярына. Тры сыны, як сокалы, тры будучыя будаўнікі соцыялізму, чорт вазьмі. Га? Няронаў застаецца, а ты ня можаш? Ты-ж яго за пояс заткнеш.

Няронаў. Мяне? Гм. Сьцьвярджэньне, якое ня мае пад сабою ніякага марксыцкага грунту.

Качарга. Я магу толькі ўпэўнена сказаць, што з таварышкі Чарады выйдзе надзвычайна добры навуковы работнік. Я ведаю яе працы і абедзьвюма рукамі галасую за тое, каб яна засталася на катэдры.

Воранаў. Ведаеце, я калісьці меў сумненьні. Стану, бывала, перад люстрам...

Профэсары. Ха-ха-ха. Памятаем: „Таварышы, студэнты“...

Воранаў. А цяпер... мне ўжо ня трэба станавіцца перад люстрам. Сапраўднасьць жыцьця даўно перамагла мяне. Яна дужэйшая за мяне Скажу проста: ідзеце нам на зьмену.

Гармаш. Як бачыце: голас навуковай грамадзкасьці.

Мося. І голас залатое флейты. Яшчэ раз паўтараю. Нашы дарогі розна вядуць нас, але да аднэй мэты. Вы тут, а мы... ну, а мы там недзе...

Алена. Мося, ты памыліўся.

Мося. Ня можа быць.

Алена. Я еду з вамі, еду туды, адкуль прышла. Не кажу навекі, Можа й вярнуся, праз год, праз два — на катэдру. Ведаю, што людзі патрэбны й тут, яшчэ й як патрэбны. Але цяпер не магу. Цяпер—туды. Пораху набрацца. Спрабаваць сілы на жывой рабоце, сярод сваіх. Спрабаваць на што мы здатны. Даёш, Мося, Данбас?

Мося (*падумаў, прамовіў ціха*). Даю.

Усе хлопцы. Даем!

Коця. Эх... Бачу, што прыдзецца мне такі адпусьціць вас. Толькі-ж не забывайце, што ёсьць на сьвеце Коця вуркаган, якога вы... (*захваляваўся, засароміўся, задрыжэў голас*) якога вы ў людзі вывелі...

Алена (*абняла яго, пацалавала*). Не забуду, Коця! Вучыся.

Гармаш. Ну так... у дарогу. Дайце руку. Бывайце, таварышы. Разам ішлі на штурм...

Няронаў. Унд дранг.

Гармаш. Што?

Няронаў. Кажу штурм унд дранг.

Гармаш. А так, так. Штурм унд дранг. Бывайце. Слаўныя вы былі хлопцы. Штурм унд дранг.

## 5

З цёмнае глыбіні даносіцца шум паравоза. Усе паварочваюцца, глядзяць туды. І вось на іх абхутаны парою, задымлены гудзе паравоз. Бліскае сваімі круглымі ліхтарамі. Усе рушыліся насустрач яму. Праз некаторы момант, калі спыніўся поезд, зьзяючы бліскучымі, яскрава асьветленымі вокнамі, калі зашумеў пэрон рознымі людзьмі,— выйшла з вагону група рабочае моладзі, якая прыехала ў гэты горад. І вось—яны сустрэліся: тыя, што прыехалі і тыя, што ўжо едуць на работу. Радасная, неспадзяваная сустрэча, разрадзілася толькі кароткамі выгукамі...

І з тых, што прыехалі. Тарас! Ня можа быць!

Другі. Хлопцы!

Трэці. Зямляк!

Чацьверты. Куды? Здаровы, таварышочкі!

Алена. Што, знаёмыя? Адкуль, таварышы? Адкуль вы?

Першы. Адкуль? Ды з усіх канцоў... З заводаў...

Другі. З шахт.

Трэці. З колектываў...

Тарас. І з колектываў? Вучыцца?

Тыя, што прыехалі. Вучыцца!

Тыя, што ад'яжджаюць. А мы ўжо на работу.

Тыя, што прыехалі. Шчасьліва. Працуйце там! Пачынайце першую пяцігодку.

Мося. А вы працуйце тут... (*Горача, рухава абнімаюцца, паціскаюць адзін аднаму рукі*).

Алена. Замацоўвайце тое, што мы зрабілі ў інстытуце. Барацьба на высокім пункце. Барацьба за нашу навуку. Сьлёзкіны і Белыя яшчэ жывуць. Ваша заданьне — канчаткова дабіць іх. Яны (*на профэсараў*) вас падтрымаюць. Да пабачэньня-ж, таварышы! (*Пайшлі да вагона*).

Чацьверты. Мося, ты крывы... Чаму?

Мося. Глупства. Лёгенькая кантузія. (*Глянуў, каб ня чула Алена*). А вось, Цярэнь, браткі, лёг у баю...

Тыя, што прыехалі. Як? Цярэнь Крыжэнь?

Мося. Вы-ж за яго... глядзеце... хлопцы...

6

Але чуваць два званкі. Гукае паравоз. Тыя, што ад'яжджаюць кідаюцца да вагонаў. Поезд адыходзіць. А з вагона звонка й радасна вылятае песьня...

Сьвяцеце нам зоры, сьвяці нам месяц,
І яснае сонца ясьней сьвяці.
А мы ўпярод, упярод за волю —
Ў царства свабоды будзем ісці...

Мільганулі астатнія вокны бліскучых вагонаў. Усьлед ім глядзяць тыя, што прыехалі. Усьлед ім глядзіць і група профэсароў на чале з Гармашом. А з ім Няронаў і Коця. Ён надпарыўна ўзьняў рукі ўсьлед поезду, быццам хацеў бегчы за імі. А пасьля... схамянуўся. Тыя, што прыехалі, павярнуліся. Сустрэліся вачыма з групаю профэсароў.

Коця. Глядзеце, якія іскры над стэпам!.. чуваць, як далёка, далёка разлягаецца над стэпам прыглушаны гудок паравоза і заціхае шум жалеза.

*КАНЕЦ.*

Пераклад з украінскае мовы **В. Сташэўскага.**

## З ЛІРЫЧНАЙ НІЗАНКІ

**Сьцяпан Ліхадзіеўскі**

### 1. БЕРАСЬЦЯНКА ЖЫВЫХ ТУРБОТ

Ля маіх нестамлёных ног
берасьцянка маіх трывог,
берасьцянка жывых турбот,
берасьцянка ліхіх клапот.
Яе поўную я назьбіраў
не на моры і не як пірат,
а ў разгары рухавых дзей,
што прынёс будаўнічы дзень.

Нявычэрпнай ля юных ног
берасьцянка маіх трывог,
берасьцянка жывых турбот,
берасьцянка ліхіх клапот.
З ёю вышаў на шызы майдан,
з ёю крэпне мая хада.
Не пястуе наш строгі час
асаблівую гнутнасьць пляча!

Ля сваіх непахістых ног
заўжды май берасьцянку трывог,
берасьцянку жывых турбот,
берасьцянку ліхіх клапот.
Яна вольныя думы твае
асьвяжае, дранцьвець не дае.
Да яе калі востра прывык,
Не загубіш свае галавы.

Ты ня раз і ня два перамог
з берасьцянкай сваіх трывог,
з берасьцянкай жывых турбот,
з берасьцянкай ліхіх клапот.
З ёй ня зложыш ніколі рук.
што да ўвішнай работы ільнуць.
З ёю знойдзеш і месца сабе
ў нашай клясавай барацьбе!

12-I-31 г.

## 2. ЗАВЕІ Ў ТЫСЯЧУ АЛЬТОЎ

Завеі ў тысячу альтоў
ускраіну ўскалыхнулі.
Маё асеньняе пальто
кастры пачуцьцяў туліць.

У горадзе трамвайны звон
імчыць з перасьцярогай.
І песьню звонкую узьвёў
фальшывы хтосьці рогат.

А мне нішто. Ці ня было,
што надзялялі стыньню?!
І пагаданак рос галёп
павевамі густымі.

Мне ў тым палоне ня бываць:
прышло—пашло з вятрамі.
Ня ўскружыцца і галава
ад тых сумежаў раньніх.

Я знаю ўпэўненасьць хады
і кручы парываньняў.
Мае зімовыя сады
агнём зары крывавяць.

Райбою дум спавіты дом
надорыць сілай гарту.
Шумі-ж, турэцкае рондо
вялікага Моцарта!

Згубіў мо' што, разьвеяў што—
няхай ня будзе болей!
Бо з-за нямых балявых штор
нахлыне буры болей.

А гэтулькі яшчэ зарніц,
і шчырасьці бязмоўнай!
Мая харошая, зірні,
прастору колькі зноў нам!

А гэтулькі яшчэ жыцьця,
а гэтулькі парываў!
Мая харошая, імчаць
ня сьцежкамі крывымі!

У гліцах вострых зложым сьпеў
на ростанях далёкіх.
Зьвязаць свой крок пара пасьпець
З штодзённым чоткім крокам.

Паводкаю суровых дум
хай нам шляхі крывавіць.
Угоднім нашую хаду
з агульнай нашай справай!

Завеі ў тысячу альтоў
ускраіну ўскалыхнулі.
Мае асеньняе пальто
кастры пачучьцяў туляць.

14-II-31 г.

3. ПРАДВЕСЬНЕ

Калі дзень свае шаты здыме,
значыць, ночы прыйсьці чарод.
Сумуюць настаўніцы маладыя
ў адзінотную сутонь вечароў.

Мы-ж тады,
наглытаўшыся ветру,
у сумёце будзённых клапот,
і закінуўшы за плечы кілёмэтры
уціраем з твару пот.

Нашая дарога—скончана,
нашай хадзе—віцца істужкай.
Нас падхопяць і ветры гончыя
і ашалелыя сьцюжы.

І што завідна прыкрочылі—рады,
і варушыцца непакойны кашаль.
У школе надрываецца радыё,
надзяляючы музычнай кашкай.

А ля хат калгасных
з лёгкім пашыбам
цень блукае ў шэрую гадзіну.
На сход кліча,
звоніць у шыбы
і ўтлумачвае,
што прыехалі брыгадзіры.

22-III-31 г.

## ГЕРОІКА ДЗЁН

**Паўлюк Ананьнеў**

КРЫХУ АБ САБЕ

Я пэўна радзіўся
З душой не поэта.
Мяне гартавалі
Ня буйныя ветры.
Дзе ў стэпах шырокіх
Разросься палын,
Я там не губляў
Сваіх песень цяплынь...
На поўдзень далёкі
З палёў Беларусі
З другімі хлапцамі
Паехаць я мусіў.
Ў змаганьні за вугаль,
Ў змаганьні за кокс
Аддаў сінь вачэй я,
Аддаў чырвань шчок.
Адчуў, зразумеў я
Пульс рудніка скора,
І выгляд удумны
На тварах шахцёраў.
Разьбітая шахта
„Ўладзімер Ільліч“
Нібы мне казала:
— Юнацтва пазыч!
Нібы мне казала:
— У клясавых бойках
Засыпаны штрэкі,
Паваленыя стойкі.
Ў закопчанай блюзе
З шахцёркай кайлом,
Я рынуўся з першых
Старому на злом...

Праходзілі творчыя
Будні з запалам —
Разьбітая шахта
Здаровай паўстала.
Яшчэ... І яшчэ...
І дзесятак такіх
Адбудавалі
Вакол гарнякі.
А вуглю... А коксу...
І ў творчым прадвесьні
Складаліся ў думках
Неясныя песьні.
Я чуў як сьпявала
Гудкамі зямля,
А тэм ня было,
Апрача — прамфінплян...
... Часы праляталі
Ў нястрыманым русе...
Ізноў я працую
На Беларусі.
І ніжуцца думкі
Цяпер на пяро
Пра вугаль, жалеза,
Пра сьпэў шасьцярон.

# ПАД МЕСТАЧКОВЫМ МЕСЯЦАМ

**В. Сташэўскі**

*(Працяг)*

## Зазьвінела цыркулярка

Летні час у вёсцы—гэта не зіма. Многа гаварыць няма калі. Здавалася, што ўсё прыціхла. Менш скублі калгасьнікаў, бо бачылі, што тыя старэнна працуюць. Разгарнулася работа і на балоце. Цяжкавата было з рабочай сілай, а пад канец сяўбы пачала зьяўляцца.

Найбольш цікавымі работамі былі: выпрамленьне ў адным месцы, насупроць комбіната, рэчкі і новая дарога праз балота з новым мостам.

Па вуліцах мястэчка пачалі ўкопваць слупы, а па іх праводзіць дрот.

Электрычнасьць!

Электрычнасьць!

Электрычнасьць!—гаманілі ў мястэчку. Зрабілі праводку ў школы, клюб, будынак РВК, арцелі, коопэратыў. Вісяць лямпачкі тыдзень, другі.

— От так павісяць год, ды мэ' каторая і загарыцца,—казаў сторaж РВК старшыні.

— Заўтра, альбо пасьля заўтра загарыцца,—адказвае той.

На балоце цёплая вадзіца наступала па сьвежых сьлядох грабароў. Прыселі мужчыны пад алешынай на полудзень. Чуюць: чмых, чмых, чмых!.. і пашло. А праз некаторы час: дзвы-ы-ыззз!.. знаёмы голас цыркуляркі. Слухаюць, углядаюцца. А крышку з боку, нявысока ад зямлі вырысоўваецца чырвоны мур паравіка.

— Гэта ім з фунадамэнтам было тугавата, а цяпер як паставяць рыштаваньне, дык за два тыдні сьцены і вывядуць.

— Уга, хаця каб вывялі за два ці тры месяцы.

— Тры месяцы? Каму ты гаворыш, што гэта тут такі ўжо гмах. Яны-ж ня ўсё адразу робяць. Вось і тут на балоце: спачатку капаем канаву, выпростваем у гэтым месцы рэчку, а пасьля пойдзе грэбля і мост. А там, вось чуеш: далі пільню, цяпер па парадку павінны пусьціць, паравік, а ўжо далей крухмальню, ці што там. Я не кажу, што зараз пойдзе паравік, я кажу пра сьцены, а паравік, ня ведаю на колькі паставаў, павінны пусьціць увосень.

Аднаго разу Піня з Віктарам зайшлі ў тую „пустэльную“ хату. Патупалі, паглядзелі, адчынілі вакно, селі за столік. Віктар глядзеў, глядзеў на столь, а пасьля і кажа:

— Худая хата. Але пастараўшыся, можна з яе кватэрку абцяпаць.

— Калі ўлажыць трыста рублёў, дык мо‘ і зьмяніўся-б крыху выгляд.

— А каб гэта за трыццаць зьмяніць?— кажа Віктар. (Піня махнуў рукою). Ты не махай. Я на тваім месцы знарок адрамантаваў-бы яе. Няхай-бы паглядзеў твой бацька. Паставіць новыя вокны, дзьверы, палажыць падлогу і запузырыць электрыку, га?

— Кажы ўжо і радыё.

— Правільна! Ї радыё. Раз будзе электрыка, дык радыё паставіць самая пусьцяковіна.

— Наадвячорак добры, можна заняцца фантазыяй.

— Кажаш фантазыя? Сынагогу забраць і арганізаваць арцелі не фантазыя, будаваць комбінат не фантазыя, колгас не фантазыя. А выкінуць старыя вокны, паставіць новыя, альбо палажыць падлогу—фантазыя? Пойдзем да Нічыпарука.

— Чаго?

— Пойдзем кажу.

Нічыпарук раскідаў старую хату. А вокны яшчэ моцныя. Яны яму непатрэбны. У новай хаце зусім новыя і ўдвойчы большыя.

Праз некалькі хвілін Віктар і Піня несьлі чатыры акны з шалёўкамі.

— Мы іх паставім тады, калі паложым падлогу, я зраблю новыя дзьверы, выраўняю вушакі,— кажа Віктар, замацоўваючы свае словы гэстам сталярскае рукі.

Вечарамі, калі канчалася работа на пабудове комбіната, у арцелі Віктар і Піня рамантавалі „кватэру“.

## „Дружба“ непакоіць Майзельсона

Майзельсон некаторы час быццам сьцішыўся. Заняўся дамашняю гаспадаркай. Квохчуць, гагаюць у былым магазыне. Адкарміў і на патэльню. Прыстроіць-бы дзяцей, тады можна спакойна пражыць якіх гадоў трыццаць, а г. зн. да дзевяноста дзевяці. Соты можна падараваць часу.

А коопэрацыя шырыцца. Не хапае складаў.

— Адчынеце, грамадзянін Майзельсон, ваша памяшканьне, паглядзім, як яно выглядае.

Майзельсон адразу адчуў, што да дзевяноста дзевяці не дацягне гадоў 3-5. Адамкнуў.

— Ї бра-а-а! Дык тут-жа птушынае завядзеньне. Прыдзецца вам перанесьці яго ў другое памяшканьне. Два дні на гэта хопіць.

На другі дзень пры ганку над зялёнымі жалезнымі дзьвярыма вісела шыльда: „Склад Бузучанскага Спажывецкага Т-ва „Дружба“.

Здаецца добрае слова дружба, а ўбачыць каторы на доме Майзельсона і нехаця засьмяецца. Майзельсон праз вакно заўважае гэта. А Сайка,

дык той ускочыў у хату і вітае з „Дружбаю“. Майзельсон стрымаўся, а Майзельсоніха:

— Ідзі ты, паскуднік, з хаты разам з гэтай „дружбаю“. Ты мусіць будзеш выскаляцца, калі забяруць і ўвесь дом?

— У вас, пане, Эстра, растройства валасоў. Трэба прычасацца, спакайней будзеце выглядаць,— адказаў Сайка і хутка выкаціўся з хаты.

Майзельсон сёньня доўга тупаў па двары, выбраў месца ў хляве для „птушынага завядзеньня“. Птушкі будуць упарадкаваны добра. А вось, як упарадкаваць дачок, Майзельсон нічога ня мог прыдумаць. Ён-жа папярэджваў некалі жонку: „Не радзі дачок, бо гэта будзе твой клопат, а ня мой. Я прымаю на сябе сыноў“, і такі Эстра клапацілася больш за бацьку. Яна сёньня, кладучыся спаць, пазвала да сябе Розу:

— Розачка, табе трэба выйці замуж.

— Мамачка, я-ж даўно хацела, але-ж ты мяне шкадавала і не хацела са мною разлучацца.

— Мне і цяпер ня хочацца разлучацца, але пакуль ты яшчэ красівая і, пакуль у нас што-нібудзь у запасе ляжыць, дык мусіць трэба выйці, каб было спакайней і табе і нам.

Доўга гаварыла маці з дачкою. Перабіралі знаёмых. Роза адкідала старых і „некрасівых“. Эстра адкідала не яўрэяў. Роза не асабліва супярэчыла, але аб адным гоі выказалася прыхільна. Майзельсон адразу спыніў.

— Я яўрэй і хачу, каб мае ўнукі былі яўрэямі і ведалі, хто такі іх дзед Майзельсон.

Роза часта езьдзіла ў гарод з такім сярэднім чэмаданам, а цяпер яна спакавала той чэмадан і яшчэ добрую карзіну—магазын шоўкавых строяў, і Сайка Балагол адвёз на станцыю. Што Роза паехала шукаць жаніха, гэта было вядома не аднэй сям'і Майзельсона. Некаторыя яе таварышкі таксама езьдзілі. Адна з іх—Рыта, якая вышла замуж „па случайнаму знаёмству“, расказвала, як гэта з ёй здарылася.

І вось тры тыдні жыве Роза ў дзядзькі ў горадзе. Піша мамашы, што вельмі весела забаўляе час. Новыя знаёмствы кожны дзень, ілюзіён...

„Ну, няхай бог памагае“.

А Майзельсону „Дружба“ не дае спакою. І што цікава: думае пра кнопку, думае пра тую сьцяну, якая адзяляе кватэру ад склада „Дружбы“, Сьцяна мураваная. Загагаюць, бывала, уранку гусі—глуха чуваць, але чуваць, што яны вітаюць гаспадара (а можа праклінаюць...).

І вось раптам—ціха.

Прыслухоўваецца Майзельсон і яму здаецца, што за сьцяною нешта шавеліцца. Доўга глядзіць на сьцяну. Яму здаецца, што нейдзе ў нейкім месцыываліцца частка цаглін, праз дзірку высунецца галава з „Дружбы“ і запытае: „Як вам сьпіцца славуты комэрсант“?

— Ой, дрэнна сьпіцца.

Майзельсон перацягвае ложак у другі пакой, да другое сьцяны.

## У хаце Лейбы чыста, на вокнах белыя фіранкі...

У адзін летні сонечны дзень у мястэчку бліснула электрычнае сьвятло. „О-о-о!..“ — такі быў першы гук у таго, хто заўважыў электрычнасьць. Бліснула яшчэ некалькі разоў і пагасла. Гэта была спроба.

Позьнім надвячоркам групаваліся людзі ў тых месцах, дзе была зроблена праводка. Амаль усе ведалі, што хутка дадуць электрычнасьць.

Заблішчэла.

І выбухнула ў мястэчку магутнае: „О-о-о!“

Пасыпаліся заявы на лямпачкі.

Але, што сталася з хатаю старога Лейбы? Новыя дзьверы, вялікія вокны... Паглядаюць суседзі і нешта сабе думаюць.

О, яны хітра думаюць. Для некаторых было ясна, што Піня ажэніцца. Сядзяць хлопцы ў хаце за столікам, гарыць электрыка, на стале газэты, часопісі. Прахаджваюцца людзі, заглядаюць у вокны. Прайшлася некалькі разоў і Цэйта з таварышкаю. Цікуюць суседзі за ёю.

Хлопцы сядзелі позна, і Віктар застаўся начаваць, разьдзяваюцца, гутараць, а нейкая асоба ўставілася ў шыбу з мыцельнага вакна.

— Ну,—гукнуў Піня.

Асоба зьнікла.

— А ты завесь вокны газэтаю,— кажа Віктар.

Піня дастаў два экзэмпляры „Праўды“ і пазавешваў вокны. Праз некалькі дзён папера ад сонца пажоўкла, але Піня не зважаў.

Цэйта кожны вечар прагульвалася па гэтай вуліцы. Часта ў хаце Піні яна ня бачыла агню. А то нейк заўважыла на плошчы Піню з Віктарам, ідзе назіркам за імі. Хлопцы пашлі ў хату, запалілі сьвятло, весела гамоняць. Стук у дьзверы.

— Заходзьце.

У хату ўскочыла Цэйта з таварышкаю. Піня крыху сканфузіўся, ды і Цэйта відаць адчувала сябе ня зусім добра.

— А-а! Заходзьце, заходзьце!— запрашае Віктар.

— Мы на хвілінку, нам цікава паглядзець як вы тут...

— Проша, проша!— падстаўляе Віктар тубурэтку.

Дзяўчата абводзяць вачыма сьцены, століь, печ.

Як зьмянілася хата. Новыя абоі...— такім ласкавым галаском сказала Цэйта. Глядзела на газэтныя фіранкі, на стары столік. А таварышка Цэйты ўтаропілася на невялічкі портрэт Леніна. Быццам першы раз бачыць.

— Добра, добра ў вас тут... Ну, пойдзем,— сказала Цэйта да таварышкі.

— Гуляйце!— запрашаюць Віктар і Піня.

— Не, можа другім разам.

Пашлі.

Цяпер Цэйта думала аб тым, як ёй аднэй прыці ў гэту хату і каб нікога ня было дома—ні Піні, ні Віктара. Даведалася, што ў іх адзін ключык, і каб кожны мог увайці ў хату ў любы час, яны хавалі яго ў шчыліне верхняга вушака. І вось аднаго разу, калі хлопцы былі ў клюбе, Цэйта пабывала ў хаце Піні.

Прыходзяць хлопцы, запальваюць электрычнасьць...

— Ого!—глядзіць Віктар на Піню.— Адкуль гэта?

На вокнах простыя, але беленькія паркалёвыя фіранкі. На стале— белая сурвэтка.

Піня абвёў вачыма ўсё гэта. Паціснуў плячыма.

— Калі ты пашыў іх?—пытае Віктар.

— Ды я нічога ня шыў.

— Адкуль-жа ўзялося?

— Нічога ня ведаю.

— Ня хочаш казаць, як сабе хочаш.

— Даю табе слова, Віктар, што нічога ня ведаю.

— Калі праўду кажаш,— дык яно выходзіць: загадка.

Думаюць хлопцы. Піня глядзіць, дзе-ж дзеліся газэты. Бачыць—ляжаць яны на прымурку. Падышоў, разгарнуў скрутак. Глянуў на „Праўду". І раптам ступіў да аднаго вакна, абарваў фіранку.

— Што ты робіш?

— Я ня буду мяняць „Праўду" нашу бальшавіцкую на нейкія мяшчанскія фіранкі!..

— Стой, стой!—спыняе яго Віктар. Фіранкі яны добрыя, няма чаго бурыць. А гэта—парыжэлая папера.

— Гэта „Праўда"!

— Ну дык што, што „Праўда"? Шануй у сабе тое, што напісана ў „Праўдзе", а не парыжэлую паперу. Кінь!

Піня адышоўся. А ў думках: „шанаваць тое, што напісана ў „Праўдзе"?.. значыць—ідэю. Правільна Віктар кажа".

— А фіранкі з сурвэткаю надаюць лепшы выгляд і яно практычна,— зазначыў Віктар.

Хлопцы пачалі дагадвацца адкуль гэта ўсё зьявілася, але ня былі ўпэўнены. „А ўсё-такі я іх здыму", думаў Піня.—„Няхай крыўдзіцца. А што яна дрэннага зрабіла?" Глянуў на фіранкі, сурвэтку і нейкая лёгенькая злосьць і прыемнасьць разам ушчыпнулі за сэрца.

## Падзеі вакол фіранак.

Ня ведае Піня, што суседзі нешта сабе думаюць, хітрае думаюць. Пра аднаўленьне хаты і пра фіраначкі стала вядома Лейбу. Маці хоча паехаць, Лейба ня пускае. А самому таксама хочацца праведаць. Знайшоўся чалавек.

— Мотэле,—кажа Лейба аднаму добраму знаёмаму,—схадзі ты ў маё мястэчка. Ты-ж ведаеш, дзе мая хата. Крыху ведаеш?—добра. Паглядзі, паслухай і скажаш мне.

Мотэле пашоў. І гэты самы Мотэле глядзеў ня толькі хату старага Лейбы, ён глядзеў на ўсё мястэчка. Прайшоўся нават туды, дзе будавалі комбінат, дзе пракладвалася новая дарога праз балота.

І вось вярнуўся аглядатай.

— Вы ведаеце? Праз год ніхто з вас мястэчка не пазнае.

-- Ну, ну?

— На дзьвярах у Майзельсона „Дружба". А пільня, як дзень, так ноч: дзвы-ззз і дзвы-ззз!

— А што з нашай хатай?—перабіў Лейба.

— А вашу хату трэба пашукаць. Вялікія вокны. Новыя дзьверы. Новая падлога, абоі, фіранкі, вазоны, мяккае крэсла, камоды... Адным словам, я ў хаце ня быў, але гэта відаць праз электрычнасьць?!.

— Электрычнасьць?!.

— Што за вапрос? На ўсё мястэчка. А ў вашай хаце—люмінацыя.

— У нашай падранай хаце?—зьдзіўлена запытала Лейбіха.

— Падраная хата—гэта старая казка.

— А ты выдумаў новую,—кажа Лейба.

— Ну тады мне няма чаго казаць. Паедзеце, дык убачыце.

— Трэба, Лейба, паехаць. Чаго мы тут сядзімо?—пытае Лейбіха.

— Я не паеду!—рэзка адказаў Лейба.

Што ў мястэчку гаворань суседзі пра фіранкі—гэта—глупства, Піня аб гэтым нічога ня ведае.

Аднаго вечара да Піні з клюба накіраваліся: Віктар, яшчэ адзін комсамолец і Дуся. Дуся была два тыдні ў адпачынку. Выяжджала недзе. Прыехала такою рэзваю, загарэлаю. Укалоць-бы дзе-небудзь і цвыркнула-б фонтанам маладая чыстая, гарачая кроў.

— Эх, Дуся!—ушчыпнуў Віктар.—Сонцам налітая!

— А няўжо-ж сітром, ці лямінадаю?—выкруцілася з рук Дуся.

— Што, нязграбна ўзяў?

— Абцугамі нейкімі.

— Абцугамі можна ўзяць,—жартуе Віктар.

Дуся была вясёлаю, сьмяялася, напявала нейкую песеньку, паглядала на фіранкі, сурвэтку... Хлопцы былі ў добрым настроі і незаўважылі, што ў гэтым яе, здаецца, звонкім сьмеху, ёсьць нейкі надлом.

А Дуся, як прыехала, дык у тую-ж гадзіну дачулася пра таемныя фіранкі. Праўда, яна спадзявалася ўбачыць там нейкія фрынзі-брындзі, а тут просьценькія белыя, паркалёвыя фіранкі. Але хто іх прынёс? Цэйта. Значыць ты выбраў яе?

Дуся ня доўга чакала выпадку пахадзіць з Пінем, пагаварыць. Пачала з таго, як няпрыкметна прайшлі і разам з тым доўга цягнуліся яе два тыдні адпачынку. Няпрыкметна таму, што кожны дзень купалася, хадзіла

ў чарніцы, а вечарам на рэпэтыцыю. Іграла галоўныя ролі. Ды ня толькі ў п'есах, а наогул хлопцы наперабой стараліся праводзіць яе дадому. Ну, і яна катэгарычна адхіляла іх прапановы; ішла дадому адна. А доўга цягнуўся час таму, што хутчэй хацелася пабачыць сваіх рабят, г. зн. Піню, Віктара і іншых. „А як вы тут, успаміналі мяне" Піня сказаў, што аднаго разу ўспаміналі. Што гэта значыць успомніць адзін раз і то яшчэ, як чалавека ўспомніць. Далей Дуся пыталася, як ішла работа ў ячэйцы, на комбінаце, як гэта яны адрамантавалі кватэру... Піня адказаў, што работа ячэйкі звычайна за лета аслабявае, ну і вядома ўвосень будзе ўзьнята і далей з захапленьнем расказваў пра той дзень, калі зьявілася электрычнасьць. Да каханьня падышлі ў даволі позьні час. Гэта яшчэ і лепей. Ніхто ня швэндаецца, можна будзе галасьней, з сэрцам сказаць. І вось яна прапануе: „Давай, Піня, сядзем". „Давай, Дуся, пройдзем пару разоў, ды спаць, бо заўтра трэба рана ўстаць". Ну, што-ж, сілаю не пасадзіш чалавека. Трэба ставіць пытаньне рубам. „Скажы, Піня, ты любіш каго-небудзь? „Што значыць каго-небудзь?". „Ну, ясна дзяўчыну". „Я аб гэтым, Дуся, і ня думаў. Проста ня было калі. А тут яшчэ і з бацькам няпрыемнасьць... Адным словам пра гэта я нічога ня ведаю". Дуся яшчэ паставіла два пытаньні. Адказ—туман. Але ў гэтым тумане Дуся выразна бачыла вакно, фіранку, а за фіранкай Піня і не адзін... Там Цэйта засьцілае стол сурвэткаю.

Разышліся далікатна.

Віктар сядзеў у хаце Піні чакаў яго. Успомніў пра Дусю... Рашыў зрабіць гімнастыку і легчы спаць. Зачыніў вакно, зашчапіў за цьвічок ражок фіранкі—значыць закрыў, а цьвічок адкінуўся, адхіснулася фіранка. Віктар умомант разьдзеўся, усё зьняў з сябе. Ухапіў у сенцах вядро халоднае вадзіцы, выскачыў на двор, азірнуўся і шуснуў на сябе.

Піня падыйшоў да хаты. Бачыць праз вакно: выскаквае з сянец голы мокры Віктар, хапае ручнік і пачынае выціраць плечы. Да пояса жоўты, загарэлы, а ніжэй бяз сонца. Усьміхнуўся Піня і дзюбнуў пальцамі ў вакно. Віктар адразу прысеў і папоўз да ложка. Піня прачыніў дзьверы ў хату, сам не ўваходзіць, а ўсё нейкага запрашае: „заходзьце, заходзьце".

— Куды заходзьце?—крычыць Віктар,—пачакайце! пачакайце!

Адзежа каля печы, дабегчы няма як, бо адчынены дзьверы.

— Зачыняй дзьверы, я зараз!

Піня ўвайшоў, прычыніў і, каб ня прыпёрся да вушака, дык напэўна пакаціўся-б ад сьмеху.

— Ах ты, жулябія!—сказаў Віктар і таксама пачаў рагатаць. Надзеў адзежыну на „нясонечную" частку цела і пачаў рабіць гімнастычныя практыкаваньні.

— Дзе гуляў?

— Так, прайшоўся з Дусяю.

— І тут любоў круціш?

— Ніякае.

— А ты па сур'ёзнаму, як таварышу?

— Даю табе слова.

— Раз-два! Раз-два!—падымае Віктар мускуламі рук з падлогі сваё цела.—А Дуся мне падышла-б.

— Я думаю,—усьміхаючыся адказвае Піня.

— Чаго ты сьмяешся? Я сур'ёзна.—І зарагатаў сам.—З заўтрашняга дня пачынаю наступленьне.

— Калі ў цябе ёсьць што-небудзь да'яе ўнутранае, тады чаму-ж.

— Ёсьць, брат, вось тут сядзіць,—стукнуў Віктар кулаком у свае шырокія грудзі.—Характар яе крыху дзёрзкі, але нічога.

На комсамольскім сходзе стаяла адно пытаньне: дапамога калгасу ва ўборцы ўраджая. Ухвалілі: Кожны комсамолец працуе ў калгасе два дні, з іх кожны адзін дзень аддае свой дзень адпачынку.

Разыходзіліся. Віктар падышоў да Дусі. Піня з боку глядзіць. Храбры хлапец у хаце, а тут нешта дрэйфіць. Ён, уласна кажучы, ня дрэйфіць, а толькі крыху няскладна пачынае. Піня ўсьміхнуўся. Дуся гэта прыкмеціла. Бровы на момант сышліся. Вышла разам з Віктарам, а гуляць не захацела. Віктара гэта ўзяло. А Дуся запомніла ўсьмешку Піні. Некалькі вечароў яна нідзе не паказвалася. Бачыў яе Віктар у пакоі комсамольскай ячэйкі. Вельмі горача аб нечым гаварыла з сакратаром, а пры Віктару змоўкла.

А то, праз нейкі час, спаткаўся Віктар з ёю. Пахадзілі, пагаварылі. А размовы такія сур'ёзныя, што пра каханьне ня лоўка заікнуцца. Так правандраваў Віктар вечар, і толькі на разьвітаньне, моцна пацісьнуў руку. Пашоў дадому і думаў: „Дзеўка—што трэба: і талковая, і разумная жанчына".

Прайшоў невялікі час і на бюро комсамольскай ячэйкі разьбіралася пытаньне, мяшчанства і змычка з нэпманамі комсамольца Піні. Выклікалі Піню, задалі пытаньне:

— Чаму прагнаў бацьку?

— Я не праганяў.

— Фіранкі вісяць.

— Вісяць.

— Хто павесіў?

— Цэйта.

— Будзеш жаніцца з ёю?

— Не.

Задалі яшчэ некалькі пытаньняў, абмеркавалі і ўхвалілі: выключыць Піню Краўчыка з радоў ЛКСМБ і паставіць на шырокае абмеркаваньне агульнага сходу.

На агульным сходзе гаварылі: „мяшчанства пралазіць у наша комсамольскае асяродзьдзе ў выглядзе фіраначак, сурвэтачак, зьвівае сабе гняздо, каб пасьля разлажыць нашы рады. Піня лічыцца актыўным комсамольцам, але гэта актыўнасьць ёсьць маска ворага. Далоў маскі!".

Слухае Піня. Клюб выглядае нейкім караблём, якога бура кідае ўбакі.

Узяў слова Віктар:—

— Так. Фіранкі вісяць. Яна, значыць, павесіла. Але якія гэта фіранкі? Звычайны белы паркаль, каб завесіць і чалавек мог спакойна разьдзецца, кладучыся спаць. Але гэта няважна. Яна прынесла без яго ведама і ён хацеў іх зьняць. Я не дазволіў. Так што абвінавачвайце мяне.

— А табе вядома чые гэта фіранкі?—пытае Дуся.

— А мне ўсёроўна чые. Ясна, што прынесла Цэйта.

— А Цэйта дачка Майзельсона?

— А можа Майзельсон нічога пра гэта і ня ведае.

— А чаму Піня так старанна адрамантаваў хату?

— А што вы хочаце, каб ён у бруднай валяўся. Вам вядома, што бацька павесіў замок і Піня некаторы час жыў у мяне, а што, скажэце, ён ня мае права мець сабе чыстага пакоя? Я сам палажыў яму падлогу і усё іншае. Калі мы за гэта будзем выключаць з комсамолу, дык з нашае ячэйкі трэба ўсіх выключыць.

— Занадта сьмела сказана,—падала голас Дуся.

— Закрыйся, Дуся!—адказаў Віктар і сеў.

Прышоў сэкратар Райкому партыі, паслухаў прамоўцаў:

— Выслухаўшы два бакі, я прапаную з выключэньнем Піні Краўчыка ўстрымацца.

— Прымірэнцтва!—выгукнуў адзін.

— Прымірэнцтва? Сэкратар усьміхнуўся.—Ну што-ж, няхай на сёньня я буду ў вас прымірэнцам. Не прымірэнцам да мяшчанства, не прымірэнцам да нэпманскага атачэньня. За гэта я ўдару не слабей за цябе (сэкратар комсамольскай ячэйкі павесялеў). Комсамолец Піня, скажу па праўдзе, лічыцца найбольш актыўным, лепшым комсамольцам і тым больш, трэба найбольш уважна разабрацца яго справу. Калі ён носіць маску, сарваць і паказаць сапраўдны твар.

Пытаньне засталося адкрытым.

Віктар і Піня ішлі дадому. Піня адразу пачаў зрываць фіранкі.

— Што ты? Кінь!

— К чорту! Не хачу, непатрэбна! Нічым завешваць ня буду!

— Як гэта нічым? Мне гімнастыку трэба рабіць?

— Як сабе хочаш.

— Звар'яцеў хлапец. Ну дык давай газэты.

— Ня трэба нічым завешваць. Няхай усю ноч гарыць электрычнасьць. Няхай глядзяць, як я сплю.

Віктар маўчыць і глядзіць на Піню. А той скамяціў фіранкі, кінуў на печ:

— Як у чалавека паварочваецца язык сказаць, што я нашу маску? Чуеш, Віця! Выходзіць, што я нашу маску! Скажы, Віця, гэта правільна, ці не?

— Кінь ты зладаваццa. Ніякае ў цябе маскі няма. А каб была якая, дык я даўно змазаў бы па гэтай масцы.

— За што мяне выключаюць з комсамолу?

— Дык-жа ня выключылі. І ня выключаць. А за плёткі некаму нагарыць. Яшчэ я вазьму на цыгундзер Дусю.

— Ты кажаш плёткі, фіранкі павесіла, як я цяпер буду даказваць, што я з нэпманамі ніякай сувязі ня маю.

— Пачакай. Я чуў, што яна ў бацькі ня жыве. Гэтымі днямі перайшла да Сайкі Балагола.

— Перайшла? Ну дык цяпер тым больш будуць казаць, што яна знаходзіцца пад маім уплывам.

Доўга яшчэ гаманілі хлопцы пра выкрунтасы чалавечага жыцьця. Віктар усё-такі завесіў газэткаю вокны ад вуліцы, зрабіў гімнастычнае практыкаваньне.

Цэйта нічога ня ведала аб пераживаньнях Піні. Сама яна на новай сваёй кватэры адчувала сябе вельмі добра і асабліва ў той дзень, калі з рыдлёўкаю ў гурце дзяўчат насыпала з кар'ера пясок на фурманкі, а тыя вазілі на грэблю. Шэсьць дзён працавала яна там. Піня дачуўся аб гэтым на другі дзень яе працы. Ён нічога не казаў Віктару, але той ведаў, што Піня хацеў бы пабачыць. Проста глянуць на яе ў часе працы.

— Якім парадкам яе прынялі на работу?—пытае Піня Віктара.

— Там трэба дваццаць чатыры работніцы, а іх знайшлося толькі дзесяць, адзінаццатая Цэйта.

Майзельсоніха валасы на сабе скубла. Як-жа гэта яе маладзенькая дачушка капае пясок, як гэта яна не паказваецца да дому. Прышла аднаго разу ў хату Сайкі. Калаціліся сьцены хаты, палавіна вуліцы зьбеглася пад вокны.

І тут шапталі людзі: „Пінева работа“.

Нарэшце пашлі чуткі, што Піню з-за Цэйты выключылі з комсамолу. Цэйта дазналася, што яго ня выключылі, а няпрыемнасьць вісіць. Хацела пагаварыць з ім, той ухіляецца ад спатканьня.

— Ідзі да дому „рабочая“!—закрычала раз на вуліцы маці Цэйты.

— Не чапайце мяне,—спакойна адказала Цэйта.

— Сукаю хочаш туляцца па чужых дварох,—дадала маці.

Цэйта, стрымліваючы сьлёзы, пашла на кватэру Сайкі і там доўга плакала.

І вось надумала: пабегла аднаго дня ў пільню да Віктара і перадала яму для Піні ліст. А праз гадзіну з Сайкам Балаголам ехала на станцыю.

Увечары хлопцы чыталі ліст.

Піня!

Я хацела пабачыцца з табою, каб перапрасіць цябе за ўсе няпрыемнасьці, которыя ты меў па маёй віне, але крыўды табе не хацела. А што крыўдзяцца мае бацькі, мне ўсё роўна. Жыць у іх я не магу,

бо жыць там мне—значыць жывою ляжаць у дамавіне. Выяжджаю ў горад. А што буду там рабіць—невядома, толькі да бацькі я не вярнуся. Я табе гэта кажу, як любімаму чалавеку, каторага я таксама ўважаю ад усяго сэрца. Шчасьліва жыві. А калі будзеш у горадзе і пачуеш позьнім вечарам на вуліцы маю песьню, ня судзі мяне. Фіранкі і сурвэтку ўкінь у печку.

*Цэйта.*

— Што азначае: „пачуеш на вуліцы маю песьню?..“—пытае зьдзіўлена Піня.

— Ну гэта... калі заўлякае нашага брата, дык некаторая падміргне, а... а некаторая запяе.

— Простытутка?

— Выходзіць так.

Піня пабялеў. Зашавяліліся губы:

— Цэйта—простытутка?!. Я не хачу гэтага, Віктар! Чуеш, Віктар?!

— А я хіба хачу.

— Я баюся, мне страшна, Віктар!—закрычаў Піня і кінуўся локцямі на стол.

— Яно, вядома, нікому гэта не пажадана,—разважае Віктар.—Ды мо‘ яно так і ня будзе. Усё такі яна не такая, каб...

Назаўтра Піня занёс гэты ліст і прачытаў сэкратару комсамольскай ячэйкі.

## Перагартоўка Івана.

Пасьля здарэньня з Цэйтаю ў Майзельсона ад дзевяноста дзевяці вызначаных ім гадоў свайго жыцьця адкінулася некалькі, а што ён перажываў, дык гэта-ж нават Цэйце ўсё роўна. Кажуць, сышліся два местачковыя слупы: Майзельсон і Ясіноўскі.

— А мне, дык прыпісалі відзіяльнае (індывідуальны падатак).

— А куды вы цяпер адсылаеце грошы, пане Ясіноўскі?—пытае Майзельсон.

— А туды, адкуль ён прышоў.

— Ну, вось бачыце, я адразу туды яго пасылаў.

— Цяпер, пане Майзельсон, зьмяшаліся і вашы і нашы, ды як відаць разам капаюць магілу і вам і мне. Давайце разам думаць і разам рабіць.

— Ня ведаю, толькі адчуваю, што з кожным днём слабеюць мае сілы. Цяпер клапачуся, каб як дачку Розу прыстроіць.

— Вы кажаце дачку, дачку ніхто ня возьме...

— Як ня возьме?

— Я ня то, што пра замужаства, а значыць, дзяржава ня возьме і ніякім падаткам не абложыць. А вось коні мае, дык ужо аблажылі. Бачыце: „фабрыку будуем, дык трэба грошы“... Ну паглядзім, як яно будзе...

Іван даўно не заходзіў да Ясіноўскага, а то нейк пазнавата ішоў там, бачыць, гарыць агонь, зайшоў. Не праз калітку, яна была зачынена, а абышоў кругом з агарода. Уваходзіць, а там іх пяць гаспадароў, пяць відзіяльных, альбо як Іван кажа—надувальных. Аб нечым горача спрачаліся. Як толькі ўвайшоў Іван—змоўклі. Але далікатна:

— Заходзь, браце, адкуль так позна?

— А хіба так позна?

— Ды ўжо.

— Пойдзем, няхай людзі спачываюць,—кажа адзін, і выходзяць усе.

— Ну дык хіба і я пайду,—кажа Іван.

— Ты мо' што хацеў?

— Не, нічога, так.

— Ага, зайдзі заўтра, ці калі.

Усе вышлі.

У хаце Івана сядзеў Сымон. Іван расказаў, як ён заходзіў да Ясіноўскага, каго там убачыў.

— Хмурны нешта.

— Не пачаставаў?—пытае Сымон.

— Не. Ды я што... я думаеш дзеля гэтага заходзіў?

— Ня ведаю чаго ты заходзіў, а назву табе „прыхлябацель Ясіноўскага“ далі.

— Хто даў?

— А што ты ня чуў?

— Пашлі яны ўсе к ліхой долі. Што я не магу да чалавека зайсьці?

— Я тады, як пашоў, дык цяпер азалаці мяне—не пайду і табе ня раю.

— Чаму?

— А таму, што гад ён.

— А што ён мне зробіць?

— Зробіць. Мне зрабіў.

— Што?

— А тое, што праз яго я пакінуў калгас. Яго жонка з Цімашковаю нагаварылі маёй дурніцы, дык тая і ўсьсела на мяне. Выпісаўся, а цяпер брыдка паказацца людзям на вочы. Цяпер яны, хваліць бога, і нажалі і накасілі, і жывуць, як трэба. А я што буду рабіць? Тое, што зараблю, дык-жа ўсьлед яно і йшло.

— А ў мяне ня так?

— У цябе? Ты на сталай рабоце, а мне пыкайся.

Маўклівы Сымон здаецца ўпяршыню загаварыў так цьвёрда. Іван, які лічыў сябе храбрэйшым, разьбітнейшым, цяпер змоўк.

На пабудове комбіната ішла падрыхтоўка да пуска млына, алейні, ваўначоскі. Да раённага зьезду Саветаў павінны закруціцца камяні трох паставаў. А работы яшчэ нямала, але соцыялістычнае спаборніцтва

рабочых паміж сабою за апошнія два тыдні паказала, што пара-турбіна закруціць камяні. За тыдзень да зьезду Саветаў Райвыканком атрымаў рапарт-паведамленьне: „Млын, алейня, ваўначоска к пуску гатовы. Заўтра а дванаццатай гадзіне дня пробны пуск“.

Калгасьнікі прывезьлі збажыну.

Ясіноўскі ведаў, што будзе проба. „Няхай папрабуюць“, трэба толькі падыйсьці паглядзець, і Іван-жа вечарком запрашаў: „падыйдзеце дзядзька, будзем малоць“.

Яшчэ не сабралася камісія, а Ясіноўскі тупае каля паравіка. Зайшоў у пільню. Стаў каля станка, глядзіць, як пілы ўядаюцца ў калоду, і выгрызаюць доўгія палосы, пераціна ючы сукі. „А калі-б загнаць акопны цьвік на паўцалі таўшчыні“ мільганула ў думках Ясіноўскага. Станкавы рабочы Віктар у гэты момант глядзеў на Ясіноўскага. Той адчуў гэты погляд, лыпнуў, замаргаў і пашоў далей. „Што-ж гэта нешта ня відаць Івана“. А з боку цыркулярка:—Дзвы-ыыззз!.. падышоў туды. А вось і Іван.

— Гэта ты мэханікам над гэтаю піскляваю машынаю?—зварачаецца Ясіноўскі.

— Я.

— Калі-ж гэта ты?

— З учарашняга дня. „Дзвы-ыыззз!..“

— Але-ж і ўедлівая яе дзіва.

— Добра бярэ,—задаволена адказаў Іван. Ен-жа фактычна і зваў дзеля таго, каб Ясіноўскі паглядзеў, як Іван шастае дошчачкі машыннаю пілою.

— Можа закурым?

— Яно тут і ня можна, але так, асьцярожна...

— Э, што тут будзе гарэць...—адказаў Ясіноўскі і палез у кішэню, каб дастаць партабак. Раптам выхапіў руку. Іван глянуў на кішэню. З яе тырчэла некалькі іржавых цьвікоў.

— Укалолі?

— А чорт іх... выцягнуў са старых скрынак і забыўся палажыць дома. А як паравік, скора будуць прабаваць?

— Павінны зараз.—Іван глянуў праз дзірку ў сьцяне, якая падрыхтавана была для вакна;—камісія здаецца там.

— Пайду хіба і я.

Пашоў кругом. Глянуў у дзьверы. Правільна, камісія тут і Ціхон тут. Палезьлі на другі паверх. Ясіноўскі таксама пачаў падымацца па лесках. Адзін з членаў камісіі заўважыў яго.

— Гані ты гэтага дзядзьку з млына,—кажа ён загадчыку комбіната. Загадчык вярнуўся, падышоў да Ясіноўскага.

— Вы па якой справе?

— А... чуў, што будуць малоць, хацелася паглядзець, ды... можа заўтра паднёс-бы змалоць які мяшок.

— Малоць яшчэ ня будзем. У свой час аб'явім, а цяпер ідзеце сабе дадому.

— Хацелася-б глянуць...

— Як будзеце малоць, тады будзеце глядзець, а цяпер ідзеце. Я павінен зачыніць дзьверы.

Вышаў Ясіноўскі. З сярэдзіны бразнула зашчапка. „Не ўдалося папрабаваць савецкіх камянёў і падсыпаць у кош жалезнае зерне ў жытняе калгасу. Ня пусьцілі сволачы". З такімі думкамі прышоў Ясіноўскі да дому і пачаў выгружаць з кішэні: іржавыя цьвікі, жалезныя стружкі, абломкі шруб, некалькі мутэрак.

Дзвызгала цыркулярка, бадзёрыла Івана, загартоўвала яго энэргію, волю і радніла з тэй сям'ёй, якая працуе тут на гэтым комбінаце. А хіба гэтая сям'я была яму чужой раней? Ніколі. А толькі ён, абвіты ніткамі-путамі Ясіноўскіх, доўгі час блытаўся па старых сьцежках. Віктар і другія рабочыя заўважылі, што Іван надзвычайна рад свайму прызначэньню на цыркулярку. І вось аднаго разу жартуюць:

— Каго-б гэта паставіць на цыркулярку?

— Ну, а Іван?—пытае другі.

— Іван? Я думаю, што Іван ня справіцца.

Іван слухае. Выняў з губ папяроску, цвыркнуў, прыжмурыў вока на таго, што кажа „ня справіцца":

— Я ня спраўлюся? А хіба я ня спраўляюся? А хто гэта знойдзецца такі, што будзе рабіць лепей?

А Віктар:

— Ён то спраўляецца, але... каб Ясіноўскі даў яму ў месяц на рублёў дваццаць даражэй, дык ён-бы махнуў рукою на цыркулярку і пашоў-бы рукамі цягаць пілу.

Івана гэта страшэнна дапякло.

— Я кіну цыркулярку? Каму гэта ты гаворыш?

— Табе, братка, Іван.

— Табе? Дык і я скажу табе: можа ты пойдзеш падстаўляць сталюгі, а я брат нахадзіўся. Даволі!

— Правільна Іван!—рука машыніста і цыркуляршчыка Івана сяброўскі сьціснулі адна другую. Іван задаволены.

А Віктар не дае спакою:

— Правільна, то правільна, але куды цяпер Іван пойдзе ў госьці?

„Прыхлебацелем" абзывае—мільганула ў думцы Івана. Захваляваўся і ма'быць вылаяўся-б, але машыніст выручыў:

— Да мяне.

— Вось, праўду кажа, да яго,—адказаў Іван,—а ён да мяне. А ты—мусіць да свае Дуські.

Усе зарагаталі, Іван задаволіўся тым, што ўкалоў Дуськай. Усьміхаўся і Віктар, апошнім часам ён дагаварыўся з ёю здаецца па ўсіх „пунктах".

## Акорды новай музыкі і перамог

Надышоў час раённага зьезду Саветаў. Рыхтаваліся саўгасы, сельгасарцелі, новы калгас „Комунар". На гэтым зьезьдзе ўпяршыню так шырока было пастаўлена пытаньне аб соцыялістычным сэктары сельскае гаспадаркі. Нават наладжана была невялікая выстаўка, якая дэмонстравала дасягненьні. Саўгас часта дэмонстраваў на раённых сельска-гаспадарчых выстаўках, і гэта было ня так нова, а вось, калі выступілі арцелі і малады „Комунар" і паказалі практыку свае работы, зьезд вынес пастанову.

> „Практыку арганізацыі арцеляй і колгасаў лічыць самай удачнай і правільнай. Яны ствараюць сапраўдную соцыялістычную гаспадарку. Існуючыя ў раёне пасёлкі—гэта тыя самыя, крыху паменшаныя вёскі, альбо хутары і не спрыяюць разьвіцьцю сельскае гаспадаркі і не вядуць працоўнае сялянства да новых соцыялістычных формаў жыцьця. Па ўсіх сельсаветах шырока разгарнуць работу па арганізацыі калгасаў, каб спаткаць вясну і выйці ў поле на ворыва і засеў шырокімі калёнамі арганізаванага бядняцтва і серадняцтва. Адначасна з разгортваньнем колектывізацыі павесьці рашучы наступ на кулацтва, ліквідуючы яго, як клясу".

У клюб увайшла дэлегацыя рабочых камбінату і запрасіла зьезд на адчыненьне камбінату. Гудок падмацаваў запрошаньне. Некаторыя дэлегаты ўбачылі будынак такое комбінаванае фабрыкі ўпяршыню. Чатырохпавярховая вышыня абагнала купал мураванае царквы.

Рабочыя сабраліся, загадчык комбінату адрапартаваў зьезду і падаў каманду: „Таварышы рабочыя, станьце на свае месцы!" Рабочыя ў момант разьбегліся і сталі на работу. Машыніст даў гудок.

І загаварыў комбінат сотнямі галасоў, акордамі бадзёрай музыкі вітаў свайго гаспадара—Раённы зьезд Саветаў.

А вечарам мясцовы драмгурток наладзіў у клюбе концэрт-спэктакль. На сцэне струнны оркэстр. Мястэчка часта чула яго музыку, але скрыпку Міхеля ў ім пачула ўпяршыню. Гэты „клясычны" музыка стаяў побач з прыма балалаечным музыкам і натхнёна, з „ударам" выконваў „Інтэрнацыянал". Міхель ніколі так цьвёрда ня трымаў смычка і ніколі, як сягоньня, ня блішчэлі ў яго вочы іскрамі жыцьця.

## Зварот Лейбы з „Амэрыкі"

За час „эміграцыі" Лейбы, маці Піні наведала сына адзін раз і расшыла вярнуць эмігранта. Яна пілавала Лейбу кожны дзень. Той маўчаў, а то нейк ня стрымаўся:

— Што ты мяне пілуеш? Што ты мне доказваеш, калі я бачу, што ўвесь сьвет расьпілаваны на дзьве часткі, а я дык мо' на дваццаць частак.

— Ой, Лейба, не грашы богу. Цябе яшчэ ніхто не пілаваў.

— Не грашы богу?—задаў Лейба пытаньне і махнуў рукою.

— Калі ты не паедзеш, я цябе пакіну і жыві сабе адзін. Ня толькі ў Бузукох, але і тут пачынаюць сьмяяцца і кажуць, што Лейба выехаў у Амэрыку і зарабляе дваццаць даляраў у дзень. Амэрыканец знашоўся...

— Пашла ты к ліхой долі са сваёй Амэрыкай. Яны там сьмяюцца, а я цяпер павінен туды ехаць?

— Паедзем туды, дык пасьмяюцца і перастануць, а тут і памрэш „амэрыканцам“.

Лейба ня мог слухаць пілаваньня яго на дваццаць першую частку. Вышаў з хаты і доўга хадзіў па вуліцах „Амэрыкі“. А ў мястэчку Лошні тыя-ж самыя парадкі, як і ў Бузукох. Забралі сынагогу і тут. Праўда, не пад арцелі, а пад чытальню. Арцель у другім памяшканьні. Таксама ваююць з нэпманамі, хоць іх тут крыху меней. Таксама яўрэйскі народ расколаты на дзьве часткі. Раптам спыніўся пасярод местачковай плошчы. „А дзе мае таварышы, якія жылі таксама, як і я з дратваю і чэрствым кавалкам хлеба? У арцелях. Дзе мой Піня?—у арцелі. Але на што яны зьмясьцілі гэту арцель у сынагогу? А што сказаў Майзельсон? Майзельсон сказаў: „сынагогу можна раскідаць, спаліць... гэты будынак—плёвае дзела“. Так, так... табе плёвае дзела, а я павінен адцурацца свайго сына за тое, што ён пашоў у сынагогу і шые там людзям боты? Я павінен насіць мянушку „амэрыканец“. К чорту матары з такою „Амэрыкай“, пане Майзельсон!—адказаў Лейба ў думках і шпаркімі рашучымі крокамі накіраваўся на кватэру лошніцкага балагола.

Балагол прывёз Лейбу з жонкай у мястэчка Бузукі. Падвёз да хаты. Лейба хутка зьлез і хутка хацеў увайці ў хату, каб суседзі не пaглядалі надта. А тут вісіць новы замочак.

— Пайдзі да Піні ў арцель, прынясі ключык,—кажа Лейбіха.

— Схадзі ты,—адказаў Лейба. Лейбіха пашла.

Арцельшчыкі гукнулі Піню. Той падышоў, прывітаўся.

— А тата?

— Прыехаў.

— Прыехаў амэрыканец?—паднялі галовы арцельшчыкі,—давай, Лёва, яго сюды, давай сюды!

— Ціха вы! Пачакайце!—супакойвае Піня.

— Дай ключ.

— Ключ там, зьверху, над вушаком.

А Лейба ўжо абмацаў ключ і ўлез у хату. Глядзіць, не пазнае. Новая падлога, абоі. Увайшла Лейбіха.

— Ты бачыш, Лейба, як выглядае хата? Якая інтылегэнтная печ? Я зараз буду паліць у ёй. Трэба прыгатаваць Піню вячэру.

— А мне?—пытае Лейба.

— І табе няшчаснаму „амэрыканцу“.

— Ша! Каб гэтага я больш ня чуў.

— А, ня хочаш слухаць? Дык не рабі болей глупства. Пакруці тую кнопку,—паказала Лейбіха на электрычны ўключацель.

Лейба падышоў, стаў, глядзіць:

— А што будзе?

— Што будзе?—Лейбіха падышла, пакруціла праваю рукою, а леваю паказала на лямпачку:

— Бачыш?

Лейба падняў бародку, глядзіць і стрымлівае сябе, каб не расплысьціся ўсьмешкаю.

— Комбінатнае?

— Адтуль,—адказала Лейбіха і пачала ўходжвацца каля печы.

Лейба падышоў, пакруціў некалькі разоў уключацель, падышоў да лямпачкі, асьцярожна памацаў, ці гарачая і далей вочы яго пашлі па проваду. Дайшоў да таго месца, дзе вісеў портрэт Леніна, спыніўся, доўга ўглядаўся.

Увечары сям'я Лейбы ў поўным складзе вячэрала гарачую бульбу з агурэчным расолам.

Увайшоў Віктар.

— Памажы божа,—жартуе Віктар.

Лейба адказвае:

— Божа, ня божа, а вось ты садзіся і памагай.

— Дзякую, толькі што павячэраў. Ну, як там у Амэрыцы?—неасьцярожна выпаліў Віктар. Піня маргнуў. Віктар пераключыўся:

— Э, э, комбінат наш бачылі?

— Не, яшчэ ня бачыў.

— Прыходзьце, пакажу.

Кладучыся спаць, Лейба расказваў сыну, чаму ён выехаў, як Майзельсон і рабін хацелі зламаць упартасьць Піні. „Паедзеш—кажуць,—яму, стане брыдка, яго будзе непакоіць сумленьне, ён можа перастане нападаць на нас". Доўгі час расказваў бацька сыну. О, гэта была цікавая „споведзь" бацькі старога „законнага" яўрэя свайму маладому сыну комсамольцу. Бурліла ў сэрцы маладога Піні яшчэ большая нянавісьць да ворагаў рабочае клясы.

## Нязвычайныя заручыны

У доме Майзельсона рыхтуюцца заручыны Розы. Знайшоўся жаніх і зусім „случайна". Праўда, у параўнаньні з тым, якога Роза аблюбавала ў клюбе „Совторг" гэтага сапраўднага жаніха, Яшу Давыдавіча Груманта паслаў сам лёс. Хадзіла ў „Совторг" на ўсе сэансы. Сядзела з першым любоўнікам у зацішным кутку вялікай залі. Немалады ён, але душа і сэрца стукаюцца ў душу і сэрца Розы ласкаю і дыхае любоўнік у каханьні, быццам сьвежанькая рыбка на сухім пясочку ў летнюю сьпякоту. А на экране: унучка фэрмэра з букетам кветак вышла

на спатканьне маладога студэнта Томсона. А тут яе чакае ненавісны Бутс. „Ау“ і села на лаўку. Бутс адхіляе галінкі кустоў з пышнымі кветкамі, нахіляецца над міcс і цалуе. „Фі, какое безобразье!“—вырываецца з грудзей Розы, але тут-жа зьяўляецца Томсон, падымае хударлявага Бутса і кідае ў кусты, а сам садзіцца на лаўку да міcс. Яна схіляе да яго галаву і Роза таксама схіляе галаву да свае „рыбы“ і тады яе душа і сэрца стукаюцца ў душу і сэрца любоўніка і сама ўздыхае рыбкай на сухім пясочку. „Але-ж хіба чалавек ведае, дзе яго шчасьце?“—пыталася Роза ў маці і расказвала: „Пашла я з Феней пагуляць в гарадзкой сад на трэке. Пагулялі і нікаво інцірэснага там не встрэцілі. Ідзём абратна, а за намі ідут два маладых чалавека і разгаварывают. Я чувствую, что оні хотят познакомится. Феня пасматрэла і говорыт: адзін, да. Прашліся мы да маста і павярнулісь абратна. Я ўвідзела, что адзін да. Ідзём себе дальша, а он тагда спрашывает: „Еслі вам не будет очынь непрыятна, мы не возражаем сопутствоваць вашай прагулке“. Тагда я ему атвечаю: можат быть вам нада какіх-нібудь другіх барышань. Так он, знаеш што: „нам нужна не другіх, а то, что нам інцірэсна“. Тагда я гавару: А какой вы находзіце інцірэс. Можат быць совсем ошыбаецесь? Так он паравнялся с намі і гаварыт: „Я веру сваім глазам“. Пасматрэла я на яго глаза і я вынуждзена была пазнакомітся. Патом я начала з нім встрычацца. Ты знаеш? Он дажа німнога іграет на роялі. „Ён іграе, ты іграеш, а рояль забралі“,—ўздыхнула Эстра. Роза заспакоіла: Нічыво, мамачка, он такой, што для меня купіт дзьве роялі. Ну, патом я зайшла к нему в гасьцініцу. У него такой шыкарны номер. „Ты хадзіла ў номер?“—спужана пытае Эстра. Ты не падумай, мама, што ў нас вышла што-нібудзь такое, он такой слаўный, что я только лелеялася і з нім, как і з рэб‘ёнкам. Расказвала Роза бацьку, што Яша служыць у Хлебсаюзе, разьяжджае па ўсім Саюзе, а ўсё лета праводзіць у Адэсе, там ён мае шыкарную кватэру на дачы быўшага купца Кубліка, мае свае маторныя лодкі і загадвае караблямі, якія езьдзяць у Турцыю. Пытаецца Майзельсон: „А чаго ён прыехаў сюды, у наш бок“? Роза тлумачыць, што ён кантроль над усімі Хлебсаюзамі. „Партэйны“?

— Ён беспартэйны, але вялікі спэцыяліст.

Майзельсон любіць „камэрчаскіх спэцыялістаў“. Больш пытаньняў не задаваў. І ў той-жа дзень паслаў Розу і Эстру ў горад на канчатковае зацьвярджэньне жаніха. Праз два дні была тэлеграма: „едзем утраіх утраіх цалуем—Роза, Яша, Эстра“. Праўда, выехалі яны ня разам. Эстра выехала з горада на тры гадзіны раней.

Пад вечар у Майзельсона пачалі зьбірацца госьці. Сядзяць, чакаюць маладых. Майзельсон у найлепшым сваём сурдуце пахаджвае па пакоі.

— Я бачу, што вы аб нечым сур‘ёзна думаеце. Давайце сяго́ньня праводзіць час без палітыкі. У мяне сямейнае сьвята, а можа і перамена майго жыцьця. Вы можа думаеце, што я хачу сесьці на шыю свайго зяця

і спакойна сядзець? Я стары, але маю даволі практыкі, каб памагчы майму зяцю ў савецкай камэрцыйнай справе.

— А якая гэта савецкая камэрцыя вас возьме, каб вы ёй памагалі?— пытае Нохім.

Майзельсон спыніўся:

— Ня возьме яна нас, дык мы павінны ўзяць яе.

Для многіх было зразумела, а Нохім, як звычайна, скэптычна пацісьнуў плячыма. Майзельсон хацеў далей разьвіваць сваю думку, але заўважыў, што на вуліцы спыніўся балагол і сказаў: „Прыехалі“. Госьці папраўілі (у каго была) манішкі. Першым увайшоў з чэмаданам Сайка балагол. Маладыя прайшлі ў спальню, каб там падхарашыцца і пышна выйці да гасьцей. Роза дала загад паклікаць Міхеля: „скажэце — наказвае яна—Роза на сваіх заручынах хоча бачыць друга і талант Міхеля“.

Сайка ў момант выпраг каня, пададзеў чысьцейшы мамісавы пінжачок і ў пору зьявіўся. Зьняў браверку, выткнуўся ў дзьверы сталовай, якраз, калі госьці пачалі садзіцца, вычысьціў з носа на падлогу і тады хустачкай абцёр вусы. На яго шчасьце Эстра была ў кухні і не заўважыла.

Міхель не хацеў ісьці. „Пайдзі“—угаварвала маці. „Яны будуць прасіць, каб я іграў, а я не магу ім іграць. Мае мэлёдыі не для іх. Я не пайду“. „А ты ідзі бяз скрыпкі, але схадзі, сынок, няхай людзі ня крыўдзяцца“ Міхель слухае маці, ідзе.

Гутаркі за сталом паступова пачалі ажыўляцца. Міхеля знаёміць з Яшам сама Роза.

— Мой друг, каторы імеет художэсьцьвенную душу.

— І ні капейкі грошай,—дадаў Сайка.

Майзельсон паступова пераходзіць на „непалітычную тэму“.

— У Адэсе некалі быў ізьвесны кантар Грумант.

— Вы яго зналі ў ліцо?—пытае Яша.

— Не, я ніколі яго ня бачыў, я такі ня быў у Адэсе, а толькі памятаю, што гэта быў тады на ўсю Расію кантар.

Яша прыемна усьміхнуўся і да Розы ціха, але каб усе чулі:

— Слухай, Роза, мне нязручна казаць, што гэты ізьвесны кантар— мой родны дзядзя.

А Роза:

— Пачыму?

— Ну, пакуль што няхай будзе так, а пасьля я сам раскажу,—шапнуў Яша. Майзельсон усё гэта чуе і цяпер сьмела пераходзіць да знаёмства Яшы са сваімі лепшымі сябрамі, якія прысутнічаюць тут.

— Я скажу не па цяперашняму, а так, як яно было раней. Вось Хаім Гімельштэйн—вядомы ў нашым баку зернавы купец.

— А цяпер нэпман, пусты гук,—дадае Сайка.

— Што значыць нэпман? Няхай-бы нас сто раз назвалі нэпманамі і далі-б пяцьдзесят гадоў спакойна пажыць. Мне здаецца, што на гэта

згодзіцца кожны нэпман і ў Маскве, і ў Саратаве, і ў Растове. (Нохім кіўнуў галавою—значыць згодзен).

— А вось, Нохім—спэцыяліст па галянтарэйнаму дзелу. Меў у мястэчку прылічны магазын гатовага адзеньня.

— А цяпер застаўся з раматусам у правайназе і левай руцэ,—дадаў Сайка.

— А ў цябе раматус на языку,—агрызнуўся Нохім.

— Ша! спыніў Майзельсон і да Яшы:—вы не зварачайце ўвагі, яны заўсёды, як галаганскія пеўні, але здаецца скора разьвядуцца. Гэты (паказаў на Сайку) скора падасца ў калгас. У нас некалькі чалавек ужо там. Ты ня ведаеш, Сайка, як жывецца яўрэям на зямлі?

— А вы ня ведаеце, як жывецца яўрэям на небе?—адказвае пытаньнем Сайка.

— Сьпяшайся, Сайка, у калгасы, профсаюзы. Профсаюзным даюць па два мэтры паркалю...

— Ĭ па хунту селядцоў,—дадаў Нохім.

— Ĭ хвігу табе ў нос!—адказаў Сайка.

Роза спыніла спрэчкі і прапанавала выпіць за маладых. Яша выпіў і пад канец вячэры трымаў прамову:

— Я шчасьлівы, што знаходжуся ў сям'і такіх блізкіх мне сымпатычных людзей. Віноўніцаю майго шчасьця зьяўляецца Розачка. Мне трудна было ўявіць, што ў такім глухім мястэчку могуць расквітаць такія розы, я буду лелеяць гэтую кветку да магілы. А вас усіх я таксама не забуду. На разьвітаньні Яша абяцае ўсіх, хто пажадае, прыстроіць на савецкую камэрцыю. А „зернавому" купцу сказаў цьвёрда: „Зьбірайся, праз тыдзень па тэлеграме выяжджай". Асобная гутарка была з сям'ёй Майзельсона, калі госьці пашлі. Было вырашана: да вясны Майзельсон жыве ў шыкарнай кватэры ў Маскве, а на лета ўся сям'я праводзіць час на дачы ў Адэсе.

Ĭ сьнілася Майзельсону: Чорнае мора, дача, „турэцкія" караблі... Яша расказаў па сакрэту, што ў Маскве можна будзе заняцца харошымі абаротамі, і калі крыху падсыпаць золата, дык Майзельсон будзе мець выгаднае камэрцыйнае знаёмства з інастранцамі.

Перад ад'ездам у Маскву, спыніліся маладыя ў горадзе—месцы свайго першага знаёмства, Роза зайшла да цырульніка паправіць стрыжку. Сядзіць, любуецца сабою ў люстэрка, а з бакоўкі вышла дзяўчына ў белым халаце. Гэта была Цэйта. Гэта мусіць быў першы этап яе самастойнага жыцьця, бо праз некаторы час Цэйты ў цырульніка ня бачылі.

## Гібель „турэцкага" карабля і надзей Майзельсона

Ехалі маладыя ў Маскву. Трэба-ж зрабіць Розе вясельны падарунак, а таксама наладзіць цесьцю „камэрцыйны абарот". У чамадане Розы чырвонцы, залатыя пяцірублёўкі, дзесяткі. На вакзале Яша пазваніў

зьявіўся Хрыстафор, той што быў пры першым знаёмстве. Таксі імчыць у гасьціміцу. І вось увечары, зьяўляюцца ў нумары гасьцініцы самыя смачныя віны, розныя закускі. Хрыстафор надзвычайна старанна ўслужвае і ўсё кажа: „Слушаю-с, пожалте-с!“. Роза выпіла нямала. Было весела... сядзела ў Яшы на каленях... цалавалася... Памятае, як Хрыстафор падліў нейкага новага віна, выпіла крыху, і... далей не памятае.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ачнулася. Гарыць электрычнасьць. Нікога няма. Усхапілася. На ёй адна бялізна. Ні чамадана, ні паліта, ні капелюша, нічога няма. Крыкнула Роза на ўсю гасьцініцу і кінулася на падлогу. Пачуў адзін чалавек з суседняга нумару. Сказаў служачым гасьцініцы. Праз некаторы час Роза чытала запіску:

> Не надо стесняться Розочка, телеграфируй папаше, он вышлет тебе четыреста рублей и ты благополучно доедеш до своего местечка. Меня можешь поздравить с четвертой такой свадьбой. Это, пока что, моя специяльность. А Хлебсоюз или вернее Союзхлеб здесь не при чем. Передай привет папаше и мамаше и тем симпатичным ослам, которые присутствовали на нашей помолвке. Обещанные Сайке тридцать рублей за даставку нас на вокзал и за его резвость, я немедленно высылаю. Яша.

Парада Яшы прыгадзілася. Яна зрабіла якраз так. Майзельсон адчуў трывогу. Грошы паслаў. Але ў яго была свая бяда. Камунаддзел забраў лепшы пакой у доме Майзельсона. Замкнуў яго і павесіў пячатку. Майзельсон імчыцца ў другое мястэчка на параду да аднаго сябра. Па дарозе яму кажуць, што таго чалавека і сьлед прастыў. Вярнуўся назад.

Чаго так непакоіцца славуты комэрсант? Няўжо так шкада таго пакоя? О, не! Ён-бы аддаў дваццаць такіх цэлых дамоў, каб толькі ўвайсьці ў той пакой на невялікі час.

Позна ўначы Майзельсон рашыўся, падабраным ключыкам адамкнуў замочак, абарваў шпагацік, увайшоў. Яго дрыжачыя рукі пачалі шарыць па сьцяне. Прадраў кусок шпалераў. А бляск з другога пакоя ішоў праз расчыненыя дзверы ў гэты пакой.

Паўз склад „Дружбы“ праходзіў стораж. Заўважыў у гэтым пакоі бляск і пазваў вартавога міліцыянэра. Майзельсон дастаў дзьве цагліны, а з пячоркі, што за гэтымі цаглінамі—скураны мяшочак. Выскачыў у другі пакой, вярнуўся і хутка пачаў заклейваць новым кавалкам шпалераў.

Стук у дзьверы.

Доўга стукалі. Майзельсон патушыў агонь. Праз гадзіну адчыніў. Увайшло тры міліцыянэры і начальнік міліцыі. Глядзяць: пячатка абарвана.

Пашоў Майзельсон у раённы вучастак разам з залатой скураною торбачкай.

На небе тысяча залатых зорак, а між іх тырчэла галава старога знаёмага ўсяму мястэчку месяца.

## „Сустрэчны“ калгас Ясіноўскага і канец кулацкай „культуры“

Прачытаў Ясіноўскі ў газэце пра Бузучанскі калгас „Комунар“, прачытаў і аб сабе. Пішацца там, што кулак Ясіноўскі нашэптвае, каб як разбурыць яго. І той, што піша, заклікае даць Ясіно ўскаму належны адпор, як ворагу і шкодніку. Падпісана: Д. Л. Ясна—Дзяніс Лебяда. Чытае Ясіноўскі, скрабе галаву: „цісканудь-бы гада, каб не псаваў жыцьця, але тут яго няма. Шкоднікам абзывае. Але пра ліхтугу з піламі трасцу ведае. Гэта-ж было толькі ўчора“.

Учора, калі рэзала пільня адну з тых пяці калод, якія ляжалі ў завулку, каля саду Ясіноўскага, прыблізна на сярэдзіне калоды, раптам скаланула станок, брызнулі іскры, пасыпаліся зубы. Спынілі станок, зьбегліся рабочыя пільні. У калодзе два вялічэзныя, амаль па шворну таўшчыні, акопныя цьвікі. Відавочна шкодніцкая рука, а чыя—невядома. Іван успомніў кішэню Ясіноўскага, з якое тырчэлі іржавыя цьвікі, але тут ня тое, тыя цьвічкі пілы шаснулі як перца (пёрышка). „А ўсё-такі Ясіноўскага гэта работа—упэўнена думаў Іван—ён гад нарабіў“.

— Ведаеце што,—зварачаецца ён да сваіх сяброў відзіяльнікаў,— трэба нешта рабіць. Бачыце, які артыкул загнуў. Трасцу яны дакажуць што, але і так сядзець няма чаго. Трэба падавацца ў калгас.

— Ня прыме Ціхон,—адказаў адзін.

— А які чорт да яго пойдзе? Мы арганізуем свой. Гаспадароў дзесяць набярэцца і даволі. Раз улада агітуе за калгас, значыць, мы вось і сагласны. Павінны зацьвердзіць. І ведаеце, няма чаго надоўга адцягваць, бо як я чуў, дык пачынаюцца гэтыя калгасы па ўсіх вёсках. У мястэчку ўжо два дні ходзіць нейкі рабочы—ударнік з гораду. Заўтра-ж раненька трэба падаць заяву. Пішы, браце, Лявон, у цябе спрытнейшы почарк. Пішы:

*„У Бузучанскі Раённы Выканаўчы Суд“.*

— Які суд?—загаманілі ўсе.

— Фу-ты, ня суд, на чорта нам той суд. Камітэт. Пішы.

„1930 год, Люты месяц—ня ведаю якое сёньня чысло—мы, каторыя, ніжэйпадпісваемся, сяляне, мястэчка Бузукі заяўляем, што каб была карысьць і нам і дзяржаве, мы арганізуем калгас...“ як мы яго будзем называць?

— Гэта пасьля.

— Ну добра.

„... арганізуем калгас, як пра гэта кажа савецкая ўлада і комуністычная партыя“. О, пра партыю абязацельна напішы, бо яна-ж гэтым усім запраўляе. „Просім нам вызначыць столькі зямлі, колькі ёсьць у нас падпісчыкаў у адным кавалку, усю яе выдзеліць, каб

можна было культурна падыйці да сацыялізму“. Пра соцыялізм таксама трэба напісаць, бо яны-ж усе туды накіроўваюцца. Ну, а мы там паглядзім. Ну вось здаецца ўсё. А як-жа назавём?

— Можа „Соцыялізм“—нясмела прапанаваў адзін.

— Яно то можа і добра было-б уваткнуць і вывесіць гэтае славечка, але-ж, браткі мае, яно проста, нейк, заразае мяне. Давайце лепей назавём „Культура“—спакойнае, харошае слова.

На другі дзень у Райвыканкоме чыталі гэту заяву. Сказалі, што вырашаць праз пару дзён.

У памяшканьні сельсавету зьбіралася батрацтва і бядняцтва мястэчка. Прышло сюды некалькі калгасьнікаў, рабочых комбіната. Прышоў сюды прыехаўшы з горада, з завода „Комунар“ рабочы. Абгаварвалася адно пытаньне, якое запісана было ў пратаколе трымя словамі „Колектывізацыя і раскулачваньне“. Выступалі: Ціхон, рабочы з „Комунара“, шмат іншых. Разьбіралі вопыт працы калгасу „Комунар“, і той „Комунар“, які павінен вырасьці больш, як у дзесяць разоў. Каму было ясна, каму не ясна, а некаторыя проста не адважваліся. Выступіў Сымон:

— Мне, таварышы, брыдка, што я пабыў у калгасе, ды вышаў. А затым я вышаў, што зьбілі з толку і па слабасьці свайго характару. Але я скажу праўду: зьбілі мяне кулакі і першы Ясіноўскі. Вось тут Іван і ён можа пацьвердзіць, што мы разам як-бы вам сказаць, пілі ў Ясіноўскага і ў яго, у Івана. А цяпер я буду прасіць Ціхона, каб мяне зноў прынялі і таксама ўсім трэба так зрабіць. А Ясіноўскага — гэтую скулу—трэба выразаць, тады нам здаравей будзе.

— А што скажаш ты, Іван?—пытае старшыня сходу.

— А я скажу, як красьцянін—рабочы, цыркуляршчык: Ясіноўскі асплататар, таму ён і частаваў мяне, каб я цягнуў яго руку. А я не такі дурны, ого!

— А ўсё такі ён твой сябра?—заўважыў адзін.

— Ён мой сябра?—выступіў наперад Іван.—Спачатку я думаў, што ён парадачны чалавек, а калі вышаў ад мяне, дык не пашоў адразу да дому, а стаў пад вакном і слухае. Я яго хітрыку раскусіў. І цяпер давай мне яго пад цыркулярку, шасну, як паўтарачку. Яй-богу! І яшчэ скажу, з пiламі таксама яго работа.

З гэтага сходу калгас „Комунар“ значна павялічыўся. Вылучана была камісія для раскулачваньня. Сымон вызнаўся дабраахвотна наглядаць ноччу, каб Ясіноўскі і яшчэ некаторыя ня зьвезьлі чаго. Раніцаю камісія апісала ўсю маемасьць Ясіноўскага і яшчэ значнай часткі з „сустрэчнага калгасу“ Ясіноўскага. У гэты-ж дзень пацьвердзілася думка Івана пра цьвікі ў калодзе.

Увечары месяц праводзіў іх на вакзал у далёкі пуць.

Віцебск—Менск
1930 г.

## КАХАНЬНЕ

**Зьмітро Віталін**

Ну чаго ты такая спакойная?
Ну чаго такая задумная?..
Ты ня ведаеш—
я утойваю,—
Што ад гэтага горна і сумна мне...

Але можа быць гэта й ня сум,
Што ў вачох маіх—
воч тваіх полымя,
Што я сьню залатую касу,—
Можа гэта бунтуецца моладасьць?..

Кожны дзень ля заводзкае брамы,
Ты задумана ўсьміхаешся мне...
Мы з табою—
даўно сябрамі.
Па дзясятай сябруем вясьне.

Помніш—нам, „пацанам“ фабзавуч
Даў зубілы і малаткі,
Помніш, помніш—
мы кроў лізалі
За няпэўнасьць сваёй рукі...

Ды гады прарабілі сваё,
І, як сьцяг,
мы праносім сталасьць.
Мы выпільваем зараз жыцьцё
З гаманлівае цьвёрдае сталі.

Твой варштат насупроць майго,
Але вочы сьвідруюць дэталь...
Вочы, вочы...
Ах, ваш агонь
Паглынае таксама й мэталь...

Гэта ты, як і я, у бяссоньні
Над палямі
смаглай паперы,
Дзе выростае схэмны сасоньнік,
Дзе выростае моцная вера—

У здаровыя й кемныя рукі,
У жыцьцё тваіх думак узьнеслых,—
Дзе раджаюцца
дзіўныя гукі
Урачыстай,
жалезнае песьні...

Мо' й таму ты такая спакойная,
І такая,
такая задумная,
Як гадзіньнік у тваім-жа пакоіку,
Як партрэты ў пакоіку сумныя...

Але, любая, слухай—
мы раз жывём,
А вясной расьцьвітае жыцьцё...
Паглядзі:
з-за напілкаў і рошпілеў
Выглядае і сэрца маё...

Паглядзі...
І калі пашабашым,
Ты вазьмі яго ў рукі й нясі
На палі—па-за горад—на пашы,
Дзе зіяе крыштальная сінь...

І ніколі сьлязьлівая ростань
Паміж намі ня стане, ня стане!..
Дык выростай-жа ты,
выростай,
Наша радаснае каханьне!

г. Менск, 1931 г.

## НОВАЯ ПЕСЬНЯ БРАТКІ ЦЮКАДЗІ

**Анатоль Гідаш**

Быў ты харобрым, братка Цюкадзі,
Ня такім ты быў, як Балаж Куцуг.
Жніво пяе, сьпее віно, зацьвітае луг.
Графам, папом—рай на зямлі,—братка, паглядзі!

У Вэнгрыі краіне ўраджай ня скупы.
Агляніся наўкола: рай, куды ня ступі.
Што-ж ты надзеў гэту торбу, гэты парваны лахман?
Жах на судзе, голад у хаце, бізун падымае пан.

Сьпіну гні бядняк! Пот і кроў пральлеш,
Пот і кроў пральлеш за каравы грош.
Слова скажы—сьвісьне кулак: бо жандар ня сьпіць.
Зубы сашчэміць бядняк: у сэрцы гнеў кіпіць.

Гора мы пазналі, браток Цюкадзі,
Болей, як Балаж Куцуг, на сто раз.
Але сьветапісь літараў вогненны ланцуг,
На сьцягу агонь зары: буры ў падзем'і гарацЬ.

Пажывем яшчэ і мы, браток Цюкадзі,
Ня здрадзілі сябром, як Балаж Куцуг.
Сьпее хлеб, бродзіць віно, зацьвітае луг.
Лійся-ж кроў паноў! Барацьба наперазе—йдзі!

Пераклаў **Мікола Хведаровіч.**

# 120 МІЛЬЁНАЎ
# 120 MILLION

**Майкл Голд**

**Michael Gold**

Яны сказалі мне любіць Амэрыку, маю радзіму.
Але дзе яна? дзе Амэрыка?
Вандруючы між двух акіянаў
Я ня бачыў ніякай нацыі.
Бачыў 120 мільёнаў—
І яны ненавідзелі адзін аднаго
І яны душылі адзін аднаго,
Змагаючыся за грошы.

Амэрыкі адзінай няма—
Іх многа.
Белыя людзі паляць жывых нэграў,
Фабрыкант лупцуе малых дзяцей.
Салдаты растрэльваюць рудакопаў.
Салдаты растрэльваюць ткачоў.
Гэта краіна ворагаў.

Я бачыў, як сонца блукала ў Скалістых Гарах.
Бачыў зіхаценьне пшанічных палёў на раўніне,
Бачыў мільёны амэрыканскіх кветак
І чуў песьні птушак Амэрыкі.
Гэта прыгожая і моцная краіна.
І я, рабочы, любіў яе,
Але як я магу любіць тых, хто забівае рабочых?

Амэрыка, я не магу захапляцца тваім ідэалам грошай
Гэтаму монстру, сэрца якога—фордаў аўто,
Чые мазгі—тандэтны холівудзкі фільм,
Чые гарады—шалёныя мэханічныя здані,
Чыё жаданьне—футры і шаўковыя панчохі,
Чые пасьлядоўцы паміраюць з нэрвовага абжорства,
Чые ахвяры паміраюць з голаду.

Хто забіў Сакко і Ванцэцці?
Ня ты, рака Місісіпі,
Хто пасьцягаў золата з усяго сьвету?
О, ня вы, Алеганскія горы.
Хто забіваў нямцоў дзеля прыбытку?
О, ня вы, амэрыканскія палі і лясы.

Гэта прыгожая і моцная краіна,
Але ўвесь сьвет ненавідзіць свайго новага тырана.
Эўропа і Азія рыхтуюць вайну,
Яна прыдзе—паражэньне, зьнішчэньне і згуба
Для цябе, сытая Амэрыка.
І Ленін хадзіцьме паміж тваіх 120 мільёнаў.

Раней ці пазьней, Ленін.
Але няўхільна, Ленін,
Ленін, Ленін.

Ленін.
Бачу крывавае нараджэньне, якое ты прынясеш.
Бачу агонь і попел,
І мая радзіма ўздымаецца з попелу,
Бачу згоду 120 мільёнаў.
Бачу як Сонца Молата ўдзень
І Месяц Сярпа ўночы
Зьяюць у новай Амэрыцы,
Амэрыцы рабочых і сялян.

Пераклад з ангельскае
**А. Мардвілкі.**

# ШЛЯХІ ПРОЛЕТАРСКАГА ПІСЬМЕНЬНІКА

**. Яраслаўскі**

„Не бойтесь ничего. Нет мукі горше той, которой вы всю жизнь дышите“...
Морями крови не угасить правды“
*М. Горький, „Мать“.*

„Иди вперед, как шел
С поднятой головой,
Ряды врагов
Сметая в беспорядке“.
*Лахути „Максиму Горькому“.*

У тыя дні, калі рабочы рух маленькімі раўчакамі зьліваўся ў адзін магутны струмень, у рабочай клясе нашай краіны мала было сваіх поэтаў, сваіх мастакоў, пісьменьнікаў. Спадарожнікі з буржуазнага лягеру часта пакідалі яе ў цяжкія хвіліны, большасьць іх пакінула яе ў пэрыод між дзьвюма рэволюцыямі. Буйных мастакоў, пісьменьнікаў, вышаўшых з самай рабочай масы, жыўшых інтарэсамі гэтай масы, змагаючыся разам з ёю, выкаваўшых разам з усёй рабочай клясай сваю клясавую праўду,— такіх пісьменьнікаў можна было-б на пальцах пералічыць. І самым яркім з іх быў і застаецца да сёнешнага дня Аляксей Максімавіч Горкі.

Жыцьцё рабочага чалавека рана стыкнула Аляксея Максімавіча з такімі выдатнымі марксыстамі, як Федасееў. Пазьней у „Моих университетах“ М. Горкі яскрава адбіў спрэчкі ў рабочых гуртках, дзе рэволюцыйнае вывучэньне Маркса пракладала сабе шлях, апракідваючы аўторытэты ўтопічнага народніцтва, прабіваючыся да перадавікоў-рабочых, а праз іх да рабочай масы. Горкі разам з гэтымі перадавікамі-рабочымі і разам з усёй рабочай масай выпакутаваў рэволюцыйнае сьветаразуменьне, прайшоў шлях клясавай барацьбы ад першых, раскіданых гурткоў да масавага рабочага руху, ад першых вузкіх па сваім складзе партыйных гурткоў да масавай пролетарскай партыі бальшавікоў комуністаў, ад першых дэмонстрацый і стачак да вялізарнейшых клясавых баёў за соцыялізм. Гісторык рэволюцыйнага руху нашай краіны павінен будзе адзначыць вялізарны ўплыў твораў Горкага на рэволюцыйную рабочую і студэнцкую моладзь у першай рэволюцыі. Некаторыя з іх былі свайго роду рэволюцыйнымі маніфэстамі, як, напрыклад, „Песнь о соколе“.

М. Горкі зьвязаў свой лёс, сваё жыцьцё са справай рабочае клясы моцна, стала, на ўсё жыцьцё, да канца. У яго былі свае сумненьні, свае хістаньні, як у многіх рабочых людзей, на працягу дзесяткаў год; але

кожны раз ён прадумвае да канца гэтыя сумненьні і зноў становіцца ў організаваныя рады рабочае клясы, яшчэ больш упэўнены ў праўдзе нашае справы. Гэтай праўдай для Горкага і ў дні першай рэволюцыі была клясавая праўда. „Мы стаім супроць грамадзтва—гаворыць Горкі вуснамі Паўла ў адным з лепшых сваіх твораў „Мать",—мы стаім супроць грамадзтва, інтарэсы якога вам загадана абараняць, як незамірныя ворагі яго і вашы, і прымірэньне паміж намі немагчыма да пары, пакуль мы не пераможам. Пераможам мы, рабочыя".

„Паглядзеце,—гаварыў ён клясавым ворагам яшчэ тады, у пэрыод першай рэволюцыі, чвэрць века назад,—у вас ужо няма людзей, якія маглі-б ідэёва змагацца за вашу ўладу, вы ўжо страцілі ўсе аргумэнты, здольныя абараніць вас ад напору гістарычнай справядлівасьці. Вы ня можаце стварыць нічога новага ў галіне ідэй, вы духоўна бясплодныя. Нашы ідэі растуць, яны ўсё ярчэй разгараюцца, яны ахапляюць народныя масы, організуючы іх для барацьбы за свабоду. Усьведамленьне вялікай ролі рабочага зьлівае ўсіх рабочых сьвету ў адну душу,—вы нічым ня можаце затрымаць гэты працэс абнаўленьня жыцьця, апроч жорсткасьці і цынізму... Ваша энэргія—мэханічная энэргія росту золата, яна аб'ядняе вас у групы, закліканыя пажэрці адзін аднаго. Наша энэргія—жывая сіла ўсё узрастаючай сьвядомасьці, солідарнасьці ўсіх рабочых. Усё, што робіце вы,—злачынна, бо накіравана да зьняволеньня людзей. Наша работа вызваляе сьвет ад зданьняў і цудзішчаў народжаных вашай маною, злобай, прагнасьцю—цудзішчаў, запалохаўшых народ. Вы адарвалі чалавека ад жыцьця і разарылі яго. Соцыялізм злучае разбураны вамі сьвет у адзінае вялікае цэлае. І гэта—будзе".

„Мать" перакладзена, здаецца, на ўсе замежныя мовы. Мільёны, дзесяткі мільёнаў прачыталі гэты сапраўдны дзівосны па сіле твор М. Горкага, і мільёны чытачоў-прыяцеляў Горкага ўспрынялі гэту клясавую праўду Паўла. Іменна таму Горкі ўжо тады павінен быў адчуць на сабе нянавісьць клясавага ворага, нянавісьць да яго царызму і яго служак. Клясавы вораг заўсёды ўважліва сочыць за работай М. Горкага. І калі яму здаецца, што ў творчасьці Аляксея Максімавіча прагучэў голас сумненьня, клясавы вораг радаваўся гэтаму.

Але дарэмна была яго радасьць. Іменна цяпер, у гады разгортваньня соцыялістычнага наступленьня, калі найвышэйшага пункту дасягае клясавая злаба імпэрыялістаў усяго сьвету супроць краіны саветаў, голас Горкага набывае асаблівую чоткасьць, упэўненасьць. Горкі знаходзіць зьнішчаючыя клясавага ворага словы і вобразы. Жыцьцё ў Заходняй Эўропе за гэтыя гады дало М. Горкаму асабліва каштоўны вопыт пазнаньня ўсіх супярэчнасьцяй клясавага грамадзтва ў пэрыод імпэрыялізму, у пэрыод пралетарскай рэволюцыі. За гэтыя гады ён быў мала ў нашай краіне, але ён заўсёды з намі. Ніколі сувязь з самымі шырокімі масамі ў нашай краіне ня была так моцная ў Аляксея Максімавіча, як за гэтыя апошнія гады. Яго нядаўняя паездка ў СССР адкрыла перад ім новы

сьвет, сьвет новых людзей. Ен бачыў вынікі толькі першага году пяцігодкі, але гэтыя вынікі яго зьдзівілі. Дзівосная энэргія рабочае клясы нашай краіны, творчыя сілы, абуджаныя рэволюцыяй і організаваныя нашай партыяй для вялізарнейшай справы соцыялістычнай перабудовы, за кароткі тэрмін зрабілі тое, чаго не маглі-б зрабіць дзесяцігодзьдзі буднічнай барацьбы. Перад ім раскрылася новая зямля, новыя людзі, новыя адносіны паміж людзьмі. Ва ўсіх галінах жыцьця разгортваюцца цудоўныя адросткі новага, прабіваюцца сьвежыя парасткі соцыялістычнай працы, соцыялістычных адносін. Скрозь таўстую кару мінулага, скрозь цяжкія перашкоды нашай адсталасьці, някультурнасьці, галечы, перамагаючы страшэнную сілу звычкі мільёнаў дробных гаспадарчыкаў-індывідуалістаў, прабівае сабе дарогу соцыялізм. І вось, дакрануўшыся да гэтай новай зямлі, Горкі набывае новую сілу, новую яркасьць. Але ён ня толькі захапляецца дасягнутымі вынікамі: не, яму хочацца, каб гэтае яго захапленьне перадалося ўсім, хто яшчэ сумняваецца ў посьпеху нашай справы, ён хоча пераканаць у нашай вялікай праўдзе мільёны тых, хто яе яшчэ не зразумеў. Яму належыць ініцыятыва выданьня часопісу „Наши достижения“, ілюстраванага часопісу „На стройке СССР“ і плян выданьня „Истории гражданской войны“. Горкі ведае, што ў нас сапраўды ёсьць вялізарнейшыя дасягненьні, дзівосныя, як любіць ён гаварыць. Але Горкі хоча, каб гэтыя дасягненьні пераконвалі другіх, усялялі ўпэўненасьць у перамозе, будзілі жаданьне дасягнуць яшчэ большага, больш вялікага, яшчэ больш раскачвалі размах творчых сіл, яшчэ больш паскаралі тэмпы нашай соцыялістычнай будоўлі.

Горкі ведае, хто наш вораг. Ён вывучыў яго на працягу дзесяткаў год свайго жыцьця, сваёй барацьбы за справу рабочае клясы. Ён ведае ўлоўкі, хітрыкі гэтага ворага. Горкі нясупынна выкрывае яго, бічуе многалікага абываталя, мешчаніна, індывідуаліста, які баіцца заўтрашняга дня, які трусьліва аглядаецца назад, уздыхаючы аб мінулым, аб мяшчанскай утульнасьці. Горкі—вялізарны вораг гэтага многалікага мешчаніна, абываталя, індывідуаліста, дробнабуржуазнай стыхіі. Бо гэты многалікі мешчаніч, філістэр, які больш усяго баіцца пролетарскай рэволюцыі, зьяўляецца апошняй апорай буржуазіі. Гэтага мешчаніна організуе міжнародная соцыял-дэмократыя, за яго змагаюцца буржуазныя партыі. Гэты мешчанін прыкрывае сваё ўбоства, сваю ідэёвую галечу і сваё бясьсільле мізэрнай вопраткай пацыфізму і гуманізму, чапляецца за рэлігію, за містыцызм, у той час, як сапраўдны гаспадар капіталістычнага сьвету—банкір, буйны ўласьнік прамысловых прадпрыемстваў і вялізарных маёнткаў, рабаўласьнік і драпежнік—рыхтуецца да новых зьнішчальных войн.

І Горкі бачыць, як насоўваецца „гураган, стары сьвет разбураючы“. Але ён ведае, што стары сьвет, ясна, не адыйдзе бяз бою, ён яшчэ паспрабуе смуроднымі атрутнымі газамі задушыць працоўнае чалавецтва, ён паспрабуе артылерыйскімі знарадамі разбурыць працу рабочых і ся-

лян, якія будуюць краіну соцыялізму. „Мы ўсе павінны зразумець сябе, як Чырвоную армію пролетарыяту ўсяго сьвету,—гаворыць М. Горкі,—усе, работнікі на палёх і на фабрыках, работнікі ўзброеныя вінтоўкай і ўзброеныя пяром. Мы жывем ужо 13 год у баі, гэта ваш вялікі буднічны, але вялічавы бой з бясформенным мэталем, з якога вы ствараеце разумныя машыны, з зямлёй, якую вы прымушаеце даваць вялікія ўраджаі, бой пад зямлёй, дзе вамі здабываецца вугаль, бой на транспорце ў зімнія ночы супроць сьнежных мяцеліц,—усюды вы вядзеце бой словам і справаю.

І калі вам прыдзецца выйсьці на поле змагацца супроць старога сьвету са зброяй у руках,—на гэты апошні бой выйдзе першая ў сьвеце армія, кожны баец якой будзе зусім дакладна і ясна ведаць, за што ён змагаецца, хто яго сапраўдны вораг, будзе ведаць, што вораг гэты асуджаны гісторыяй на пагібель і што пагібель яго—пачатак шчасьця працоўных усёй зямлі" („Правда", № 51).

У тым, што кожны баец будзе зусім дакладна і ясна ведаць, за што ён змагаецца, хто яго сапраўдны вораг,—у гэтым значная заслуга і самога Аляксея Максімавіча; ён многа зрабіў, асабліва ў апошнія гады для таго, каб кожны працоўны ясна бачыў гэтага ворага. Горкі бачыць, як „сум і роспач адаляваюць мяшчан, сьвядомасьць бясьсільля прыгнечвае іх, і ўсё больш разрастаецца ў іх асяродзьдзі колькасьць людзей, якія жывуць па лёзунгу: „хоць дзень, да наш". Ён бачыць, як самая беспрасьветная рэакцыя ахапляе капіталістычны сьвет. У пошуках выйсьця з глыбачайшага эканомічнага ўзрушэньня, з найвялікшага крызісу буржуазія хапаецца за самыя рэакцыйныя сродкі. Шалёная падрыхтоўка да вайны адбываецца побач з разьвіцьцём упадніцкай філёзофіі, упадніцкіх настрояў сярод буржуазнай інтэлігенцыі, сярод заходняэўропэйскага мяшчанства. Горкі бачыць „яўныя адзнакі адзічаньня буржуазіі—адзічаньне ад страху перад пагібельлю... Панічныя старыя царкоўныя думкі ўваскрасаюць, распаўсюджваюцца, як цьвіль, і, зразумела, ня могуць ня ўплываць на масы мяшчанства, дапамагаючы процэсу яго „загніваньня з галавы" і паскорваючы гэты процэс" (Ліст М. Горкага сярпухоўскім рабфакаўцам).

У гэтых абставінах голас Горкага гучыць бадзёра і ўпэўнена. Ён кліча рабочых, працоўных ня толькі нашай краіны да падтрыманьня пролетарскай рэволюцыі. Да голасу шасьцідзесяцітрохгадовага М. Горкага прыслухоўваюцца мільёны працоўных ва ўсім сьвеце. Папы ўсіх колераў спрабуюць ашукаць працоўных казкамі аб агульначалавечай праўдзе, замазаць клясавую праўду. Горкі ўскрывае дзьве праўды. Ён гаворыць працоўным аб гэтых дзьвюх, якія ўступілі ў люты бой.

„Адна з іх ваша—старэнькая, трухлявая, сьляпая на левае вока, бяззубая, і харчуецца тэй гнільлю, якую сама-ж яна і стварыла.

Другая—маладая, задорная, нясьсякна энэргічная; яна імкнецца наперад, да сваёй высокай мэты, не аглядаючыся, і часамі трапляе ў ямы,

варожа і помста вырытыя на яе цяжкім шляху нявольнікамі старой праўды“.

Адна з праўд— у Саюзе Саветаў людзі працы пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў і рабоча-сялянскай улады, працуючы ў цяжкіх умовах, пясьпяхова будуюць сваю новую дзяржаву роўных і гэта вялізарная, мужная работа зьяўляецца пачаткам адраджэньня пролетарыяту ўсяго сьвету, пачаткам сусьветнага рэнэсансу.

Другая—дурненькая, дробная, злая праўда, якую любяць дэкадэнты, што жывуць унутры і па-за Саюзу Саветаў. Яна помстна паказвае на тое, што 162 мільёны насельніцтва Саюзу Саветаў усё яшчэ не апрануты ў шоўк і аксаміт, што за 13 год дыктатуры рабочае клясы яна яшчэ не зрабіла 25 мільёнаў дробных уласьнікаў-індывідуалістаў соцыялістамі“.

Паміж іншым, да голасу гэтых дэкадэнтаў, што знаходзяцца па-за Саюзам Саветаў, далучыў свой голас і Л. Троцкі, у адным са сваіх „бюлетэняў“, папракаючы Горкага за тое, што ён абараняе безагаворачна Савецкі Саюз, і выпукляючы на першы плян былыя хістаньні А. М.

Шасьцідзесяцітрохгадовы М. Горкі з усім пылам юнацтва змагаецца за гэту нашу пролетарскую праўду, якая вызваляе працоўнае чалавецтва, зьнішчае стары сьвет няроўнасьці, клясавага прыгнечаньня.

Вузкае і цеснае было кола пролетарскай літаратуры, калі партыя наша выступіла ў паход супроць клясавага ворага. Але Горкі цяпер ужо не адзін у асяродзьдзі пісьменьнікаў. Вакол яго вырасла новае, маладое, шумнае племя пролетарскіх і сялянскіх пісьменьнікаў, прайшоўшых цяжкую працоўную школу—школу клясавай барацьбы, клясавага выхаваньня. Яны вучацца ў М. Горкага, як трэба біць ворага востра адточаным пяром. Яны любяць Аляксея Максімавіча, як любіць яго ўся наша краіна.

Горкага цкуе буржуазія, фашыцкі, соцыял-фашыцкі друк, яна ненавідзіць яго, іменна таму, што Горкі таленавіта ярка абараняе нашу клясавую праўду комунізму, выпакутаваную намі на працягу 30 год расійскай рэволюцыі,—праўду, за якую загінулі ў астрогах, на шыбеніцах, у выгнаньні тысячы і тысячы лепшых людзей. Але чым большая нянавісьць нашых ворагаў, тым з большай сілай будзем мы разам з Аляксеем Максімавічам змагацца словам і справай за ўрачыстасьць, за перамогу нашай справы, за перамогу пролетарскай рэволюцыі.

Мы чакаем прыезду Аляксея Максімавіча, як нашага баявога таварыша. Разам з ім мы ня толькі закончым першую нашу пяцігодку: мы разгорнем нябачны яшчэ энтузіязм, організуем неабуджаныя яшчэ сілы для пераможнага заканчэньня вялікага пляну соцыялістычнай перабудовы надыходзячай новай пяцігодкі.

Мы ўпэўнены, што Горкі з кожным днём будзе станавіцца усё бліжэй да рабочых, да працоўных Эўропы і ўсяго сьвету, як усё бліжэй, усё радней становіцца для іх Савецкі Саюз.

Ніхто ня скажа, што гэта?

Ніхто, я ўпэўнены.

І мая жонка выйдзе ў сад, у альтанцы пасядзець, і хлопцы і дзяўчаты спакойна газэткі чытаюць, і музыку паслухаюць на манер „грыбнога вальсу“ і жывём мы сытна і добра.

Хто скажа, што ня так, той паклёп навядзе на нас.

Гэта так, таварышы.

Наша комуна акурат.

# ФІЛЁЗОФІЯ ДОБРАСТАННАСЬЦІ ЦІ НЯДОБРАСТАННАСЬЦЬ ФІЛЁЗОФІІ

**П. Панкевіч**

Самакрытыка на філёзофскім фронце БССР разгорнута надзвычайна слаба. Яшчэ дагэтуль ня выкрыты поўнасьцю памылкі асноўных прадстаўнікоў гэтага філёзофскага фронту. Работа таварыства ваяўнічых матэрыялістаў-дыялектыкаў пачынае разгортвацца толькі ў апошнія месяцы. Прыблізна да сьнежня 1930 г. гэтае таварыства амаль зусім не працавала, паседжаньні рабіліся надзвычайна рэдка, і абмяркоўваліся даклады на такія тэмы, якія стаялі далёка ад сучасных задач соцыялістычнага будаўніцтва і клясавай барацьбы пролетарыяту. Нашыя матэрыялістыдыялектыкі ня здолелі праявіць сваю няпрымірчую ваяўнічасьць у адносінах да цэлага раду ідэолёгічных скажэньняў і буржуазных тэорый, якія ўзьніклі, між іншым, і ў нас, на Беларусі, і карысталіся популярнасьцю на працягу доўгіх год. Ня была зьвернута належная ўвага на барацьбу з мэханіцызмам і ідэалізмам у прыродазнаўчых і грамадзкіх навуках, не завастралася барацьба з філёзофіяй вялікадзяржаўнага шовінізму як галоўнай небясьпекай на даным этапе і з тэорыямі беларускага нацыянал-дэмократызму і нацыяналізму розных напрамкаў, не крытыкавалася ў прэсе мэтодолёгія правага ўхілу і трацкізму, не распрацоўваліся і не популярызаваліся творы Леніна. Праўда, у апошні час таварыства ваяўнічых матэрыялістаў-дыялектыкаў пачынае праяўляць прызнакі жыцьця: праведзена дыскусія аб становішчы на філёзофскім фронце, заслуханы даклады аб ідэолёгіі беларускіх нацыянал-дэмократаў і аб мэтодолёгіі трацкізму, разьбіралася проблема „Ленін і Плеханаў" і г. д. Аднак, і цяпер яшчэ самакрытыка сярод філёзофаў ня ўзьнята на належную вышыню. Дыскусія аб становішчы на філёзофскім фронце прайшла пры слабым удзеле масы, актыўнасьць праяўлялі толькі тыя асобы, якія належалі да старога кіраўніцтва, даклады набылі абстрактны характар, а дакладчыкі асьцярожна абыходзілі вострыя моманты разьвіцьця філёзофскай думкі на Беларусі. Напрамак агню самакрытыкі быў даны ня ў той бок, які зьяўляецца галоўным на ўказаным фронце. Мы яшчэ дагэтуль не раскрытыкавалі мэханістычныя тэорыі як найбольш небясьпечныя на даным этапе, мы не займаліся як належыць выкрыцьцём ідэалістычных напрамкаў і плыняў у розных галінах навукі.

Адзін час даволі выразна выступала сярод нашых філёзофаў тэндэнцыя ліквідаваць т-ства ваяўнічых матэрыялістаў-дыялектыкаў, скон-

цэнтраваўшы ўсю работу катэдры марксызму пры БАН. Ліквідацыя ўказанага т-ва і консолідацыя невялікай групы марксыстаў вакол катэдры БАН (цяпер Інстытут філёзофіі) пры адначасовым распыленьні астатніх ваяўнічых матэрыялістаў-дыялектыкаў па розных організацыях і ўстановах няўхільна павялі-б да разбурэньня адзінства філёзофскага фронту і маглі-б стварыць умовы для нашага ідэёвага разброеньня перад націскам буржуазнай і дробнабуржуазнай ідэолёгіі. Наша важнейшая задача—не ліквідацыя т-ва ваяўнічых матэрыялістаў-дыялектыкаў, а, наадварот, умацаваньне яго, пашырэньне і паглыбленьне яго работы, ператварэньне яго ў масавую організацыю, вакол якой можна было-б мобілізаваць пролетарскую грамадзкасьць на барацьбу за дыялектычны матэрыялізм у розных галінах навукі. Праўда, зараз ужо не адчуваецца якіх-небудзь імкненьняў да ліквідацыі ўказанага т-ва. Аднак, справа з самакрытыкай сярод філёзофаў і цяпер яшчэ знаходзіцца ня зусім у добрым стане.

Калі ў канцы 1930 году катэдра марксызму БАН вылучала брыгады для вывучэньня ідэолёгічнага становішча ў розных галінах навукі, была ўнесена прапанова вылучыць брыгаду для вывучэньня становішча і на філёзофскім фронце БССР. Гэтая прапанова была рашуча адхілена нашымі філёзофамі на тэй падставе, што ў сучасны момант найбольш актуальнай задачай зьяўляецца барацьба з буржуазнай ідэолёгіяй і што самы факт вылучэньня брыгады для вывучэньня філёзофскага фронту ў БССР мог-бы падарваць аўторытэт нашых філёзофаў. Мы глыбока пераконаны, што паказаная катэдра, адхіліўшы прапанову аб вылучэньні брыгады па філёзофіі, *зрабіла буйную палітычную памылку, якая заключаецца ў адмаўленьні неабходнасьці самакрытыкі на філёзофскім фронце*. На жаль, палітычны сэнс гэтай памылкі яшчэ ня выкрыты да апошняга часу.

Другім фактам ігнараваньня самакрытыкі сярод філёзофаў зьяўляецца выступленьне т. т. Выдры і Вольфсона на нарадзе марксыцкіх т-ваў г. Менску пры культпропе ЦК КП(б)Б, якая адбылася 13 кастрычніка 1930 г. Тады т. Выдра даводзіў, быццам сярод нашых філёзофаў усё добра, няма ніякіх ідэолёгічных скажэньняў, што тут з боку марксыстаў праяўляецца належная актыўнасьць і праводзіцца правільная палітычная лінія. Калі-ж ёсьць у нас якія-небудзь ідэолёгічныя скажэньні, дык яны назіраюцца па-за катэдрай марксызму і т-вам ваяўнічых матэрыялістаў-дыялектыкаў, яны назіраюцца сярод іншых галін навукі. Адсюль і рабіўся вывад, што самакрытыка сярод філёзофаў не патрэбна. Тав. Выдра зусім выразна выказваў думку, што трэба разгортваць крытыку не ў адносінах філёзофіі, а ў адносінах да іншых дысцыплін. Тут па сутнасьці мы маем у наяўнасьці тую самую позыцыю, на якой стаяла і катэдра марксызму, калі апошняя адхіляла прапанову аб вылучэньні брыгады па філёзофіі. Трэба не забываць тое, што т. Выдра выказваў свае думкі ў той час, калі на філёзофскім фронце адсутнічала ўсякая жывая работа. Ён у сваёй прамове казаў:

„Калі тав. Сянкевіч тут пералічваў тыя прарывы, якія мелі месца ў нас у галіне эканоміі, у галіне нашай аграрнай думкі, у галіне нашай гістарычнай думкі, у галіне прыродазнаўчай ці краязнаўчай думкі, дык ён ня меў магчымасьці сказаць аб тым, што ў нас тут мелі месца прарывы на філёзофскім фронце“.

Такім чынам т. Выдра перакананы ў тым, што ніякіх прарываў на філёзофскім фронце ня было.

На рэпліку т. Сэрбэнты, што на філёзофскім фронце ёсьць суцэльныя прарывы, т. Выдра прадоўжваў гаварыць наступнае:

„Выбачайце, тав. Сэрбэнта. Справа ў тым, што гэта ня значыць, што ў нас не разгортваюцца ідэалістычныя думкі з якіх-небудзь катэдр наогул, але-ж гэта ня значыць, што гэтыя думкі выказваюцца ў нас з філёзофскай катэдры, таму, што гэтая справа зьяўляецца аднэй з заваёў Кастрычніцкай рэволюцыі, згодна якой філёзофская думка знаходзіцца зараз у нашых руках“. Вось такая філёзофія добрастаннасьці сьведчыць аб нядобрастаннасьці філёзофіі некаторых нашых „ваяўнічых“ матэрыялістаў-дыялектыкаў. Тав. Выдра зусім абстрактна зьвязаў Кастрычніцкую рэволюцыю з дзейнасьцю акадэмічных катэдраў і зрабіў недапушчальны для марксыста вывад, што быццам выкладаньне дыялектычнага матэрыялізму знаходзіцца заўсёды ў нашых руках пасьля Кастрычніцкай рэволюцыі. Тав. Выдра забывае, што пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі клясавая барацьба ў СССР ня спыняецца, што яна зараз, у пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі і ліквідацыі кулацтва як клясы, набывае абвостраны характар, што скінутая буржуазія аказвае шалёнае супраціўленьне дыктатуры пролетарыяту і імкнецца пад рознымі формамі і рознымі сродкамі ўтрымаць у сваіх руках акадэмічныя катэдры з тым, каб рабіць уплыў на масы.

Ня гледзячы на тое, што мы бязьлітасна пад кіраўніцтвам партыі змагаемся з буржуазнай профэсурай, мы ўсё-ж назіраем і дагэтуль рэцыдывы антымарксыцкага выкладаньня нават з тых катэдр, якія намі лічацца марксыцкімі. З трыбун унівэрсытэтаў і іншых вышэйшых устаноў часта пад выглядам марксызму абгрунтоўваліся тэорыі эмпірыо-крытыцызму, фрэйдызму, мэханістычнага матэрыялізму і г. д. Затушоўваць гэты факт, значыць складаць зброю марксыцка-ленінскай крытыкі перад клясавым ворагам, які часта няпрыкметна падкопваецца пад асновы навуковага комунізму з тым, каб разбурыць нашую сілу на ідэолёгічным фронце. Вось некалькі прыкладаў.

У 1923 г. вышла кніга Ўладзімера Міхайлавіча Івcaноўскага: „Методологическое введение в науку и философию“, выпушчаная выдавецтвам „Белтрестпечать“. Гэтая кніга потым была нават *прэміявана Экспэртнай Комісіяй Цэкубу і ЦБСНР* і такім чынам разглядалася, як дадатная зьява ў філёзофскай літаратуры. Аўтар піша, што ў аснову кнігі быў пакладзены курс, які неаднокраць чытаўся ім ва унівэрсытэтах Маскоўскім, Казанскім, Самарскім і на працягу двух год у Беларускім.

Значыць, ідэі, якія разьвіваліся проф. Іваноўскім з трыбун розных унівэрсытэтаў, мелі даволі шырокае распаўсюджаньне. Якія-ж гэта ідэі? Іваноўскі зьяўляецца прыхільнікам філёзофіі позытывізму. У сваіх разважаньнях па агульнай мэтодолёгіі і соцыолёгіі ён часта спасылаецца на О. Канта і Спэнсэра, а ў галіне гісторыі прытрымліваецца поглядаў Рыкерта. За кантыянствам ён прызнае вялікія заслугі па распрацоўцы навуковай мэтодолётіі, а да марксызму адносіцца адмоўна. Аб кантыянстве Іваноўскі піша наступнае: „З іншых напрамкаў, найбольш у нас распаўсюджаных і маючых крэдыт, *кантыянства* мае вельмі вялікія заслугі якраз у галіне навуковай мэтодолёгіі. Прызнаючы цэннасьць гэтага элемэнту, мы адмоўна адносіліся да ўсякіх онтолёгічных спроб прававернага кантыянства, у выглядзе „царства свабоды і мэтаў“, „разума, постигаемого характера“ і г. д.

Такім чынам Іваноўскі лічыць мэтодолёгію Канта навуковай, тады як яна сапраўды зьяўляецца *эклектычнай*.

У адносінах да марксызму гэты профэсар даводзіць, што ён разыходзіцца „з большасьцю прадстаўнікоў матэрыялістычнага напрамку“, гэта значыць, ён разыходзіцца з ортодоксальнымі марксыстамі з той прычыны, нібыта марксысты лічаць другараднай рэччу такія проблемы як мэтодолёгія і гносэолёгія, тады як ён высоўвае даныя проблемы і на першы плян і што, паводле яго думак, нельга бачыць неабходнай сувязі „паміж матэрыялізмам грамадзкім і ўласна філёзофскім“. Іваноўскі тут сьвядома скажае рэчаіснасьць. Ортодоксальныя марксысты ніколі і нідзе ня лічылі проблему мэтодолёгіі і ў тым ліку гносэолёгіі другараднай. Наадварот, яны надавалі ёй вялікае значэньне і вырашылі яе не на падставе філёзофіі Канта, Конта і Спэнсэра, як гэта робіць Іваноўскі, а на аснове вучэньня Маркса, Энгельса і Леніна. „Вялізарным асноўным пытаньнем усякай, а асабліва навейшай філёзофіі—піша Энгельс—зьяўляецца пытаньне аб адносінах мысленьня да быцьця“. І далей ён заўважвае наступнае: „Ужо ў сярэднявяковай схолястыцы *мела вялікую ролю пытаньне аб тым, як адносіцца* мысьленьне да быцьця, што чаму папярэднічае: дух прыродзе ці прырода духу,—гэтае пытаньне, на зло царкве, набыло больш рэзкі выгляд пытаньня аб тым, ці створаны сьвет богам, ці ён існуе спрадвеку. Філёзофы падзяліліся на два вялікія лягеры адпаведна таму, як адказвалі яны на гэтае пытаньне. Тыя, якія сьцьвярджалі, што дух існаваў раней прыроды, і якія, значыць, так ці інакш, прызнавалі стварэньне сьвету,—а ў філёзофаў, напр., у Гэгеля, стварэньне сьвету прымае яшчэ больш недарэчны і заблытаны выгляд, чым у прававерных хрысьціян,—саставілі ідэалістычны лягер. Тыя ж, якія асноўным пачаткам лічылі прыроду, далучыліся да розных школ матэрыялізму [1]). Такім чынам марксысты надавалі гносэолёгіі настолькі важнае значэньне, што нават яны клалі ў аснову падзелу філёзофаў на

[1]) Фр. Энгельс: „Людвіг Фэйербах“, 1919 г. Петербург, стар. 10.

ідэалістаў і матэрыялістаў тое, як гэтыя філёзофы вырашалі проблему аб адносінах мысьленьня да быцьця, г. зн. гносэолёгічную проблему.

Сапраўды навуковая мэтодолёгія, у якую ўваходзіць і гносэолёгія, была распрацавана толькі марксыстамі ў выглядзе матэрыялістычнай дыялектыкі, якая зьяўляецца навукай аб найбольш агульных законах усякага руху матэрыі і якая кладзецца ў аснову кожнай асобнай навукі.

Іваноўскі даводзіць, што няма неабходнай сувязі „паміж матэрыялізмам грамадзкім і сучасна-філёзофскім".

Перафразоўваючы думку Іваноўскага, трэба было-б сказаць, што няма неабходнай сувязі паміж дыялектычным матэрыялізмам і гістарычным матэрыялізмам. А гэта зьяўляецца поўным абсурдам. Зараз вядома нават кожнаму школьніку, што сутнасьць гістарычнага матэрыялізму заключаецца ва ўжываньні матэрыялістычнай дыялектыкі пры аналізе законаў разьвіцьця чалавечага грамадзтва.

Іваноўскі марыць аб стварэньні сапраўды незалежнай „навуковай" філёзофіі ў СССР. „Зараз філёзофія перажывае ў нас новы крызіс,—кажа ён.—Хацелася-б думаць, што яна выйдзе з яго пераўтворанай і адроджанай; хацелася-б бачыць, нарэшце, перамогу не прыкладной (да рэлігійных ці палітычных настрояў), а сапраўды *незалежнай* тэорэтычнай філёзофіі"[1]). Тое, што філёзофія не павінна быць прыкладной да рэлігійных настрояў— гэта для нас зразумела. Але-ж зусім для нас не зразумела тое, якім чынам філёзофія не павінна быць прыкладной да „палітычных настрояў". Відаць, тут Іваноўскі хоча стварыць якуюсьці бясклясавую філёзофію, што па сутнасьці азначае імкненьне стварыць філёзофію, незалежную ад пролетарыяту, г. зн. стварыць філёзофію буржуазную, якая-б была прыстасавана да новых форм клясавай барацьбы ва ўмовах СССР. Іваноўскі памылкова думае, што ў нас, у Савецкім Саюзе, ёсьць магчымасьць свабодна распаўсюджваць розныя буржуазныя тэорыі і што быццам гэтая пропаганда буржуазных ідэй дазваляецца нашымі законамі.

Ён піша „...многае з таго, што ўведзена рэволюцыяй, пачынае ўжо рабіцца прывычным, пачынае ўваходзіць у натуру, у грамадзкую сьвядомасьць,—і перш за ўсё, прынцыповая раўнапраўнасьць у ідэёвых і грамадзкіх адносінах усіх грамадзян без разрозьненьня клясавага становішча"[2]). Зразумела, Іваноўскі глыбока памыляецца ў тым, быццам у нас *існуе „прынцыповая роўнапраўнасьць у ідэёвых і грамадзкіх адносінах усіх грамадзян без разрозьненьня клясавага становішча"*. Мы вялі і будзем весьці рашучую барацьбу супроць буржуазных і дробнабуржуазных ідэй. Ніякай прынцыповай раўнапраўнасьці за нашым клясавым ворагам мы не прызнавалі, не прызнаем і ня будзем прызнаваць. Адсутнасьць жорсткай марксыцкай крытыкі на некаторых вучастках філёзофскага фронту і зусім адкрытыя прымірэнчыя адносіны некаторых камуністаў да бур-

[1]) Методол. введение ... ст. XLII

[2]) Там-жа. стар. VII

жуазнай профэсуры далі повад Іваноўскаму прыйсьці да вынікаў, быццам у аснове дыктатуры пролетарыяту заложаны прадпасылкі для свабоднага разьвіцьця буржуазных тэорый і быццам дыктатура пролетарыяту можа „праз пальцы“ глядзець на шкодніцкія дзеяньні буржуазнай профэсуры. Трэба мімаходам адзначыць, што нашы ваяўнічыя матэрыялісты-дыялектыкі не напісалі аніводнага артыкулу супроць „прэміяваных“ думак Іваноўскага.

У аснову мэтодолёгіі розных навук Іваноўскі кладзе тэорыю эволюцыі Спэнсэра. Замест таго, каб разглядаць разьвіцьцё, як адзінства процілегласьцяй, ён сьцвярджае ўсьлед за Спэнсэрам, што ўсякае разьвіцьцё заключаецца ў пераходзе ад бясьсьвязнай аднолькавасьці да зьвязанай рознастайнасьці, — інакш кажучы, у пастаянным паралельным функцыянаваньні прынцыпаў з аднаго боку, дыфэрэнцыяцыі і спэцыфікацыі, а з другога—інтэграцыі і коордынацыі“. Узаемапраніканьне і барацьба процілегласьцяй і перахөд аднэй процілегласьці ў другую—гэты закон самаруху матэрыі зьяўляецца для Іваноўскага незразумелым. Аналізуючы філёзофію Гэгеля, Іваноўскі не знайшоў нічога лепшага сказаць як толькі тое, што Гегель робіць прынцып „дыялектычнай трыады“ асновай агульнай схэмы сусьветнай эволюцыі і што „дыялектычны мэтод Гэгеля быў у рэалістычнай яго пераапрацоўцы ўсвоены Карлам Марксам“... У чым іменна заключаецца сутнасьць гэтага „дыялектычнага мэтода“,— Іваноўскі ня кажа ні слова. Гэгелю і Марксу ён адводзіць у сваёй вялізарнай кніжцы толькі некалькі радкоў, тады як іншыя філёзофскія сыстэмы, якія не займаліся распрацоўкай дыялектычнага мэтоду, у яго карыстаюцца асаблівай увагай.

У сувязі з тым, што ў нашых умовах дыктатуры пролетарыяту дыялектычны мэтод карыстаецца выключнай популярнасьцю ў асяродзьдзі пролетарскай грамадзкасьці і што адмаўляцца ад гэтага мэтаду, значыць адразу адштурхнуць ад сябе масу працоўных, буржуазная профэсура, каб утрымаць свой уплыў на масы, часамі прызнае гэты мэтод, але прызнае яго знадворна і сьвядома скажае сутнасьць дыялектыкі, не адмаўляючыся фактычна ад сваіх буржузных тэорый.

Матэрыялістычная дыялектыка, дзякуючы гэтаму, надзвычайна забытваецца ідэалістычнымі разважаньнямі комэнтатараў і тым самым выконваецца соцыяльны заказ буржуазіі атручваць мазгі працоўных мас усякім эклектычным сьмецьцем. Іваноўскі піша: „Філёзофія Спэнсэра зьяўяецца тэорыяй паралельнай гэгельянству. Спэнсэр зьяўляецца рэалістычным тлумачом прынцыпу эволюцыі, раней разьвітага на ідэалістычнай аснове Гэгеля [1]). Такім чынам Іваноўскі пераконаны, што Спэнсэр даў рэалістычнае тлумачэньне дыялектычнага мэтоду Гэгеля і што „дыялектычны мэтод Гэгеля быў у рэалістычнай яго пераапрацоўцы ўсвоены Карлам Марксам“. Выходзіць, што і Маркс і Спэнсэр пераапрацавалі мэтод

---

[1]) „Методологическое введение“, стар. 131.

Гегеля ў рэалістычным напрамку і што, значыцца, паміж імі прынцыповай розьніцы няма. Ва ўсякім выпадку Іваноўскі не гаворыць ні слова аб гэтай прынцыповай розьніцы паміж Марксам і Спэнсэрам і адначасова спыняючыся больш на аналізе думак Спэнсэра ў напрамку дадатных ацэнак, зусім выразна падкрэсьлівае выдуманую пераважнасьць філёзофіі апошняга ў параўнаньні з Марксам. Іваноўскі павінен быў сказіць вучэньне Маркса дзеля таго, каб узьняць на п'едэстал навукі эклектычтычныя развежаньні Спэнсэра і тым самым выклікаць у чытача сымпатыі да буржуазнай тэорыі эволюцыі.

Закранаючы пытаньне аб законах разьвіцьця чалавечага грамадзтва, Іваноўскі формулюе свае думкі ў духу соцыялёгіі Огюста Конта „Асноўмым элемэнтам соцыёлёгічнага вывучэньня, — піша аўтар—зьяўляецца прасьцейшы тып саюзу, прасьцейшыя суадносіны паміж чалавечымі індывідуумамі, якія ўваходзяць у больш-менш вызначаныя об'ектыўныя адносіны да выкананьня якой-небудзь вызначанай жыцьцёва-неабходнай функцыі [1]). У гэткай соцыолёгіі няма аніводнага слова аб ролі продукцыйных сіл і вытворчых адносін, аб клясавай барацьбе, няма соцыяльна-экономічнага абгрунтаваньня ідэолёгіі. Тут пануе дух буржуазнага індывідуалізму.

Кажучы аб гісторыі, Іваноўскі пераходзіць на шлях эклектычнага вучэньня Рыкерта. Ён даводзіць наступнае: „Побач з навукамі сыстэматычнымі, навукамі аб агульным стаяць навукі *гістарычныя*, навукі аб індывідуальным. Задача навук сыстэматычных састаўляецца ва ўстанаўленьні законаў“, ці агульных палажэньняў, якія маюць „значымасьць“ (ці сілу) у той ці іншай галіне рэчаіснасьці ці разумовых разважаньняў. У навуках гістарычных выкладаецца плынь *адзінічных*, непаўтаральных індывідуальных *падзей*, *генэзіс* і *разьвіцьцё* паасобных рэчаў“ [2]). *Значыцца, гісторыя вывучае адзінічныя, непаўтаральныя, індывідуальныя падзеі.* Каб паказаць, наколькі гэта гістарычная тэорыя рэакцыйна, дастаткова прывесьці толькі адзін прыклад. Згодна гэтай тэорыі, соцыяльная рэволюцыя, пачаўшыся ў нас у Кастрычніку, павінна разглядацца як *адзінічная, індывідуальная і непаўтаральная зьява.* Гэта значыць, Кастрычніцкая рэволюцыя ня можа паўтарыцца нават у сваіх агульных істотных рысах у другіх краінах.

Ня трэба забываць, што кніга Іваноўскага *прэміявана* і што такім чынам яна разглядаецца некаторымі гора-тэорэтыкамі, як асаблівая кніга, у якой выкладаецца якаясь нязвычайная філёзофская прамудрасьць. Сапраўды-ж мы бачым тут абгрунтаваньне самых рэакцыйных брыдкіх бульварных буржуазных тэорый. Цікава было-б высьветліць, што ўяўляюць сабой тыя асобы з экспэртнай камісіі, якія не знайшлі ў нас нічога лепшага прэміяваць, як толькі кнігу Іваноўскага. І даўгое

[1]) „Методологическое введение“ стар. 207.

[2]) Тамсама, ст. 221.

пытаньне: што зрабілі нашы ваяўнічыя матэрыялісты-дыялектыкі, каб сваячасова раскрытыкаваць філёзофскія погляды Іваноўскага.

Тав. Выдра, выступаючы на нарадзе марксыцкіх т-в, самазадаволена казаў, што ў нас Іваноўскі адсутнічае з 1928 году. Няўжо тав. Выдра думае, што літаратура, якая выйшла з 1928 г., страціла свае значэньне, нікім яна ня чытаецца, і таму ня трэба яе крытыкаваць. А між тым сярод некаторых нашых марксыстаў ёсьць тэндэнцыя рэклямаваць позытывізм у якасьці марксызму. Падкрэсьліваем—*ёсьць тэндэнцыя*, а *не напрамак, які ўжо знайшоў сваё афармленьне.*

У сваім зборніку: „За марксызм“, які вышаў у 1928 г., т. Вольфсон называе курс пэдагогікі Блонскага марксыцкім [1]), тады, як сапраўды Блонскі ў гэтым курсе неаднакраць выказвае позытывіцкія погляды, разглядаючы, напрыклад, выхаваньне не як соцыяльную катэгорыю, а як соцыё-біолёгічную. Наогул у Блонскага мы знаходзім даволі выразныя спробы біолёгізіраваць соцыяльныя адносіны.

Апроч Іваноўскага, актыўным глашатаем рыкэртыянства выступаў у нас на працягу некалькіх год да апошняга часу проф. Вазьнясенскі.

Гэты профэсар, распрацоўваючы гісторыю і мэтодолёгію літаратуры, разьвіваў у сваіх навуковых працах і лекцыях ідэалістычныя погляды. Разам з гэтым, ён зьяўляўся вялікадзяржаўным шовіністам, які ўдзельнічаў *у ангельскім, бела-эмігранцкім часопісу: „Славянское обозрение“, у якім* зьмяшчалі свае артыкулы Мілюкоў, Керанскі і іншыя „былыя людзі“ і якая выдавалася пад лёзунгам „адзінай непадзельнай Расіі“. Яшчэ ў 1927/28 годзе ставілася пытаньне аб зьняцьці Вазьнясенскага з работы ва унівэрсытэце. Але тады знайшліся людзі, якія ўпарта абаранялі яго, даказваючы, што гэты профэсар нават зьяўляецца марксыстам ці блізкі да марксызму. У гэты час і пазьней нашы ваяўнічыя матэрыялісты-дыялектыкі павінны былі рашуча выступіць супроць псэўдамарксызму Вазьнясенскага. Іх пасьлядоўная крытыка дапамагла-б разабрацца ў сапраўдных думках гэтага профэсара. Аднак, ніякай крытыкі і ніякага выступленьня за некаторымі выключэньнямі тады мы ня бачылі [2]). І вось, пасьля гэтага нашы студэнты яшчэ некалькі год павінны былі слухаць анты-марксыцкія лекцыі выслаўленага „марксыста“. У пэўных колах студэнтаў штучна падтрымлівалася ілюзія аб марксыцкай позыцыі Вазьнясенскага.

На дапамогу Вазьнясенскаму прыходзілі яшчэ і маскоўскія аўторытэты, як А. М. Лебедзеў і проф. В. Ф. Пераверзеў, якія давалі яму дадатныя рэцэнзіі на яго артыкулы.

Вось што, напрыклад, пісаў Лебедзеў у пісьме ад 15 чэрвеня 1926 г. па адрасе Вазьнясенскага: „Ваш артыкул „Проблема апісаньня“ і „тлу-

[1]) С. Я. Вольфсон: „За марксызм“, стар. 89.

[2]) Нам вядома толькі адзіночнае выступленьне т. Бухаркіна супроць Вазьнясенскага з артыкулам: „Літаратуразнаўцы БДУ“ у „Маладняке“, № 11—12, 1929 г.

мачэньня“ ў навуцы аб літаратуры“ і мне, і В. Ф. Пераверзеву падабаюцца і мы яго зьмяшчаем у II зборніку „Родной язык в школе“.

Гэты выпадак, а таксама факты прымірэнчых адносін некаторых марксыстаў да ідэолёгіі Вазьнясенскага давалі яму повад рэклямаваць публічна свой „марксызм“.

Нашы філёзофы павінны былі сваячасова раскрытыкаваць погляды Вазьнясенскага, каб ня даць магчымасьці буржуазнаму профэсару ні на адну мінуту скарыстоўваць катэдру унівэрсытэта ў мэтах пропаганды сваіх рэакцыйных тэорый. Толькі новыя таварышы, прыехаўшыя з Масквы, дапамаглі выкрыць Вазьнясенскага. І вось у выніку гэтага выкрыцьця Вазьнясенскі падаў на імя камісіі, якая вывучала яго справу, заяву: „Адная з асноўных маіх памылак у артыкулах тэорытычнага характару зьяўляецца тое, што я недастаткова выразна і рэзка адмежаваўся ад пунктаў поглядаў у літаратуразнаўстве, варожых марксызму і таму, што мае працы насілі да гэтага часу эклектычны характар. Потым да ліку асноўных памылак у маіх артыкулах адносіцца і тое, што я не падкрэсьліваў у іх з усёй рашучасьцю пільнай і першачарговай неабходнасьці высьвятленьня ў мастацкай творчасьці клясавай барацьбы. У сувязі з гэтым я ў сваіх працах па беларускай літаратуры не выкрываў з усёй выразнасьцю і яскравасьцю клясавай асновы пісьменьнікаў. Гэта таксама зьяўляецца памылкай у маёй навуковай дзейнасьці. У сваіх працах на замежных мовах я прытрымліваўся ў корані памылковага, так званага, об‘ектыўнага пункту погляду і, выкладаючы даныя аб напрамках у сучасным расійскім літаратуразнаўстве, не аднёсься з неабходнай крытычнасьцю да тых плыняй, якія зьяўляюцца варожымі марксызму (формалізм, фрэйдызм і інш.), не выкрываючы іх клясавай сутнасьці і не паказваючы, што барацьба паміж гэтымі плынямі зьяўляецца адлюстраваньнем клясавай барацьбы, якая адбываецца ў СССР. Я не завостраў сваёй увагі і сваячасова не адмежаваўся ад рэзолюцыі, якая вынесена на акадэмічнай конфэрэнцыі ў 1926 г. паводле дакладаў аб беларускай літаратуры, прачытанай там“.

Паміж іншым рэзолюцыя на акадэмічнай конфэрэнцыі, аб якой гаворыць Вазьнясенскі, трэтыруе марксыцкі мэтод, паказваючы выдуманую недастатковасьць яго для аналізу мастацкіх твораў.

Вазьнясенскі прызнаў свае памылкі (і то зьмякчаючы іх) толькі тады, калі камісія ўжо закончыла сваю работу і вынесла рашэньне аб немагчымасьці скарыстаць Вазьнясенскага ў якасьці профэсара ў сувязі з яго антымарксыцкай установкай і вялікадзяржаўным шовінізмам. Такое прызнаньне памылак ёсьць толькі манэўр буржуазнага профэсара выкруціцца з гэтага няпрыемнага становішча. Таму падобным „прызнаньням“ — грош цана.

Мы падалі факт з Вазьнясенскім для таго, каб паказаць, наколькі нашы марксысты літаральна праспалі вельмі падыходзячы выпадак для рашучай марксыцкай крытыкі. А гэта санлівасьць і міралюбівасьць сярод „ваяўнічага“ лягеру нашых філёзофаў, здавалася-б, павінны былі пры-

мусіць т. Выдру сур'ёзна прызадумацца, — ці ўсё добра на філёзофскім фронце.

Трэба яшчэ ў дадатак да вышэйпаданых фактаў напомніць аб эклектычных поглядах проф. Сіроціна, які хоча пабудаваць сучасную фізыку на аснове сыстэмы Ньютона і якога некаторыя таварышы памылкова лічылі амаль марксыстам. Потым трэба не забываць і тое, што нават т. Быхаўскі, будучы адным з актыўных марксыстаў, у свой час захапляўся фрэйдызмам, ад якога ён потым адмовіўся. Але крытыка яго фрэйдыцкіх ідэй ня была намі своечасова разгорнута, дзякуючы таму, што адсутнічала самакрытыка. Ці трэба зараз перагледзець яго працы? Мы лічым, што трэба, бо яго працы ідуць па катэгорыі марксыцкіх і памылкі аўтара могуць падваяць скажонае ўяўленьне аб марксызьме ў чытачоў.

Тут я павінен спыніцца і на сваіх памылках. У 1926 г. вышла ў сьвет мая брошура: „Мысли Плеханова о воспитании и образовании". У гэтай брошуры я ня ставіў перад сабой задачу вывучэньня філёзофскіх поглядаў Плеханава, а займаўся выкладаньнем яго думак адносна выхаваньня і адукацыі. Тым ня менш я, закранаючы проблему працоўнага, моральнага і інш. відаў выхаваньня, павінен быў-бы даць, хаця б у агульных рысах крытыку няправільных філёзофскіх установак Плеханава. А я гэтага не зрабіў, дзякуючы чаму брошура атрымала крайне об'ектывіцкі, някрытычны характар. Напрыклад, я об'ектыўна выкладаю тэорыю іерогліфаў паводле Плеханава, не крытыкую нэо-кантыянскія погляды Плеханова адносна моралі, не выкрываю опортуністычных думак Плеханава паводле кнігі: „История русской общественной мысли". Усё гэта, зразумела, зьяўляецца *маімі сур'ёзнымі памылкамі*. Але гэта не дае ніякіх падстаў рабіць памянёную брошуру *галоўным об'ектам агня* самакрытыкі на філёзофскім фронце (хаця об'ектам самакрытыкі яна і павінна быць), пастолькі, паколькі на гэтым фронце выступае *з яшчэ больш буйнымі політычнымі памылкамі* само філёзофскае кіраўніцтва. Тав. Выдра ў сваім дакладзе аб становішчы на філёзофскім фронце БССР, напэўна ня менш паловы часу патраціў на крытыку вышэйуказанай маёй брошуры, тады як крытыка працы т. Вольфсона ў дакладчыка былі адсунуты на задні плян. Такі напрамак агня лепш за ўсё сьведчыць аб тым, наколькі яшчэ недастаткова разгорнута самакрытыка сярод нашых філёзофаў. Што-ж датычыць мяне, дык я ніколі Плеханава ня ставіў вышэй Леніна, як гэтаназіраецца ў Вольфсона, і пачаў крытыкаваць Плеханава ўжо з 1927 года (паміж іншым, у артыкуле: „Некаторыя проблемы псыхолёгіі ў асьвятленьні Маркса і Энгельса"), затым у 1928 годзе выступаў з двума дакладамі на тэму: „Ленін і Плеханаў" в рашучай крытыкай опортуністычных установак Плеханава, і ў 1929 годзе ў артыкуле: „Філёзофскія карэньні правага ўхілу" я, паміж іншым, пісаў: „Ленін адзначыў, што важнейшым прынцыпам дыялектычнага матэрыялізму зьяўляецца адзінства процілегласьцяй

і самарух, у процэсе якога адна процілегласьць ператвараецца ў другую. Ня гледзячы на тое, што Плеханаў шмат працаваў над проблемай дыялектычнага матэрыялізму, ён, як сьцьвярджае Ленін, не заўважыў самага галоўнага—раздваеньня адзінага. Дзякуючы гэтаму, Плеханаў на пэўным этапе гістарычнага разьвіцьця зрабіўся опортуністам...“ („Зьвязда“, 12 лістапада 1929 г.). Такім чынам філёзофскія карэньні опортунізму Плеханава я выкрываў у прэсе яшчэ ў 1929 г., тады як Вольфсон выступіў з прызнаньнем сваіх „плеханаўскіх“ памылак у канцы 1930 г. А якія гэта „плеханаўскія“ памылкі т. Вольфсона і ці можна іх параўнаць з маімі—мы зараз убачым.

*Сярод нашых філёзофаў, як мы сказалі, няма самакрытыкі.* Ці абмяркоўвалася ў т-ве ваяўнічых матэрыялістаў-дыялектыкаў БССР пытаньне нават аб „консьпекце“ Леніна па „Навуцы логікі“ Гегеля?“ Гэта пытаньне нават і ня было пастаўлена ў парадак работы таварыства. Ні адзін марксыст не напісаў ні аднаго артыкулу па нядаўна надрукаваных філёзофскіх матэрыялах Леніна дзеля популярызацыі іх сярод працоўных мас. А паміж тым паказаны матэрыял неабходна ня толькі популярызаваць, але і самім марксыстам як належыць усебакова вывучыць, і пільна прапрацаваць. Зусім не выпадкова тое, што т. Шапавалаў, які вывучаў нацыянальнае пытаньне і аналізаваў думкі розных аўтараў у гэтай галіне, забыў „маленькае“—даць аналіз поглядаў Леніна. Тав. Вольфсон, напісаўшы вялікую працу пра Плеханава, быў зусім няўважлівы да Леніна. І больш таго, ён даволі выразна пераацэньвае ролю Плеханава, як кіраўніка рэволюцыйным рухам пролетарыяту і як тэорэтыка, у сувязі з чым затушоўваецца роля Ўладзімера Ільліча.

Наогул у Вольфсона ёсьць шмат памылак, якія маюць і тэорэтычнае і палітычнае значэньне. У свой час сам т. Выдра зусім правільна крытыкаваў кнігу Вольфсона: „Дыялектычны матэрыялізм“, знаходзячы тут эклектычныя думкі. А зараз т. Выдра прыкрывае Вольфсона глухім маўчаньнем і пераменай напрамку агня крытыкі на другі прадмет.

А паміж іншым т. Вольфсон яшчэ і дагэтуль не адмовіўся (відаць для лепшага вайсковага маскаваньня) поўнасьцю і да канца ад сваіх асноўных памылак. Ён яшчэ ня прызнаў з бальшавіцкай рашучасьцю свае памылкі па кнізе: „Дыялектычны матэрыялізм“ і толькі часткова прызнаў памылкі па кнізе: „Плеханаў“. Апроч гэтага, ёсьць цэлы рад грубых памылак у зборніку: „За марксызм“, ня гледзячы на тое, што гэты зборнік вышаў у 1928 г. і такім чынам зьяўляецца адным з апошніх літаратурных выступленьняў т. Вольфсона. Яшчэ 13 кастрычніка 1930 г. на нарадзе т-ва марксыстаў т. Вольфсон падтрымаў т. Выдру ў тым, быццам на філёзофскім фронце ўсё добра, ні слова ня кажучы аб сваіх памылках і аднабока выпіраючы свае посьпехі ў барацьбе з нацыянал-дэмократамі і буржуазнай профэсурай. Тое, што т. Вольфсон праявіў за апошні час вядомую актыўнасьць у барацьбе на ідэолёгічным

фронце, зьяўляецца бясспрэчным. Але адначасова з гэтым ён лічыў патрэбным маўчаць аб сваіх памылках, частку якіх ён ужо ўсьвядоміў. Ї вось толькі праз два тыдні пасьля марксыцкай нарады ён выступіў з прызнаньнем некаторых асноўных памылак, зьвязаных з проблемай аб узаемаадносінах паміж Плеханавым і Леніным, надрукаваўшы ў „Зьвязьдзе“ (ад 29 кастрычніка № 254) артыкул: „На філёзофскім фронце“. Гэта добрае пачынаньне ў справе самакрытыкі. Трэба толькі разгарнуць самакрытыку так, каб цалкам выкрыць тыя памылкі, якія зроблены т. Вольфсонам за мінулы час яго літаратурнай дзейнасьці. На гэты раз мы падамо толькі некалькі прыкладаў у агульных рысах і пачнем зноў з аналізу ўсё той-жа самай проблемы аб ролі Плеханава, ня гледзячы на тое, што з прызнаньнем сваіх памылак т. Вольфсон ужо тым самым здымае з абгаварэньня цэлы рад сустрэчных пытаньняў.

У 1924 г. Вольфсон пісаў, што Плеханаў давёў „матэрыялістычную дыялектыку да вышэйшага ўдасканаленьня“ [1]), „*што Плеханаў уладаў матэрыялістычнай дыялектыкай, як ніхто*“ [2]).

Далей Вольфсон яшчэ некалькі разоў падкрэсьлівае гэтую думку. Напрыклад, ён кажа наступнае: „Аб усіх амаль тэорэтыках, якія выступілі ў пачатку 90-х гадоў *глашатаямі* дыялектычнага матэрыялізму, праз якіх-небудзь дзесятак год можна было сказаць, што „іншых ужо няма, а тыя—далёка“. Ї толькі адзін Плеханаў, у адрозьненьне ад сваіх мінутных прыхільнікаў, быўшы ідэолёгам пролетарыяту, да канца жыцьця аставаўся беззаганна-пасьлядоўным матэрыялістам“ [3]).

Што гэта значыць? У 90-х гадох выступіў глашатаем дыялектычнага матэрыялізму, паміж іншым, і Ленін. Няўжо гэта невядома тав. Вольфсону? Ї калі тав. Вольфсон зусім выразна даводзіць, *што толькі* Плеханаў „да канца дзён аставаўся беззаганна-пасьлядоўным матэрыялістам“, дык значыць Ленін такім пасьлядоўным матэрыялістам да канца дзён ня быў. Другога вываду са слоў Вольфсона зрабіць нияк нельга.

Але-ж такое сьцьвярджэньне зьяўляецца опортуністычным. Што тут не агаворка, а цьвёрдая пасьлядоўная думка аўтара аб пераважнай ролі Плеханава ў галіне марксыцкай філёзофіі ў параўнаньні з Леніным, відаць таксама і з наступнага месца: „У той час, калі Плеханаў пачаў свае выступленьні ў абарону дыялектычнага матэрыялізму, яго супрацоўнікі ўпікалі Г. В. у тым, што філёзофская сыстэма, якую абараняў ён, не стварыла такой кнігі, якая давала-б гэтай сыстэме апраўданьне, Плеханаў у адказ даказваў, што такая „кніга“ можа быць створана толькі шляхам доўгага раду прыватных досьледаў, якія апрацоўваюць адпаведныя галіны навукі з дапамогай Марксава мэтоду“. Калі так, дык трэба прызнаць, што *ніхто* не зрабіў для стварэньня кнігі столькі, колькі

[1]) С. Я. Вольфсон: „Плеханаў“. Белтрестпечать, 1924 г. Минск, стар. 186.

[2]) Тамсама стар. 187. Курсіў наш. *П. П.*

[3]) Тамсама стар. 190.

сам Плеханаў. У яго філёзофскіх памфлетах, літаратурна-крытычных і гістарычных работах мы маем сапраўдную кнігу „дыялектычнага матэрыялізму" [1]). Такім чынам, Вольфсон пераконаны, што *Плеханаў уладаў матэрыялістычнай дыялектыкай, як ніхто, што ён стварыў сапраўдную кнігу дыялектычнага матэрыялізму, як ніхто, і што ўрэшце Плеханаў астаўся беззаганна-пасьлядоўным матэрыялістам да канца жыцьця, зноў як ніхто.*

А што-ж Ленін? Вывад ня цяжка зрабіць.

*Ленін ня быў такім пасьлядоўным матэрыялістам, як Плеханаў, бо Плеханаў, па думцы Вольфсона, быў такім пасьлядаўным матэрыялістам, як ніхто.*

Як назваць такую філёзофію? Пасьлядоўны бальшавік назваў-бы яе філёзофіяй опортунізму. А тав. Выдра, будучы ахоплены філёзофіяй добрастаннасьці, не заўважыў нядобрастаннасьці нашай філёзофіі. Калі мы рашуча выказваемся супроць указаных думак тав. Вольфсона, гэта ня значыць, што мы жадаем выкінуць Плеханава „за борт". Не, мы далёкі ад гэтай позыцыі.

Дзеля таго, каб зрабіцца сапраўднымі марксыстамі, мы павінны вывучаць творы Плеханава.

Але-ж, вывучаючы гэтыя творы, мы не павінны забываць і тых памылак і скажэньняў марксызму, якія сустракаюцца ў іх. Напомнім заўвагі Леніна аб памылках Плеханава адносна разуменьня этыкі паняцьця „вопыт", адносна тэорыі іерогліфаў і г. д. Ужо гэта павінна было-б прымусіць тав. Вольфсона ня зараз, а значна раней, некалькі паасьцярожней сьпяваць дыфірамбы Плеханаву. Самай важнай памылкай мэтодолёгічнага парадку ў Плеханава зьяўляецца недастатковая яго ўвага закону „раздваеньня адзінага"—ці закону „адзінства процілегласьцяй". Раздваеньне адзінага і пазнаньне супярэчлівых частак яго—кажа Ленін—ёсьць сутнасьць (адна з сутнасьцяй, адна з асноўных, калі не асноўная, асаблівасьцяй ці рысаў) дыялектыкі... Правільнасьць гэтага боку зьместу дыялектыкі павінна быць праверана гісторыяй навукі. На гэты бок дыялектыкі звычайна (напр. у Плеханава) зьвяртаецца недастатковая ўвага"... [2]). Тав. Вольфсон меў магчымасьць азнаёміцца з гэтымі думкамі Леніна *яшчэ ў 1925 г.*, бо яны былі формуляваны ў артыкуле „Да пытаньня аб дыялектыцы", які быў зьмешчан у часопісу „Бальшавік" у тым-жа годзе. Пры об'ектыўным вывучэньні пытаньня наш аўтар тады не дапусьціў такіх сьцьвярджэньняў, быццам Плеханаў уладаў матэрыялістычнай дыялектыкай, як ніхто. Тады-б аўтар няўхільна прышоў да вываду, што не Плеханаў давёў матэрыялістычную дыялектыку да вышэйшага ўдасканаленьня, а *Ленін.*

---

[1]) С. Я. Вольфсон: „Плеханаў", Белтрестпечать, Минск, стар. 191.

[2]) Ленін „Сочинения", т. XIII—2 изд., стар. 301.

Вольфсон няправільна думае, быццам Плеханаў быў ідэолёгам рэволюцыйнага пролетарыяту ад пачатку да канца.

У сувязі з тым, што т. Пакроўскі, разглядаючы кнігу Плеханава „История русской общественной мысли“, назваў апошняга былым ідэолёгам пролетарыяту, які пасьля 1905 г. зрабіўся ідэолёгам тэхнічнай інтэлігенцыі, якая абслугоўвала інтарэсы капіталу,—у сувязі з тым т. Вольфсон разразіўся цэлай цірадай: „Гаварыць аб Плеханаве пасьля 1905 г., як аб былым ідэолёгу пролетарыяту — недапушчальна. Хіба Плеханаў не пасьля 1905 г. упісаў у гісторыю свайго жыцьця геройчную старонку барацьбы з ліквідатарствам за партыю рабочай клясы, хіба не пасьля 1905 г., выступаў Плеханаў, як пераканаіны абаронца запаветаў рэволюцыйнага марксызму на конгрэсах Інтэрнацыяналу (Штутгарт, Копэнгаген)? Хіба, нарэшце, не пасьля 1905 г. Плеханаў выступаў, як адзін з самых выдатных у міжнародным рабочым руху штандараносцаў ваяўнічага матэрыялізму—палкі барацьбіт з усякімі філёзофскімі, рэлігійнымі і іншымі скажэньнямі марксызму? Варта чытачу ўспомніць аб мностве фактаў з дзейнасьці Г. В. Плеханава пасьля 1905 г. дзеля таго, каб мець важкія падставы не згадзіцца з М. Н. Пакроўскім, калі ён гаворыць, што пасьля 1905 г. Плеханаў абгрунтаваў не паступальныя імкненьні пролетарыяту, а з усіх бакоў абарончыя імкненьні таго грамадзкага слою, які камандваў пролетарыятам ад імя капіталу, але і сам схілен быў-бы зрабіцца камандзірам і ад свайго ўласнага імя“ [1]). У гэтай вытрымцы т. Вольфсон зусім выразна адмаўляе тое, што Плеханаў пасьля 1905 г. зрабіўся опортуністам. Супярэчачы Пакроўскаму, Вольфсон па сутнасьці супярэчыў па гэтым пытаньні Леніну. Ужо ў ў „Проектах рэзолюцый III зьезду партыі за 1905 г., (ад 6 лютага) Ленін пісаў наступнае. „Зьезд прызнае правільнай позыцыю Плеханава ў програмных, тактычных і організацыйных пытаньнях, якую ён займаў на другім зьезьдзе партыі і на зьезьдзе замежнай Лігі. Зьезд прызнае, што пасьля зьезду Лігі Плеханаў, каб захаваць партыйны мір і зьнішчаць зроблены-ж меншавікамі раскол, прапанаваў політыку ўступак людзям, якіх ён правільна ахарактарызаваў перад усёй партыяй, як рэвізіяністаў і анархічных індывідуалістаў. Зьезд выражае глыбокі жаль, што Плеханаў ня ўтрымаўся на гэтай позыцыі, што ён пачаў дабівацца самымі бессаромнымі сродкамі і супроць волі партыі здавальненьня ўсіх патрабаваньняў меншавікоў, што ён апусьціўся, у інтарэсах апраўданьня меншавікоў, да абароны прызнанай ім няправільнай прынцыповай позыцыі іх і да выдумваньня нябылых рознагалосьсяў з большасьцю партый“ [2]). Тут Ленін констатуе пераход Плеханава па позыцыі меншавікоў і выражае жаль адносна яго опортуністычнага перараджэньня.

[1]) Вольфсон: „Плеханов“, стар. 275-276.

[2]) Ленін: „Сочинения“ 2 выд. т. VII. стар. 131.

Праўда, потым Ленін не пакідаў спробу прыцягнуць Плеханава да партыі кожны раз, паколькі апошні пачынаў праяўляць тэндэнцыю адыходу ад позыцый меншавізму. Але Ленін ніколі ня ставіў пытаньне аб прынцыповых уступках Плеханаву, аб гнілым компромісе. Наадварот, ён заўсёды быў няпрымірučым да ўсякага опортунізму, і ў тым ліку опортунізму Плеханава. Вось гэтая асаблівасьць палітычнай лініі Леніна не падкрэсьліваецца ў працах тав. Вольфсона. Наадварот, у сваім артыкуле „Ленін і Плеханаў“ [1]) тав. Вольфсон затушоўвае пасьлядоўную позыцыю Леніна з тым, каб наўмысна выпучыць рэволюцыйную дзейнасьць Плеханава і тым самым аслабіць уяўленьне аб яго опортунізьме. Ва „ўступе“ да кнігі „Гісторыя расійскай грамадзкай думкі“ Плеханаў, як вядома, формуляваў тэзіс аб тым, што фактарам грамадзкага працэсу зьяўляецца клясавая барацьба і клясавае супрацоўніцтва. У гэтым тэзісе выражана квінт-эсэнцыя меншавізму. А тав. Вольфсон лічыць, што ўказаная думка зьяўляецца выпадковым ляпсусам, які гучыць рэзкім дысонансам у адносінах да ўсяго таго, што пісаў Плеханаў аб клясавай барацьбе.

Мы думаем другое. Гэты ляпсус Плеханава не выпадковы, а абумоўлены згодніцкай практыкай меншавікоў. Думка аб супрацоўніцтве клясаў была пакладзена Плеханавым у аснову абгрунтоўваньня „абаронцтва“ ў час імпэрыялістычнай вайны. Абаронцтва, па думцы т. Вольфсона, зьяўлялася толькі ракавой памылкай Плеханава, тады як мы добра ведаем, што сапраўды гэтае абаронцтва было зьвязана з усёй сыстэмай меншавіцкіх поглядаў апошняга. Наогул т. Вольфсон у адносінах да Плеханава ня любіць ужываць такія тэрміны, як опортуніст, здраднік, меншавік і г. д. Яму здаецца, што Плеханаў ад пачатку да канца быў ідэолёгам рэволюцыйнага пролетарыяту. Ня тое мы бачым у Леніна. Крытыкуючы абаронцтва Плеханава ў час імпэрыялістычнай вайны, Ленін пісаў наступнае: „Г. Плеханаў забыў, што для марксыстаў вайна ёсьць *прадоўжаньне палітыкі*, якую вялі вядомыя ўрады, зьяўляючыся прадстаўнікамі вядомых кляс“ [2]). І далей: „Г. Плеханаў апусьціўся,—зусім таксама, як нямецкія Плеханавы, Шэйдэманы і К-⁰, да ўзроўню самага вульгарнага, самага звычайнага буржуазнага шовініста, які не жадае ведаць (ці ніколі ня ведаў) аб тым, што вайна ёсьць прадоўжаньне палітыкі, што вайна і палітыка зьвязаны з інтарэсамі вядомых кляс, што трэба разабрацца ў тым, якія клясы і завошта ваююць“.

Паводле Леніна, Плеханаў у час вайны быў буржуазным шовіністам, а па Вольфсону ён быў пасьлядоўным рэволюцыянэрам, які толькі памыляўся. Ленін сьцьвярджае, што Плеханаў ня ведаў сувязі вайны і палітыкі з інтарэсамі вядомых клясаў, а Вольфсон даказвае, што Плеханаў ніколі не адмаўляўся прызнаць клясавую барацьбу, нават і тады, калі

[1]) „Полымя“ № 3, за 1926 г.

[2]) Ленин „Сочинения“ т. XX, стар. 152.

ён быў абаронцам. Што тав. Вольфсон тут разыходзіцца з вучэньнем Леніна, гэта зьяўляецца зусім відавочным.

У артыкуле: „Г. В. Плеханаў і навука“, надрукаваным у марксыцкім зборніку „БССР, № 1, за 1928 г.“ тав. Вольфсон не адмаўляецца ад той ацэнкі ролі Плеханава, якая дана ім на працягу 1922—26 г. І тут мы бачым надмерныя дыфірамбы па адрасе Плеханава. Напрыклад, у гэтым артыкуле мы знаходзім наступныя думкі: „Той бадзёры оптымізм, якім Плеханаў быў прасякнуты на працягу дзесяцігодзьдзяў сваёй барацьбы за дабрабыт рабочай клясы, тая нязрушаная ўпэўненасьць у няўхільнай перамозе пролетарскай справы, якой прасякнуты кожны радок плеханаўскіх пісаньняў,—усё гэта было рэзультатам глыбокага навуковага пераканаНЬНЯ“. Калі падкрэсьліваецца, што Плеханаў быў прасякнуты бадзёрым оптымізмам на працягу дзесяцігодзьдзяў сваёй барацьбы за дабрабыт рабочай клясы, дык трэба дакладна ўказаць, на якім этапе свайго разьвіцьця ён быў барацьбітом за дабрабыт рабочае клясы. Нельга-ж назваць яго барацьбітом за дабрабыт рабочае клясы на працягу таго часу, калі ён быў меншавіком і соцыял-шовіністам.

У гэтыя часы ён служыў інтарэсам буржуазіі, а не інтарэсам рэволюцыйнага пролетарыяту. У сваіх апошніх выступленьнях Ленін, кажучы аб Плеханаве, заўсёды ацэньвае яго дадатна за той пэрыод дзейнасьці, калі ён „быў марксыстам і рэволюцыянэрам“, а не за ўвесь пэрыод яго жыцьця. У Вольфсона такой дыфэрэнцыяцыі па пэрыодах мы не знаходзім.

Мы вітаем тое, што т. Вольфсон зараз стаў на шлях самакрытыкі і, хоць са спазьненьнем, адмовіўся ад некаторых сваіх памылак, сутнасьць якіх ён характарызуе ў апошнім артылуле так:

„Таму я хацеў-бы скарыстаць гэты артыкул таксама і для таго, каб адзначыць наяўнасьць у маіх уласных, напрыклад, работах аб Плеханаве раду нездавальняючых і няверных месц, асабліва ў сьвятле вышэй акрэсьленых задач. Гэтыя месцы неабходна ахарактарызаваць, як месцы, што затушоўваюць слабае і опортуністычнае, што было ў дзейнасьці Плеханава. Вось чаму, калі, паводле прапановы аднаго маскоўскага выдавецтва, мне давялося ў пачатку гэтага году напісаць работу пра Плеханава, я лічыў неабходным карэнным чынам зьмяніць рад палажэньняў, якія высоўваліся ў маіх папярэдніх работах, і высунуць рад новых, якія ў іх адсутнічалі. Так, напрыклад, я спрабаваў устанавіць, што зародак няправільнай ацэнкі Плеханавым асноўных рухавых сіл рускай рэволюцыі—ацэнка якіх прывяла Плеханава да опортуністычнай позыцыі ў 1905 г. і контррэволюцыйнай—у кастрычніку 1917 г.—трэба шукаць у недаацэнцы дробнай буржуазіі, якая адыгрывала пад кіраўніцтвам пролетарыяту рэволюцыйную ролю—недаацэнцы, якая праглядвае яшчэ ў раньніх супроцьнародніцкіх работах Плеханава. Я падкрэсьліваў, што „Г. В. праглядзеў тую ролю кіравальнага пролетарыятам саюзу рабочае клясы з сялянствам, якую пачаў выяўляць у сваіх антынародніцкіх ра-

ботах Ленін“. Я ўказаў у тэй-жа рабоце, якая значная памылка была дапушчана Плеханавым у яго так званай гіерогліфічнай тэорыі, якая адступіла ад энгельсаўскага разуменьня „копіраваньня“, „фотографаваньня“ нашымі адчуваньнямі існуючай незалежна ад іх матэрый і абярнула нашы ўяўленьні зьнешняга сьвету ва ўмоўныя сымболічныя азначэньні—іерогліфы. Памылка, сур'ёзнасьць якой была ў свой час выкрыта Леніным. Тая характарыстыка плеханаўскай концэпцыі рускага гістарычнага процэсу, якую я даваў у папярэдніх работах, была мной рашуча перагледжана і заменена новай, якая зазначае, як Плеханаў са сваёй концэпцыяй апынуўся ў палоне ў некаторых карыфэеў буржуазнай гістарычнай навукі, і як тэорыя па-заклясавага паходжаньня дзяржавы была скарыстана ім у мэтах апраўданьня опортуністычнай тактыкі ў рэволюцыю 1905 году“.

(Зьвязда, № 254, за 1930 г.).

Гэтых буйных памылак аб Плеханаве, якія назіраюцца ў тав. Вольфсона, у мяне ніколі ня было. Таму сама спроба прынізіць памылкі Вольфсона да ўзроўню маіх памылак сьведчыць аб тэндэнцыі „замазаць“ самакрытыку сярод філёзофаў.

Мы спынімся яшчэ на некаторых другіх памылках т. Вольфсона, аб якіх ён пакуль што ня кажа ні слова самакрытыкі.

У сваім артыкуле: „Аб пролетарскай культуры“ т. Вольфсон зусім правільна супярэчыць супроць тэорыі Троцкага, які сьцьвярджаў, быццам пролетарыят за час сваёй дыктатуры ня здолее стварыць пролетарскую культуру па той прычыне, што эпоха дыктатуры пролетарыяту ёсьць эпоха рэволюцыйных баёў і што рабочая кляса ня будзе мець часу для творчай работы. Тут выяўляецца ў своеасаблівай форме нявер'е Троцкага ў магчымасьць пабудаваньня соцыялізму ў нашай краіне.

Слушна выступаючы супроць поглядаў Троцкага, т. Вольфсон, аднак, зрабіў тую памылку, што па гэтым пытаньні стаў на позыцыю Бухарына і Луначарскага. Тав. Вольфсон лічыць, што пэрыод дыктатуры пролетарыяту будзе надта доўгі, што „панаваньне“ соцыялізму ажыцьцявіцца толькі ў XXI стагодзьдзі і што, значыцца, пролетарыят будзе мець дастаткова часу і сілы для таго, каб пабудаваць асаблівую культуру пераходнага пэрыоду, якая па сваім характары і павінна быць пролетарскай. Пры пераходзе да соцыялізму гэта пролетарская культура павінна згінуць і ўступіць сваё месца новай соцыялістычнай культуры. Вольфсон піша: „Можна згадзіцца з т. Майскім, які зазначыў (у ленінградзкай „Звезде“), што поўнае панаваньне соцыялізму ўбачыць толькі XXI стагодзьдзе, і лічыць, што, такім чынам, нашаму стагодзьдзю трэба зьявіцца тым самым пераходным пэрыодам, па ўсім працягу якога пролетарыят будзе пануючай клясай, гегемонам і організатарам грамадзтва“. Калі так, дык трэба лічыцца з досыць доўгім пэрыодам часу, які пролетарыят будзе мець магчымасьць скарыстаць для стварэньня такой

культуры, якая мае на сабе яго клясавую пячатку, адлюстроўвае яго інтарэсы, яго волю, яго настроі, яго надзеі... Якія ў нас падставы, каб сьцьвярджаць, што гэты пэрыод будзе занадта кароткі для таго, каб пролетарыят пасьпеў разгарнуць сваю культуру? Няхай гутарка ідзе скажам, аб 50—70—90 гадох, няўжо-ж гэта мала для таго, каб рабочая кляса пасьпела на працягу такога часу разгарнуць сваю, новую па характве і вялікай цэннасьці, культуру?"[1]). Вольфсон пераконаны, што соцыялізм наступіць праз 50—70—90 год і што поўнае панаваньне соцыялізму можна будзе ўбачыць толькі ў XXI стагодзьдзі. Гэтыя разважаньні т. Вольфсона разыходзяцца з думкамі Леніна, і ўжо абвергнуты нашай рэчаіснасьцю. Выступаючы на III Усерасійскім зьезьдзе комсамолу, Ленін, паміж іншым, казаў: „Таму пакаленьню, прадстаўнікам якога зараз каля 50 год, нельга разьлічваць, што яно ўбачыць комуністычнае грамадзтва. Да таго часу гэта пакаленьне перамрэ. А тое пакальньне, якому зараз 15 год, яно і ўбачыць комуністычнае грамадзтва і само будзе будаваць гэта грамадзтва" [2]).

Гэтыя словы былі сказаны 2 кастрычніка 1920 года. У другім месцы Ленін заўважыў, што „10—20 год правільных суадносін з сялянствам,— і забясьпечана перамога ў сусьветным маштабе". Тав. Сталін, растлумачваючы гэтыя думкі Леніна, даводзіць, што „пры правільнай політыцы ў адносінах да сялянства мы зусім можам дабіцца „перамогі ў сусьветным маштабе" ў сэнсе пабудовы поўнага соцыялізму" [3]). Вольфсон згодны з Майскім, што поўны соцыялізм можна пабудаваць толькі ў XXI стагодзьдзі, а Ленін і Сталін сьцьвярджаюць, што пры правільнай політыцы ў адносінах да сялянства праз 10—20 год можна пабудаваць соцыялізм, і што сучаснае маладое пакаленьне ўжо ўбачыць комуністычнае грамадзтва. Наша рэчаіснасьць паказвае, што прагноз Леніна спраўдзіўся. Мы зараз ужо маем раёны суцэльнай колектывізацыі і ліквідуем кулака як клясу, мы ўжо ўвайшлі ў першы пэрыод соцыялізму.

І ня так далёк той час, калі мы пяройдзем у бясклясавае грамадзтва. Тав. Вольфсон ня мог ня ведаць думак Леніна, калі пісаў свой артыкул.

Што-ж датычыць пролетарскай культуры, дык сур'ёзнай памылкай т. Вольфсона зьяўляецца тое, што ён усьлед за Бухарыным і Луначарскім процівастаўляе пролетарскую культуру соцыялістычнай. „Пролетарская культура,—кажа т. Вольфсон,—ствараецца ў самым процэсе жыцьця, росту і разьвіцьця дзяржавы на чале з рабочай клясай. Пролетарская культура зараджаецца яшчэ пад уціскам варожае пролетарыяту клясы, яна распускаецца і разьвіваецца ў атмосфэры дзяржавы пераходнае ад капіталізму да соцыялізму, *разам з гэтай дзяржавай яна і загіне*...[4]),

[1]) С. Я. Вольфсон: „За марксызм". Бел. Дзярж. Выдавецтва, Менск, 1928 г., стар. 18-19.
[2]) Ленин „Сочинения", 2 выд. т. XXV, стар. 397.
[3]) И. Сталин: „Вопросы ленинизма". Госиздат. М. Л. 1926 г., стар. 228.
[4]) Курсіў наш, П. П.

загіне, каб уступіць сваё месца новай прыгожай, па-заклясавай, агульналюдзкай культуры, вызваленага ад пут капіталізму грамадзтва. Але да гэтае чароўнае культуры будучыні прыдзем толькі праз культуру клясы, якая, вызваляючы сябе, вызваляе чалавецтва“...[1]). Такім чынам, т. Вольфсон думае, што пролетарская культура загіне ў будучыне разам з дзяржавай, уступіўшы сваё месца новай соцыялістычнай культуры. *Тут пролетарская культура разгледжваецца як нешта такое, што адрозьніваецца ад соцыялістычнай культуры і, значыцца, паводле думак т. Вольфсона, не зьяўляецца соцыялістычнай.* А гэта глыбока няверна. У Леніна мы нідзе не знаходзім процівастаўленьня пролетарскай культуры соцыялістычнай. На XVI зьезьдзе партыі т. Сталін казаў наступнае: „Што такое нацыянальная культура пры дыктатуры пролетарыяту? *Соцыялістычная* па сваім зьместе і нацыянальная па форме культура, якая мае сваёй мэтай выхаваць масы ў духу інтэрнацыяналізму і ўмацаваць дыктатуру пролетарыяту“. І далей: „Росквіт нацыянальных па форме і соцыялістычных па зьмесьце культур ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту ў аднэй краіне для зьліцьця іх у адну агульную соцыялістычную (і па форме і па зьмесьце) культуру з аднэй агульнай мовай, калі пролетарыят перамогa ва ўсім сьвеце і соцыялізм увойдзе ў дабрабыт,— у гэтым іменна і ёсьць дыялектычнасьць ленінскай пастаноўкі пытаньня аб нацыянальнай культуры“. Адсюль мы бачым, што т. Сталін называе пролетарскую культуру соцыялістычнай. Па гэтым пытаньні т. Вольфсон разышоўся з вучэньнем Леніна.

Растлумачваючы паняцьце „суб‘ект, об‘ект“ на конкрэтным прыкладзе дзейнасьці лектара ў школе, т. Вольфсон прышоў да няправільных вынікаў. Ён кажа, што лектар, з пункту погляду марксызму, зьяўляецца ня толькі суб‘ектам педагогічнага процэсу, але і об‘ектам у тым сэнсе, што на яго робіць уплыў аўдыторыя. „Між тым кожны лектар, кожны пэдагог ведае,—растлумачвае т. Вольфсон,—што ў аўдыторыі, у клясе— ён ня толькі суб‘ект, але і об‘ект. Калі лектар—не грамафон, калі настаўнік—ня двуногі падручнік, то аўдыторыя або кляса захапляюць яго, робяць на яго шматбаковы ўплыў, прад‘яўляюць да яго патрабаваньні, змушаюць яго дапасоўвацца да сябе. Калі мы ўжываем стэрэотыпныя фразы, „лектар не аўладаў аўдыторыяй“, „настаўнік не аўладаў клясай“, то мы па сутнасьці кажам, што пэдагог з суб‘екта пэдагогічнага акту цалкам ператварыўся ў об‘ект уплыву з боку аўдыторыі“ [2]). Гэты прыклад для нас важны таму, што тут мы бачым акт. Вольфсон няправільна ўжывае дыялектыку ў дачыненьні да конкрэтных фактаў. Правільна тое, што лектар зьяўляецца суб‘ектам пэдагогічнага процэсу, паколькі ён організуе выхаваньне конкрэтнага об‘екту (скажам дзяцей). Але няправільна тое, што ён ператвараецца ў об‘ект таму, што аўдыторыя з свайго

---

[1]) За „марксызм“, стар. 26.

[2]) Тамсама, стар. 104.

боку робіць уплыў на яго. Зразумела, і аўдыторыя робіць уплыў на лектара. Але ня ў гэтым заключаецца галоўнае, істотнае для лектара, як об'екта. Будучы суб'ектам пэдагогічнага процэсу, лектар зьяўляецца адначасова об'ектам у тым сэнсе, што ён у процэсе сваёй дзейнасьці выконвае програму і праводзіць ідэі ў масы тае організацыі ці ўстановы, якая прадстаўляе інтарэсы вядомай соцыяльнай клясы.

Калі-б стаць на пункт погляду т. Вольфсона, трэба было-б сказаць, што лектар, як об'ект, зьмяняе свае паводзіны і сваю прынцыповую ўстаноўку не пад уплывам вядомай соцыяльнай клясы, а пад уплывам тае ці іншай аўдыторыі, якая ў вядомых выпадках можа складвацца з людзей розных кляс. Зьмяняць свае паводзіны ў напрамку прыстасаваньня да патрэб буржуазнага ці дробнабуржуазнага асяродзьдзя (аўдыторыі)—гэта значыць страціць сваю ролю, як суб'екта комуністычнага выхаваньня.

У артыкуле: „Прыродазнаўства і марксызм“ т. Вольфсон праяўляе тэндэнцыі прымірэнцтва да мэханістычнага матэрыялізму. Ня гледзячы на тое, што артыкул быў напісаны ў 1926 г., калі адбывалася жорсткая барацьба з мэханістамі, т. Вольфсон, выступаючы тады-ж з дакладам на ўсебеларускай прырода-навуковай конфэрэнцыі, аніводнага слова не сказаў аб мэханістычным матэрыялізьме і такім чынам не скарыстаў магчымасьць рашуча выказацца супроць мэханістаў. І нават больш гэтага: у артыкуле сустракаюцца частыя спасыланьні на аўторытэтных навуковых дзеячоў з лягеру мэханістаў, як, напрыклад, Жак Лёб, Уотсон і г. д., што выклікае трывогу за вытрыманасьць нашага аўтара. Тав. Вольфсон някрытычна выказвае наступнае: „Лёб меў права сказаць, што біолёгія будзе навукай настолькі, паколькі ёй пашанцуе зьвесьці жыцьцёвыя зьявы да колькасных законаў“ [1]). Гэта няправільна, бо „жыцьцёвыя зьявы нельга выражаць толькі ў колькасных законах“, а трэба ўлічваць і якасныя асаблівасьці ўказаных зьяў. Тав. Вольфсон зусім адкрыта пераходзіць на бок біхэвіёрыста Уотсона, які разглядае псыхолёгію, як аддзел прыродазнаўства, які не прызнае сьвядомасьці і мысьленьня, імкнецца зьнішчыць філёзофію і рэстаўруе ў грубых формах вучэньне мэханічнага матэрыялізму XVII і XVIII стагодзьдзя.

Усьлед за позытывістамі т. Вольфсон разглядае чалавека, як істоту біо-соцыяльную [2]), тады, як сапраўды чалавек ёсьць продукт грамадзкіх адносін, аб чым кажуць Маркс, Энгельс і Ленін зусім выразна ў сваіх шматлікіх работах. Тав. Вольфсон захопліваецца вучэньнем сучасных прыродазнаўцаў так, што ў парываньні экстазу залічвае ўсіх іх без выключэньня ў лягер матэрыялістаў-дыялектыкаў [3]). Потым, праўда, ён робіць агаворку адносна „вульгарнасьці“ тэорыі эволюцыі. Але гэта агаворка траціць усякі сэнс пры наступных разважаньнях т. Вольфсона:

[1]) „За марксызм“, стар. 63.
[2]) Тамсама, стар. 82.
[3]) Таксама, стар. 78.

*„У гэтых адносінах кожны сучасны прыродадасьледца—дыялектык*, бо ў наш час бадай ці можна сустрэцца з вучоным, які мысьліў бы, усьлед за Ліньнеем, віды раз назаўсёды створанымі, або, накшталт школы Жордана, які ўяўляў іх нязьменна існуючымі і непарушнымі [1]).

Паводле думак Вольфсона, *усе прыродадасьледцы ёсьць дыялектыкі* таму, што яны ўяўляюць прыроду, як вялізарны процэс пэрманэнтнай зьменнасьці і зьмены адных форм у іншыя. Такім чынам тут і мэханісты абвяшчаюцца дыялектыкамі. Замест няпрыміручай барацьбы з мэханістамі т. Вольфсон залічае іх па катэгорыі дыялектыкаў і тым самым спрабуе іх апраўдаць.

Зараз мы не задаваліся мэтай прааналізаваць усе творы т. Вольфсона. У адным артыкуле гэта зрабіць немагчыма. Наша задача заключалася толькі ў тым, каб на некалькіх конкрэтных прыкладах паказаць, што на філёзофскім фронце ў нас неспакойна. Тав. Вольфсон шмат зрабіў цэннага па распрацоўцы розных філёзофскіх проблем. Але ж гэта не дае нам ніякіх падстаў затушоўваць і тыя памылкі, якія ён дапусьціў у сваіх работах, і, магчыма, дапускаюцца кожным з нас па тых ці іншых пытаньнях. Разабрацца ў сутнасьці гэтых памылак мы можам толькі шляхам разгортваньня самакрытыкі. А вось неабходнасьць гэтай самакрытыкі, а таксама неабходнасьць згрупаваньня і організацыі колектыўнай работы нашых марксыстаў якраз не адчуваюць тыя асобы, якія стаяць на чале т-ва ваяўнічых матэрыялістаў-дыялектыкаў.

Тав. Выдра на нарадзе т-ва марксыстаў выказаў наступную думку: „Як вядома, аднэй з пераважнасьцяй пабудаваньня соцыялізму ў нашай краіне зьяўляецца яе (нашай краіны—*П. П.*) адсталасьць, таму што будаваць на месцы, дзе яшчэ нічога ня было пабудавана, значна больш лёгка, чым будаваць там, дзе трэба раней зруйнаваць“. І тут-жа т. Выдра даводзіў нібыта гэта сказана ў пастанове XIV зьезду партыі.

Сапраўды-ж у пастановах XIV зьезду партыі не сустракаецца гэта прамудрая філёзофія, прыхільнікам якой аказаўся тав. Выдра. Усякую адсябяціну нельга прыпісваць нашай партыі, бо гэта ўжо ёсьць скажэньне партыйнай лініі.

У пастановах XIV зьезду партыі сказана аб тым, што ў нашай краіне, ня гледзячы на яе тэхніка-экономічную адсталасьць, можна і неабходна пабудаваць соцыялізм, не чакаючы таго часу, пакуль падасьпее сусьветная пролетарская рэволюцыя. Гэта зусім другое, чым тое, што казаў т. Выдра. Калі разабрацца ў філёзофіі Выдры, дык пачынаеш сур'ёзна клапаціцца за становішча нашага філёзофскага фронту. Згодна сьцьверджаньню т. Выдры выходзіць, што будаваць соцыялізм на пустым месцы больш лёгка, чым там, дзе маецца цэнтралізаваная індустрыя і цэнтралізаваны пролетарыят, як продукты разьвіцьця капіталізму. Ці не напамінае гэта народніцкую тэорыю сярэдзіны XIX стагодзьдзя аб маг-

[1]) „Марксыцкі зборнік“, № 1, за 1928 г., стар. 83.

чымасьці непасрэднага пераходу ад вясковага грамадзтва да соцыялізму без разьвіцьця капіталізму ў Расіі, ці не напамінае гэта ў тым сэнсе, што т. Выдра, як і народнікі, узводзіць нашу адсталасьць у „добрачыннасьць"?

Няўжо больш лёгка будаваць соцыялізм у якой-небудзь пустыні Сахары, чым скажам, у Германіі ці ў Амэрыцы, у якіх разьвіта буйная прамысловасьць, у тым выпадку, калі-б там адбылася соцыяльная рэволюцыя. Вось, што кажа Ленін па пытаньні, якое паставіў так няўдала тав. Выдра: „Няма сумненьняў, што соцыялістычную рэволюцыю ў краіне, дзе аграмадная большасьць насельніцтва належыць да дробных земляробаў-вытворцаў, магчыма ажыцьцявіць толькі шляхам цэлага раду асаблівых пераходных мер, якія былі б зусім непатрэбны ў краінах разьвітага капіталізму, дзе наёмныя рабочыя ў прамысловасьці і земляробстве састаўляюць аграмадную большасьць. У краінах разьвітага капіталізму ёсьць кляса наёмных сельскагаспадарчых рабочых, якая склалася на працягу дзесяткаў год.

Толькі гэткая кляса соцыяльна, экономічна і політычна можа быць апорай непасрэднага пераходу да соцыялізму. Толькі ў такіх краінах, дзе гэтая рабочая кляса дастаткова разьвіта, непасрэдны пераход ад капіталізму да соцыялізму магчым і не патрабуе асаблівых, пераходных агульна-дзяржаўных мер. Мы падкрэсьлівалі ў цэлым радзе твораў, ва ўсіх нашых выступленьнях, ва ўсёй прэсе, што ў Расіі справа абстаіць ня так, што ў Расіі мы маем меншасьць рабочых у прамысловасьці і аграмадную большасьць дробных земляробаў"[1]). Такім чынам у краінах разьвітага капіталізму, дзякуючы наяўнасьці пролетарыяту як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы, магчым пераход ад капіталізму без асаблівых агульна-дзяржаўных мерапрыемстваў пры наяўнасьці скарочанага пэрыоду нэпу, тады як у Расіі дзякуючы пераважнай колькасьці дробных земляробцаў, задача ўскладняецца, павялічваюцца цяжкасьці, і соцыялізм можна ажыцьцявіць шляхам цэлага раду асаблівых пераходных мер пры павялічанай прадоўжанасьці нэпу[2]). Аб тым, што ў адсталай краіне, як Расія, ня лёгка, а цяжка будаваць соцыялізм, кажа Ленін у наступным месцы: „Пры такім унутраным становішчы Расіі для яе пролетарыяту, як пануючай клясы, галоўнай задачай моманту зьяўляецца правільнае вызначэньне і ажыцьцяўленьне тых мер, якія неабходны для кіраўніцтва сялянствам, для моцнага саюзу з ім, для доўгага раду паступовых пераходаў да буйнага аграмаджанага машыннага земляробства. Гэта задача ў Расіі асабліва цяжка, як з прычыны адсталасьці нашай краіны, так і дзякуючы крайняму разарэньню яе імпэрыялістычнай і грамадзкай сямігадовай вайной"[3]).

---

[1]) Ленин: „Сочинения" т. XXVI, 2 выд., стар. 237.

[2]) Пытаньне аб колёніяльных рэволюцыях я не закранаю, хоць аналіз гэтага пытаньня яшчэ больш яскрава паказаў-бы няправільнасьць погляду т. Выдры. *П. П.*

[3]) Ленин. Сочинения, т. XXVI, 2 выд., стар. 429.

У нашай краіне будаваць соцыялізм цяжка, але-ж, ня гледзячы на гэту цяжкасьць, соцыялізм у нас можна пабудаваць.

Толькі трэба з бальшавіцкай цьвёрдасьцю і настойлівасьцю перамагчы ўсе цяжкасьці.

Калі мы гаворым аб адсталасьці Расіі, мы разумеем, што гэта адсталасьць адносная ў параўнаньні з перадавымі капіталістычнымі краінамі. Але ёсьць і такія капіталістычныя краіны, якія па сваім узроўні тэхніка-эканомічнага разьвіцьця зьяўляліся яшчэ больш адсталымі, чым Расія.

Вось чаму ніяк нельга згадзіцца з думкамі сучаснага ідэолёга правых ухілістаў т. Бухарына, які ў сваёй рабоце: „Экономіка пераходнага пэрыоду“ піша наступнае:

„*Концэнтрацыя соцыяльнай магутнасьці* буржуазіі ў дзяржаўнай уладзе, якая зраслася з экономічнымі організацыямі капіталу, стварыла гіганцкае супраціўленьне для рабочага руху. Таму крах сусьветнай капіталістычнай сыстэмы пачаўся з *найбольш слабых* народна-гаспадарчых сыстэм, з найменш разьвітай дзяржаўна-капіталістычнай організацыяй“[1]). Ленін, чытаючы кнігу Бухарына, у гэтым месцы падкрэсьліў дзьвюма рысамі словы: з „найбольш слабых“ і зрабіў на палёх наступныя заўвагі: „Няправільна“ з „*сярэдня-слабых*“. Без вядомай вышыні капіталізму ў нас бы нічога ня вышла. Адсюль відаць, што Бухарын разглядвае Расію, як *найбольш слабую* народна-гаспадарчую сыстэму ў сыстэме сусьветнага капіталізму, тады як Ленін адносіць яе да *сярэдня-слабых*, падкрэсьліваючы, што без вядомага ўзроўню разьвіцьця капіталізму ў нас ня было-б рэволюцыі.

Тав. Выдра з сваёй тэорыяй адсталасьці наблізіўся да думак Бухарына, якія былі выказаны апошнім у кнізе: „Экономіка пераходнага пэрыоду“.

Усё гэта гаворыць аб тым, што трэба рашуча адхіліць філёзофію добрастаннасьці, абаронцай якой выступіў т. Выдра, і пасьлядоўна праз разгортваньне самакрытыкі выкрыць тое, чым характарызуецца нядобрастаннасьць на філёзофскім фронце ў нас.

---

[1]) „Ленинский сборник“, № 11, стар. 397.

# ПРАЦА І БУДНІ
# БЕЛАРУСКАГА ПЕРШАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРУ ЗА ДЗЕСЯЦЬ ГОД ЯГО ІСНАВАНЬНЯ
## 1920—30 г.

Аўг. Рамановіч

## „НАРЫС"

„Олимпиада Театров" показала, насколько высоко стоит театральное искусство Советской Белоруссии и какие оно таит в себе огромные возможности. Этих успехов Белорусский Театр добился в ожесточенной классовой борьбе.

П. Куртов.

„Советский Театр"

Беларускі тэатр ня мае за сабой амаль ніякай тэатральнай спадчыны і традыцый у параўнаньні з расейскім, грузінскім, украінскім і іншымі тэатрамі. Тыя аморфныя спробы беларускіх нацыяналістых заснаваць тэатр у 1911 годзе (этнаграфічны вечар у г. Вільні) альбо ў 1918 годзе (Беларускае Таварыства Драмы і Камэдыі ў г. Менску) і інш. бясплодна разьбіваліся аб вялікадзяржаўны шавінізм царскай улады і белапольскіх акупантаў і ніякага ўплыву на разьвіцьцё беларускага савецкага тэатру не зрабілі.

Заснаваны ў 1920 годзе, пасьля вызваленьня г. Менску Чырвонай Арміяй ад бела-палякаў, Беларускі Савецкі Тэатр за 10 год свайго існаваньня загартаваўся ў вагні клясавай барацьбы і, разброіўшы нацыянал-дэмократычнае наступленьне дробна-буржуазных элемэнтаў у сваім калектыве, пасьпяхова выходзіць і замацоўваецца на шлях сапраўднага пралетарскага тэатру.

Буйныя посьпехі і дасягненьні, якімі адзначаны асабліва апошнія гады працы тэатру як у галіне актуальнай тэматыкі яго рэпэртуару, гэтак і ў галіне фармальна-творчага разьвіцьця бязумоўна абумоўлены тымі посьпехамі і дасягненьнямі, якія мае рабочая кляса Беларусі ў справе будаўніцтва сацыялістычнае культуры.

Сёньня, калі грамадзкасьць БССР сьвяткуе дзесяцігадовы юбілей аднаго з старэйшых і буйнейшых тэатральных арганізмаў, дзесяцігодзьдзе Першага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру, самому тэатру, яго калектыву,

неабходна, улічыўшы вопыт мінулых гадоў, узброіцца мэтадам дыялектычнага матэрыялізму і, ўзмацняючы сувязь з пралетарскай грамадзкасьцю, ісьці далей па шляху шырокага абслугоўваньня ідэалёгічна моцнай, высока-мастацкай вытворчасьцю, пралетарскіх мас.

Але перш чым выводзіць сальдо дзесяцігадовай працы БДТІ, перш чым даваць наказы яму на будучае, ня лішнім будзе ўспомніць этапы яго мінулай працы ў іх гістарычнай пэрспэктыве.

## Першыя крокі

1920-21 год. Тэатр толькі што арганізаваны ў невялічкім сваім складзе, 15—20 чал. актораў прафэсыяналаў з расейскай, польскай, украінскай правінцыяльнай сцэны і моладзі з рабочых клюбаў, пачынае свае паказы ў будынку Менскага Гарадзкога Тэатру, падзяляючы памяшканьне з расейскім і яўрэйскім драмкалектывамі. Такім чынам на кожны калектыў прыпадала ў тыдвень па два паказы.

Карыстаючы старую заваль дэкарацый, бутафорыі і рэквізыту, струхлеўшую спадчыну былога губэрнатарскага тэатру, незадачліва, прымітыўна, згодна ўстаноўленаму трафарэту правінцыяльных драм, ставяцца адпаведныя гэтаму і п'ескі: „Апошняе Спатканьне"—Галубка, „Раскіданае Гняздо"—Янкі Купалы, „Бутрым Няміра"—Аляхновіча і г. д. Перакладныя з польскага: „Хам"—Ожэшко, „Іх чацьвёра"—Запольскай, з украінскай „Пашыліся ў дурні"—Крапіўніцкага, „Наталка-Палтаўка", „Па рэвізіі" і г. д. Ставяцца гэтыя п'ескі па ўсіх правілах захудалых правінцыяльных драм, без вялікіх прэтэнзій на мастацкую вартасьць.

Невялічкай аудыторыяй тэатру былі вучні, студэнцтва, рабочыя, чырвонаармейцы і г. д. Гарадзкі абываталь, служачы, інтэлігэнт і дробная буржуазія—наведвалі расейскую і яўрэйскую драму, дзе ставіліся трапныя іх густу „Чорная пантэра", „Тэвье дэр мілхікер" і г. д., а спэктаклі на „мужыцкай мове", „чарговая выдумка бальшавікоў". Не. Гэта ня цікавіла абываталя. Гэта нават шокіравала памяшканьне былога гарадзкога тэатру, яго раззалочаную губэрнатарскую лёжу.

Гарадзкі абываталь стараўся не заўважаць існаваньня беларускай трупы.

## Барацьба за гледача

Так, у 1920 годзе тэатр робіць спробу абагаціць свой слабы рэпэртуар якой небудзь вядомай клясычнай п'есай.

Запрашаецца, вядомы ўжо ў Менску рэжысэр і актор калектыву расейскай драмы А. А. Міровіч і сумесна з акторамі расейскай драмы ставіцца вядомая п'еса М. Горкага—„На дне".

Шуму было многа. Але вынікі не апраўдалі тых надзей, якія ставілі перад сабой кіраўнікі беларускай трупы.

Досыць добра сцэнічна і акторскі пастаўлены спэктакль меў у сябе асноўны недагляд. З тае прычыны, што ролі выконвалі палова беларускіх, палова расейскіх актораў—мова са сцэны гучэла такімі замысловатымі выкрутасамі, такой тарабаршчынай, што глядач толькі хлопаў вушыма, туга разумеючы аб тым, што гаворыцца на сцэне.

Дзякуючы гэтаму асноўнаму недагляду спэктакль доўга не пратрымаўся ў рэпэртуары, ён хутка зьнік са сцэны.

Шчырую падтрымку і стымул далейшай працы калектыў беларускай трупы знаходзіў у сваіх выездах у дробныя гарадкі і мястэчкі Беларусі, як Слуцак, Койданава і г. д., асабліва ставячы спэктаклі і концэрты ў частках Чырвонай арміі і ў рабочых клюбах.

Але паколькі Менскі гарадзкі тэатр зьяўляўся базай беларускага тэатру, пастолькі калектыў усё-ж ня траціў надзеі заваяваць сабе здавальняючую аўдыторыю.

Трэба сказаць, што ў той час (1920, 21, 22, нават 23 г. г.) культурны ўзровень рабочых мас быў значна ніжэй тэй вышыні, якой ён дасягнуў за апошнія гады, калі профсаюзы, альбо культкамісіі паасобных фабрык і заводаў—закупляюць цэльныя паказы для сваёй арганізацыі. Бязумоўна паасобныя рабочыя наведвалі тэатр, але масавай цягі рабочых да тэатру, да мастацтва тады яшчэ ня было, а галоўнае рэпэртуар тэатраў у сваёй большасьці не адпавядаў запатрабаваньням рабочага глядача. Каса была адчыненай. Контыгэнтам тэатральнага глядача быў усё той жа служачы, інтэлігэнт, абывацель, крамнік у пераважнасьці. Гэты глядач прыходзіў у тэатр, упэўнена займаў сваё месца і дыктаваў тэатру свой сацыяльны заказ. Кіраўнікі тэатру былыя антрэпрэнёры (Маркаў, Шапіра, Ляхаўскі) альбо прадстаўнікі дробнай буржуазіі, цесна зьвязаныя з беларускім адраджэнчым рухам: нацыянал-дэмакрат (Ф. Ждановіч, Ф. Аляхновіч, Гурскі, Дыло) уважліва прыслухоўваліся да запатрабаваньняў гэтага заказчыка, стараліся ўсімі мерамі задаволіць яго мяшчанска-абывацельскі густ.

### Павялічэньне складу БДТ1

Вопыт з „На дне“ ў пэўнай сваёй частцы, ня гледзячы на адзначаны намі недахоп, усё-ж даў станоўчыя вынікі, галоўным чынам у частцы мастацкай якасьці пастаноўкі. Вось гэты вопыт штурхнуў думку Наркамасьветы запрасіць на сталую працу рэжысэра А. Міровіча, адначасова прымацаваць да тэатру хор пад кіраўніцтвам У. Тэраўскага, аркестр на чале з дырыжэрам Эльконам і балетны гурток пад кіраўніцтвам балетмайстра Алексютовіча. Уліліся новыя сілы і ў драмтрупу. У прыватнасьці ў склад трупы ўвайшоў У. М. Крыловіч, які да гэтага працаваў на украінскай сцэне і ў рабочых клюбах.

Ужо першая пастаноўка гэтага парыяду музычная п'еса М. Кудзелькі „На Купальле“ была пастаўлена з удзелам драм-трупы, хора, балета і

аркестра. Вопраткі, парыкі, бутафорыя, рэквізыт і дэкарацыі былі зроблены (што да гэтага часу не практыкавалася) па спэцыяльных эскізах вядомым мастаком К. Ялісеевым.

Як мы бачым, тэатр пачынае афармляцца ў прафэсыянальны тэатр досыць буйнага маштабу.

Наогул 1922 год трэба лічыць годам, калі адпаведныя ўстановы пачынаюць разгортваць тэатральную справу на Беларусі. Адбіраецца група актораў з Беларускага тэатру (Міцкевіч, Саньнікаў, Ільінскі, С. Станюта, В. Вашкевіч, Бандарчык і інш.), да іх далучаецца прынятая па экзамену моладзь і ўся гэта група накіроўваецца ў Маскву, дзе пасьля пяці год студыйнай вучобы арганізуюцца ў Другі Беларускі Дзяржаўны Тэатр.

## Першы посьпех

Прымітыўна сьлязьлівая мэлядрама „На купальле“ пастаўленая па ўсіх правілах расейскай правінцыяльнай сцэны ў размаляваных (арачных дэкарацыях з усімі аксэсуарамі старой тэатральнай бутафорыі, з лясу) намі, ведзьмамі, русалкамі і г. д. Аздобленая салодзенькай музыкай (на народныя мэлёдыі) ужо з першага паказу зварочвае ўвагу гарадзкога глядача.

На другі-ж дзень пасьля прэм'еры аб Беларускім Тэатры загаварылі. У першы раз за ўсё існаваньне беларускага тэатру, у касе цяжка было атрымаць білет на паказы.

Перапоўненая заля млела, слухаючы байкаючую мінорную музыку захаплялася картоннымі дэкарацыямі, дзівілася як з вагністага дупла вылазіць касматы лесавік. Сьмяялася няэграбнаму каханьню старога селяніна бабыля да маладой Параскі. Уздыхала няўдачам прыёмышнага сына абшарніка, паніча Уладзіка, які закахаўся ў вясковую дзяўчыну Алеську. Але на дарозе да іх васільковага жыцьця стала „цёмны дух“ панна Ядвіга, якая з свайго боку закахаўшыся ў Уладзіка не хацела аддаць яго Алесьцы, а таму ў цёмную купальскую ноч скінула Алеську ў вір.

Гэты посьпех дапамог тэатру пашырыць сваю аўдыторыю, з другога боку ён спагадаў настроям пэўнай часткі інтэлігэнцыі з лягеру нацыянал-дэмакратаў, якія ўбачылі ў гэтым посьпеху добрую мажлівасьць скарыстаць тэатр як зброю сваёй ідэалёгіі.

З гэтага моманту пачынаецца паступовы, але поўны ўплыў нацыянал-дэмакратаў на тэатр, на яго калектыў, на мастацкае кіраўніцтва, на рэпэртуар.

## БДТІ у руках нацдэмаў

Шляхам крытыкі (у друку і на дыспутах) міласьцівай або жорсткай, залежна ад таго, як тэатр спагадаў іх патрэбам. Шляхам прасоўваньня „сваіх людзей“ у адміністрацыйнае кіраўніцтва тэатрам, у кіруючыя

тэатральнай справай органы Наркамасьветы, у тэатральнаю сэкцыю Інбелкульту і г. д. яны ахапляюць тэатр тынам сваёй ідэолёгіі і прымушаюць малады, яшчэ не ўмацаваўшыся, калякты быць паслухмянай сілай у іх руках.

На чале з Ф. Ждановічам у тэатры актывізуецца група, якая пралазіць ва ўсе грамадзкія організацыі ў тэатры, утвараючы ў калектыве нацыянал-дэмакратычныя настроі.

Склокі, падхалімства, падсіжваньне, дэмагогія ўсіх гатункаў, пляткарства і г. д. пачынаюць разьдзіраць і так featural рознакаляровы ў сваім складзе калектыў.

Выразна дыфэрэнцыруюцца: група Ф. Ждановіч, малаактыўная опозыцыя ёй, група аб'яднаная ў „гурток самадзейнасьці“ і „абыякі“ (рэшта калектыву людзі, якія больш за ўсё шумелі на розных сходах, але па сутнасьці трымаліся ў староньцы „наша хата з краю“).

Як мы ўжо гаварылі вышэй, калектыў БДТ1 у той час у сваёй аснове склаўся з самых рознастайных элемэнтаў. Тут былі і профэсыяналы акторы з расейскай, польскай, украінскай сцэны і аматары з беларускага т-ва драмы і камэдыі, моладзь з клюбных гурткоў, і людзі няведама адкуль і як увайшоўшыя ў склад беларускай трупы.

Яднала гэтых людзей эмпірэйная цяга да мастацтва, атрымліваемыя пайкі, і рэжысэрская воля.

Выхадцы з дробна-буржуазнай сям'і, дзеці служачых, яны і самі прынесьлі ў тэатр сваю абыватальскі-мяшчанскую псыхолёгію, купаліся у ёй, такім чынам утварылі сваім складам мяккі грунт нацыянал-дэмократычным плыням.

Ніякай выхаваўчай працы з калектывам ні ў галіне тэорэтычна-мастацкай, ні палітычна-грамадзкай не вялося. Усё выхаваньне па сцэнічнай галіне зводзілася да голай практыкі. Вольны ад проб і спэктакляў час калектыў скарыстоўваў для бытавых патрэб. Паважнае месца ў жыцьці калектыву займалі рамантычныя гісторыі, плёткі, пьянства, карты, вынаходлівыя „мастацкія“ хуліганствы.

Мясцовы камітэт у асобе аднаго „старшыні з пячаткаю“ займаўся зьбіраньнем сяброўскіх узносаў, разьмеркаваньнем пайкоў і іншай „карыснай“ работай.

Гурток самадзейнасьці, аб'яднаўшы вакол сябе пераважна моладзь, ставіў сваёй мэтаю галоўным чывам тэорэтычную самападрыхтоўку. Улічваючы невялікі культурны ўзровень усяго калектыву, гурток самадзейнасьці акцэнтуе сваю працу на ўцягненьне ў арганізаваныя гурткі большасьці калектыву, асабліва моладзі. Вынаходзячы рознымі спосабамі сродкі, запрашае лектароў, арганізуе гурткі пастаноўкі голасу, пластыкі, руху, фэхтаваньня, гісторыі і тэорыі мастацтва і г. д.

Утвараецца макетная майстэрня і лябораторыя для аналізу пастановачнай працы. Выпушчаецца вусная газэта, якая бярэ пад абстрэл бытавыя вывіхі жыцьця калектыву. Зразумела, арганізацыйна ўмацаваў-

шыся, аб'яднаўшы навакол сябе найбольш актыўную групу моладзі (прыйшоўшы з рабочых драмгурткоў), гурток самадзейнасьці ня мог не адчуваць усёй хібкасьці мастацкай палітыкі тэатральнага кіраўніцтва. Арыентацыя кіраўніцтва на дробна-буржуазнага гледача, задаваленьне густаў мешчаніна—абываталя ў пастаноўках і дабор рэпэртуара згодна нацыянал-дэмакратычным прынцыпам „п'еса хоць якая, абы беларускага аўгара". У першую чаргу п'еса гістарычная, рамантызуючая экзотычную старасьведчынасьць („Машэка", „Панскі гайдук", „Вір", „Скарына") і г. д.

П'еса этнаграфічная, затушоўваючая ўсякі соцыяльны зьмест сваёю абрадаваю красачнасьцю („На купальле", „Васельле" і г. д.), пьесы псыхолёгічныя, містычныя і сымболічныя („Польскі жыд", „У ліпнёвую ноч" „Гімн працы", „Цені", „Раскіданае гняздо" і г. д.)

Да 1926 году мы ня бачым у рэпэртуары БДТ1 ніводнай сучаснай пьесы. Кіраўніцтва тэатру звыкла спасылалася на тое, што ў савецкай драматургіі няма нічога цікавага, літаратурна-каштоўнага, адны агіткі (быццам-бы пошлыя, прымітыўныя „К бяздоньню", „Пасланец", „Зьбянтэжаны Саўка" і г. д. лепш любой агіткі.).

Драматургі як працуючыя ў тэатры, гэтак па-за тэатрам атрымлівалі заўсёды заказ: „Пішыце пьесы, у якіх мы-б маглі-б скарыстаць усе нашы цэхі, балет, хор, аркэстр. Мы ня можам ставіць сучасныя п'есы, бо што будуць рабіць балет, хор, аркестр? Пішыце на гістарычныя альбо этнографічныя тэмы."

Вось за гэтымі аргумэнтамі і хаваў свой твар нацыянал-дэмакратызм у тэатры, старэнна адстойваючы сваю пазыцыю „нацыянальная па форме, нацыянальная па зьместу беларуская культура". Таму і павінен быць зразумелым той посьпех „Кастуся Каліноўскага", які ўзьняў тэатр на алімпійскую вышыню. Свае людзі ў друку рассыпаліся шэрагам артыкулаў-панігірыкаў. Паэты тэрмінова настрачылі кучу вершаў. У Інбелкульце выставілі бюст Каліноўскага. Выдавецтва выпусьціла паштоўкі з яго адбіткам, абываталь абмяркоўваў на якім пляцу будзе стаяць помнік „рэвалюцыйнаму" гэрою.

Партыя, рабочая грамадзкасьць, сканцэнтраваўшы сваю ўвагу на больш важным, гаспадарча-эканамічным вучастку соцыялістычнага фронту, ня мела мажлівасьці завострыць сваю ўвагу на тэатры. Асобныя партыйцы, кіруючыя тэатральнай справай, падпалі пад уплыў нацыянал-дэмакратаў і бачучы захапленьне гледача тымі жанравымі сцэнамі і лоўка скроенай інтрыгай п'есы праглядзелі контр-рэвалюцыйную сутнасьць спэктаклю.

Гурток самадзейнасьці, бачучы такі зьяднаны фронт тэатральнага кіраўніцтва, крытыкі і абываталя гледача, дзякуючы сваёй слабой палітычнай падрыхтаванасьці, ня мог актыўна супярэчыць кіраўніцтву тэатра. Адваяваўшы сабе прадстаўніцтва ў Мастацкай радзе, гурток галоўным чынам вёў наступленьні супроць патураньня мяшчанскім густам гледача,

а таксама змагаўся за падвышэньне кваліфікацыі актораў і мастацкай якасьці пастановак. Аб'ектыўна трэба адзначыць, што дзякуючы актыўным вымаганьням гуртка самадзейнасьці і рэжысуры, якая ў гэтым пытаньні вяла з ім адну лінію, тэатр адшукаў пэўныя сродкі і былі пастаўлены экспэрымэнтальныя пастаноўкі „Мешчанін-дваранінам“ Мольера, „Чырвоная маска“—Луначарскага і інш.

У галіне выхаваўчай працы сярод калектыву, апроч пералічаных вышэй мерапрыемстваў як лекцыі і рэфэраты па гісторыі і тэорыі мастацтва, праца гурткоў пастаноўкі голасу, спорту і ўвядзеньня прыкладнай дысцыпліны з боку гурткоўцаў, апроч усяго гэтага, гуртком было пастаўлена пытаньне перад ЦП Рабісу аб датэрміновых перавыбарах бязьдзейнага мясцовага камітэту.

Гэта апошняе мерапрыемства выклікала буйны адпор з боку нацыянал-дэмакратаў і іх прыхільнікаў у калектыве. Зьмена бязьдзейнага слабавольнага мясцовага камітэту больш актыўным адзначала поўную немажлівасьць надалей праводзіць праз мясцовы камітэт сваіх людзей у мастацкую раду, уплываць на настроі калектыву, кіраваць унутраным жыцьцём тэатру, звальненьнем і прыёмам працаўнікоў, запрашэньнем новага мастацкага кіраўніцтва, даборам рэпэртуару і г. д.

Пасьля бурнага сходу, пры актыўным падтрыманьні ЦП Рабісу, мясцовы камітэт быў абраны ў новым складзе, прычым у большасьці прайшлі кандыдатуры гуртка самадзейнасьці.

У далейшым, дзякуючы таму, што кіраўніцтва гуртка перайшло ў кіраўніцтва мясцкомам, праца гуртка з мясцкомам зьліваюцца і ўсю далейшую працу па грамадзкаму выхаваньню калектыву вядзе мясцком пры актыўнай дапамозе профсаюзу.

### Другі этап БДТ1

Калі мы гаворым аб другім этапе працы тэатру, акрэсьліваючы яго пастаноўкамі п'ес „На купальле“ 1921 г., „Мяцеж“ 1927 г., мы павінны гаварыць аб яго бязупынным фармаваньні як мастацкага організму, аб росьце калектыву і ўсяго тэатру ў цэлым.

Распачаўшы з невялічкіх прымітыўных п'есак, нескладаных па свайму зьместу, ні багатых матэрыялам для акторскіх вобразаў, ні патрабуючых асаблівага дэкарацыйнага афармленьня, ні вопратак, ні бутафорыі, ні рэквізыту, тэатр з кожным годам з кожнай новай пастаноўкай усё больш і больш ускладняе сваю апрацоўку кожнай новай п'есы (у галіне раскрыцьця зьместу і ў падачы таго ці іншага акторскага вобразу, у пляніраваньні мізансцэн, а таксама і ў агульнай рэжысэрскай кампозыцыі, спэктаклю) — тэатр пачынае ставіць перад сабою пэўныя фармальныя заданьні, разрашаючы іх усё сумай сродкаў сцэнічнай выразнасьці.

Афармленьне спэктакляў пачынае займаць паважнае месца ў пастаноўцы. Мастак спэктаклю атрымоўвае самастойную адказную ролю. На

зьмену аджыўшым свой век шаблённым „павільёнчыкам“ і размаляваным палотнішчам арачных дэкарацый выступаюць „сукна“ абхапляючыя прастор сцэнічнай каробкі, камбінацыі пляцовак і нават варштаты канструкцый. На зьмену натуралізму і рэалізму старых пастановак ідзе ўсё больш дыкрэдытуемы тэатрам умоўны рэалізм, стылізацыя, трохмерныя конструкцыйныя ўстаноўкі. Пошукам тэатру ўжо становіцца душна ў вузкіх межах сцэны, ён узьбіраецца на двух-трох павярховыя пляцоўкі (падымаючы „арлекін“), вылазіць за „вакно“ сцэны паступова, карыстаючы авансцэну, аркестр („Мешчанін-дваранінам“), а пасьля і відоўню (Чырвоная маска).

Акторскі выкан адмаўляецца ад псыхолёгічнага калупаньня ў вобразу у бок яго антыпсыхолёгічнасьці, выпукляючы яго знадворныя тыпавыя сацыяльныя адзнакі. Часткова скарыстоўваючы прыёмы плашчаднага італьянскага тэатру commedia della arte. (Мешчанін-дваранінам) акрабатыка, біомэханіка (Чырвоная маска).

Адпаведнае месца займаюць у пастаноўках музыка і гукамантаж, якія выконваюць ня толькі ілюстрацыйную, часам і самастойную адказную ролю.

Як мы бачым тэатр імкнецца ў некаторых сваіх пастаноўках да разрашэньня пэўных фармальных праблем. Але гэтыя маладыя імкненьні разьбіваліся аб пустэчу, ідэёвую нікчэмнасьць тых пьес, над якімі ён працаваў, з аднаго боку. З другога іх стрымлівала коснасьць мешчаніна абываталя пэрманэнтнага гледача тэатру. Мешчанін-абываталь патрабаваў ад тэатру вясёленькага з музыкай, пабольш балету, паменш ідэалёгіі. Мешчанін не хацеў думаць, ён хацеў бачыць, для гэтага пабольш красачнасьці ў дэкарацыях, яму не патрэбен быў стыль, ён у ім нічога не разумеў, яму не патрэбен быў зьмест у афармленьні, хай дэкарацыі будуць самі па сабе, зусім абстрактныя, абы яны былі прыгожыя, вабілі вока сваімі яскравымі фарбамі, зьдзіўлялі сваёю пышнасьцю і дорага-б каштавалі. Музыка таксама павінна была адпавядаць густу мешчаніна-абываталя. Лепш усяго калі музыка будзе салодка-мінорнай: пад яе так лёгка і прыемна ўздыхаць.

Акторы павінны весяліць да колікаў у жываце. Ня дрэнна, калі актор здолее выціснуць у абываталя адну-дзьве сьлязінкі і г. д. і г. д.

І калі мы прагледзім рэпэртуар за пэрыяд 1921—1927 г., ён у асноўным і дабіраўся згодна вымаганьням мешчаніна-абываталя.

І паколькі пошукі новага, новых фармальных разрашэньняў (у паасобных пастаноўках) былі не сыстэматычнымі, зьявішчам у тэатры, а стыхійным жаданьнем стаць на які-небудзь фармальны шлях, увесь гэты пэрыод працы тэатру мы можам ахарактэрызаваць як пэрыод экспэрымэнтаў маладога, яшчэ не стабілізаваўшагася мастацкага організму.

Праўда, у пастаноўцы п'есы „Каваль-Ваявода“ тэатр нібы пачынае дэклярыраваць свой шлях, як шлях сынтэтычнага тэатру (выходзячы

з таго, што ў гэтай пастаноўцы, галоўным чынам, актор набліжаецца да сынтэтычнага актора. Ён выконвае драматычны тэкст, пяе, танцуе, робіць акрабатычныя рухі. Але як сама пастаноўка ў цэлым, гэтак і наступныя іншыя пастаноўкі не замацоўваюць гэтага шляху тэатру.

Тэатр усё больш і больш робіцца эклектычным па свайму напрамку, скатываючыся да бязпрынцыповага унівэрсалізму.

У рэпэртуары тэатру за гэты пэрыяд мы бачым чыстую драму („У ліпнёвую ноч“ „Спадчына“, „Эльга“ і інш.), мэлядраму („На купальле“, „К бяздоньню“), опэру (Русалка), балет („Вальпургіева ноч“, „Палавецкі стан“), сымфонічныя канцэрты і г. д.

Ва ўмовах яшчэ не разгорнутай тэатральнай справы, калі БДТ1 зьяўляўся фактычна першым і адзіным буйным тэатрам на БССР, тэатр лічыў сваю палітыку ўсебаковага задаваленьня патрэб свайго гледача ўсімі ведамі сцэнічнай вытворчасьці (драма, опэра, балет і г. д.) мэтазгоднай і правільнай.

Об'ектыўна тэатр, рэалізуючы творчасьць маладых беларускіх кампазытараў, зьбіраючы вакол сябе музычныя, вакальныя і хорэографічныя сілы, бязумоўна дапамог у будучым арганізавацца новым тэатральным эмбрыонам на Беларусі (музтэхнікуму, эстраднаму тэатру і г. д.). Але-ж раскідваючыся на неўласьцівыя яго драматычнай аснове жанры, ня маючы ў дастатковай меры мастацкіх сродкаў для рэалізацыі гэтых жанраў, ён па-першае, ня мог даваць гэтыя пастаноўкі з дастатковай мастацкай якасьцю, па-другое, гэтыя пастаноўкі перашкаджалі яму выявіць і замацаваць свой мастацкі твар. Аб палітычным твары тэатру мы ўжо гаварылі вышэй канкрэтызуючы. Мы можам з упэўненасьцю сказаць, што другі этап працы тэатру (1921—27 год) праходзіць пад баявымі лёзунгамі нацыянал-дэмакратызму ў пастаноўцы такіх п'ес, як „Скарына, сын з Полацку“, „Кастусь Каліноўскі“, „Тутэйшыя“.

### „Папоўшчына“ на тэатры

Трэба сказаць, што нацыянал-дэмакратычным плыням на тэатры шмат дапамог запрошаны ў 1925 годзе ў БДТ1 рэжысэр Н. А. Папоў. Патомак вядомых Маскоўскіх купцоў Паповых, сам у мінулым антрэпрэнёр і рэжысэр уласнага тэатру ў Расіі. Гэты з пазваленьня сказаць „мастак“ з першага-ж моманту паступленьня ў тэатр адразу змыкаецца з нацыянал-дэмакратычнай групай і на працягу сваёй двухгадовай працы ў БДТ1 рашуча праводзіць нацдэмаўскія тэндэнцыі, карыстаючыся сваёю пасадай мастацкага кіраўніка. Гэта асабліва выразна відаць з яго пастаноўкі п'есы „Скарына, сын з Полацку“ і становяцца зусім зразумелымі яго настойлівыя вымаганьні пастаноўкі п'есы „Тутэйшыя“, якую два грамадзкія дыспуты канчаткова забракавалі як выразна шкодную контррэволюцыйную пьесу. Усё-ж такі ня гледзячы на гэтую ацэнку грамадзкасьці Н. А. Папоў дабіваецца яе пастаноўкі ў БДТ1. Нацыянал-да-

макратычнае кіраўніцтва тэатру ідзе яму насустрач, затрачвае сродкі рабочы час на пастаноўку, і пасьля аднаго паказу пад націскам грамадзкасьці прымушана з вялікім нездавальненьнем зьняць п'есу з рэпэртуару тэатру.

Ужо пералічанага было-б дастаткова, каб ахарактарызаваць дзейнасьць гэтага „патомка слаўных маскоўскіх купцоў" у беларускім тэатры, але паколькі Папоў „папоўшчына" былі на тэатры не выпадковым зьявішчам, а характарызуюць пэўны пэрыод працы тэатру, мы лічым неабходным асьвятліць яшчэ некаторыя моманты яго „карыснай" працы.

Такія адносіны Папова да сучаснай п'есы мы можам бачыць з наступнага факту, на чытцы п'есы „Змрок", у якой праўда былі пэўныя ідэолёгічныя вывіхі, але якая ў цэлым усё-ж выразна імкнулася паказаць барацьбу новых элемэнтаў у старой глухой вёсцы. Дык вось калі калактыў тэатру, жадаючы мець у рэпэртуары сучасную п'есу, робіць цэлы шэраг заўваг аўтару ў сэнсе пераапрацоўкі, прынцыпова рэкамэндуючы п'есу ў рэпэртуар тэатру, выступае Н. А. Папоў і ў вялікай абураючай прамове даводзіць немажлівасьць пастаноўкі гэтай пьесы БДТ1, прычым грунтуецца не на ідэолёгічных скрыўленьнях пьесы, а з усёй рашучасьцю свайго аўтарытэта бракуе п'есу за літаратурныя і сцэнічныя яе недахопы.

Наогул, калі мы прагледзім пастаноўкі Папова за два гады яго працы ў БДТ1, для нас стане зусім выразнай антысавецкая дзейнасьць Папова.

Увесь жа „папоўскі" пэрыяд тэтру можна характарызаваць як упарты паварот тэатру з ужо, з такімі вялікімі цяжкасьцямі, заваяваных новых фармальных пазыцый.

Дабор пераважна клясычнага рэпэртуару, прычым такіх яго „пэрлаў" як „Эльга", „Спадчына", „Вясковы судзьдзя" і г. д. Пастаноўкі гэтых п'ес па ўсіх правілах рэстаўрацыі, гэтых пастановак з францускай, нямецкай, гішпанскай сцэны, афармленьне п'ес у павільёны, арачныя дэкарацыі, размаляваныя заднікі, дабор вопратак, мэблі, рэквізыту з уважлівасьцю маньняка—архаіка. Усё гэта рабіла пастаноўкі Н. Папова бязумоўна непатрэбнымі той новай рабочай аўдыторыі, якая ўжо з кожным днём пачынала ўсё больш і больш стукацца ў тэатр.

Характэрна, што ня толькі рабочая грамадзкасьць, якая сустракала кожную папоўскую пастаноўку ў штыхі, а нават мешчанін-абывата给ь, выходзячы з тэатру доўга шморгаў носам, чыхаў, выдзьмуваючы музэйны пыл, які на працягу даўгіх дзей ляцеў са сцэны, залазячы ва ўсе поры гледача, нават абываталь строіў кіслы твар, старэнна прыкрываючы конскую зевату мярэжжавай хустачкай, а што казаць аб маладой новай аўдыторыі, якая з кожным днём усё больш і больш наступала на тэатр і якая, седзячы на папоўскім спэктаклі ў самы найтрагічны момант старой гішпанскай п'есы Кальдэрона, недазволена рагатала над тым як стары кулак, вясковы судзьдзя, даведаўшыся аб тым, што малады афіцэр, без яго бацькавага дазволу, бяз боскага шлюбу заўладаў яго бацькавай

уласнасьцю—яго дачкой Ізабэлаю, дык вось гэты стары кулак у вялікай роспачы, з архаічным трагізмам, паўгадзіны мучыць гледача, запэўняючы, што ён гатовы разьдзерці зямлю на кавалкі за тое, што закранулі яго ўласнасьць.

Канчаючы кароткі агляд гэтага пэрыоду, які носіць назву ў тэатры як пэрыоду „папоўшчыны“, мы можам канстатаваць, што нацыянал-дэмократычныя ўстаноўкі знайшлі свайго вернага носьбіта ў асобе Н. А. Папова, і раськвітнелі найбольш буйна ў пэрыод яго працы ў БДТ1.

## Выезды БДТ1 на пэрыфэрыю

Мы ўжо гаварылі вышэй, што тэатр, маючы сваёй базай Менск, з самага пачатку сваёй працы ўсё-ж вынаходзіць мажлівасьць для выезду і ў іншыя гарады БССР, а ў 1923 годзе запрашаецца на Ўсесаюзную Сельска-гаспадарчую выстаўку ў Маскве.

Калі да 1923 году гэтыя выезды носяць выпадковы характар, дык пачынаючы з 1923 году выезды плянуюцца і кожны летні сэзон тэатр выяжджае на двох-трох месячныя гастролі па пэрыфэрыі БССР.

Апроч буйных гарадоў Беларусі як Віцебск, Гомель, Магілеў, Полацк, Бабруйск, тэатр ня раз пабываў і ў Воршы, Рагачове, Клімавічах, Горках, прамысловых раёнах, Нова-Беліцы, Маркаўшчына, Добруш, Рэчыца, фабрыка Дзьвіна, Цьвікавы завод, Клюбы чыгуначнікаў Менску, Гомеля, Бабруйску; Чырвонаармейскія клюбы і лягэры, нардомы: Ветрына, Койданава, Слуцку і г. д. Колгасныя раёны Будакашалёўскі, Хойніцкі, Лоеўскі і г. д.

Цікава адзначыць, што прыезд тэатру ў больш дробныя гарадкі і мястэчкі Беларусі адразу сустракаўся вельмі прыхільна, горача і ваван помпэзна, але пачаткі гастроляў у буйных гарадох (Віцебск, Гомель, Магілеў), якія бачылі ня толькі сярэднія расейскія, яўрэйскія і украінскія „драмы“, але і вядомыя тэатры Масквы і Ленінграду, вось гэтыя гарады сустракалі прыезд беларускага тэатру надзвычайна няпрыхільна і халадна. Але звыкла ўжо пасьля двох-трох спэктакляў на „мужыцкай мове“ лёд тэатральнага гледача ламаўся і няма такога гораду на Беларусі, дзе-б гастролі Першага БДТ не прайшлі з надзвычайным посьпехам, павагаю і добрымі ўспамінамі. Стала за звычай, што апэрэта, халтурныя расейскія і украінскія драмкалектывы пасьпешна ўцякалі з тых гарадоў, куды прыяжджаў Першы БДТ.

У 1923 годзе тэатр выяжджае ў Маскву на сельскагаспадарчую выстаўку. Прыймае актыўны ўдзел у адчыненьні павільёну Беларускай ССР, дае этнаграфічныя канцэрты ў адчыненым выставачным тэатры, а таксама ставіць свае паказы на буйных фабрыках і заводах Масквы, у клюбе Прохараўскай мануфактуры, у крэмлёўскім тэатры і дае шэраг адчыненых спэктакляў у Замаскварэцкім тэатры.

Да 1927 году тэатр толькі ў летнія сэзоны выяжджаў на гастролі, увесь зімовы сезон працуючы ў Менску. Пачынаючы з 1927 г. у звязку з існаваньнем у БССР ужо трох стацыянарных тэатраў (БДТ1, БДТ2, і Беларускі Дзяржаўны Яўрэйскі Тэатр) і аднаго вандроўнага, Галоўмастацтва пляніруе пераезды тэатраў з гораду ў горад і на зімовыя сэзоны.

Такім чынам у 1927 годзе Першы БДТ распачынае свой зімовы сэзон у Віцебкку.

## Рабочы глядач

Перш чым перайсьці да агляду Віцебскага сезону, у якім БДТ1 пачынае мяняць курс і фактычча ўступае ў трэці пэрыод свайго разьвіцьця, ня лішняе будзе ўспомніць і аб тых прычынах, якія прымусілі тэатр пераглядзець свой ранейшы шлях і ўзяць новы напрамак.

Калі ў 1923 годзе рабочая паласа ў тэатры не перавялічвала 10—15%, дык ужо ў 1925—26 годзе яна ўзрастае да 50%, у 1927—28 годзе да 75%, а ў 1929—30 г. мы маем да 90—95% рабочага гледача ў тэатры.

Гэта сьведчыць аб паступовым узросьце матар'яльнага дабрабыту рабочае клясы. Гэта сьведчыць аб культурным узросьце, аб усё большай і большай патрэбе рабочага ў тэатры, у мастацтве.

Так званая „рабочая паласа“ білетаў, якая вызначалася тэатрам для продажу ў робочай касе пры саюзах, становіцца ўсё больш вузкай і недастатковай і нарэшце тэатр пераходзіць да цэлявога продажу спэктакляў паасобным проф-арганізацыям, фабрыкам, заводам.

Адкрытыя спэктаклі пачынаюць займаць усё меншае і меншае месца ў практыцы тэатру за апошнія гады, стаўшы зусім выпадковым зьявішчам.

Рабочы глядач культурна вырас, прыйшоў у тэатр і рашуча паставіў перад тэатрам свае запатрабаваньні.

„Далоў сьлязьлівую мэлядраму! Далоў пустую камэдыю. Даеш сучасную, актуальную трактуючую проблемы сенёшняга дню. Даёш п'есу адбіваючую будні і пафос соцыялістычнага будаўніцтва“!

Віцебскі сэзон (1927-28 г.)

Так. Тэатр у 1927 годзе, распачаўшы свой зімовы сэзон у адным з буйнейшых прамысловых гарадоў Беларусі, Віцебску, зразумеў, што ісьці далей тым шляхам, якім тэатр дагэтуль ішоў, немагчыма. Што дабіраць і далей рэпэртуар з разьлікам на абывателя-мешчаніна і нацыянал-дэмакрата—немагчыма. Што працаваць і далей тымі „папоўскімі“ мэтадамі, якімі ён працаваў дагэтуль—немагчыма.

Выразна стала, што ў залі сядзіць новая аўдыторыя. Што гэта новая аўдыторыя ставіць перад тэатрам свае клясавыя запатрабаваньні. Што гэтыя запатрабаваньні яна будзе адстойваць са ўсёй сваёй бальшавіцкай няўхільнасьцю.

Перад тэатрам стала дылема. Альбо ўвайсьці у цесную сувязь з сваёю новаю аўдыторыяю, і пад яе ідэйным кіраўніцтвам ісьці нага ў нагу з ёю, будуючы сапраўднае пралетарскае мастацтва. Альбо заняць цалкам варожую ёй пазыцыю і канчаткова перайсьці ў антысавецкі лягер дробнай буржуазіі і нацыянал-дэмакратызму.

І вось на працягу сэзона 1927-28 г. у тэатры адбываецца самая ярасная і жорсткая клясавая барацьба. Гэты год вядомы ў гісторыі тэатру як „склочны год". Склокі, групоўкі, асобныя выступленьні разьдзіраюць жыцьцё і працу тэатру. Адбываецца выразная дыфэрэнцыяцыя калектыву. Дзякуючы ўпартай працы профарганізацый за мінулыя гады значна ўзрасла грамадзкая праца на тэатры. Расьце палітычная сьвядомасьць найбольш актыўнай часткі калектыву. Ужо ня так лёгка нацыянал-дэмакратам рабіць свае ўплывы на калектыў. З кожным днём усё больш і больш здаюць яны свае пазыцыі пад націскам рабочай грамадзкасьці і профактыву БДТІ.

Грамадзкія дыспуты, рабочая крытыка ў друку і на конфэрэнцыі рабочага глядача прымушаюць БДТІ пераглядзець свой стары рэпэртуар, выкінуць з яго найбольш адсталае і рэакцыйнае.

Першы раз за ўсё існаваньне, тэатр праводзіць грунтоўную чыстку свайго рэпэртуару. Здымаюцца ўсе бяз выключэньня „папоўскія" пастаноўкі, а таксама „На купальле", „Машэка" і г. д.

Зразумела, што ня так лёгка, ня так адразу адбываецца пераход тэатру на новы напрамак у сваім рэпэртуары, на новы шлях свайго творчага разьвіцьця. Так, у пастаноўцы 1927-28 году „Крывой Аблоны", тэатр дапушчае шэраг грубых палітычных і мэтадычных памылак, але ўжо ў асноўным тэатр бярэ верны курс уключэньня ў свой рэпэртуар выключна сучасных пьес. За сэзон 1927-28 году тэатр паставіў „Мяцеж", „Крывую Аблону", „Луну зьлева".

І калі ў пастаноўках „Крывой аблоны", „Луны зьлева" тэатр карыстаўся яшчэ старымі прыёмамі ўплыву на дробна-буржуазнага мяшчанскі абывальскага гледача, дык у пастаноўцы вядомай п'есы Фурманава „Мяцеж" ужо выразна відаць як тэатр імкнецца вызваліцца ад гэтых прыёмаў.

### Сэзон 1928—29 году ў Менску і вядомая тэатральная дыскусія

Выходзячы з вышэйсказанага мы можам канстатаваць, што Віцебскі сэзон 1927-28 году зьявіўся для першага БДТ пераломным. Культурны ўзрост рабочага гледача, увага партыйнай і савецкай грамадзкасьці да працы тэатру, палітычная актыўнасьць большасьці калектыву, усё гэта бярэ на буксір тэатр, выводзіць яго з няволі нацыянал-дэмакратычнай і дробна-буржуазнай ідэолёгіі на шлях да пралетарскага тэатру.

Падрыхтоўка да сэзону 1928-29 г. у Менску праходзіць у БДТІ пад лёзунгам „Новую сучасную рэвалюцыйную, ідэалёгічна вытрыманую

п'есу ў рэпэртуар". Няшчадная барацьба з арыентацыяй мастацкага кіраўніцтва на „мяшчанска-абывательскія густы глядача".

У тэатр запрашаюцца на працу рэжысэр Маскоўскага Тэатру МГСПС (зараз МОСПС) А. Вінэр, мастак гэтага-ж тэатру Воўкаў, і малады рэжысэр з „Асацыяцыі новых рэжысэраў" „АНР" А. Б. Сьмяянаў.

Узмацніўшы мастацкае кіраўніцтва тэатр пачынае забясьпечваць сябе і новымі кадрамі і арабочваньнем калектыву.

Прыймаюцца некалькі супрацоўнікаў моладзі з рабочых клюбаў, а таксама ўзмацняецца і партыйнае ядро ў тэатры прымацаваньнем да тэхнічнага складу камсамольцаў-вучняў.

Усе гэтыя мерапрыемствы выклікаюць шалёнае наступленьне нацыянал-дэмакратаў на тэатр, выліўшаеся ў вядомай тэатральнай дыскусіі.

Прыкрыўшы свой зубасты контр-рэвалюцыйны твар трафарэтнымі маскамі нацыянал-дэмакратызму, зграя нацыяналісцкай тэатральнай крытыкі, пралезшы ў савецкі друк, распачынае там шалёную кампанію супроць пастаноўкі Першага БДТ вядомай расейскай пьесы, адбіваючай барацьбу сібірскіх партызан за ўладу Саветаў—„Бронецягнік".

Рассыпаўшыся шэрагам шовіністычных фраз накшталт „об'едкі Маскоўскай сцэны", „пашто нам паказваць барацьбу сібірскіх партызан, калі ў нас ёсьць свае беларускія", і г. д. Гэтая крытыка, галасуючы за самабытнасьць у беларускім тэатры, за пастаноўку п'ес выключна беларускіх аўтараў, пратэстуючы супроць усяго маскоўскага, у той-жа час улічваючы недахоп арыгінальнай драматургічнай вытворчасьці, нахабна рэкамэндуе тэатру карыстацца творамі заходня-буржуазнай літаратуры.

Гэтая агалцелая вылазка клясавага ворага, выкліканая агульным соцыялістычным наступленьнем па ўсяму фронту—атрымала адпаведны адпор як з боку партыйнай і савецкай грамадзкасьці, гэтак і з боку калектыву Першага БДТ (гл. наш артыкул „Тэатр-драматург"—крытыка „Зьвязда" за 1928 г.).

Пастаноўкамі гэтага сэзону („Бронецягнік", „Запяюць верацёны", „Мост", „Інга") тэатр канчаткова замацоўваецца на пазыцыях пралетарскага тэатру.

Гэты год яшчэ характарны тым, што з тэатру прымушаны былі выйсьці разброеныя палітычнай актыўнасьцю колектыву найбольш ярыя нацыянал-дэмакраты.

## Сэзон 1929-30 г. у Гомлі, Магілеве і ўзрост грамадзкай актыўнасьці калектыву

Сэзон 1929-30 году праходзіць пад лёзунгам яшчэ большага ўмацаваньня на пралетарскіх пазыцыях. Паволі, але рашуча з рэпэртуару БДТІ здымаюцца такія баявікі нацыянал-дэмакратычнага і абывательскі мяшчанскага мінулага як „Кастусь Каліноўскі", „Каваль ваявода" „Над Нёмнам", „Кар'ера таварыша Брызгаліна" і г. д. На зьмену ім

ідуць новыя бадзёрыя, адбіваючыя пафос і будні соцыялістычнага будаўніцтва, трактуючыя актуальнейшыя тэмы сёняшняга дню, абароназдольнасьць, калектывізацыю, соцспаборніцтва, індустрыялізацыю, рабочае вынаходства і г. д., пьесы „Міжбур'е", „Яраcьць", „Гута".

Карыстаючы апошнія дасягненьні тэатральнай тэхнікі (кружало сцэны, радыё, сьветавую апаратуру і г. д.) тэатр з кожнай новай пастаноўкай набывае ўсё большую фармальна-мастацкую эрудыцыю.

Разумна карыстаючыся экспэрымэнтатарствам, ня ўхіляючыся ў голы фармалізм і эстэцкае красаваньне самім сабою, тэатр ідзе па рэалістычнаму шляху, робячы свае пастаноўкі зразумелымі і даступнымі масаваму гледачу.

Разам з ростам тэатру бязумоўна расьце калектыў яго працаўнікоў.

За дзесяць год напружанай творчай працы рознакаляровы па свайму профэсыйнаму складу калектыў атрымлівае грунтоўную тэорытычную і практычную школу, выкаваўшыся ў моцны „сыграны" (тэрмін тэатральны) мастацкі ансамбль.

Калі на працягу першых гадоў у грамадзкай працы тэатру прыймала 5-10% працаўнікоў, дык на сёняшні дзень мы маем 100 проц. уцягненасьць у грамадзкія арганізацыі ўсяго калектыву. Бязумоўна грамадзкая праца ёсьць найлепшая школа новага актора. Сувязь з сваім рабочым гледачом шляхам дыспутаў, канфэрэнцый, а асабліва вылазак на фабрыкі і заводы ў часе абедзенага перапынку, а таксама абслугоўваньне начных зьмен непасрэдна на вытворчасьці каля варштатаў—усё гэта апроч палітычнай сьвядомасьці яшчэ шмат дае і падвышэньню акторскай кваліфікацыі, паколькі непасрэднае знаёмства як з вытворчасьцю, гэтак і з жывымі гэроямі вытворчасьці дае актору вялічэзны матэрыял для распрацоўкі яго сцэнічных вобразаў.

Трэба прызнаць, што ў гэтых адносінах БДТІ прарабіў надзвычайна вялікую працу, абслужыўшы сваімі ўдарнымі брыгадамі паважную колькасьць рабочых, чырвонаармейскіх і калгасных мас.

Вынікамі гэтага мы можам лічыць тую павагу, папулярнасьць і посьпех, якімі БДТІ карыстаецца ў працоўных БССР.

Заслугоўвае быць адзначаным і тое, што БДТІ у мэтах найбольшай сувязі з сваім рабочым гледачом, першы з тэатраў СССР пачаў в 1929 г. выпушчаць спэцыяльны нумар насьценгазэты „Актор і Глядач", у якім трымаючы ў курсе свайго гледача з штодзённаю працаю тэатру, з яго плянамі, кансультуючы па ўсіх тэатральных пытаньнях, ён атрымлівае абмен думкамі і шэраг каштоўных рабочых прапаноў.

Калі мы дадамо да ўсяго гэтага, што ў веснава-пасеўную кампанію 1930 г. тэатр, разьбіўшыся на тры брыгады, вельмі актыўна і пасьцяхова абслужыў шэраг калгасаў Буда-Кашалёўскага, Хойніцкага, Лоеўскага раёнаў, робячы коньмі маршруты ў 80—160 вёрст у веснавую адлігу, дык мы ўжо будзем мець яскравы малюнак наколькі калектыў БДТІ органічна з усёю масаю працоўных БССР прымае актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве.

Канешне не адразу, а на працягу даўгіх гадоў упартай працы профактыву выхоўвайся калектыў. Яшчэ і ў апошнія гады мы наглядаем антыграмадзкія зьявішчы ў калектыве, але соцспаборніцтва, ударніцтва, якія пасьпяхова праходзяць у тэатры, нарэшце соцумова з Украінскім тэатрам („Чырвоказаводзкім“), падпісаная БДТІ у 1930 г., паступовае самаачышчэньне і арабочваньне калектыву, усё гэта гарантуе, што БДТІ выкарчуе рэшткі нацыянал-дэмакратызму, абывательскі-мяшчанскіх настрой у сваёй грамадзе, падвысіць свой палітычны ўзровень і разам з усёю рабочаю клясаю пойдзе далей па шляху сацыялістычных заваёў.

### Удзел БДТІ у Алімпіадзе Мастацтваў СССР

14 чэрвеня 1930 г. Першы БДТ выяжджае ў Маскву для прыняцьця ўдзелу ва Ўсесаюзнай Алімпіадзе мастацтва народаў СССР.

На сцэне МХАТ 2 і тэатра Рэвалюцыі, перад вялічэзнай аўдыторыяй рабочых Маскоўскіх фабрык і заводаў, вядомай тэатральнай крытыкі прадстаўнікоў нацыянальнасьцяў СССР і ўдзельнікаў Алімпіады, БДТІ сваімі дзьвума пастаноўкамі „Гутаю“ і „Міжбур‘ем“ дэманструе мастацкія дасягненьні БССР.

Той посьпех, якім сустрэла аўдыторыя паказы БДТІ, і тая ацэнка журы Алімпіады, якую тэатр атрымаў, найлепшым чынам сьведчаць аб тым, што БДТІ стаіць на правільным шляху, маючы ўсе прадпасылкі далейшага пасьпяховага разьвіцьця.

### Водзыў журы Алімпіады.

*Отзыв*

1-му Белорусскому Государственному Театру.

На І-й Всесоюзной Олимпиаде І-й Белорусский Государственный Театр выступил с пьесами „Гута“ Кобеца и „Межбурье“ Д. Курдина. Такой выбор репертуара и его сценическое воплощение создали театру определенное идеологическое лицо.

Жюри з удовлетворением констатирует, что театр провел успешную борьбу по преодолению национально-демократической тенденции. Он подошел к проблеме национального искусства не путем подчеркивания экзотических деталей старины, а путем изучения рабочего класса Белоруссии сегодняшняга дня. Это, а также острая актуальная тематика (рационализация, пятидневка, быт Красной армии), разрешенная согласно национальным условиям, роднит театр со всем рабочим классом.

Отмечая высокую художественную культуру театра выразившуюся:

1. В наличии крепкой режиссуры, сумевшей слить воедино все элементы спектакля.

2. В остроумном, дающем большие возможности, хотя и несколько громодзком оформлении.

3. В розном актерском ансамбле, умеющем выпукло подавать социальное значение образа.

4. В чистоте языка и мастерской подаче сценического слова.

Отмечая все это жюри считает необходимым обратить внимание театра на его отстающие участки:

1. Несколько случайный подбор музыкального репертуара, не всегда отвечающего действию.

2. Недостаточное внимание к сценическому движению актера.

Не предрешая вопроса о творческом методе театра, жюри считает своей обязанностью предостеречь Белорусский Театр от опасности перегиба в сторону психологизма и натуралистического копания в упадочнических настроениях классово-чуждых в нем элементов.

В целом жюри констатует, што 1-й Белорусский Государственный Театр являет собой ясное доказательство бурного роста белорусской национальной культуры, сумевшей только после Октябрьской революции получить возможность развития и бесспорно стимулирующей рост национального сознания белорусского народа за пределами СССР.

Председатель Олимпиады Оргкомитета—Феликс Кон

Ответственный секретар Олимпиады (подпись)

Секретарь жюри Олимпиады (подпись).

11 июля 1930 г.
Москва.

### Беларуская драматургія

Наш кароткі нарыс быў-бы зусім ня поўным, калі-б мы абмінулі такі важны прыдатак тэатру як драматургія. Але пакольки гэтая тэма распрацоўваецца намі ў спэцыяльным артыкуле, мы абмяжоўваемся тут толькі некалькімі словамі.

Рост беларускай драматургіі (той яе часткі, творчасьць якой была рэалізавана нашымі профэсыйнымі тэатрамі) цесна зьвязаны і абумоўлены ростам і разьвіцьцём беларускіх тэатраў.

Яна (беларуская драматургія) перахварэла і тымі хваробамі, якімі хварэў тэатр, яна-ж і вылячылася разам з ім і стараецца ў меру сваіх маладых сіл, крочыць у нагу з буйным крокам тэатру.

Не гаворачы аб нікчэмнай, нікому не патрэбнай трухлявай завалі старых беларускіх п'ес накшталт „Страхі жыцьця“ Аляхновіча, „Пасланец“ Радзевіча, „Зьмітрок з высокай Буды“ М. Грамыкі і г. д. не гаворачы аб гэтай абёртачнай паперы, нават п'есы зьявіўшыяся значна пазьней (1921, 22, 23 год) ужо пры больш менш выразным росьце беларускай рэвалюцыйнай поэзіі і прозы, гэтыя п'есы („На купальле“, „Зврок“, „Над Нёмнам“ і г. д.) былі ў сваіх першатворах настолькі слабыя, прымітыўныя, ня толькі з боку элемэнтарных правіл драматургіі,

а ў агульнай літаратурнай якасьці, што тэатру прыходзілася афяроўваць шмат часу і працы на іх грунтоўную пераапрацоўку, каб зрабіць з іх хоць адносна прыгодныя сцэнічныя творы. (Тут нельга не адзначыць вялікай ініцыятывы і працы галоўнага рэжысэра А. А. Міровіча).

Бязумоўна самы складаны і адказны з усіх відаў поэтычнае творчасьці—драматургія, патрабуючая грунтоўных ведаў тэорыі і гісторыі літаратуры, правілаў драматургіі і галоўнае сцэнічных законаў. Усё гэта ў пэўнай меры магчыма абумовіла лік асоб, якія прысьвечылі сваю творчасьць гэтай спэцыяльнай галіне літаратуры.

Нямнога прозьвішчаў мы можам пералічыць. Нямнога пісьменьнікаў у беларускай літаратуры складаюць групу беларускіх драматургаў.

Вялікая заслуга Першага БДТ у тым, што ён здолеў за невялікі час свайго існаваньня ня толькі выхаваць у сабе шэраг драматургаў, але і прыцягнуць звонку здольную моладзь і шляхам самай актыўнай працы з імі, кансультуючы ў пытаньнях літаратуры і сцэны, усёй сумай сваіх ведаў, рэальна дапамог вылучэньню такіх буйных зараз прозьвішчаў у беларускай драматургіі, як рабочага Р. Кобеца, чырвонаармейца Д. Курдзіна і г. д.

За апошнія гады мы маем досыць пасьпяховы росквіт беларускай драматургіі. Творы нашых драматургаў скарыстоўваюць ня толькі нашы тэатры, але і тэатры РСФСР, УСРР, Татрэспублікі і інш. (Мост, Міжбур'е, Гута).

Зараз, калі БЕЛАПП абвесьціў заклік ударнікаў у літаратуру, колькасна лік драматургаў бязумоўна павялічыцца. Важная справа тэатру і недалей актыўна дапамагаць сваімі ведамі маладым шэрагам, гэта бязумоўна будзе правільным вырашэньнем рэпэртуарнай проблемы.

---

Падагульваючы ўсё вышэй сказанае ў гэтым кароткім павярхоўным нарысу абмежаваным тымі ўспамінамі і матар'яламі, якія былі ў распараджэньні аўтара, прайшоўшага ў БДТІ у якасьці яго працаўніка, за малым выключэньнем ледзь ня ўвесь яго дзесяцігадовы шлях, мы хочам у заключэньне сказаць наступнае:

Першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр, народжаны ў буры вялікага Кастрычніка, вызваліўшага працоўных усіх нацыянальнасьцяй прыгнечаных былым царскім самаўладзтвам, з першых-жа крокаў свайго існаваньня атрымлівае поўную мажлівасьць свайго разьвіцьця, для адказнай і пачэснай ролі, уласьцівымі яму мастацкімі сродкамі абуджаць волю працоўных мас да замацаваньня заваёў Кастрычніка, да культурнай рэвалюцыі, да будаўніцтва соцыялізму.

Разгарнуўшаяся клясавая барацьба, шалёнае супраціўленьне недабітых у грамадзянскай вайне рэштак капіталізму, выкліканае агульным соцыялістычным наступленьнем па ўсяму фронту гэтая клясавая барацьба мела месца і ў БДТІ. Клясавы вораг, стараючыся захапіць у свае капцюрыстыя рукі адзін з важнейшых форпостаў соцыялістычнага

фронту, культурны форпост, праз дробна-буржуазныя элемэнты ў калектыве БДТІ, дамагаецца заўладаньнем усім мэханізмам тэатру і карыстаючыся яго маладой палітычнай блізарукасьцю, на працягу шэрага год прымушае тэатр быць зброяй яго нацыянал-дэмакратычнай, мяшчанскі абывательскай ідэалёгіі.

Разьбіты на ўсіх франтох, клясавы вораг у пасьпешным уцёку перад наступаючым соцыялізмам, губляе і на сцэне БДТІ нацыянал-дэмакратычную маску сваёй ганебнай ролі.

Здаровы ў асноўным калектыў працаўнікоў БДТІ у моцнай сувязі з усёй рабочай клясай рашуча выкарчоўвае рэшткі нацыянал-дэмакратычных і абывательскіх, мяшчанскіх тэндэнцый і пасьпяхова пераходзіць на шлях пралетарскага тэатру.

Усесаюзная Алімпіада Мастацтваў, адводзячы Першаму БДТ адно з першых месц сярод іншых нацыянальных тэатраў СССР, прызнае за БДТІ грунтоўныя заваёвы пралетарскага мастацтва, асабліва ў частцы актуальнай тэматыкі яго (БДТІ) рэпэртуару.

Але гэтыя посьпехі хутка-б страцілі сваю вартасьць у нашых надзвычайных тэмпах жыцьця, калі-б БДТІ задаволіўся дасягнутымі вынікамі і застыў-бы ў сваім далейшым разьвіцьці. Гэтага якраз мы ня можам сказаць пра БДТІ. Падыходзячы з усёю рашучасьцю бальшавіцкай самакрытыкі да сябе, да сваіх дасягненьняў—тэатр на сёняшні дзень канстатуе:

1. Павярхоўна-схэматычную, а ня глыбока-філёзофскую інтэрпрэтацыю сваіх п'ес.

2. Недастатковую прапрацоўку і эмацыянальную насычанасьць акторскіх вобразаў.

3. Слабасьць руху і дыкцыі.

4. Дрэнную падачу беларускай мовы ў большасьці актораў.

5. Выпадковы, а з прычыны гэтага ў большасьці няўдалы дабор музыкі ў пастаноўках.

6. Няхайнасьць і непрадуманасьць у афармленьні і акторскім аксэсуары (вопратка, рэквізыт, бутафорыя і г. д.).

7. Дрэннае выкананьне сьветавога афармленьня і г. д. і г. д.

Але моцная пераконанасьць калектыву ў пасьпяховасьці соцыялістычнага будаўніцтва, у правільнасьці палітыкі рабочае клясы і яе правадыра ленінскай камуністычнай партыі даюць упэўненасьць у тым, што пры дапамозе соцспаборніцтва, ударніцтва і шчыльнай сувязі з рабочай клясай і бедняцка-серадняцкім сялянствам БТДІ гэтыя недахопы выправіць і азброіўшыся мэтадам дыалектычнага матэрыялізму на грунце марксызму-ленінізму адзінай філёзофіі пралетарыяту БДТІ пойдзе далей па шляху новых заваёў пралетарскага мастацтва.

Віцебск, 1930 г.

# ПОЭТЫЧНЫ ФРОНТ

**Ул. Сядура**

(*Цыкль першы*)

### 1. Да характарыстыкі агульнага становішча на поэтычным фронце

За ўвесь 1930 г. мы ня мелі ніводнага поэтычнага твору, які рабіў-бы пэўную рэволюцыю, які скалыхнуў-бы грамадзкую думку вакол пэўных насьпеўшых і набалеўшых пытаньняў сучаснасьці, выклікаў-бы магутны пошчак сваім зьяўленьнем і штурхнуў-бы шырокую думку на вырашэньне і разьвязаньне соцыяльна-філёзофскіх проблем нашай, глыбокай зьместам рэконструкцыйнай рэчаіснасьці. Вынікам гэтага мы маем паслабленьне чытацкае ўвагі да паэтычнай творчасьці. Тэй поэтычнай продукцыяй, якая, выходзячы з пад пяра, рэалізуецца на старонках нашага друку, чытач не задаволены, не здаволены ёю і сам творца, літаратурная грамадзкасьць, колы пісьменьнікаў і поэтаў. А сфэра ўтылітарнай дзейнасьці пролетарскае поэзіі, як носьбіта функцыі зброі ў руках пролетарыяту ў клясавым змаганьні, поле ці кола службы поэтычнага мастацтва практычным задачам пролетарыяту ў соцыялістычным будаўніцтве і клясавай барацьбе ў рэконструкцыйны пэрыод надзвычайна шырокае—да бяскрайнасьці. Але возьмем хоць-бы сабе гэткія, хвалючыя мільёны будаўнікоў соцыялізму, пытаньні сёняшняга дню, як барацьба за тэмпы, промфінплян, соцыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва і г. д., барацьба за новы быт, новыя формы працы і новыя адносіны да працы, як да „справы гонару, справы славы, справы мужнасьці і геройства", новыя вытворчыя адносіны, нараджэньне новага соцыялістычнага чалавека і выжываньне ў самім сабе старых псыхо-ідэолёгічных тэндэнцый і г. д.,—то мы бачым, што свайго ўсебаковага мастацкага выражэньня ў поэзіі гэтыя найактуальнейшыя проблемы сёньняшняе рэчаіснасьці не знайшлі. Гэтым абумоўлена і тое паслабленьне ўзаемнага спачуваньня паміж чытачом і творцаю-поэтаю, што прыводзіць да некаторага разрыву тае зьнітаванасьці і еднасьці між чытачом і творцаю, якая зьяўляецца залогам творчага росту.

Мы ўступілі ў пэрыод соцыялізму. Але гэтага не адчуваецца ў поэзіі. Поэзія ў належнай меры ня дыхае новым пэрыодам. Гэта гаворыць пра адставаньне разьвіцьця поэзіі ад запатрабаваньняў да яе рэконструкцыйнага пэрыоду, пра адставаньне поэзіі ад задач, якія паставіла перад

ёю наша эпоха. Поэзіяй ня выкананы дадзеныя ёй нашай рэканструкцыйнай эпохай соцыяльнага заказу. Поэзія ня ўключылася, як належыць, у соцыялістычнае будаўніцтва. Поэзія не пераключылася як гэта патрэбна на выкананьне задач, узложаных на яе пэрыодам соцыялізму. Поэзія ня ўступіла ў выкананьне свайго прамфінпляну, не перайшла ў соцыялістычнае наступленьне. Каротка кажучы, *не адбылася рэканструкцыя поэзіі*. Асобныя поэтычныя творы гаворыць толькі за тое, што беларуская пролетарская і рэволюцыйна-спадарожніцкая поэзія ўступіла ў пэрыод сваёй унутранай рэканструкцыі, але рэканструкцыі поэзіі ў поўным сэнсе гэтага слова не адбылося.

Дзе ўсё-ж такі карэньні і прычыны адставаньня поэзіі ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Шукаючы гэтых прычын, мы павінны мець на ўвазе той факт, што адставаньне маецца ня толькі ў беларускай поэзіі, але і ў расійскай, украінскай і інш.

Творчае маўчаньне цэлага шэрагу поэтаў, ды надзвычайна павольны, амаль *рабскі рост* новых маладых кадраў з нетраў рабачае клясы, з глыбі працоўных мас колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства падкрэсьліваюць факт адставаньня поэзіі. Дададзім яшчэ і адсутнасьць яснага ўяўленьня аб шляхох разьвіцьця і творчых пуцінах пролетарскай поэзіі сярод значнае часткі як нашых, асноўных кадраў, гэтак і падрастаючых кадраў поэтаў, адсутнасьць выхаваўчай, якая накіроўвала-б маладую поэзію на правільныя шляхі, марксыцкай крытыкі, наяўнасьць некаторых адзнак стану дэзорыентаванасьці ў творчых пэрспэктывах і г. д. Прычыны адставаньня, надзвычайна павольных тэмпаў перабудовы поэтычнага фронту па лініі спэцыфічных беларускіх умоў клясавае барацьбы трэба разглядаць з пункту гледжаньня на тую нацыянал-дэмократычную хваробу, якая, закрануўшы значныя вучасткі культурнага будаўніцтва ў савецкай Беларусі, паралізавала сваёю атрутаю значныя рэзэрвы беларускай поэзіі, вырвала з шэрагаў будаўнікоў беларускае поэзіі значныя сілы, забрала значна энэргіі на барацьбу з ім, якую можна было-б пераключыць на справу будаўніцтва соцыялістычнае беларускае поэзіі, і тым стварыла значныя цяжкасьці ў разьвіцьці апошняе.

У чым-жа спэцыфічнасьць перажываемага намі пэрыоду пад кутом, погляду ягоных запатрабаваньняў да поэзіі, пролетарскай асабліва і з чаго складаюцца цяжкасьці выкананьня поэзіяй заданьняў эпохі?

Спэцыфічнасьць перажываемага намі пэрыоду выяўляецца ў тым, што наш пэрыод зьяўляецца пэрыодам *пераломным*, пэрыодам рэканструкцыйным, пэрыодам узмоцненага соцыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту—і гаспадарчым і культурным (уключаючы сюды і фронт літаратуры, поэтычны фронт у прыватнасьці). Наш пэрыод зьяўляецца пэрыодам рашучага выкарчоўваньня капіталістычных карэньняў ва ўсёй краіне, пэрыодам *станаўленьня соцыялізму*.

Адсюль і задачы поэтычнага фронту—поўнае пераўзбраеньне на службу выкананьня гэтых задач, рэконструкцыя поэзіі, пераключэньне на справу выкананьня функцыі ў руках пролетарыяту ў рашучых клясавых і эканамічных баёх соцыялізму з капіталізмам.

*Але старое сьветаўспрыйманьне, стары сьветапогляд яшчэ скрозь пануе над сьвядомасьцю нашых поэтаў.* Нашымі поэтычнымі кадрамі ўступленьне ў пэрыод соцыялізму, як належыць, не адчута, не асьмысьлена. Стары псыхо-ідэолёгічны склад і зараз давіць на сьвядомасьць поэты. І гэтым панаваньнем над сьвядомасьцю поэты старога сьветапогляду і сьветаўспрыйманьня і тлумачыцца непрыстасаванасьць поэзіі да выкананьня заданьня эпохі. Адсюль-жа выцякаюць і факты адставаньня поэзіі.

Ліквідаваньне гэтага адставаньня павінна ісьці праз перамаганьне старога сьветаўспрыйманьня і сьветапогляду, шляхам барацьбы за дыялектычна-матэрыялістычны сьветапогляд і сьветаўспрыйманьне, шляхам барацьбы за дыялектычна-матэрыялістычны творчы мэтод пролетарскай поэзіі.

Але кажучы пра факты адставаньня на поэтычным фронце, ні ў якім разе нельга выпускаць з-пад увагі той факт, што гэтае адставаньне для рэволюцыйнай поэзіі зьяўляецца нікім іншым, як зьявамі, ці выражэньнем перагрупоўкі сіл на літаратурным фронце, поэтычным у прыватнасьці.

Кажучы пра адставаньне на поэтычным фронце, нельга і не дыфэрэнцыраваць яго ў адносінах да розных клясавых груповак у поэзіі. І калі мы кажам пра *часовае* адставаньне на поэтычным фронце пролетарскай поэзіі, то не аб гэтым гаворыць характарыстыка становішча буржуазна-кулацкай поэзіі.

На вучастку буржуазна-кулацкай поэзіі мы маем паўнейшы крызіс. Як перажываюць абсолютны, беспаваротны крызіс ідэолёгічныя позыцыі буржуазіі (і беларускай у тым ліку), зараз ліквідуемай клясы—кулацтва,—гэтак перажывае і беспаваротны крызіс буржуазна-кулацкая літаратура, буржуазна-кулацкая поэзія.

Разам з крахам інтэрвэнцыяніскіх спробаў буржуазіі і кулацтва супроць дыктатуры пролетарыяту, рухнулі ўсе ідэолёгічныя позыцыі гэтае клясы, рухнулі апошнія надзеі буржуазіі і кулацтва на інтэрвэнцыю. Таму мы маем і паўнейшае ідэйнае выраджэньне буржуазна-кулацкага мастацтва і літаратуры. Адсюль і ідэёвае выраджэньне і ідэёвае ўбоства буржуазна-кулацкай поэзіі.

Беларуская буржуазна-кулацкая, нацыянал-дэмократычная поэзія ідэёва нашчэнт разьбіта. Яе галоўныя ідэолёгі і творчыя прадстаўнікі—Дубоўка, Пушча, Бабарэка і К°—зыйшлі з поля дзеяньня. У аснове рэшткаў буржуазна-кулацкай поэзіі ляжыць „пафос“ гістарычнае асуджанасьці на гібеньне. Аб гэтым добра сьведчыць кніжка поэзіі маладога поэты, гэтага апошняга эпігона буржуазна-кулацкай поэзіі—Максіма Лужаніна „Новая Ростань“.

Узмоцненае социялістычнае наступленьне пролетарыяту па ўсіх франтох гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, ліквідацыя кулацтва, як клясы,—выбівае з пад ног буржуазна-кулацкай поэзіі апошнюю соцыяльную апору. Таму і перажывае яна паўнейшы крызіс і ідэёвае вырадженьне. Мы маем, у выніку ўсяго гэтага, зьявы і такога парадку, калі некаторыя маладзейшыя прадстаўнікі буржуазна-кулацкай паэзіі ў выніку поўнага ідэёвага краху сваіх ранейшых позыцый робяць спробы адыходу з позыцыі буржуазна-кулацкай поэзіі і тужацца пераключыцца на рэволюцыйны шлях творчасьці, спрабуюць наблізіцца да пролетарыяту (Максім Лужанін пэрыоду 1930—1931 г.).

Праўда, усё гэта зусім ня азначае таго, што буржуазна-кулацкая поэзіі і літаратуры наогул ужо ня існуе і што яе ўжо больш ня будзе, а таму і не патрэбна ўжо ніякай барацьбы з ёю. Наадварот, у процэсе разгортваньня клясавай барацьбы мы маем няспынную актывізацыю ўсіх клясава-варожых сіл. І пад ідэолёгічным ціскам гэтае актывізацыі магчымы ня толькі рэцыдывы клясава-варожых уплываў, але і кулацка-буржуазная аполёгэтыка ў мастацкай літаратуры і поэзіі ў прыватнасьці з боку ўсіх клясавых ліній нашае літаратуры. Неабходна клясавая пільнасьць і настаражонасьць, каб ня даць месца праяўленьню гэтае варожае стыхіі.

У процэсе перагрупоўкі сіл на літаратурным фронце вострыя крызіс перажываюць зараз усе прамежныя, спадарожніцкія прапластваньні, ідэолёгічныя і сьветапогляду ўстаноўкі якіх прышлі ў яўную супярэчнасьць з новым пэрыодам социялістычнай рэволюцыі—пэрыодам социялістычнай рэканструкцыі. Старыя творчыя і ідэолёгічныя ўстаноўкі іх перажываюць бясспрэчны крызіс. Пэрыод узмоцненага социялістычнага наступленьня паставіў перад спадарожніцкімі коламі новыя задачы—пэрспэктывы пераходу альбо ў лягер літаратурных саюзьнікаў пролетарыяту, альбо, у праціўным выпадку пераход у лягер клясавага ворагу пролетарыяту. І тут узьнікаюць спэцыфічныя цяжкасьці перабудовы. Старыя творча-ідэолёгічныя ўстаноўкі аказваюцца няпрыгоднымі для ажыцьцяўленьня задач пераходу ў лягер саюзьнікаў пролетарыяту. Новыя задачы патрабуюць рэвізыі, перагляду старых спадарожніцкіх установак. Апошнія церпяць крызіс. А таму перажывае крызіс і старая спадарожніцкая поэзія. Яе „па-першае, усё больш і больш выціскае новая саюзьніцкая поэзія. Так, церпяць крызіс старыя ўстаноўкі падарожніцкае часткі „Узвышша". У апошнім зараз адбываецца перагляд і рэвізія старых позыцый і крытыка позыцый старога кіраўніцтва. Вызначаюцца новыя ідэёвыя пуціны. Аб гэтым сьведчыць апошняя творчасьць поэтаў левае часткі „Узвышша"— Глебкі, Кляшторнага, Крапівы і інш.

Пролетарская поэзія бясспрэчна адстае ад тэмпаў социялістычнага будаўніцтва, яна не паднялася на ідэёвы ўзровень рэконструкцыйнага пэрыоду. У пролетарскай поэзіі покуль-што не адчуваецца належнага пульсу рэконструкцыйных тэмпаў. Пролетарская поэзія таксама не пера-

ключылася на новыя рэконструкцыйныя рэйкі. У пролетарскай поэзіі не адчуваецца таго, што мы ўжо ўступілі ў пэрыод соцыялізму. У ёй няма новага соцыялістычнага чалавека. Тэматыка і мотывы рэконструкцыйнага пэрыоду покуль-што не ауладаны ў пролетарскай поэзіі. Мотывы рэконструкцыйнага пэрыоду ва ўсёй глыбіні і складанасьці слаба даюцца нават такому поэту, як Александровіч. Ягоныя творы на рэконструкцыйныя мотывы, як „Поэма імя вызваленьня", „Установка" і інш носяць характар спрошчанасьці, схэматычнасьці, павярхоўнага сьлізганьня па паверхні зьяў нашай рэконструкцыйнай рэчаіснасьці. Ня ўнікнулі гэтых недахопаў і іншыя, як Хведаровіч, Звонак. Невыпадкова-ж А. Звонак трымаецца ў пераважнасьці ў полі тэматыкі і мотываў грамадзянскай вайны і амаль зусім не знайшоў свайго водгуку ў ягонай творчасьці рэконструкцыйны пэрыод. Не ауладаў, як належыць, тэматыкаю рэконструкцыйнага пэрыоду і пролетарскі поэта М. Чарот.

Шэраг поэтаў як Моркаўка, Плаўнік і інш., ня здолеўшы перамагчы цяжкасьці перабудовы на новыя, рэконструкцыйныя рэйкі, заціхлі, а некаторыя і зусім адыйшлі ад літаратуры. Некаторыя поэты пераходзяць на прозу.

Коратка кажучы, пэрыод рэконструкцыі паставіў перад пролетарскай поэзіяй новыя, адменныя задачы, вырашэньне якіх пры панаваньні старога сьветапогляду і не ауладаўшы дыялектычна-матэрыялістычным сьветапоглядам яна выканаць ня здолела, бо апынулася ў становішчы наймення прыгодным для вырашэньня гэтых новых задач.

Але ці выцякае з усяго гэтага тое, што поэзія быццам ідзе да распаду, да краху і г. д.? Ні ў якім разе. Крыніцаю гэтых сьцьверджаньняў зьяўляецца клясава-варожая нам стыхія і толькі з стану нашых клясавых ворагаў могуць ісьці падобныя думкі аб „заняпадзе" пролетарскай і рэволюцыйна-савецкай поэзіі, аб уяўляемым „тупіку" нашай поэзіі і г. д. Наадварот, *мы жывём напярэдадні надзвычайна бурнага ўздыму і росту пролетарскай поэзіі* як ва ўсім Савецкім Саюзе, гэтак і ў Беларусі. Мы стаім напярэдадні вялізарнага поэтычнага ўздыму і росту беларускае пролетарскае поэзіі (як і ўсёй пролетарскай літаратуры і мастацтва наогул).

Пераможны поступ соцыялістычнага будаўніцтва, выкарчоўваньне апошніх рэштак капіталістычных элемэнтаў і глебы для іх зьяўленьня, пацягне за сабою нябывала магутны тэмп росту новага соцыялістычнага чалавека і ўсебаковае разьвіцьцё інтэлектуальных сіл працоўных мас, усебаковае разьвіцьцё асобы, індывідуальнасьці. Апошняе пацягне за сабою выяўленьне новых маладых таленавітых сіл для новай соцыялістычнай позіі.

Формаваньне новага соцыялістычнага чалавека пацягне за сабою глыбокую патрэбнасьць у новай поэзіі, поэзіі пролетарскіх пачуцьцяў і думак, калі новы чалавек будзе сам пра сябе расказваць, калі поэзіяй пра новага чалавека будзе поэзія самога гэтага чалавека, калі новы

сацыялістычны чалавек сам пра сябе загаворыць. І таму ня бачны дагэтуль росквіт чакае пролетарскую поэзію.

За пэрспэктыву росту гаворыць і выздараўленьне беларускае літаратуры, і поэзіі ў прыватнасьці, ад нацыянал-дэмократычнае заразы, і пасьпяховая барацьба з беларускім контр-рэволюцыйным нацыянал-дэмакратызмам наогул. А для сучаснага стану беларускай літаратуры і поэзіі як-раз і характарна пасьпяховае выздараўленьне ад нацыянал-дэмакратычнае хваробы.

Якімі шляхамі павінна ісьці ліквідаваньне адставаньня на поэтычным фронце?

У беларускай поэзіі перша-на-перш павінна неаслабна працягвацца няпрымірымая барацьба з нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіяй. Па нацыянал-дэмократызму ні ў якім разе не павінен аслабляцца агонь. Толькі разьбіўшы і моральна і матэрыяльна нацыянал-дэмакратычную контр-рэволюцыю, можна будзе пасунуць уперад вырашэньне задачы ліквідаваньня адставаньня поэзіі.

Змаганьне з адставаньнем на поэтычным фронце павінна ўключыць, як галоўную задачу, барацьбу з клясава-варожай стыхіяй — з правым і „левым“ ухілам, з вялікадзяржаўным шовінізмам і беларускім нацыянал-дэмократызмам.

Па-другое, гэтае змаганьне на поэтычным фронце павінна ўключаць і задачы ўнутранага парадку. Задачы апошняга раду складаюцца з барацьбы за дыялектычна-матэрыялістычны творчы мэтод пролетарскай поэзіі, за соцыялістычную рэконструкцыю поэтычнага фронту, за перабудову апошняга ў адпаведнасьці з гіганцкімі зьменамі, якія адбыліся за пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі ва ўсім складзе савецкае краіны, у адпаведнасьці з задачамі рабочае клясы ў ягонай будаўнічай практыцы. Адсюль вынікаюць задачы *соцыялістычнага наступленьня пролетарыяту на фронце поэзіі.*

Соцыялістычнае наступленьне на поэтычным фронце беларускай літаратуры ўключае перш за ўсё барацьбу за бальшавізацыю пролетарскае і саюзьніцкае поэзіі, пераключэньне яе на соцыялістычныя рэйкі, барацьбу за мотывы рэконструкцыйнага сёньня, барацьбу за выкананьне і перавыкананьне поэтычнага прамфінпляну—за выкананьне новых задач, якія ўскладзены на поэзію пэрыодам уступленьня ў соцыялізм. Соцыялістычнае наступленьне на фронце поэзіі ўключае, як галоўную задачу, барацьбу з буржуазна-кулацкай рэакцыяй у поэзіі, задачу канчаткова разьбіць і дабіць нацыянал-дэмократычную поэзію. Соцыялістычнае наступленьне на поэтычным фронце ўключае, як галоўнейшую задачу, пасьпяховае правядзеньне закліку і выхаваньня рабочых ударнікаў, што ідуць у шэрагі творцаў новае пролетарскае поэзіі. Соцыялістычнае наступленьне пролетарыяту на поэтычным фронце літаратуры ўключае, як галоўнейшую задачу, — барацьбу за марксыцка-ленінскі, дыялектычна-матэрыялістычны творчы мэтод пролетарскай поэзіі, задачы разьбіць

і дабіць буржуазна-кулацкую поэзію менавіта і па мэтоду. Заваяваньне дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтоду — гэта галоўнейшыя прадумовы заваяваньня гегемоніі пролетарскай поэзіі.

## 2. Пра буржуазна-кулацкую поэзію

Буржуазна-кулацкая, нацыянал-дэмократычная літаратура ў Беларусі пачала нараджацца яшчэ далёка да рэволюцыі— разам з нараджэньнем нацыянал-дэмократычнай ідэі „адраджэньня“ „Вялікае бацькаўшчыны (!) Беларускага (!) Народу (!) „—Беларусі—адраджэньня, вядома, буржуазнакулацкага. Гэтая ідэя „адраджэньня“ ўзьнікла разам з нараджэньнем капіталізму ў Беларусі, разам з капіталізацыяй беларускае памешчыцкае гаспадаркі. Процэсы прасякненьня капіталізму ва ўсю экономіку і гаспадарку Беларусі і распад старое памешчыцка-прыгоньніцкае гаспадаркі, процэсы замены і выціскаиьне апошняе капіталістычна-памешчыцкаю гаспадаркаю высунулі гэтую ідэю „адраджэньня“. У аснове яе ляжала імкненьне беларускай буржуазіі і капіталізаванага памешчыцтва палажыць канец падзелу прыбыткаў ад эксплёатацыі беларускіх працоўных мас паміж сваёю, беларускай буржуазіяй і небеларускай, як польскай і расійскай. У яе аснове ляжыць прага да больш поўнага аўладаньня дадатковай вартасьцю, якая выціскалася эксплёатацыяй беларускага працоўнага сялянства і беларускага пролетарыяту. Гэтымі соцыяльна-клясавымі карэньнямі абумоўлены і імкненьні беларускай буржуазіі і кулацтва да самастойнасьці, „самабытнасьці“ і г. д., пад вэлюмам якіх ляжыць адна „ідэйка“—стварэньне ўмоў для больш прыбытковае і продукцыйнае эксплёатацыі беларускіх працоўных мас беларускай буржуазіяй, кулацтвам, капіталізаваным памешчыцтвам.

Пранікненьне капіталізму і нараджэньне ідэі „адраджэньня“ высунула і сваіх сьпевакоў, як Багушэвіч, Няслухоўскі (Лучына) і інш., гэтага адраджэньня.

Гэтыя процэсы прынялі шырачэзны характар пасьля рэволюцыі 1905 г., калі буржуазія атрымала некаторую перамогу. Ідэёва гэтыя процэсы выліваюцца ў формы правага крыла нашаніўскага руху. Ідэя буржуазнакулацкага адраджэньня высоўвае тут цэлы шэраг новых імён, песьняроў гэтага адраджэньня, як Карусь Каганец, Алесь Гарун,Максім Багдановіч і інш. Ідэалы ўсіх іх сыходзіліся на ідэі беларускае буржуазнае дзяржаўнасьці. Гэтая ідэя зьяўляецца асноўнай лініяй разьвіцьця беларускай буржуазна-кулацкай поэзіі праз увесь час аж да сёнешняга дню. І ўсе гэтыя гора-тэорыі аб „самабытнасьці“, „залатым веку“, бяскласавасьці беларускае нацыі і г. д. зьяўляюцца нічым іншым як вэлюмам гэтае асноўнае „ідэі“ „адраджэньня“ буржуазнае Беларусі, „ідэі“ беларускае буржуазна-кулацкае дзяржаўнасьці, пад скрыдлам якое магчыма была-б бязьлітасная эксплёатацыя беларускага працоўнага сялянства і пролетарыяту беларускай нацыянальнай буржуазіяй. У гэтым-жа лініі

і сучаснае беларускае буржуазна-кулацкае поэзіі і сучасных сьпевакоў нацыянал-дэмократычнага, буржуазна-кулацкага адраджэньня—Я. Пушчы, Дубоўкі, Дудара і інш.

У першыя годы аднаўленчага пэрыоду, калі рэшткі буржуазна-кулацкае клясы, падзяляючы дзейнасьць пролетарыяту ў зьнішчэньні памешчыцкага зямляўладаньня і прымаючы гэтую дзейнасьць па столькі, паколькі разьвязваецца нацыянальнае пытаньне, трымалі надзеі на рэстаўрацыю капіталізму і таму антагонізм паміж імі і пролетарскай дыктатурай адчуваўся ня гэтак востра. Нацыянал-дэмократы лічылі дзейнасьць савецкай улады ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, як падрыхтоўку глебы для будучай рэстаўрацыі капіталізму. Таму і ўспрыймалі пролетарскую рэволюцыю сучасныя сьпевакі нацыянал-дэмократызму часамі нават да некаторай ступені, здавалася-б, са спачуваньнем і сымпатыямі (прыкладам, Дубоўка, Пушча).

Але наступае рэконструкцыйны пэрыод. Пролетарыят пад кіраўніцтвам свайго авангарда—ленінскай партыі—з усё большымі посьпехамі праводзіць соцыялістычнае будаўніцтва і выконвае пяцігодку ў чатыры гады. Надзеі на рэстаўрацыю капіталізму мірным шляхам—шляхам перараджэньня—рушацца. Нацыянал-дэмократы, як ідэолёгі беларускай буржуазіі, кулацтва, рушаць у бой супроць соцыялістычнага будаўніцтва. Іх сьпевакі, пыхаючы пенаю злосьці супроць ленінскае бальшавіцкае нацыянальнае політыкі, пераходзяць сваімі сродкамі мастацкага поэтычнага слова ў атаку супроць соцыялістычнага будаўніцтва. Іх творчасьць прымае яўна рэакцыйны характар, даходзячы часамі ад замаскаванай, да адкрыта контр-рэволюцыйнай формы. Пролетарская савецкая грамадзкасьць, у асобе пролетарскае марксыцкае крытыкі, наносіць нацыянал-дэмократычнай поэзіі рашучы ўдар. Зараз беларуская буржуазна-кулацкая поэзія ідэёва нашчэнт разьбіта. Буржуазна-кулацкая беларуская поэзія пацярпела крах. Але ў сувязі з усё большым абвастрэньнем клясавае барацьбы вельмі мажлівы рэцэдывы буржуазна-кулацкае поэзіі, па-першае ў пэўных колах, што раней знаходзіліся на позыцыях гэтае поэзіі (прыкладам Лужанін). Па-другое, у спадарожніцкіх колах, якое яшчэ часамі і цяпер блукае па невядомых сьцежках і зусім не забраніравана ад варожых уплываў. Па-трэцяе, мажлівы рэцэдывы ўплыву варожых тэндэнцый нацыянал-дэмократычнае поэзіі на пролетарскі і блізкі да яго, саюзьніцкі сэктар беларускае поэзіі. Да гэтага трэба дадаць тое, што калі буржуазна-кулацкая поэзія разьбіта ў нас па ідэйнай, політычнай лініі нашчэнт, то яна не дабіта неразрыўна з гэтым па сваім формальным адзнакам, па лініі творчага мэтоду. А ў аснове буржуазнай-кулацкай поэзіі ляжыць сьветапогляд буржуазіі—ідэалізм, прычым ідэалізм клясы часоў яе ўпадку, напярэдадні яе паміраньня і канчатковага сыходу з гістарычнае арэны. А таму ў агоніі апошніх прадсьмяротных сударагаў свае клясы, гэты ідэалізм носіць характар містыкі, шуканьня „божанькі“.

Менавіта па лініі творчага мэтоду разьбіць і дабіць буржуазную поэзію, даць поўны малюнак рэакцыйнасьці творчага мэтоду гэтай поэзіі, калі імкненьні і патугі клясы ідуць у разрэз з плыньню рэальнай рэчаіснасьці і гэтым носяць глыбока рэакцыйны характар,—зьяўляецца чарговай задачай.

Да гэтага часу ў пэўных поэтычных колах розныя Дубоўкі, Пушчы, Дудары і г. д. карыстаюцца посьпехам; яны ў засос чытаюцца пад прадлогам, што быццам-бы па „ідэалёгіі" яны варожыя нам, але за-тое вось па „мастацкасьці", па „форме", па „майстэрству" яны стаяць вельмі „высока". Пры гэтым забываюць тую ісьціну, што і гэтая „мастацкасьць", „форма", „майстэрства" неразрыўна з ідэолёгічнай накіраванасьцю, са зьместам маюць пад сабою адну соцыяльную глебу і поўнасьцю выцякаюць з соцыяльна-клясавае бытнасьці буржуазіі і кулацтва. Ды і само гэтае захапленьне імі мае пад сабою зноў-жа соцыяльную глебу і гаворыць аб пэўным соцыяльна-клясавым твары дадзенага чытача, сьведчыць аб пэўным сугуччы паміж настроямі гэтага чытача і даным нацыянал-дэмократычным поэтай. Перад творчаю практыкаю пролетарскай поэзіі стаіць задача перамагчы як ідэёва, гэтак неразрыўна з гэтым і формальна мастацкі ўзровень гэтай нацыянал-дэмократычнай поэзіі і пайсьці далей да стварэньня тых мастацкіх пэрлаў пролетарскай поэзіі, аб якіх і марыць ня могуць розныя эпігоны буржуазна-кулацкай поэзіі,—гэтыя асколкі адміраючай і сыходзячай на закаце свайго часу з гістарычнае арэны, клясы.

Пролетарская поэзія бясспрэчна здолее выканаць гэтыя задачы. Перад беларускай пролетарскай крытыкай стаяць задачы разьбіць нашчэнт ня толькі поэтычную практыку нацыянал-дэмакратычных поэтаў, але і практыку іх гора-тэорэтыкаў—Бабарэкаў, Адамовічаў і інш., якія сваёю пісанінаю на працягу шэрагу год праводзілі нацыянал-дэмакратычную контррэволюцыйную лінію і ўдала прыкрывалі псэўда-рэволюцыйнай фразэолёгіяй і гэтым замазвалі ў ваччу пролетарскае грамадзкасьці буржуазна-кулацкі зьмест творчасьці шэрагу нацыянал-дэмократычных поэтаў.

Нам неабходна не паслабляць барацьбы з варожай стыхіяй у поэзіі, бо ўсё большае і большае абвастрэньне клясавай барацьбы, як вынік пасьпяховага наступу соцыялістычнага будаўніцтва і выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, выклікае і будзе выклікаць шалёнае супраціўленьне клясавага ворага па ўсёй пэрыфэрыі соцыялістычнага наступленьня, гэта значыць, і па лініі соцыялістычнага наступленьня на фронце мастацкай літаратуры, на фронце соцыялістычнага наступленьня ў поэзіі.

А між тым адсутнасьць шырокіх кадраў марксыцкае крытыкі выклікае тое, што гэткія яскравыя праявы буржуазнай стыхіі ў мастацкай літаратуры, як „Новая ростань" Максіма Лужаніна, не атрымоўваюць належнага марксыцкага асьвятленьня і ацэнкі.

Няхай сабе Максім Лужанін поэта малады (й дарэчы, поэта таленавіты і плённы), няхай сабе гэта толькі другі зборнічак ягонае творчасьці,

і творчасьці, дарэчы, той, ад якое Лужанін сёнешняга дню спрабуе адыходзіць (хоць працэс гэтага апошняга адбываецца не бяз зрываў і тэндэнцый, патрабуючых рашучае крытыкі),—справа ня ў тым.

Уся істасьць у тым менавіта, што „Новая ростань“ Максіма Лужаніна зьяўляецца яскравым паказчыкам тае шкоднае пуціны, па якой ішло і на якую накіроўвалася ранейшымі ідэолёгамі „Узвышша“ ўзвышанская моладзь. Уся справа ў тым, каб паказаць гідкасьць і небясьпечнасьць тых пуцін, на якія зварачвала і ішло па сьлядох сваіх старэйшых сяброў маладое пакаленьне ўзвышанцаў пад бравыя гімны сваіх запявалаў—Адамовічаў, Бабарэкаў, Пушчаў і К°.

Па зборніку Максіма Лужаніна „Новая ростань“ можна добра прасачыць, як гаворыць у поэзіі стары чалавек. Усе вершы зборніку „Новая ростань“— нітуе адзін мотыў—мотыў псыхолёгічных перажываньняў соцыяльна-хворае „душы“, „я“ поэты. Праз усе вершы праходзіць вобраз соцыяльна-асуджанай на гібеньне клясавай групы. Вуснамі поэты і гаворыць гэта група. Поэта, як прадстаўнік гэтага соцыяльнага прапластаваньня, адчувае лёс свае клясы, асуджанай на выміраньне. Гэта кляса адсунута ад якога-б то ні было грамадзкага дзеяньня ў нашай краіне. Адчуваньне свайго лёсу гняце бязупынна псыхолёгічны стан. Гэта адчуваньне паглыбляе соцыяльную хворасьць і яна становіцца няскідным цяжарам, што бязупынна ціснe на сьвядомасьць свайго песьняра. Ён адчувае „недалёкую згубу“ і поўны роспачы, адчаю, кідаецца ў плойму палону душэўных перажываньняў, „тонкіх“ пачуцьцяў:

„Мне хацелася тонкую постаць абняць,
прыхінуцца да шчырай і любай...
А каб радасьць ня гасла—усьмешкай паўдня
асьвяціць *недалёкую згубу* [1])
Жоўтай хваляй лілося праменьне далоў,
у прасторы зьвінелі пачуцьці...
І чамусь *валацузе* салодка было,
што й аб ім дзесьці думкі віюцца...
Што аб ім сэрца любай дзяўчыны смыліць,
што да болю ёй горна і цяжка
і што гэнае шчасьце, на гэнай зямлі,
быццам кветкі зімой, недасяжна.
*Неяк дзіўна і страшна пакуту цярпець,
калі вечна туга не згарае...*
Гэта радасьць *і боль*, гэта ўсё для цябе
пачуцьцёвы кілім, дарагая“.
(„Н. Р.“, ст. 9—10.

Жудасная адзінота душыць поэту. Прад ім „бездарожжа дыван“. Поэта „блудзіць“ у прасторах чараўніцыных чорных вачэй“. І адчуваючы гэтую адзіноту, тупік у індывідуалістычна-суб'ектыўным хворым,

[1]) Усюды падкрэсьлена—мною. *У. С.*

поэта прагне выйсьці адсюль, але гэта прага ня йдзе далей гістэрычнага хворага крыку. Поэта шукае ратунку:

„У гэту ноч над зялёнымі пушчамі
*адзінокаму цяжка сьпяваць...*
*Сумна, горна мне. Матанька, выратуй*
Я-ж хачу расквітнець залацей.
А за вокнамі ветры, як сіраты,
вяжуць *роспаччу страчаны дзень...*"

(„Н. Р.", ст. 11).

Ї поэта шукае выхаду ў поўным абстрагаваньні ад нашай сучаснасьці. Наша баявая, творчая, поўная радасьцей перамог, сучаснасьць не знаходзіць да сябе ў поэта і каліва ўвагі. Ён уцякае ад яе, адгароджваецца ўсімі сродкамі, бяжыць на лона ростаней абвеяных болем, жалем, тугою і сумам разьвітаньняў. У чаргаваньні ростаняў і сустрэч поэта знаходзіць збавеньне ад назойлівых для яго турбот штодзеннасьці.

„Гэта добра, што ростань прышла —
даражэйшыя стануць хвіліны,
каб ізноў адмарантавы шлях
перамог захапленьня часіну.
*Весялосьці свае ня прынёс*
*у прасторах да кроплі растраціў,*
але ведаю праўду даўно,
што і сумная песьня—багацьце.
Трэба зноўку шляхі адшукаць,
замятаючы сьцежкі старыя,
каб свабодна сьпявала рака,
размываючы скруху абрыву.
Многа дум на шляхох, ля бяроз,
што абапал спатканьня праходзяць.
*Хто тугу дыямэтавых рос*
*скалане ў гэтым новым паходзе?*
Я ня буду глядзець і маўчаць,
калі *грудзі ўздымацьмуцца болем*
за айчыну сваю дацьвітаць (!??)
і *хіліцца тузе* галавою".

(„Н. Р.", ст. 14—15)

Ї гэтае шуканьне збавеньня толькі на шляхох ростаней зусім ясна і законамерна. Строма грамадзка-дзейнага жыцьця праносіцца па рэчышчы нашае рэчаіснасьці, зносячы з свайго ўлоньня ўсё нягоднае, асуджанае на гібеньне. Таму, вядома, буржуа не знаходзіць месца ў гэтым жыцьці, таму ён і шукае збавеньня ў пярэстасьці перамен месца, зьмены жыцьцёвых пуцін-сьцежак, ростанях, сустрэчах і г. д.

„Скаргі жоўтых лістоў пазьвісалі...
*Жорсткі розум—суровым судзьдзёй,*
*бо надзеі ляглі каласамі*
ў перавяслах *надломаных дзён.*

Вечарамі хаджу на дарогу,
заклікаю кагосьці, заву,
і ў *натруджаных* крыльлях *трывогі*
б'еццца *спуджана стомлена* гук".

(„Н. Р.", ст. 16).

Назойлівыя думкі пра нямінучую згубу замыкаюць гэты круг шуканьнем „спакою берагоў". У палоне гэтага шуканьня для поэты сьціраецца надворны сьвет, ён выходзіць з-пад ягонай увагі, „дні зьнікаюць у абдымках начэй" і „ўсьміхаецца ростань яскравей" і тады:

„Толькі рукі каханьня майго,
толькі вочы *халоднае згубы*
абяцалі спакой берагоў —
непарушную, новую любасьць".

(„Н. Р.", ст. 12).

Адчуваньне згубы, адкуль і боль, і туга, і жаль, і роспач, і пакута, і сум, і г. д., не дае веры ў заўтрашняе. Яно для яго заслана туманам, цемраю, у лепшым выпадку—адчуваньне новай болі:

„Шэры змрок...
Цішыня...
І ня знаюць агні на пэроне,
што і заўтрашні дзень
пэўна *боль* прынясе".

(„Н. Р"., ст. 18).

Ад таго і палягчэньне наступае толькі тады, калі перастае валодаць поэтаю ўсьведамленьне гэтага болю, пакуты:

„І так лёгка ступаць,
*унікаючы дум*"...

(„Н. Р., ст. 59).

Разлад поэты з рэчаіснасьцю выпірае ва ўсіх вершах і гэты разлад бязумоўна носіць характар ня проста індывідуальны, суб'ектыўны. Гэты разлад носіць соцыяльны, клясавы характар, характар разладу клясы, якая гістарычнымі падзеямі, падзеямі Кастрычнікавай рэволюцыі выкрэсьлілася са сьпісу гаспадароў жыцьця нашае краіны. Гэты разлад прымае формы, якія часамі пры павярхоўным гледжаньні могуць здавацца проста „юнацкай романтыкай", ці чым іншым у гэтым родзе, а па сутнасьці застаецца формай выяўленьня разладу клясы з рэчаіснасьцю:

„*Вечна хочацца к зорам, ды зор не прыгорнеш*..
Ці таму спавіваецца сэрца *тугой*,
што ня будзе спачыну ў імклівай пагоні,
даганяючы радасьць *другіх берагоў*".

(„Н. Р.", ст. 12).

І пад гэтымі „другімі берагамі“ крыецца соцыяльны зьмест разладу з нашай соцыялістычнай рэчаіснасьцю. Формаю-ж гэтага-ж разладу зьяўляецца і гэткая „романтыка“, як:

„Ў гэту ноч мне хочацца да болю
жарабца шалёнага злавіць.
І на месяц, заламаўшы шапку,
праскакаць да трэціх пявуноў,
увесь прастор бяз меры і пачатку,
дзе чарэмхі сьнежнае віно.
Каб такое шчасьце залатое
у шляхох няпройдзеных дагнаць,
і пасьля пад зорныя настроі
прывясьці змакрэлага каня“.

(„Н. Р.“, ст. 63).

Гэткаю-ж формаю выражэньня разладу з рэчаіснасьцю зьяўляецца і раздарожжа поэты:

„Каго я прывітаю песьняй сёнешняй,
каму я радасьць чыстую аддам?“

(„Н. Р.“, ст. 80).

„...Ні дарогі, ні сьлядоў,
Буду я адзінокі заклікаць сваё шчасьце,
заклікаць сваё шчасьце ты ня прыдзеш ізноў“.

(„Н. Р.“ ст. 78).

Разлад з рэчаіснасьцю прыходзіць да таго, што поэта пачынае чурацца людзей, кідаецца на лона прыроды і, шукаючы там сабе прытулку, „філёзофствуе“ на тэмы, што

„Часам дрэвы скажуць, больш, як людзі,
ня знаючы ні дум, ні слоў“.

(„Н. Р.“, ст. 98).

Але пакута, боль усюды гняце, нідзе не адступае:

„І *страшна* жыць. І *цяжка* неяк верыць,
у *боязьні* бяз красак *пажаўцець*“.

(„Н. Р.“, ст. 102).

Гэтая хворая псыхолёгія, псыхолёгія паміраючай клясы выліваецца ў сваім разьвіцьці і на прыроду. Апошняя ў праламленьні гэтай хворай псыхолёгіі і набывае таксама хворыя фарбы. Пячатка болі, пакуты, душэўнага надрыву і енку, суму ложацца і на ўспрыняцьце прыродных малюнкаў. Прырода ў Лужанінскім успрыняцьці паўстае нейкай пакалечанай, параненай, пакутнай, маркотнай:

„Клёны стыгнуць
з узьнятаю *роспаччу* рук...
. . . . . . . . . . .
Клёны стыгнуць і *стогнуць*,
*нямеючы в болю*“...

(„Н. Р.“, ст. 104).

Зоры па Лужаніну льюць толькі „сум“, „адцьвітаньне даліны“. Сум і тугу выклікаюць усе прыродныя зьявы. Дзень Лужаніна абавязкова „стомлены“, „сьцень—ранены“, месяц вышаў „у памятай траве“, абавязкова „сваю *скаргу* тушыць“. Зямля запальвае „*смутак* жаданьня“. „Трава шастае *маркотна*“. Вечар успрымаецца Лужанінам як „*надрыўнае і цяжкае* ўздыханьне напацелага прастору“. Раніца па Лужаніну „ўзьлятае на белых крылах *жалю*“. „Дасьпяваньне арэхаў“ асоцыіруецца „з тугой“. І ўсё гэта ўвенчана Лужанінаўскімі „кайданамі пакуты“. Нагогул цяжка знайсьці ў зборніку месца, якое ня было-б „упрыгожана“ словам „туга“. Гэтая „туга“ прыме ў Лужаніна безьліч зваротаў і гэтым, разам з паўтарэньнем іншых зваротаў гэткага-ж парадку, стварае аднастайнасьць мастацкіх сродкаў, убогасьць, шэрасьць, цьмянасьць. Гэтая аднастайнасьць выклікае ў чытача толькі апатыю.

Хворая псыхолёгія ў перанясеньні на прыроду ў сваім вынятку ў цэлым радзе момантаў прыводзіць да містыкі, сымболізму містычнага парадку:

„Белы крыж і пясок і галосіць дзяўчына—
прачынаецца дзень...“

(„Н. Р.,“ ст. 61).

„У вячорным прасторы нехта белыя рукі,
нехта белыя рукі з жальбою ўзьняў“.

(„Н. Р.“, ст. 78).

Поэту ўсюды наганяе „крыжоў пахілых цішыня“, яны бязупынна клічуць яго да сябе і гэта зьяўляецца нічым іншым, як выражэньнем адчуваньня адсутнасьці свае клясы, асуджанасьці сайсьці з гістарычнае арэны. Таму і імкнецца поэта ўцячы ад гэтых „крыжоў“:

„Трэба зноў хвіліны дагнаць,
каб жыцьцё налівам пунсавала,
каб крыжоў пахілых цішыня —
да сябе паклікаць не пасьмела“.

(„Н. Р.“ ст. 74).

І поэта ўцякае „адпачыць і забыць хваляваньні“ зноў на каленях каханай:

„І ня знае ніхто
гэтых ціхіх (!) спатканьняў...
Я пра гэтую любую
не раскажу...
І тулюся ўсё бліжэй
і цалую каханую,
*і аб крыўдзе мінулай*
*ніяк ня тужу*“.

(„Н. Р.“, ст. 110).

Гэтая лінія, што вядзе да забыцця да абстрагаваньня асобы поэта ад усяго грамадзка-дзейнага, ад плыні новага жыцьця, у сваім разьвіцьці

вядзе да другое лініі—шуканьня забвеньня ў аблюбаваньні свае бацькаўшчыны—Беларусі, замілаваньне да якое вядзе да нацыяналістычнага чаду. Гэтае замілаваньне да бацькаўшчыны ў Лужаніна прымае выразнахворы буржуазна-нацыяналістычны характар, прымае ў сваім разьвіцьці варожую нацыянал-дэмократычную форму. Кляса асуджаная самім фактам пролетарскай рэволюцыі і пасьпяховым разьвіцьцём соцыялістычнага будаўніцтва на гібеньне, вымушана ў процэсе свайго выміраньня хапацца за ўсе сукі. І ў гэтай справе нацыяналістычная атрута іграе вялікую ролю, ролю зброі ў руках буржуазіі, кулацтва супроць пролетарскай дыктатуры і соцыялістычнага будаўніцтва.

У лужанінскай поэзіі гэта пачынаецца з простых сьцьверджаньняў пра краіну, сьцьверджаньняў фактычна рэакцыйных, пасквільных сьцьверджаньняў, што быццам жыцьцё Савецкай беларусі пад кіраўніцтвам компартыі замірае. Лужанін, ня бачачы (ці ўпарта ці ня хочучы бачыць) магутнага размаху соцыялістычнага будаўніцтва, шпаркіх процэсаў пераварэньня патрыярхальнай, аграрнай Беларусі ў Беларусь колгасна-індустрыяльную, абмінаючы той размах ударнае працы і ўдарных тэмпаў, што ахапілі працоўныя масы Савецкай Беларусі, хлусьліва заяўляе, што быццам-бы:

„*Суцішаным* крокам праходзіць краіна"...

(„Н. Р.", ст. 7).

Адсюль зразумелым становіцца, якую гэта „краіну вартавалі маці благаславіла ў дарогу" поэту. Аб гэтым ён і сам кажа, калі называе „краіну *сваю*". У гэтым сьвятле нам становяцца больш зразумелымі радкі:

„Вечарамі—хаджу на дарогу,
заклікаю кагосьці, заву...

. . . . . . . . . . . . . .

Я чакаю інакшых (?!) спатканьняў
дыямэнты другія (?!) зьбяру.
Добры вечар, маё зацьвітаньне.
Добры вечар, *мая* Беларусь".

(„Н. Р.", ст. 16).

Зразумела і каго „заклікае і заве" поэта і якіх „*інакшых* спатканьняў чакае" ён. Об'ектам гэтых парываньняў зьяўляецца нішто іншае, як буржуазна-кулацкая Беларусь, Беларусь не савецкая, саўгасна-індустрыйная, а „ўласная" (самабытная), „*свая*" Беларусь. У гэтым сьвятле нам становіцца яшчэ больш ясным і сэнс яўна нацыял дэмократычных слоў, якія ня раз ужо браліся пад агонь беларускай марксыцкай крытыкаю Лужаніна ў дзень 10-годзьдзя БССР (гэты верш, праўда, не ўвашоў у гэты зборнік):

„Мы ня хочам радасьці вітаць,
што чужымі дадзена рукамі".

Цэлы шэраг вершаў зборніку „Новая ростань“ прасякнуты буржуазным нацыяналізмам. Вось прыкладам поэта піша пра намер свайго вандраваньня за межы Беларусі:

„У чужых незнаёмых прывольлях
новай ласкай ня стрэнуць палі.
Што раскажуць мне сіні чужыя
і азёраў сьцюдзёны крышталь?
Прад вачыма свае, як жывыя,
ціха зыбяць плывучую сталь,
дзе знайду я такія крыніцы?
дзе знайду я асеньні туман?
У якіх вербалозьніках ніцых
дробным пытлем асядзе туман?
Неба яснага хмары ня засьцяць.
А ці сэрца для думак—турма?
Мне ня трэба інакшага шчасьця,
калі *шчасьця ў краіне няма*(?).
Я зімой на радзіму вярнуся,
І прыду задумены назад—
вартаваць сны *мае* Беларусі (??.)
як над ярам стары беразак“.

(„Н. Р.“, ст. 76-77).

Бачыце, акрамя „свае Беларусі“ Лужаніна *„ў чужых, незнаёмех* прывольлях новай ласкай ня стрэнуць палі“, яму нічога не раскажуць і „сіні *чужыя*“. Аўтар там не знаходзіць „такіх крыніц“ і такога „асеньняга туману“, такое „тугі, што дробным пытлем асядае ў вербалозьніках ніцых“, якія можна знайсьці толькі ў Беларусі (г. зн. самабытных, беларускіх і крыніц, і туманаў, і тугі, і г. д.). Пад гэтымі „крыніцамі“, „туманамі“, і „тугою“ крыецца бязумоўна большы зьмест, які тут трэба разумець у пераносным сэнсе. Адсюль зразумела і якія гэта „сны *мае* Беларусі“ думае вартаваць поэта. Бязумоўна сны аб „самабытнай роднай“ і „незалежнай“ Беларусі, Беларусі для беларусаў (разумеючы пад гэтымі „беларусамі“, вядома, клясу, якую выражае ў творчасьці Максім Лужанін—клясу, зараз асуджаную хоць-бы сабе і на ліквідаваньне). Па тону гэтага вершу адчуваецца, што радкі „калі шчасьця ў краіне няма“ разумеюцца поэтаю ў дачыненьні якраз да сучаснага стану нашай пролетарскай краіны.

Жыцьцё краіны праходзіць ня так, як-бы гэта хацелася суб'екту (і об'екту) Лужанінаўскае творчасьці. Для іх „шчасьця няма ў краіне“ савецкай краіне будаўніцтву соцыялізму і таму астаецца хворай душы поэты кідацца ў абдымкі „белакрылых птушак устрывожаных дум—залатое фантазіі“, аддавацца ў палон мар, імкненьняў ды нерэальнага, нечага лятуценнага, бадаваньня і разбурэньня замка ў фантазіі:

„Вечна прагну,
вечна імкнуся

Колькі замкаў збудавана.
Колькі разбурана.
Страх. (...)"

„Н. Р.“. ст. 89).

І ўсё гэта спалучаецца з хворым замілаваньнем да краіны, замілаваньнем нацыяналістычна-патрыётычным, якое даходзіць да патолёгічнага вывіху і скалечаньня, да нацыяналістычнага фанатызму:

„Можа гэта каханьне
к адзінаму краю,
краю сьлёз
і
тугі
і вялікіх надзей".

(„Н. Р.", ст. 83).

Нацыянал-дэмократычная хвароба настолькі паралізуе душэўны стан поэты, што нават у расе поэта бачыць пот і кроў свае „пакутнае“ краіны:

„І здаецца, расой
пот і кроў Беларусі
ляглі
на калінах і травах".

І яму здаецца, што „Прасьцяг краіны ўздыхае цяжка, цяжка“... і адсюль чуюцца скаргі. І поэта, шукаючы выхаду, з жахам кідаецца ў „цемнату разбуранага храму душы“. Ён увесь аддаецца слухаць сваю хворую „душу“. Яна яго вядзе па каляінах містычных сноў, па выбоінах хворай псыхолёгічнай трызьні. Поэта ў палоне містычных зданяў, у абоймах зданьнёвых вобразаў містычнае прыгожасьці, перад якім:

„Я маўкліва чакаю...
Стаю на каленях...
Клічу змрок...
Узьвілася шыранка душы...
Цішыня...
Дзесьці там,
у антычнай імгле колёнады—
лёгкі наступ
і белы. як ростань, убор...
Маладжавыя водблі скі...

Каляровае зьзяньне,
трымценьне,
туга...
Усё бліжэй—
і пужліва мігаюцца сьвечы
у люстраным адбітку
азмрочаных сьцен.

Гаснуць цені...
Бягуць...
Мляўкі водар курэньняў...
...Падыходзіць...
Прышла.
...Падымае з кален...
Саламея мая.
У вяках—
галава
на сярэбраным сподку,
у сьвятле дыямэнтаў
запаленых дум.
Шмат вякоў...

Ён—прадцеча,
а я?
Ён быў першы,
мо' буду апошні?
Адкажы.
І ў адказ:
Пурпуравай заслонай уздымаецца
смутак...
Абвіваюцца рукі...
і вусны бліжэй...
Раптам грукат:
у полі калёны.
Цемната
у разбураным храме душы.
Зьнікла здань.
Я—
адзін адзінок,
Падымаю руінь успамінаў...
Клёны ўсплясквающь лісьцем
і...
крокі
ізноў...
— Гэта ты, мая радасьць?
— Твая...

. . . . . . . . . . . . . . .

Пурпуровай заслонай
ўздымаецца
смутак..."

(„Н. Р.", ст. 92—94) і г. д. і г. д.

І на Лужаніну гэткія „сны, як жыцьцё, часам, нават, праўдзівей і радасьней неяк"... І нездарма „пасьля сноў—адчуваньне балюча абламаных крыл" („Н. Р.", ст. 90).

Лёгічным разьвіцьцём гэтае містыкі можа быць толькі шуканьне „збавіцеля"—змрокабеснае працягваньне рук да „боженькі"—шуканьне сьвету па той бок рэальнае, матэрыяльнае рэчаіснасьці.

Узбунтаваны буржуа не знаходзіць у нашай сёнешняй рэчаіснасьці сабе месца. Для дзейнасьці ягонае клясы ў ёй няма месца. Соцыялістычная рэволюцыя скрышвае і зносіць апошнія цытадэлі гэтае клясы. Пад ёю губляецца апошняя глеба. Сьвет для яе становіцца зыбкім і хісткім. Ёю апаноўвае хаос. Яна бунтуе супроць свайго магільшчыка—пролетарыяту і ягонае чыннасьці—соцыялістычнае рэволюцыі і будаўніцтва.

Гэты бунт прымае рознастайныя формы. Пачынаючы актыўнай контррэволюцыйнай дзейнасьцю супроць дыктатуры пролетарыяту—нацыяналдэмократычнай контррэволюцыяй—і канчаючы, здавалася-б, „простаю“ нэйтральнасьцю, лёяльнасьцю—усё гэта формы бунту буржуа супроць соцыялістычнай рэволюцыі. І нічым іншым, як формаю гэтага бунту буржуа супроць соцыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца і крэн у містыку, сны ў нерэальнае, што па той бок нашай рэчаіснасьці. Будаваньне там свайго зданьнёвага, ідэалістычнага, адменнага сьвету—гэта форма бунту супроць нашай рэчаіснасьці. І лужанінаўская містыка зьяўляецца толькі адменнаю формаю гэтага бунту буржуа.

Лужанін шукае сабе рэчаіснасьці ў містыцы, снох, ідэалістычна-рэакцыйных вымыслах—і тут цікава тое, што гэтая ложная ідэя сваім станаўленьнем у творча-мастацкіх процэсах налажыла гэты ложны сьлед і на мастацка-формальны бок лужанінаўскае творчасьці.

І сапраўды, ці можна прызнаць за вышэй цытаванымі радкамі высокую формальна-мастацкую вартасьць? Пры самым павярхоўным падыходзе можна сьмела сказаць, што ўсе гэтыя творы носяць выхалашчаны, дэкадэнскі характар і ўяўляюць сабою нішто іншае як пустую шкарлупу, *ня вартую і выядзенага яйка.* Узяць хоць-бы апошнюю з пададзеных намі вышэй вынятак. Дзе лёгіка мастацкага мысленьня? Дзе мастацкая пластычнасьць, лаконічнасьць? Дзе вобраз, які выклікаў-бы ў чытача поўныя крыві і плоці ўражаньні, жывыя думкі і ідэі? Заместа гэтага—груда выхалашчанай скарлупы, якая ніякай мастацкай вартасьці бясспрэчна не складае. І гэтым фактам толькі лішні раз сьцьвярджаецца правільнасьць пляханаўскай думкі, што ложная ідэя, якую мастак укладае ў свой твор, псуе і мастацкі бок гэтага твору, і той твор ня мае мастацкае вартасьці, ня гледзячы і на індывідуальную таленавітасьць аўтара.

Уся далейшая, пасьля сабранае ў зборнік „Новая ростань“, творчасьць Лужаніна на працягу ўсяго 1928 і 1929 г. аж да пераломнага для ягонае творчасьці 1930 г. зьяўляецца разьвіцьцём гэтае лініі. Дэкадэнска-формалісцкая выхалашчанасьць у спалучэньні з рэакцыйным, містычным ідэалізмам, хворым псыха-калупальніцтвам характарызуе ягоную творчасьць 1928-29 г.

Мы ня будзем даваць за недахопамі месца тут аналізу творчасьці гэтага пэрыоду, бо гэта задача адмысловае працы пра творчасьць дадзенага поэты. Хопіць і аднаго аналізу „Новае ростані“, каб упэўніцца

ў тым, што творчы мэтод творчасьці Максіма Лужаніна (вядома выключаючы Лужаніна 1930 г, пра якога гаворка будзе ніжэй) зьяўляецца мэтодам рэакцыйнага буржуазнага ідэалізму. Гэты ідэалізм вынікае на глебе поўнага разладу з нашаю рэчаіснасьцю і корміцца ў варожым нам клясавым асяродзьдзі. Гэты ідэалізм вядзе да трызьні хворае псыхолёгіі, да замыканьня ва ўнутраным „душэўным" сьвеце і будаваньне там свайго асобнага ідэалістычнага сьвету, што ў канечным вынятку вядзе да містыкі, да „божанькі". Гэты мэтод вядзе поэзію да тупіка, да канечнага крызісу.

Пролетарскай поэзіі, якая будуецца на адзіна-прогрэсыўным мэтодзе—мастацкім мэтодзе дыялектычнага матэрыялізму—творчы мэтод ідэалізму абсолютна варожы і абсолютна супярэчны яе разьвіцьцю. Творчы мэтод ідэалізму складае для пролетарскай поэзіі галоўнага ворага. За творчым мэтодам ідэалізму стаіць наш клясавы вораг. Таму на барацьбу пролетарскай поэзіі з гэтым асноўным рэакцыянэрам—ідэалістычным творчым мэтодам—павінны аддавацца галоўныя сілы і асноўны агонь павінен быць накіраваны па гэтым ворагу. Накіроўваючы ўдар па ідэалістычным мэтодзе наогул, пролетарская поэзія будзе рашуча змагацца з праявамі і тэндэнцыямі ідэалістычнага творчага мэтоду і ў сваіх уласных шэрагах, у шэрагах самой пролетарскай поэзіі.

* * *

1930 год стаўся годам пераломным для творчасьці Максіма Лужаніна, як і для творчасьці левае часткі „Узвышша" наогул. Пад націскам і агнём беларускае марксыцкае крытыкі і ўсяе савецкае грамадзкасьці „Узвышша" пачало пераглядаць свае шляхі і станавіцца на новыя рэйкі. Пачаў мяняць вехі і Лужанін. Творчасьць Лужаніна зараз знаходзіцца ў стадыі перабудовы. У 30 годзе Лужанін заявіў:

*„Буду ісьці і паліць*
*усе масты за сабою,*
*усе масты,*
*што вядуць*
*на старыя шляхі.*

. . . . . . . . . . . .

Стану
ўпарта, як месяц,
на гэтай дарозе,
каб на лудныя сьцежкі
повты ня йшлі,
каб агульнай сілай
расплавіць марозы,
што куюць кайданы
вацьвітаньні зямлі"

(Полымя № 7, 1930, стар. 130).

Але, калі надзвычайна цяжка перабудоўвацца спадарожнікам, то яшчэ больш цяжка перабудоўваецца Лужанін.

Перабудова гэта ня просты пераход поэты да актуальнае на сёнешні дзень тэматыкі, як гэта шмат каму здаецца. Перабудова поэты надзвычайна складаны і цяжкі процэс, які без пакут і бяз творчых мук не адбываецца. Адсюль зразумела і тая маруднасьць, з якой адбываецца перабудова цэлага шэрагу поэтаў—спадарожнікаў. Перабудова поэты на новыя рэйкі ўключае свае поняцьце перабудову ўсяго ягонага сьветапогляду і сьветадчуваньня на рэйкі дыялектычнага матэрыялізму. Перабудова ўключае ў сваё паняцьце аўладаньне дыялектычным матэрыялізмам і рашучае выкарчоўваньне свайго псыхо-ідэолёгічнага складу ўсяго старога, спадчыны набытых старым быцьцём звычак і г. д. Перабудова ўключае набыцьцё мысьленьня па-новаму, сьветаадчуваньня і сьветаўспрыманьня па-новаму. Яно азначае перамогу ўнутры самога сябе новага соцыялістычнага чалавека ў ягонай барацьбе супроць старога чалавека. І гэты процэс павінен адбывацца не толькі галоўным усваеньнем у габінэтах дэялектычнага матэрыялізму, але і абавязковым удзелам у штодзеннай, што-хвіліннай практыцы пролетарыяту, у ягонай барацьбе за соцыялізм і супроць капіталізму. Процэсы перабудовы павінны органічна адбывацца на рыштаваньнях соцыялістычнага будаўніцтва, дзе чалавек, перарабляючы сьвет, перарабляе і самога сябе. Гэта праўда ня значыць, што поэта павінен абавязкова, закінуўшы сваю творчую працу, ісьці рабочым на гэтыя рыштаваньні, у якасьці працаўніка фізычнае працы. Бязумоўна, ня гэтак вульгарна трэба разумець процэсы перабудовы. Справа ня ў тым, каб поэта абавязкова стаў рабочым да варштату і г. д. Зусім не, справа толькі ў тым, каб, адкінуўшы назаўсёды, яшчэ і цяпер пануючы ў пэўных колах пісьменьніцкае грамадзкасьці, „ідэйкі“ аб нэйтральнасьці і аполітычнасьці пісьменьніка, аддаць свае сілы і здольнасьці на справу соцыялістычнага будаўніцтва, шляхам удзелу ў ім сваімі спэцыфічнымі сродкамі—творчасьцю, пяром,—і практыкаю грамадзкае працы. І для гэтага зусім неабавязкова станавіцца ў шэрагі працаўнікоў фізычнай працы. Наадварот, поэта, пісьменьнік прынясе большую карысьць служэньнем соцыялістычнаму будаўніцтву сваімі спэцыфічнымі сродкамі—творчасьцю,—чымся працаю каля варштату. Гэта бязумоўна тычыцца поэтаў, якія ўжо адарваліся ад вытворчасьці (ці-то заводзкае ці-то сельскай гаспадаркі), бо для маладых пісьменьнікаў, поэтаў, якія яшчэ толькі ідуць з вытворчасьці ў літаратуру, неабходна, каб яны не парывалі з вытворчасьцю, з заводам і варштатам, колгасам і трактарам, а засталіся надалей чыннымі ўдзельнікамі вытворчасьці. Толькі тады іх творчасьць будзе харчавацца непасрэдным вытворчым зьместам, а таму будзе насіць поўнакроўны і патрэбны пролетарыяту характар.

З усяго вышэй сказанага і выцякае неабходнасьць барацьбы з „перабудоваю“ ў адзін дзень, з перафарбаваньнем адразу з чорнага ці белага ў „чырвоны“ колер, іначай кажучы, з падробкай, прыстасаваньнем і, значыць, халтурай.

Процэс перабудовы праходзіць для Лужаніна ня зусім гладка. Стары чалавек,—нутро буржуа—дае аб сабе ведаць на кожным кроку. Поэта аб гэтым сам прызнаецца:

„Дарагія таварышы
бывае ў дзень
агорне
і
*сьцісьне*
*ноч.*
І роспач
*на вусны*
*пячаць кладзе,*
і вочы
імгляць вікном.
Я
ведаю
гэты
забыты пакой,
Я
чую,
хто
ў ім жыве:
за моцным прабоем,
за цяжкім замком,
схаваўся
*стары чалавек.*
Забыты, замкнуты.
І з намі—
ў жыцьці—
ён
шэптам
атруціць вярсту:
—Ня ўздужаеш ты
паўз мяне
прайсьці.
Ты
спыніся,
зараз-жа,
тут.
І ў золісты вечар,
(як дзікі закон),
стаіць ён
пад вокнамі дум
і з даўніх вякоў
нядалужнай рукой
спыняе
нашчадкаў хаду.
Спраўляючы ўсе
абавязкі свае—
ваdманіць
няпэўным лістом.

і маўзэр (халодны)
у рукі дае,
ці крук
забівае у столь.
І так
дзень у дзень.
Неадступна
як цень
Ён
ходзіць
блукае
заве...
І часта
ў здаровых
сучасных людзей
бытуе
*стары чалавек*".

(„Узвышша" № 7, 1930 г. стар-31—32).

Старое без адбою не здаецца. Стары чалавек з самых глыбін чалавечага нутра працягвае свае агідныя шчупальцы, каб як імі завалодаць чалавекам, ня даць поступу новаму перамагчы. Два сьветы змагаюцца ў адным чалавеку: новы—соцыялістычны і стары,—капіталістычны. Ступеньню перамогі новага над старым азначаецца ступень блізкасьці да пролетарыяту і соцыялізму, да пролетарскай літаратуры.

Лужаніна моцна яшчэ трымае ў сваіх абоймах старое: яно цягне на стары, асуджаны самім поэтам, шлях:

„Чорныя косы атласаў,
рукі нязьдзейсьненых сноў—
бачу на кожным папасе
кожнай вясной.
Кожнае гэта прыйсьце
*кліча сьпяваць іззноў,*
*так, як сьпяваў калісьці,*
як у *старым* кіно".

(„Узвышша" № 9, 10, 1930 г., стар. 11).

Для пэўнае часткі інтэлігенцыі, якая ідзе да нас (да пролетарыяту) з чужога лягэру, прыходзіцца ў муках і пакутах, заглушаючы ўнутры сябе буржуазнае нутро, перабудоўваць свой псыхо-ідэолёгічны склад і *сьвядома* глушыць у сабе ўсе рэцыдывы старога чалавека. Гэткі шлях перабудовы для пэўнай часткі інтэлігенцыі зусім законамерны і мае права мець мейсца. Вялікі рэволюцыйны поэта Ўладзімір Маякоўскі гэтак сама, ідучы да пролетарыяту з лягеру дробна-буржуазнага бунтарства, мусіў *сьвядома* глушыць у сабе ўсе ўнутраныя праяўленьні дробна-буржуазных пачуцьцяў.

Максім Лужанін у процэсе свае перабудовы, станаўленьні на новыя рэйкі, у процэсе набліжэньня да пролетарыяту гэтак сама, як і Маякоўскі

„себя смирал, становясь на горло собственной песьней" і ў сябе „заглушал (старой—У. С.) поэзии потоки", прабуе *сьвядома* заглушыць у сабе ўсе праявы старога. Лужанін тужыцца даць адбой старому чалавеку і ягонай песьні; поэта імкнецца, сьвядома перарабляючы самога сябе на новы лад, стаць у шэрагі творцаў новае рэволюцыйнае поэзіі:

„Калі
мае песьні
кранецца цьвіль,
Я
ў поле яе вазьму,
*Я*
*сьцісну*
*там рукі*
*ёй да крыві*
*і*
*горла перагрызу.*
Я крыкну старому,
трывожачы ціш:
— Табе
надыходзіць суд.
Ня ўздужаеш ты
паўз мяне
прайсьці.
Ты спынішся
зараз-жа
тут.
А ты, гадаванец мой,
(вольны верш)—
мацней
напінайцеся струны,—
Ты слаўнаю сьмерцю,
мой верш
памрэш—
чорнарабочым
Комуны.
Яшчэ нешта
перад намі
вярста,
так многа
паходаў кліча
І я хачу,
каб ты скончыў
так,
Як пачынаў Кастрычнік.
У кожнай краіне,
на кожнай зямлі,
дзе стогны
і енкі ліюцца,
ты мусіш
чырвоны штандар
разьвіць—
Сусьветны агонь рэволюцыі."
(„Узвышша" № 7, 1930 г. стар. 32-33).

Праўда, тут вялікі ўплыў Маякоўскага. Усьлед за апошнім:

„умри, мой стих,
*умри, как рядовой,*
как безымянные
на штурмах мерли наши".
(„Во весь голос")

Лужанін паўтарае:

„А ты, гадаванец мой,
(вольны верш)—
мацней
напінайцеся струны.—
Ты слаўнаю сьмерцю,
мой верш,
*памрэш—*
*чорнарабочым*
Комуны".

Паўтарае Лужанін і Маякоўскага „смирения себя, становясь на горло собственной песьне". Але сутнасьць ад гэтага ня зьменіцца і справа ня ў гэтым.

Важна тое, што Лужанін імкнецца павярнуць са старое (ганебных) пуцін на новы шлях, спрабуе вызваліцца з-пад улады свайго ранейшага напрамку і „спаліўшы старое рызьзё", „палячы за сабою старыя масты, што вядуць на старыя шляхі", спрабуе ісьці ў ногу сучаснасьці, быць у шэрагах будаўнікоў новага жыцьця. Ня дарам у вершы „Галасуе вясна за вясну" („Узвышша" № 3, 1930 г.) Лужанін перамагае ноч, што зацямняла сваёю імжою пробліскі новага і апошнія прымаюць у ваччу поэты больш усьвядомлены характар.

Некаторыя першыя крокі па шляху перабудовы Лужанін робіць. У 30 годзе поэта дае шэраг, насычаных клясаваю ненавісьцю да ворагаў пролетарыяту, вершаў як „Неаплочаны рахунак", шэраг вершаў накіраваных супроць ворагаў соцыялістычнага будаўніцтва, шкоднікаў („Сьлівень паказвае рогі", „Узвышша" № 8, 1930 г.), дыхаючых клясавым гневам супроць контррэволюцыйнага нац. дэмократызму („Дзень гневу", „Узвышша" № 9—10 1930 г.). Дае Лужанін і шэраг насычаных пафосам вайсковых вершаў, як цыкль „Дні спатканьня са зброяю" (Узвышша № 6, 1930 г.) і інш., дае і вершы пра процэсы соцыялістычнага будаўніцтва, як „Дом" („Полымя", № 5-6, 1930 г.), як шэраг вершаў у часопісі „Чырвоная Беларусь".

Праўда, вершы пра соцыялістычнае будаўніцтва ў Лужаніна значна слабейшыя, чымсі іншыя вершы гэтага кругабегу ягонае творчасьці. Гэта гаворыць аб тым, што Лужанін яшчэ не ауладаў конкрэтыкай соцыялістычнага будаўніцтва, ягоным конкрэтным рэчавым, будзённым зьместам. Поэта корміцца пакуль-што толькі агульнымі контурамі соцыялістычнага будаўніцтва і ў гэтых вершах далей фразавасьці і рыторыкі ня ідзе.

У самай-жа перабудове Лужаніна маюцца шмат момантаў, якія ў сваім разьвіцьці вядуць поэту на старыя шляхі. Сьвядома заглушаючы ў сабе старога чалавека і дэкляруючы сваю адданасьць рэволюцыі, поэта становіцца ў нездаровую позу самалюбаваньня (і тут вяртаюцца рэцыдывы старога псыхоідэолёгічнага складу, ад якіх толькі крок на стары шлях:

„Ня знойдзецца болей,
чым я (!) гавару,
болей таго,
што патрэбна для эпохі" (??!).

І гэта дробна-буржуазная самавыхальства, рысы дробна-буржуазнага дэндзіму, праявы буржуазнага, індывідуалістычнага мніва сябе асяродкам лепшага ў разьвіцьці вядзе да аполёгецікі старога чалавека, барацьбу з якім Лужанін пачаў-бы весьці. Гэткія тэндэнцыі вядуць да дробна-буржуазнага дзяляцтва. Перабудова Лужаніна адбываецца ў значнай меры па Лугаўскому, прычым процэс вучобы Лужаніна ў Лугаўскога адбываецца часта некрытычна і прыводзіць да простага пераймальніцтва. Так, некрытычна Лужанін пераняў у Лугаўскога зьмест вядомых радкоў:

„Прости меня за ошибки—
судьба их назад берет.
*Возьми меня в переделку*
*и двинь грочa вперед.*
Я плоть от твоей плоти
и кость от твоей кости.
И если я много напутал—
ты тоже меня прости".

У гэтых радкох яскрава выяўляецца дробна-буржуазны, інтэлігенцкі *пасывізм.* Замест актыўнага, чыннага, *самадзейнага* ўдзелу ў рэволюцыі, калі не адчуваеш сябе адлучаным ад агульнага колектыву творцаў пролетарскай рэволюцыі, тут адчуваецца, што дробна-буржуазны інтэлігэнт, стоючы з боку ад рэволюцыі, суб'ектыўна (у пэўнай ступені і об'ектыўна) спачуваючы і падзяляючы дзейнасьць рэволюцыі і лічачы гэтую дзейнасьць правільнаю, зварочваюцца да рэволюцыі з просьбаю ўзяць яго ў сваю пераробку і рушыць у дзеяньне. І гэтым спачуваньнем загладжвае свае памылкі, спрабуе замазаць іх. А Лужанін некрытычна насьлядуючы Лугаўскому, зварочваецца да тае-ж рэспублікі:

„Маладая наша Рэспубліка
ты
*пакліч мяне*
*і пашлі*
Калі трэ' будуць
запявалы
кулямётчыкі
і штыхі—

Маладога, але трывалага—
ты
*пакліч мяне*
*і пашлі*"

(„Дзень гневу," „Узвышша" № 9-10 1930 г.).

Заместа таго, каб Лугаўскога крытычна перасіліць і пайсьці далей да чыннага, *самадзейнага* ўдзелу ў рэволюцыі, Лужанін падупадае пад уплыў Лугаўскога і, становячыся ў позу гэтага-ж поэты, паўтарае: „Ты пакліч мяне і пашлі". А гэта зноў-жа нішто іншае, як *пасывізм* інтэлігента, дробнага буржуа, які рвануўся да пролетарскай рэволюцыі, але ня здолеў усілу свае соцыяльнае прыроды органічна зьліцца з усім актыўным, чынным, самадзейным у рэволюцыі, а толькі сузірае апошнюю здалёку. І калі Лугаўскі яшчэ толькі просіць Рэспубліку, каб яна даравала яму старыя памылкі, то Лужанін нахабна спрабуе прэтэндаваць на падараваньне Рэспублікаю нават і будучых адыходаў ад пролетарскае рэволюцыі:

„Рэспубліка нас гадуе
Калі
*я зморуся*
каля
*прысад*(!)
Рэспубліка мне даруе" (!??)

(Сьмешная гэральдыка" „Узвышша" № 8, 1930 г.).

Не, т. Лужанін. Не даруе вам Рэспубліка ўсялякіх хоць і нязначных адыходаў ад адзінае правільнае пролетарскае рэволюцыйнае лініі, шуканьне „адпачынку каля прысад". Ход пролетарскай рэволюцыі суровы і жорсткі і па ўсякіх адклíньнях ад правільнае рэволюцыйнае пуціны, яна б'е па рукам. Тым больш будзе біць па ўсякіх спробах „дараваньня" за адыход ад рэволюцыі „в прохладу древ", у „адпачынак пад прысады", будзе жорстка біць за шуканьне мяшчанскага пакою і прытулку для адпачынку пад прадлогам „зморанасьці". Усялякі адыход „зморaным" ад рэволюцыі расьцэньваецца, як здрада рэволюцыі, бо рэволюцыя робіцца не для „ўслады" „нежных мальчиков" з мяшчанскіх, дробна-буржуазных сем'яў, а для... вызваленьня мільёнаў працоўных з-пад гнёту капіталу, для заваяваньня сонечнае, соцыялістычнае будучыні. Лёс мільёнаў у руках рэволюцыі. І таму ў інтарэсах гэтых мільёнаў прыходзіцца быць і жорсткім, і суворым, і бязьлітасным да гэтых „мальчиков". Такая ўжо лёгіка яе разьвіцьця.

Максім Лужанін гэтым ратаваньнем за „адпачынак каля прысад" фактычна рашчышчае сьцежкі звароту на старыя шляхі, шлях і буржуазна-кулацкай поэзіі.

### 3. Пра спадарожніцкую поэзію

Абвастрэньне клясавай барацьбы ў рэконструкцыйны пэрыод выклікала ўзмацненьне і паглыбленьне процэсаў дыфэрэнцыяцыі сярод поэтаў спадарожнікаў пролетарыяту ў ягонай барацьбе за соцыялізм, сярод тых спадарожнікаў, якія сваею творчасьцю дапамагалі пролетарыяту штурмаваць цьвярдыні соцыялізму і выкарчоўваць карэньні капіталізму, але якія яшчэ ня сталі поўнасьцю на позыцыі пролетарыяту, не аўладалі комуністычнай ідэолёгіяй, комуністычным сьветаразуменьнем і нясуць сабою дробна буржуазныя хістаньні.

Літаратурным спадарожнікам пролетарыяту звычайна лічыўся пісьменьнік з дробнае буржуазіі, які ідзе да пролетарыяту. Але зьмест самога разуменьня тэрмінаў спадарожнік ёсьць велічыня ня сталая, а зьменная. Рэконструкцыйны пэрыод паставіў па-новаму пытаньне аб спадарожніку. На сёнешні дзень той поэта ўжо не спадарожнік, які *не пасьпявае* за пераможным годам соцыялістычнага будаўніцтва, *які стаіць на воддалі* ад гэтага будаўніцтва і пасыўна „нэйтральна“, безудзельна сузірае яго. Толькі таго поэту сёньня можна лічыць спадарожнікам пролетарскае літаратуры, які сваёю творчасьцю актыўна змагаецца на франтох соцыялістычнага будаўніцтва поплеч з пролетарыятам.

Сёньня „нэйтральнасьці“, „лёяльнасьці“ для спадарожніка ня можа быць. Альбо—альбо! Альбо разам з пролетарыятам (і тады ты вымушан разам з ім штурмаваць прыступы соцыялізму і крышыць рэшткі капіталізму), альбо, у праціўным выпадку, у выпадку здавалася „лёяльнасьці“ і „нэйтральнасьці“, ты ў стане ворагаў будаўніцтва новага соцыялістычнага жыцьця. *„Хто ня з намі, той супроць нас“*. І гэта трэба памятаць усім, хто ня думае быць супроць нас, тым, ідэі каго не разыходзяцца з ідэямі соцыялістычнага будаўніцтва пролетарыяту. Вось чаму ўсякі адыход, усякае адступленьне, хай сабе здавалася і нязначнае, і хвіліннае, ад гэтае лініі можа павесьці ў стан ворагаў пролетарыяту.

Процэсы дыфэрэнцыяцыі пацягнуць за сабою той факт, што горшая частка „спадарожніцтва“, якая найбольш была зьвязана з буржуазнымі нац. дэмократычнымі элемэнтамі і найбольш паддавалася ўплывам буржуазнай літаратуры,—павярнула ад пролетарыяту, дала крэн да буржуазнае літаратуры і гэтым папоўніла сабою шэрагі буржуазна-кулацкай літаратуры.

Лепшая, сапраўды спадарожніцкая частка, з уступленьнем у новы этап пролетарскай рэволюцыі—рэконструкцыйны пэрыод—рашуча павярнула да пролетарыяту, сваю творчасьць накіравала на службу соцыялістычнаму будаўніцтву і гэтым стала ў шэрагі будаўнікоў соцыялізму.

Мы маем і тое, што асобныя эпігоны ад буржуазна-кулацкай, нац. дэмократычнай літаратуры робяць спробы адыходу ад позыцый нац. дэмократычнай літаратуры і набліжэньня да нашае сучаснасьці (прыкладам, Максім Лужанін).

Працэсы павароту спадарожніцтва да пролетарыяту адбываюцца вядома ня так лёгка і хутка, як-бы гэта магчыма хацелася. Гэтыя працэсы адбываюцца часта вельмі і весьмі марудна і павольна. Прычынаю гэтаму служыць тое, што гэтыя працэсы павароту адбываюцца праз працэсы перабудовы псыхо-ідэолёгіі поэтаў-спадарожнікаў, праз працэсы перабудовы ўсяго іхняга псыхічнага ідэолёгічнага складу ў адпаведнасьці з задачамі і вымаганьнямі рабочае клясы ў рэконструкцыйны пэрыод. І зрабіць скачок адразу з царства панаваньня навыкаў і звычак дробна-буржуазнага псыхоідэолёгічнага складу ў царства поўнае перамог і панаваньня соцыялістычнай псыхолёгіі—гэта справа досыць доўгага часу. Нельга стаць адразу з спадарожніка стопроцантным пролетарскім поэтам. Для гэтага патрабуецца доўгая і ўпартая праца над аўладаньнем сьветапогляду пролетарыяту — дыялектычным матэрыялізмам, — вялікая праца над выкарчоўваньнем цэлага комплексу дробна-буржуазных звычак і наогул дробна-буржуазнае псыхолёгіі. Для гэтага неабходна пераварыць сябе ў катле пролетарскага колектыву. І гэтая праца—не малая і ня лёгкая праца. Гэта вялізарная праца, якую павінны прарабіць над сабою масы спадарожнікаў, што набліжаюцца да пролетарскае літаратуры. Пры набліжэньні да пролетарыяту і пролетарскай літаратуры перад спадарожніцтвам паўстае, як асноўная проблема, гэта проблема перабудовы, як галоўнага стымулу павароту спадарожнікаў у бок пролетарыяту і пэрспэктывы пераходу некаторых яго прадстаўнікоў шляхам гэтай перабудовы на рэйкі пролетарскай ідэолёгіі і гэтым самым у шэрагі пролетарскай поэзіі (літаратуры).

Проблема перабудовы для спадарожнікаў,—гэта ў пэўнай меры проблема пераходу на рэйкі пролетарскай літаратуры. Ступень разьвязаньня задачы перабудовы ў адпаведнасьці з запатрабаваньнямі рэконструкцыйнага пэрыоду,—гэта ступень дачыненьня спадарожніка да пролетарскай рэволюцыі, пролетарскай літаратуры. Ступеньню перабудовы азначаецца і месца спадарожніка ў нашу эпоху і вартасьць поэты ў дачыненьні да пролетарыяту. У сучасны момант перабудоваю рашаецца фактычна, і лёс поэты. Перабудуешся ў адпаведнасьці задачам рэконструкцыйнага пэрыоду—станеш у шэрагі барацьбітоў за выкананьне пяцігодкі, станеш і ў шэрагі пролетарскай літаратуры. Тым, хто ня здолее перабудавацца (незалежна ад таго, імкнуўся ці не імкнуўся перабудавацца) будзе пераможным поступам соцыялістычнага будаўніцтва адкінуты на задворкі эпохі, будзе згублены для нашае эпохі. Яго мейсца будзе мейсцам клясавых ворагаў пролетарыяту, ён будзе адкінуты ў варожы лягер.

Для здолеўшых перабудавацца адкрываюцца вялікія творчыя магчымасьці і пэрспэктывы. Усё больш набліжаючыся да сьветапогляду пролетарыяту, аваладваючы дыялектычным матэрыялізмам, становячыся саюзьнікам пролетарыяту і пераходзячы паступова ў шэрагі пролетарскай поэзіі, перад імі адчыняецца шырачэзны дыапазон творчага матэ-

рыялу нашае, выключнае па грандыёзнасьці, глыбіні і багацьці зьместу, эпохі.

Становячыся на рэйкі пролетарскай ідэолёгіі і авалодваючы пролетарскім сьветапоглядам, які найбольш адпавядае рэальнаму цячэньню рэчаіснасьці і найбольш правільна адлюстроўвае дыялектуку яе разьвіцьця, поэта набывае магчымасьць найбольш правільна і адпаведна рэчаіснасьці ўлавіць і адлюстраваць працэсы і тэндэнцыі руху гэтае самае рэчаіснасьці. Таму яго чакае вялізарны творчы росквіт.

Поэту, які ня здолеў перабудавацца на новы лад і стаць у саюзнікі пролетарыяту, чакае творчы заняпад, ідэолёгічна-творчы крызіс. Стаючы на ложным сьветапоглядзе клясы, якая знаходзіцца ў антагонізьме з новымі, штурмуючымі соцыялізм і рушаючымі капіталізм сіламі, стаючы на ложным сьветаразуменьні нельга правільна *пазнаваць* і ў поўнакроўных мастацкіх вобразах адлюстроўваць сапраўднасьць.

Толькі пролетарскі мастак, мастак, які стаіць на пролетарскім сьветаразуменьні, ці набліжаецца да яго, можа правільна пазнаваць сапраўднасьць, а пазнаючы, адлюстроўваць яе ў мастацкіх вобразах і праз іх актыўна ўдзейнічаць на процэсы разьвіцьця гэтае рэчаіснасьці і зьмяняць яе ў патрэбным для пролетарыяту кірунку. І гэта таму, што пролетарскае мастацтва, у тым ліку і пролетарская поэзіі, у аснове якое стаіць сьветаразуменьне пролетарыяту—гэта значыць вышэйшая форма сьветаразуменьня чалавецтвам рэчаіснасьці—дыялектычны матэрыялізм,—зьяўляецца вышэйшай формай мысленьня (вядома, у вобразах) чалавецтва. Таму пролетарскае мастацтва і пролетарская поэзія найбольш прогрэсыўнае мастацтва. Таму і ягоных творцаў чакае нябачны росквіт, творчы ўздым. І таму, хто спрабуе рашуча парваць з сваім старым і наблізіцца да пролетарскай літаратуры, спрабуе перабудаваць і перабудоўвае сябе, пераходзячы ад спадарожніцтва да саюзьніцтва з пролетарыятам, сустракае толькі творчы росквіт і перспэктыва дасягненьня ўзроўню вышэйшага мастацтва ўсяго чалавецтва—пролетарскага мастацтва. Бязумоўна, перабудова разумеецца, як перабудова сапраўдная, сумленная, калі поэтаспадарожнік сапраўды шчыра, сумленна спрабуе ў штодзеннай практыцы пролетарыяту перарабіць сябе самога, сапраўды па-бальшавіцку біярэцца за выкарчоўваньне ў самім сабе, у сваёй псыхоідэолёгіі капіталістычных элемэнтаў, спрабуе набыць комуністычны сьветапогляд, імкнецца і дасягае сапраўднае пераробкі свайго псыхоідэолёгічнага складу на соцыялістычны лад, у адпаведнасьці з новымі задачамі, высунутымі рэконструкцыйным пэрыодам.

Сапраўдная перабудова, перабудова сябе выключае ўсе выгляды і прыстасаваньні пад новыя задачы, надворныя перафарбаваньні ў „чырвоны“ колер, фразавае пазёрства, вэрсыфікатарства. Неабходна не забываць на тое, што пад фразаваю „сто проц.“ ідэолёгічнаю „вытрыманасьцю“ над яе шыльдаю дробны буржуа часта хавае сваю ідэёвую пустату, ці варожую нам накіраванасьць. Консэрватыўнаму і варожаму дробнаму

буржуа, які ня здольны па сапраўднаму, арганічна перабудавацца на новыя соцыялістычныя рэйкі, часта і застаецца шлях прыстасаваньня, падхалімства, падробкі пры дапамозе гучнай ультра-р-ррэволюцыйнай фразы.

З гэткай халтурай, як формай наступленьня клясавага ворага на адным з франтоў клясавага змаганьня—поэтычным фронце—неабходна з усіх сіл змагацца, пры гэтым не забываючы, вядома, што галоўнай небясьпекай усё-ж такі зьяўляецца правая небясьпека—буржуазна-кулацкая рэакцыя ў мастацкай літаратуры. Па апошняй павінен наносіцца асноўны руйнуючы ўдар.

Поэтычнае спадарожніцтва, якое па-сапраўднаму перабудоўваецца, і само яе павінна прамінаць чырвонай халтуры і з усіх сіл змагацца з ёю.

Халтура павінна агнём і нагартаваным жалезам выпякацца дашчэнту, бо ў чытацкіх масах халтура толькі дыскрэдытуе пролетарскую і рэволюцыйна-савецкую літаратуру.

* * *

Спадарожніцкая і саюзьніцкая поэзія на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва сваёю творчасьцю спрабуе адлюстраваць процэсы соцыялістычнага будаўніцтва і клясавае барацьбы на вёсцы і ў горадзе, процэсы зацятае барацьбы новага, соцыялістычнага жыцьця з старым, капіталістычным. Іх творчасьць стаіць на баку новага соцыялістычнага, крышачы старое, выкарчоўваючы рэшткі капіталістычнага. Праўда, не заўсёды яшчэ спадарожны добра і правільна разумее соцыяльную законамернасьць гэтае барацьбы, яно не заўсёды яшчэ ясна ўяўляе і разумее кіраўнічую ролю пролетарыяту. Спадарожнік не заўсёды правільна разумее і адлюстроўвае ў мастацкай творчасьці кіраўнічую ролю ленінскай комуністычнай партыі. У спадарожніцкай поэзіі не заўсёды яшчэ ясна акрэсьлена кіраўнічая роля пролетарскага гораду ў соцыялістычным будаўніцтве на вёсцы. Для спадарожніка характэрны часамі і некаторыя хістаньні ў суадносінах соцыяльных сіл вёскі і гораду. Але паварот асноўных мас спадарожніцтва да соцыялізму забясьпечаны. Масы спадарожнікаў у процэсе гэтага павароту становяцца *саюзьнікамі* пролетарскай літаратуры, гэта значыць, становяцца плеч по плеч з пролетарыятам у соцыялістычным будаўніцтве і толькі некаторыя рэшткі старога грузу, рэшткі старой псыхоідэолёгіі не дазваляюць ім насіць імя пролетарскіх поэтаў. У процэсе далейшае працы над сабою па лініі канчатковага выкарчоўваньня з псыхоідэолёгіяй гэтых рэштак старога і набыцьця пролетарскага сьветапогляду некаторыя з іх стануць у шэрагі пролетарскай поэзіі і заробяць сабе права на імя пролетарскіх поэтаў.

У беларускай поэзіі мы маем шэраг імён поэтаў-спадарожнікаў. Назавем хоць-бы гэткія імёны, як Пятро Глебка, Тодар Кляшторны, Уладзімер Хадыка, Валеры Маракоў, Крапіва, з маладзейшых паэтаў

Ю. Таўбін, Зьмітрок Астапенка, Аркадзь Куляшоў, і інш., але аб поэтычнай моладзі будзем казаць у адмысловым артыкуле. Спынімся на першых. Пачнем з Хадыкі, як поэта, які перабудаваўся параўнаўча менш, чымся іншыя з гэтых.

* * *

Уладзімер Хадыка сваім зборнікам „Суніцы“ прышоў у беларускую поэзію таленавітым сялянскім поэтаю, прынёсшы з сабою новы сьвежы сялянскі колёрыт, новую вобразнасьць—часамі з налётам імажынізму. Але Хадыка прынёс у беларускую поэзію мотывы не бядняцкае вёскі, якая ў сваіх асноўных масах складала апору рабочае клясы на вёсцы, а мотывы серадняцкага сялянства, прычым тае часткі, для якой найбольш характэрны хістаньні ад захапленьня прыходам новага жыцьця да спаду гэтага захапленьня і пераходу ад грамадзкай лірыкі да лірыкі вузка-асабовай, суб'ектыўнай. І ў гэтым месцы яна найбольш падатлівая розным уплывам.

Для таго сялянства, якое нарадзіла творчасьць Хадыкі, старое на заўсёды канула, беспаваротна зьнікнула. І поэта на працягу ўсяго часу ягонага творчага існаваньня аб гэтым шмат разоў сьмела прапяяў. Старое для яго згублена назаўсёды. Але за новае жыцьцё поэта ня здолеў ухапіцца ўсімі сваімі сіламі, ня здолеў знайсьці сабе пэўнае і сталае месца ў новым жыцьці будаўніцтва. Поэта ня здолеў уліцца ў струмень соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, да якога павярнуліся асноўныя бядняцка-серадняцкія масы. Поэта не ўхапіўся за лейцы новага. А далей, згубіўшы кантакт з новаю вёскаю наогул, яшчэ больш паглыбляецца ў вузка суб'ектыўна-асабовую лірыку, у беспрадметнае апяваньне свае „ўлюбёнае“. У гэты-ж пэрыод адрыву ад струменьню новага найбольш і адчуваецца на творчасьці Хадыкі ўплыў нацыянал-дэмократычных поэтаў—Я. Пушчы, Дубоўкі і інш. Уплыў народніцтва, нашаніўшчыны моцна адчуваецца на творчасьці Хадыкі пэрыоду 1927, 28, 29 г. г. Значны налёт нацыянал-дэмакратычных уплываў праяўляецца ў апоэтызаваньні Беларусі нацыяналістычнае ідэалізацыі старога дробна-буржуазнага сялянскага ўкладу, пры ігнараваньні соцыяльных матываў сёнешняга дню. Усё гэта робіць творчасьць Хадыкі гэтага пэрыоду творчасьцю хворай.

Творчы мэтад Хадыкі гэтага пэрыоду носіць адзнакі ідэалістычнага творчага мэтоду. Успрыйманьне сьвету носіць адзнаку нечага ня пэўнага, хісткага. Рэчы ў яго знаходзяцца пад вэлюмам нейкае імжы, туманнасьці. Соцыяльная супярэчнасьць рэчаіснасьці ў творчасьці Хадыкі гэтага пэрыоду вэлімуюцца туманным засьцілам, сьціраюцца. Некаторыя моманты прымаюць характар ідылічнасьці. Характэрным для ягонае творчасьці гэтага пэрыоду зьяўляецца на фоне ідэалізаванай, падсалоджанай прыроды малюнак ідыліі каханьня. Клясавая барацьба ігнаруецца.

Гэтакі хісткі, фактычна ідэалістычны, мэтод ляжыць у аснове ўсяе творчасьці Хадыкі і гэта, на жаль, тады, калі Хадыка—поэта таленавіты, поэта з досыць высокаю культураю. Хадыка глыбока ўдумлівы лірык. Ложны мэтод дае і сумныя вынікі: Хадыка далёка быў адыйшоў у права.

Але ў пераломным 1930 годзе Хадыкіна творчасьць пачынае ламацца. Хадыка пачынае ўсьвядомліваць неабходнасьць новых пуцін, неабходнасьць сыходу з старых сьцежак на новыя рэйкі. Аб гэтым гаворыць творчасьць поэты за апошні час. Хадыка ўсьвядомлівае патрэбнасьць перабудовы на новы лад. Хадыкіну творчасьць 1930 г. можна лічыць творчасьцю пераходніцкаю, пераломнаю і, бязумоўна, ні ў якім разе яе яшчэ нельга лічыць творчасьцю перабудаванаю ў адпаведнасьці з задачамі рэконструкцыйнага пэрыоду. *Хадыка* быў правым спадарожнікам. Зараз Хадыка зьяўляецца пераходнікам на новыя рэйкі, Хадыка паварочваецца да новых, выстаўленых рэконструкцыйным пэрыодам, задач. У процэсе гэтага павароту Хадыка пераходзіць шлях ад правага спадарожніка да левага спадарожніка.

Процэс перабудовы для Хадыкі праходзіць вельмі балюча і марудна. На поэту давіць цяжар старога патрыярхальнага, архаічнага, дробна-буржуазнага ўкладу вёскі. Вызваленьне з-пад гэтага цяжару праходзіць ня лёгка і не адразу:

„Я доўга ў памяці нёс хату
З зялёнай цьвільлю лебяды.
Памылка гэта ня выпадак
Так склалася мне на раду.
Ня дам сабе ніякай рады (...)
Не акапаюся ад дум" (...)

(„На ўзьбярэжжы дзён" Маладняк № 5, 1930 г.).

Вельмі глыбока ўрасла ў псыхалёгію гэтая бытнасьць і процэсы яе выкарчоўваньня для чалавека, які знаходзіўся ўвесь час у яе палоне, праходзіць надзвычайна цяжка:

„За ўзгоркам успыленых дарог
Стаяць прыжмураныя хаты.
Я берагу ім многа слоў
Гарачых, радасных, прарочых".

(„На ўзбярэжжы дзён")

Але моцна пусьціла ўжо карэньні і ўсьвядамленьне неабходнасьці разьвучаць іх:

„У двору кінуў я астояць
Свае няяграбныя радкі.
У асьветленыя далі вышаў—
І тое што пісаў я там,
Жыцьцё напорнае калыша
Мільёнам дробных шэрых пляы.

Я гэту зьяву усьвядоміў,
Ї крокам зглушанай хады
Ня стане сьніцца больш — на зломе
Суцень нябожчыцы — бяды".

(„На ўзьбярэжжы дзён").

У наступнейшых вершах гэтае ўсьведамленьне ідзе далей і становіць сабою адыход ад старога. Успамін старога становіць сабою і адмаўленьне яго:

„Прыгадалася, як пад сталом
Кошка злавіла мышку...
Прыгадаліся рысы хаты,
Кволай старэнькай бабкі.
Стыне на вуснах
Сьмех пузаты,
Мары бягуць
На пуховых лапках.
З гэтай былі
Я вырас неяк
Сталі іншымі—
Сны і пачуцьці
Ї далёкі ад хвіль _ зладзеяк,
*Болей ня прыду адчуць іх.*
Усё мінулае ў пэўным этапе:
Перажыта і пройдзена.
Палі,
Хто ня змог
За буравеем патрапіць,
Ї хто імкнуў—
Разбойнай,
Разгойданай
Атручанай
Хваляй
. . . . . . . .
Праз немарадь горда іду я,
Каб разам з аматарамі
Чорных падзей
*Пахаваць і песьню былую».*

(„Над драпежнаю чарадою",
„Узвышша", № 9-10, 1930 г.).

І поэта спрабуе накіраваць сваю творчасьць супроць ворагаў пролетарыяту. Шэраг вершаў накіраваны супроць контррэволюцыйных нацыянал-дэмократаў, як „Над драпежнай чарадою" і інш. Поэта пачынае спрабаваць сьпяваць свае песьні пра соцыялістычнае будаўніцтва, пра той творчы ўздым, што ахапіў працоўныя масы нашай краіны („На ўздымах", „Бой пераможных рад".) Усё старое, што замінае ў соцыялістычнай працы поэта заве аддаць на злом.

„Хай цераз нож пярэйдзе
Усякая тхлань старонья"...

(„На ўздымах", „Маладняк"
№ 11, 1930 г).

Адмаўленьне старога прымае досыць рашучыя і рэзкія формы, выліваецца ў актыўныя дзеяньні над сабою:

„Што аджыло—спалю,
Што не пасяг—змагу“.
(„Бой пераможных рад“ „Узвышша“ № 9-10, 1930 г.).

Поэта спрабуе, хай сабе покуль і ня ўдала, першы раз загаварыць пра рабочага. Поэта спрабуе пяяць пра разгон творчае працы, як вынік таго, што „тварам зямлі прабег клопат рабочых рук“... і што „пробе рабочай візы трэба вучыцца з моладу“ („На ўздымах“).

Поэта становіцца досыць пэўна на бок новага і заяўляе:

„Нам не захраснуць у праймах
І перашкод ня пудзіцца.
Скрухі старая плойма
Зьнікне, спадзе, забудзецца.
Стань, каб зямля зьвінела,
У сьвет—маладымі крокамі.
Прошласьць свой час адпела...

. . . . . . . .

Поўзае злыдзень п'ўкай
Ля маладой рэспублікі.
Толькі прыязьню шкоднай,
Пад халімажам плянавым
Даўняй зямлі лагоднай
Не аднавіць ім нанава.
У постацях іхных рупных
І далікатна згорбленых
Чую я сьмех падкупны,
Чую я плач падроблены.
Чую і веру: зможа
Край наш і (дбайны) выкрые
Гнёзды варон варожых
Злыбеды твары прыкрыя“.

Поэта спрабуе паставіць сябе ў шэрагі творцаў рэволюцыйнай поэзіі і сваю творчасьць накіроўвае на службу соцыялістычнай рэконструкцыі:

Зрух вякоў на ўсім адзначаны
па раскройцы плянаў
Небасхіл перайначаны,
Край збудован наноў
Абыходзіць трапна формамі
і найноўшым стылем
Край стары плячамі горнымі
Доле паў уцілем.
У скрынкі скінулі падагрыка,
Каб ня дарма, урэшце, згінуў.
На заводах і на фабрыках
Будзе сыравіна
Хай у агні будоўным корчыцца

Усё што прахам падупала
Пад нястрымны рост вытворчасьці
На ўздымах мужных, дбалых,
Не вярнуць журбу купальную
Адсьвяткованай забаве...
Беларусь індустрыяльную
Кожны дзень пяе і славіць.
У гэтых днёх—сівая спадчына—
Ліхвяры і падарэйкі—
Назаўсёды раскулачаны,
Закасованы навекі.
Ня стрымаць старна гісторыі
Ні маной, ні чорнай здрадай..."
(„На ўздымах").

Усё больш зьнікае і тая нявыразнасьць, няпэўнасьць, хісткасьць,—як рэцыдывы ідэалістычнага творчага мэтоду, які быў характэрным для ранейшай творчасьці Хадыкі.

Рысы рэчаіснасьці прымаюць большую выразнасьць, платнеюць. Сьветапогляд Хадыкі ўсё больш набывае матэрыялістычнасьці. Здаровая разважлівасьць, сьвядомасьць усё больш паглынаюць сабою элемэнты падсьвядома-стыхійнага, элемэнты эмпірыі. Самыя апошнія вершы, як „Радкі лірычнай песьні" („Полымя" № 1, 1931 г.), вершы ў „Маладняку" № 1, 1930 г. і інш., гавораць пра ўсё большы паварот Хадыкі тварам да нашай рэчаіснасьці, сьведчаць аб набліжэньні поэты да пролетарскай поэзіі. Зьнікаюць пэсымістычныя матывы, зьнікае беспрадметнасьць. Поэта сьпявае пра радасьць перамог соцыялістычнага будаўніцтва, пра радасьць соцыялістычнай працы:

„Гарыць на фабрыках,
Гарыць ў палёх—
Запал брыгад
Адданых і адважных".
(„Радкі лірычнай песьні").

Толькі яшчэ і цяпер залішне поэта концэнтруе ўвагу на ценях старога, на „прывідах" старога сьвету. Яны ў яго забіраюць залішне ўвагі і месца і гэтым самым часамі як-бы засланяюць сабою нашу творчую сучаснасьць. Дарэмна поэта часамі аддае зашмат месца гэтым ценям, хай сабе і з запэўніваньнем аб іх гібеньні і сьмерці. Праўда, гэтае залішняе аддаваньне ўвагі паказу старога, соцыяльна абумоўлена процэсам парываньня поэты з сваім былым. Мастак, які парывае з старым, у процэсе адпіхваньня ад гэтага старога, концэнтруе, згушчае фарбы гэтага старога для ўтварэньня яшчэ больш адштурхоўваючых вобразаў старога. Поэта кляйміць гэтыя вобразы ў згушчаных фарбах.

У Хадыкі вобразы свайго былога старога пераносяцца часамі на вобразы наогул старога аджыўшага сьвету. Інначай кажучы, концэнтрацыя і згушчэньне свайго старога сьвету, з якім Хадыка зараз парывае і ад

якога адыходзіць, у ягонай творчасьці пераходзяць, ператвараюцца ў вобразы класава-варожага нам сьвету, у вобразы варожых нам сіл. Таму і адштурхоўваюць яны ад сябе чытача, выклікаюць адмоўныя эмоцыі. Яны сваім згушчэньнем застаўляюць поэту ісьці па шляху ўсё большага і большага адштурхоўваньня ад свайго мінулага старога і ўліваццца сваёю творчасьцю ў разводзьдзе новай соцыялістычнай рэчаіснасьці.

Але залішняя концэнтрацыя ўвагі, залішняе аддаваньне мейсца згушчаным фарбам вобразаў старога сьвету—аж да зацямненьня іхнаю цеменьню вобразаў новага сьвету,—гэта ўжо зьява не станоўчага парадку. Пры тым, трэба зазначыць на тое, што гэтыя вобразы старога прымаюць часамі і вобразы нейкіх туманных зданяў, у пэўнай меры хвалююць поэту, выклікаюць нейкі спуг. Замест рашучае перамогі гэтых „прывідаў“ старога сьвету і канчатковага адыходу ад іх, поэта ў боязьні ня падупасьці пад іхні ўплыў, концэнтруе на іх увагу. У гэтым ужо для творчасьці поэты крыецца некаторая небясьпека звароту да старога, небясьпека рэцыдываў тэндэнцый гэтых старых „прывідаў“.

Залог поэтавай перамогі гэтае небясьпекі ляжыць у аканчальным выкарчаваньні старых псыхоідэолёгічных тэндэнцый у самім сабе і ў аўладаньні дыялектычным матэрыялізмам, у прасякненьні апошнім усяго свайго псыхоідэолёгічнага складу, у ўключэньні ў штодзённую творчую практыку пролетарыяту.

* * *

Перубудоўваюцца і поэты—Пятро Глебка і Тодар Кляшторны.

Пятро Глебка ў часы 26, 27 і 28 г. г. (часы зборніку „Шыпшына“ і поэтычнае дзейнасьці ва „Узвышшы“) і, знаходзячыся пад апекаю сваіх старэйшых сяброў па аб'яднаньню—Дубоўкі, Пушчы,—знаходзіўся пад значным уплывам нацыянал-дэмократычнае творчасьці гэтых поэтаў. Таму ў гэтыя часы Пятро Глебка дае шэраг вершаў, у якіх здаровыя юнацкія парываньні глушыліся нацыяналістычнымі матывамі. Адсюль і моманты бездарожжа, пэсымізму, блуканьня, няпэўна вызначаных мэт і сьцежак, разьбітасьць і беспрадметнасьць.

Спробу вызваліцца з-пад уплыву нацыянал-дэмократычных поэтаў не дае ў гэтыя часы належнага выніку Праўда, П. Глебка дае ў 1928 годзе шэраг вершаў (якія ў гэтым годзе вышлі асобным зборнічкам „Урачыстыя дні“), што крыху яго набліжаюць да пролетарскай поэзіі. Але мастацкая вартасьць гэтых вершаў ня высокая—скрозь павярхоўнасьць, схэматызм, штамп, выпіраючая на поверх тэндэнцыйнасьць. І гэта ў той час, калі на старонках „Узвышша“ друкуюцца Глебкавы нізкі вершаў, як „Краса маладосьці“, „Матчыны казкі“ і другія, у якія ўложана шмат эмоцыянальнасьці, пачуцьця, паэтавай шчырасьці, непасрэднасьці. У той час гэтыя апошнія вершы найбольш яскрава падкрэсьліваюць дробна-буржуазныя хістаньні, бездарожжа, пэсымізм поэты.

Толькі ў 1929 годзе намячаецца пэўны пералом у творчасьці П. Глебкі. Такія творы, як „У дарогу“ („Узвышша“ № 1, 1929 г.), „Хады падзей“ „Узвышша“ № 5, 1929 год), ды іншыя, кажуць аб пераломе.

Лінія пасоўваньня гэтага пералому дае далей такі значны поэтычны твор, насычаны патосам соцыялістычнага будаўніцтва, як поэма „Арка над акіянам“ („Узвышша“ № 1, 1930 г.).

Поэмаю „Арка над акіянам“ Пятро Глебка рашуча парывае з традыцыямі нацыянал-дэмократычнае поэзіі і рашуча становіцца на шлях адлюстраваньня і апяваньня соцыялістычнага будаўніцтва, на шлях служэньня сваёю творчасьцю пролетарыяту. Ад хісткага спадарожніцтва Пятро Глебка пераходзіць у шэрагі літаратурных левых спадарожнікаў, становіцца на позыцыі рэволюцыйнай творчасьці.

Тое-ж можна сказаць і пра творчасьць поэты Тодара Кляшторнага. Апошні на працягу ўсяе свае творчае дзейнасьці аж да 1929 г. сваёю творчасьцю зьяўляўся носьбітам нездаровых, упадніцкіх, богемскіх мотываў. Ягоная поэма „Калі асядае муць“, дзе шэраг вершаў, накшталт, „Ледзяной гітары“ і інш. насілі глыбока пэсымістычны, а таму ў поўнай меры варожы нашай сучаснасьці, характар.

Але 1929 і асабліва 1930 год для творчасьці Т. Кляшторнага зьяўляюцца гадамі пераломнымі.

Ужо ў 1929 годзе пачынаюць зьяўляцца асобныя вершы, якія гавораць аб некаторым пераломе ў творчасьці Кляшторнага, аб яго павароце да нашай рэчаіснасьці. У 1930 г. ужо зьяўляецца поэма „Сны“ („Узвышша“ № 1, 1930 г.), якая зьяўляецца паваротным творам у пераключэньні поэты на новыя позыцыі.

Поэмаю „Палі загаманілі“ („Узвышша“ № 5, 1930 г.) Тодар Кляшторны, як і Глебка сваёю „Аркаю над акіянам“, рэзка парывае з старым, сваёю старою ўпадніцка-пэсымістычнаю творчасьцю і пераключаецца на рэйкі рэволюцыйнай поэзіі,—пераходзіць на шлях адлюстраваньня клясавае барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва. Поэмаю „Палі загаманілі“ Т. Кляшторны пераходзіць з стану хісткага спадарожніка ў шэрагі поэтычных левых спадарожнікаў.

Поэмы „Арка над акіянам“ і „Палі загаманілі“ прасякнуты творчым запалам соцыялістычнага будаўніцтва, насычаны ўзьнятасьцю, патэтыкай гэтага будаўніцтва. Поэмы наскрозь прасякнуты ідэямі актыўнага ўзьдзейнічаньня на рэчаіснасьць творчае думкі чалавека-будаўніка. Ідэі падначаленьня і пераробкі стыхійных сіл прыроды дзейнасьці чалавека ў мэтах пераробкі рэчаіснасьці на соцыялістычны лад прасякаюць поэмы. У творах „Арка над акіянам“ і „Палі загаманілі“ бачна і кіраўнічая роля партыі соцыялістычным будаўніцтвам. Але, як у аднэй, так і ў другой поэмах усё-ж такі паказ кіраўнічай ролі партыі, як сьлед, не разгорнуты ва ўсю шырыню, як належыць, у поэмах правільна не разьвязана.

Так, заместа разьвіцьця ідэі, што самым актыўным чыньнікам і кіраўніком у справе выкрыцьця клясавага ворага зьяўляецца партыя і ком-

самол, у поэме „Арка над акіянам“ гэтая роля аддаецца ў рукі жонкі звар'яцеўшага інжынэра Яновіча—рэлігійна-гуманнай жанчыны Алісы. Роля апошняе зусім лішняя і непатрэбная для разгортваньня падзей, апісаных у поэме. Але Глебка, відаць, задумаў паінтрыгаваць чытача. Для гэтай мэты неабходна было стварыць інтрыгуючую фабулю. І вось клясавы вораг шкоднік Яцына, якому не ўдаецца пасьля сваіх шкодніцкіх дзеяньняў па падрыву социялістычнага будаўніцтва,—перабегчы мяжу, вымушаны хавацца ў лесе. Аліса, ведаючы (выпадкова аднойчы сустрэўшы яго ў лесе) аб месцы знаходжаньня клясавага ворага, доўгі час нікому не выдае яго, трымае ў сакрэце. Чаму? А таму, бачыце, што яе мучыць сумленьне выдаць *чалавека* (гэта нічога, што яўнага клясавага ворага і вінаваўца вар'яцтва яе мужа) на кару. І аўтар аддае шэраг старонак псыхолёгічнаму аналізу душэўных перажываньняў Алісы. Вакол гэтае „тайны“ концэнтруецца ўвага на працягу доўгага часу. І тут трэба сказаць, што адчуваюцца нават пэўныя і сымпатыі аўтара да гэтых перажываньняў, да Алісы наогул. Тут дробна-буржуазны гуманізм ня толькі Алісавы, але і аўтарскі змазаў клясавую непрымірымасьць да клясавага ворага пролетарыяту. Аўтар не заклеймім паступку Алісы, як капітуляцыі перад ворагам, як здрадніцкага паступку (тым больш, калі з поэмы відаць, што Аліса паходзіць з беднай батрацкай сям'і).

Гэтая рыса дробна-буржуазнага гуманізму, тэндэнцыя змазваньня клясавае ненавісьці па-за клясаваю „душэўную“ гуманнасьцю,—бясспрэчна нездаровы момант у поэме, які заслугоўвае рэзкай крытыкі (для ідэёвай вартасьці поэмы наогул не патрэбна тая концэнтрацыя ў другой частцы поэмы на псыхолёгічных момантах звар'яцеўшага інжынэра Яновіча, залупаньне ў ягоных снох і г. д. Не тыповы і не рэальны той факт, што адданы справе социялістычнага будаўніцтаа, інжынэр Яновіч у канцы вар'яцее і канчае самагубствам на пятлі, а яго ідэя пабудовы аркі над акіянам застаецца разбуранай. Для чаго гэта спатрэбілася аўтару? Невядома).

Аліса потым, праз „душэўныя“ мукі і хваляваньні выдае Яцыну. Ва ўсім гэтым важнае тое, што выкрыцьцё клясавага ворага ў поэме, паперше, падначалена выпадковасьці і залежыць ад выпадковага і не патрэбнага для поэмы гэроя Алісы. А дзе ж была класавая пільнасьць сакратара ячэйкі, ды партыйцаў наогул? Чаму яны ў свой час не маглі выкрыць шкодніцкую дзейнасьць намесьніка інжынэра—Яцыны, у той час, як шкодніцтва (хай сабе і ў нязначных на першых парах памерах) адбывалася на працягу доўгага часу?

Яшчэ горш па гэтай лініі ў поэме „Палі загаманілі“. Там вораг выкрываецца выключна дзякуючы толькі таму, што шкоднік-аграном перабытаў адрасы і ліст з яго шкодніцкімі намерамі, адрасаваны жонцы, пападае старшыні колгасу, ды яшчэ дзякуючы таму, што ў вусны папа Шалюты аўтарам укладзена казань, у якой ён (Шалюта), адракаючыся ад папоўства, выказвае і намеры шкоднікаў.

Выходзіць па поэме, што нават поп (!) і той дапамог справе выяўленьня (!) дзейнасьці клясавых ворагаў. А вось адносна партыйнага кіраўніцтва, кіраўнічай працы апошняга ў змаганьні з клясавым ворагам і сваячасоваму выяўленьню яго, дык... алах яго ведае (спала, мабыць!)

І гэта тыповае для спадарожніцкае поэзіі „разьвязаньне“ задачы паказу кіраўнічай ролі компартыі ў соцыялістычным будаўніцтве. Слаба выручаюць (не раскрытыя ў мастацка вобразным паказе) у такім выпадку і высока ўзьнятыя, патэтычныя, пафосам дыхаючыя радкі:

„На два франты падзелены сусьвет
На барыкадах боек соцыяльных.
. . . . . . . . . . . .
... Ня сыйдзе з клясавай мяжы
Загартаваная ўпартасьць пролетара.
  Мы
На шасьціне нашае зямлі
Усе масты да прошласьці спалілі,
І права
    Будаваць соцыялізм
Мы на франтох
    Пад кулямі купілі.
Тут СССР,
    Тут учарайшы раб
Глядзіць у будучыню сьветлымі вачыма,—
Тут—
    Рэволюцыі сусьветны штаб,
Тут—
    Пролетарская вялікая айчына.
Тут—
    *Непадкупны крок кіраўніка...*
*Компартыі сталёвая рука*
Вядзі скрозь штормы
    Трапна і упарта,
На ўдарны фронт
    Ударныя брыгады“.

Альбо паўтарэньне:

„Цяпер расьце ды шырыцца колгас.
Там *непадкупны крок кіраўніка.*
*Компартыі*
І сормаўца рука“.

Усе гэтыя словы прыстаўлены, як-бы зьверху, а не разгорнуты мастацка вобразным разгортваньнем дзей у поэме; яны не знайшлі выражэньня ў жывых гэроях поэмы. Таму слаба і пераконваюць яны.

З пункту гледжаньня дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтаду поэмы маюць вялікія недахопы. Недахопы творчага мэтоду, гэта, бясспрэчна, таксама і недахопы і сьветапогляду пісьменьніка.

Вітаючы поэмы „Арка над акіянам“ і „Палі загаманілі“, як спробы на конкрэтным, сучасным жывым матэрыяле разгарнуць шырокую палітыч-

ную канву, конкрэтных палотнаў, нельга не адзначыць рысы схэматызму павярхоўнасьці штампу.

Так, масы рабочых,—гэтых носьбітаў соцыялістычнага будаўніцтва, у Глебкі і колгасьнікаў, сялянства Кляшторнага—уяўляюць сабою шэрую, бясфарбную, аднародную масу, у якой губляюцца індывідуальныя асаблівасьці кожнага з іх. Асобныя з індывідуальнымі асаблівасьцямі гэроі ў поэмах не выдзяляюцца, супярэчнасьці, закладзеныя ўнутры гэтае-ж масы, змазваюцца, сьціраюцца. Тут гэроі ў дыялёгах усе як адзін толькі і гавораць, што расьпяваюць „оды". Стыль дыялёгаў у абедзьвюх поэмах одычны і зьмест іх адзін:

„—Усё падолеем і зможам..."

У поэме „Палі загаманілі" няма і знаку паказу змаганьня ў псыхоідэолёгіі селяніна двух пачаткаў—уласьніцкага і колектывісцкага—і перамаганьня ўпартай барацьбы апошняга над першым. Ідэялістычна-матэрыялістычны творчы мэтод уключае ў сябе толькі супярэчлівы, паказ, паказ супярэчлівы, процілеглых тэндэнцыі ў іх дыялектычным адзінстве.

У абедзьвюх поэмах з аднаго боку правільна дадзена соцыяльная характарыстыка клясаваму ворагу. Клясавы вораг пролетарыяту, пэўныя буржуазныя колы ў часы нэпу, трымаючы надзею на мірнае перараджэньне пролетарскае дыктатуры і савецкае ўлады ў буржуазна-дэмократычную дзяржаву, лёяльна аднесліся да факту існаваньня савецкае ўлады. Але мяняецца час. Рэконструкцыйны пэрыод, узмоцненае соцыялістычнае наступленьне канчаткова рушаць надзеі на рэстоўрацыю капіталізму мірным шляхам. Клясавы вораг пераходзіць у контр-атаку пераможнаму ходу соцыялістычнага наступленьня, ён пераходзіць да адчайнага супраціўленьня гэтаму будаўніцтву. Гэта досыць добра відаць з дыялёгу Яцыны:

—„Чакаў я ўсё дагэтуль перамены:
Душу і сэрца ўкладваў у руіны,
Каб з іх стварыць навекі неадменны
парадак—лад загубленай краіны.
—Каб так, што робіцца ў сям'і паліпаў,
ўсё, што зрушана і зрабавана,
ізноў аднавіць у працы сьціплай
і здаць таму, ў каго яна забрана.
— Я жыў адзінай думай і надзеяй
што дасягненьні вашы мы падлічым
што ажывуць, разгорнуцца надзеі...
І вось насіў я маску на абліччы.
— Але цяпер...
Надзеі гаснуць, думы аблятаюць
і кожны крок наперад—непакоіць...
— Я... вырашыў,.. пакуль хапае сілы,
Змагацца з ворагам... з пролетарыятам..."

Тое-ж гаворыць і аграном у поэме „Палі загаманілі“:

„Я далёкія громы адчуў,
Я адчую, што на вогнішчы Рыму
Не адродзіцца спалены Рым.
. . . . . . . .
А таму
Вось патрэбна цяпер
Нам агонь пачынаць з рубікону“...“

Альбо вось яшчэ Яцыніны словы на судзе:

—„Калісьці даўно мы ня кепска жылі,
Ня так, як усе хутаране:
Меў бацька чатыры валокі зямлі,
Якія нядаўна забраны...
— Тады мне й падаўся задуманы плян
Вар'яцтвам усёй пяцігодкі...
Мы ўсклалі надзеі свае на сялян,
Чакалі, што будзе паводка—
І ўсё захлынецца само-па-сабе,
бяз нашых учынкаў актыўных.
А вёска жыла, і расьлі ў барацьбе,
Мацнелі штодзень колектывы
У гэтым я ўбачыў пагібель сваю,
Стаў дзейна, актыўна змагацца“...“

Але тым, што гэтыя словы ўкладзены ў вусны саміх клясавых ворагаў і што апошнія самі сабе даюць такую выкрываючую іх твар характарыстыку, гэтыя вобразы клясавых ворагаў носяць крыху спрошчаны, няпраўдападобны характар. Па-другое, клясавы вораг не паказаны тут у дзеяньні і ва ўсіх апасродкаваньнях. Тут адсутнічае нават і намёк на паказ тае кулацкае масы, якая стаіць за плячыма гэтых кулацкіх агэнтаў—Яцыны з „Аркі над акіянам“ і агранома з поэмы „Палі загаманілі“. Яцына і аграном выступаюць як нейкія адзінкі, асобныя кулацкія інтэлігэнты, абстрагаваныя ў дзеяньні да індывідуалісцкасьці; за імі ня бачна соцыяльна-клясавых сіл, якія складаюць іх соцыяльную апору. У гэтым недахопы творчага мэтоду Глебкі і Кляшторнага.

Ня гледзячы на ўсе гэтыя недахопы, „Арка над акіянам“ і „Палі загаманілі“ для П. Глебкі і Т. Кляшторнага адчынілі зусім рэальныя магчымасьці стаць саюзьнікамі пролетарскае поэзіі. А гэта можа стацца толькі пры аўладаньні пролетарскім сьвета-разуменьнем, пры аўладаньні матэрыялістычным творчым мэтодам, толькі тады, калі яны поўнасьцю ўключацца ў штодзённую будаўнічую практыку пролетарыяту і аддадуць усе свае сілы, здольнасьці і веды на карысьць соцыялістычнаму будаўніцтву. Толькі ўдзелам у штодзённай будаўнічай практыцы пролетарыяту ў соцыялістычным будаўніцтве, актыўным удзелам у процэсах пазнаньня і зьмены рэчаіснасьці пролетарыятам, процэсах, у якіх знаходзяць дыялектычнае адзінства тэорыі і практыкі пролетарыяту, забясьпечваецца пераход гэтых спадарожнікаў у саюзьнікі і далей, на рэйкі пролетарскай поэзіі.

* * *

Як абстаіць справа з маладым поэтаю-спадарожнікам Валерыям Мараковым? У свой час паміж Мараковым і Т. Кляшторным было шмат агульнага. Абое знаходзіліся пад уплывам упадніцкае, пэсымістычнае поэзіі. Для абоіх былі ўласьцівы дробна-буржуазныя хістаньні паміж пролетарыятам і дробнай буржуазіяй. Гэтае хістаньне знайшлі найбольш поўнае сваё выражэньне ў глыбока ўпадніцкіх творах—„Калі асядае муць“ Кляшторнага і „Маей поэме“ В. Маракова, хоць, бясспрэчна, знак роўнасьці паміж гэтымі творамі і нельга ставіць.

Далей абое паступова пад уплывам пераможнага поступу соцыялістычнага будаўніцтва—вызваляюцца з-пад улады пэсімістычных упадніцкіх матываў. Кляшторны, як мы ўжо вышэй гаварылі, дае шэраг твораў карысных соцыялістычнаму будаўніцтву. Спрабуе і перабудавацца Валеры Маракоў. Поэта дае поэму „Зямля бунтуе“, у якой спрабуе адлюстраваць процэсы клясавае барацьбы на вёсцы ў разгар колектывізацыі.

Але гэтаю поэмаю поэта ў пэўнай ступені церпіць паражэньне. Маракоў ня здолеў даць поўнакроўнага і сапраўды мастацкага, поэтычнага выражэньня мотываў соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы, ня здолеў выразіць яго ва ўсёй глыбіні і складанасьці. Атрымаўся тандэтны, слаба мастацкі твор. Ї гэты правал абумоўлены галоўным чынам сьветапоглядам. Тут выявілася тое, што стаўкаю на эмоцыю, выключна на пачуцьцёвую стыхійнасьць,—а творчы мэтад Валерыя Маракова менавіта стаўку на пачуцьцёвую стыхійнасьць, інтуіцыю, а не на сталую сьвядомасьць мотывамі рэконструкцыйнага пэрыоду аўладаць нельга. Патрэбна выпрацаваны сьветапогляд. Ї толькі асьвятляючы творчы матэрыял сьвятлом гэтага сьветапогляду, мажліва аўладаць тэматыкаю сёнешняга дню. Патрэбна політычная пісьменнасьць. Адсутнасьць гэтага і стаўка на стыхійную інтуіцыю і дала пэўны правал.

Маракоў павінен стаць на шлях перабудовы свае творчасьці ў адпаведнасьці з задачамі рабочае клясы. Для гэтага патрэбна галоўным чынам упартая праца над сваім сьветапоглядам. Праца па аўладаньні пролетарскім сьветаразуменьнем. Покуль-што належнае перабудовы ў творчасьці Маракова ня бачна. Крытыкаю належным чынам ня дадзена ацэнка творчасьці Маракова, ня ўскрыты яе хібы. Ї знаходзяцца яшчэ людзі, якія заместа дапамогі і спрыяньня перабудове поэты на новыя рэйкі, затрымліваюць гэтую перабудову. Так, на старонках, часопісі „Полымя“ (№ 1, 1931 г.) нейкі Эд. Галубок у бязглуздай „рэцэнзіі“ на „Вяршыні жаданьняў“ піша, што творчасьць Маракова зараз характарызуецца „выразна выяўленымі настроямі рэволюцыйнасьці (!) барацьбы (!). Далей у позе прарока гэты-ж „рэцэнзэнт“ заяўляе, што Маракоў „больш ня вернецца(?) да апяваньня нуды, што гэта за „нуда“? У. С.) і ня будзе (?) даваць больш месца разважаньням аб тым, што Маракоў пагрузіўся ў тэмы абывательшчыны і мяшчанства, у перадачу іх настрояў і ідэй (!??)“. Назваўш

Маракова поэтам „перавыхаваным“, „рэцэнзэнт“ заяўляе, што „маладыя поэта стаіць на правільным (??!) шляху“. Гэта значыць, Маракову не патрэбна ніякая там „перабудова“; зачым яна, толькі будзе замінаць,— Маракоў-жа „стаіць на правільным (!?!) шляху“,—ну то чаго вы болей хочаце ад яго?

Мы прывялі адзін прыклад таго, як часта заместа дапамогі, перашкаджаюць пераходу спадарожнікаў на новыя рэйкі, як часта супыняюць процэс перабудовы пісьменьніка-спадарожніка, як хвалебнымі дыфырамбамі затрымоўваюць перабудову спадарожніка на шлях рэволюцыйнай творчасьці. А такіх фактаў можна прывесьці безьліч. Неабходна абвясьць самую рашучую барацьбу супроць такой „хвалебна дыфырамбнай“ „крытыкі“, якая толькі перашкаджае разьвіцьцю рэволюцыйнай літаратуры, шкодзіць ажыцьцяўленьню задач па пераводу спадарожніцкіх і сялянскіх пісьменьнікаў на пралетарскія рэйкі.

* * *

Сатырычная поэзія ў беларускай савецкай літаратуры прадстаўлена амаль адзіным сапраўдным яе прадстаўніком—гэта Крапівою.

Набліжэньне апошняга да пролетарскай літаратуры выразілася шэрагам сатыр-баек і ягоным апошнім творам—казкаю „Хвядос чырвоны нос“ (Узвышша, № 6, 7, 8, 9—10, 1930 г.). У апошнім творы аўтар востраю сатыраю бічуе хворыя бакі нашай рэчаіснасьці, накіроўваючы свой біч і супроць беларускага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму і ягоных агентаў ад маст. літаратуры.

Крапіва вызваляецца з-пад палону таго нездаровага напрамку, які была прыняла ягоная творчасьць у часы знаходжаньня ў олімпійскім балоце Бабарэкаў, Пушчаў, Дубоўкаў і К-о. Зьнікае паступова тое выветрываньне соцыяльнае каштоўнасьці Крапівінай творчасьці, якое пачалося было ў гэтым балоце. У гэтым залог пераходу Крапівы на рэйкі саюзьніцтва з пролетарыятам і пролетарскай літаратурай.

## 4. Пролетарская беларуская поэзія

Беларуская пролетарская поэзія пачала сваё разьвіцьцё ад Кастрычніка. Кастрычніцкая пролетарская рэволюцыя, высунуўшы на гістарычную арэну новага кіраўніка культурнага будаўніцтва—пролетарыят, адчыніўшы магчымасьці культурнага будаўніцтва для, раней прыгнечаных і ня меўшых на яго правоў, кляс і нацыянальнасьцяй, стварыла матэрыяльныя і моральныя ўмовы для нараджэньня і квяцістага разьвіцьця беларускае пролетарскае поэзіі, як беларускай пролетарскай літаратуры наогул.

Толькі Кастрычнік нарадзіў беларускую пролетарскую поэзію. Толькі ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту і пад кіраўніцтвам компартыі на Беларусі стварылася і расквітнела пролетарская поэзія. Самім фактам

існаваньня і разьвіцьця беларускай пролетарскай поэзіі былі біты ўсякія нацыянал-дэмократычныя гора-тэорыі аб немагчымасьці існаваньня пролетарскай літаратуры на Беларусі. Усякія нацыянал-дэмократычныя „угрунтаваньні“ (накштгалт байковага, клейнбортавага, купцэвічавага і інш.) гэтых „тэорыек“ тым, што, быццам, Беларусь—старонка „самабытная“, архаічна-дзядоўская, выключна сялянская,—што ў ёй няма ні пролетарыяту, ні буржуазіі, ні кулацтва і г. д,—дашчэнту разьбіты ня толькі тэорэтычнаю думкаю марксыцкае крытыкі, але і самім фактам існаваньня гэткіх імён беларускае пролетарскае поэзіі, як Чарот, П. Трус, Александровіч і інш., ды цэлага шэрагу маладзейшых пролетарскіх і блізкіх да пролетарскае поэзіі рэволюцыйных поэтаў, як Броўка, Салагуб, Хведаровіч, Звонак, і цэлы шэраг іншых. Растуць новыя імёны пролетарскае і рэволюцыйна-саюзьніцкай беларускае поэзіі з радоў рабочае клясы, ударнікаў, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства. Пясьпяховае выкананьне і перавыкананьне пяцігодкі ў чатыры гады і рост на гэтай аснове культурных магчымасьцяй пролетарыяту, творчы ўздым працоўных мас увальлюць цэлыя струменьні новых сьвежых сіл у шэрагі творцаў беларускай пролетарскай поэзіі.

Усё гэта ўяўляе сабою лепшы адказ спробам контррэволюцыйных беларускіх нацыянал-дэмократаў супыніць пераможны поступ будаўніцтва соцыялістычнай поэзіі і соцыялістычнай культуры наогул. Дзейнасьць нацыянал-дэмократаў у поэзіі атрымала належны адпор практычнаю дзейнасьцю самое пролетарскае беларускае поэзіі, творчасьцю пролетарскіх рэволюцыйна-спадарожніцкіх беларускіх поэтаў.

### 5. У барацьбе за дыялектычна-матэрыялістычны творчы мэтод пролетарскай поэзіі

Пытаньне творчага мэтоду пролетарскай літаратуры, мастацкага мэтоду поэзіі ў сучасны момант стаяць у асяродку ўвагі ўсяе літаратурнае грамадзкасьці Савецкага Саюзу, пытаньне творчага мэтоду сталі ў апошні час у асяродак увагі ва ўсіх спрэчках, дыскусіях, нарадах і ў пытаньнях шляхоў савецкага тэатру, музыкі і наогул усяго савецкага мастацтва. Творчы, мастацкі мэтод—вось стрыжань усіх зараз спрэчак у пытаньнях савецкага мастацтва. І гэта зусім законамерна, бо тыя зрухі, якія адбыліся і адбываюцца ў нашай краіне—узмоцненае соцыялістычнае наступленьне на ўсіх франтох, выкарчоўваньне рэштак капіталістычных элемэнтаў, як у самой экономіцы, гаспадарцы, гэтак і ў самім чалавеку, будаўніку, носьбіту новага, соцыялістычнага,— факт нашага ўступленьня ў пэрыод соцыялізму—ня могуць праходзіць без надзвычайна ўзмоцненай клясавай барацьбы і ўсё большага і большага абвастрэньня яе, што становіць перад мастацкай літаратурай новыя задачы.

Гэтыя задачы яна зможа выканаць толькі пры ўмове поўнай перабудовы сваіх шэрагаў і заваяваньня дыялектычна-матэрыялістычнага

творчага мэтоду, толькі пры ўмове поўнага аўладаньня дыялектычна-матэрыялістычным сьветапоглядам і непарыўна з гэтым *дыялектычна-матэрыялістычным сьветаадчуваньнем* і сьветаўспрыйманьнем, пры ўмове прасякненьня марксызмам-ленінізмам усяе творчае працы пролетарскага творцы, пісьменьніка, поэты.

Пролетарскае мастацтва творыцца на аснове адзінага творчага мэтоду — дыялектычна-матэрыялістычнага мэтоду. Гэта прызнаецца бясспрэчным усімі, каму дорага справа пабудовы пролетарскага мастацтва, хто справу будаўніцтва пролетарскай літаратуры лічыць сваёю справаю.

У сучасны момант спрэчак адносна прыгоднасьці ці няпрыгоднасьці мэтоду дыялектычнага матэрыялізму для пролетарскай мастацкай літаратуры, адносна таго, зьяўляецца ці не зьяўляецца адзіным творчым мэтодам пролетарскага мастацтва дыялектычны матэрыялізм—ня можа быць. Разыходжаньняў па гэтай лініі ў межах пролетарскай літаратуры ня можа быць. Усе спрэчкі па пытаньню творчага мэтоду стыкаюцца ў адну лінію—лінію філёзофіі пролетарыяту—дыялектычнага матэрыялізму. Пытаньне прымае проблематычны характар, адкуль і ўсе разыходжаньні ў пытаньнях творчага мэтоду, тады, калі прыходзіцца стыкнуцца з конкрэтызацыяй, з конкрэтным раскрыцьцём дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтоду.

У прыстасаваньні да гэтага спэцыфічнага матэрыялу, як мастацкая літаратура, поэзія, і менавіта ў гэтым, у конкрэтызацыі—дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтоду да спэцыфікі мастацкай літаратуры ляжаць усе цяжкасьці, адкуль і ўсе разыходжаньні і спрэчкі. І калі ў тэорэтычным асмысьленьні гэтае проблемы ляжаць вялізарныя цяжкасьці, то ў конкрэтна-вобразнай мастацкай творчасьці перад мастаком паўстаюць яшчэ больш непадатныя цяжкасьці ў аўладаньні і перамозе якіх павінна ў значнай ступені дапамагаць крытыка хоць-бы сабе крытычным разборам і ацэнкай мастацкай продукцыі, якая маецца ў скарбніцы беларускага мастацкага слова (уключаючы сюды ўсе плыні беларускай літаратуры, поэзіі) пад кутом зроку дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтоду (вядома не адрываючы яго ад соцыолёгічна-публіцыстычнай і мастацкай ацэнкі наогул).

Конкрэтызацыя лёзунгу барацьбы за дыялектычна-матэрыялістычны мэтод пролетарскай мастацкай поэзіі павінна праходзіць пад знакам барацьбы супроць асноўнае правай небясьпекі—буржуазнай стыхіі нацыянал-дэмократычнага націску вяліка-дзяржаўнага шовінізму, супроць буржуазнага і дробна-буржуазнага перараджэньня некаторых шэрагаў, нават і блізкіх некалі да пролетарскай поэзіі, супроць уплываў варожых настрояў на асобныя рады і пролетарскай поэзіі, супроць спаўзаньня іх з баявых клясавых позыцый пролетарыяту. Гэтая барацьба супроць асноўнай небясьпекі—правай, буржуазна-кулацкай небясьпекі, зусім ня здымае, а наадварот, абумоўлівае ўзмацненьне барацьбы супроць другое

формы наступленьня клясавага ворага ў поэзіі—гэта супроць прыстасаваньня, халтуры, падробкі пад „чырвоны колер“ бо *„задача борьбы за художественное качество включает в себя прямой поход против халтуры, против приспособленчества, которое наблюдается по всему фронту поэзіі.* Приспособленчество многим кажется формой мимикрии, а между тем, это есть не форма мимикрии, а форма наступления классового врага. Нужно уметь за приспособленчеством раскрыть форму наступления классового врага“ (з прамовы таварыша Л. Авербаха на Ўсерасійскай вытворчай поэтычнай нарадзе ад 18 студзеня 1931 г.). У нетры пролетарскай поэзіі па гэтай лініі барацьба за матэрыялістычна-дыялектычны творчы мэтод поэзіі павінна весьціся супроць вульгарнага спрошчанага разуменьня лёзунгу актуальнасьці і патрабаваньня палітычнай завостранасьці, супроць схэматызму, штампу, супроць павярхоўнага коўзаньня па паверхні зьяў бяз унікненьня ў сутнасьць зьяў, у сапраўднасьць ва ўсёй яе конкрэтнасьці, складанасьці. Ня трэба забываць, што схэматызм, штамп, голая фраза, павярхоўнасьць, бразганьне гучнымі, але пустымі па сутнасьці, словамі, романтычна-патэтычная, а па сутнасьці ходульная, фразэолёгія зьяўляецца нічым іншым, як формай прыкрываньня дробна-буржуазнага нутра поэты нічым іншым, як за прыкрыцьцём дробнага буржуа свае боязьні спусьціцца да нізін нашае, багатае конкрэтным зьместам, творчае рэчаіснасьці, баязьні дробнага буржуа рознастайнасьці, складанасьці поўнае супярэчнасьцяй, перапляценьня ўзаемна-процілеглых тэндэнцый, барацьбы нашай конкрэтнай сучаснасьці. Схэматызм, штамп гаворыць толькі аб ідэёвай і мастацкай пустаце поэты гэтага рангу, гаворыць аб ягонай няздатнасьці быць поэтам найвялікшай у сьвеце эпохі, эпохі рашучай схваткі двух сьвеаў—капіталістычнага і соцыялістычнага і перамаганьня першага апошнім, гаворыць аб адмаўленьні ісьці па шляху найбольшага супраціўленьня—па шляху разьвязаньня складанасьці нашай сучаснасьці і гэтым разьвязаньня задач поэзіі, што пастаўлены перад апошняю гэтай складанасьцю сапраўды мастацкімі поэтычнымі сродкамі.

А прад поэтаю ляжаць дзьве пуціны—адна пуціна найбольшага супраціўленьня, другая—найменшага супраціўленьня. І выбарам пуцін будзе вырашацца вартасьць поэты.

Пролетарскі поэта выбірае бясспрэчна пуціну найбольшага супраціўленьня, шлях дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтоду. Творчы мэтод пролетарскай поэзіі рашуча адкідае „мэтод“ лякіроўкі рэчаіснасьці, „мэтод“ замазваньня супярэчнасьцяй, загладжваньня вострых кутоў і г. д. Пролетарскі поэта глядзіць у корань зьяў, рашуча адкідаючы павярхоўнасьць, сьлізганьне па паверхні зьяў.

Лірычная поэзія розьніцца ад прозы перш за ўсё тым, што ў прозе пісьменьніка перш за ўсё цікавіць об'ектыўны паказ рэчаіснасьці, паказ чалавека (новага ці старога), у той час, як у лірычнай поэзіі новы (у пролетарскай поэзіі) ці стары чалавек гаворыць сам ад сябе, расказвае пра

сябе, дае мастацкі вобраз самога сябе. Лірычная поэзія таму носіць характар суб'ектыўны, унутраны, характар выражэньня самога сябе. Праўда, адсюль бязумоўна не выцякае, што быццам-бы поэзія павінна насіць індывідуалістычны характар (у звычайным і горшым разуменьні індывідуалістычнасьці). Зусім, не. Расказаць пра самога сябе—зусім ня значыць культываваць індывідуалістычнае псыхакалупаньне. Пролетарская літаратура (і поэзія) ёсьць літаратура (і поэзія), якая выражае сьветапогляд сваёй клясы, псыхоідэолёгію пролетарыяту, якая організуе волю і сьвядомасьць чытачоў у бок соцыялізму. Таму ўсё тое, што складае псыхоідэолёгію ўсяе клясы, зьяўляецца ў поўнай меры ўласьцівым і кожнай асобнай каморцы гэтае клясы—кожнай індывідуальнасьці, кожнай асобе. І таму расказаць пра самога сябе, гэта значыць адначасова расказаць і пра ўсю клясу, бо агульнае праяўляецца праз асобнае, індывідуальнае, а апошняе ў складанасьці складае агульнае. Гэта добра выразіў, па-мойму, Ермілаў: „Пролетарскія пісьменьнікі не баяцца расказаць пра саміх сябе, г. ё. пра сваю клясу таму, што складанасьць той асобы, якую выяўляюць пролетарскія пісьменьнікі, ня мае нічога агульнага з інтэлігенцкай „складанасьцю". Складанасьць асобы, належачай да пролетарскага колектыву, выяўляецца ў тым, што асоба гэта пропорцыянальна ўсё больш шырокаму і актыўнаму ўздыму ў грамадзкай практыцы сваёй клясы, усё больш ускладняецца, абгачваецца і расьце. У нас асоба абагачваецца і пашыраецца з кожным днём, усё больш убіраючы ў сябе ўсю практыку свае клясы і асмысьліваючы яе тэорыяй, і тым вышэй асоба нашага колектыву, чым больш яе „асабовыя" проблемы супадаюць з проблемамі клясы, становяцца проблемай клясы. Таму пролетарскаму пісьменьніку няма асноў баяцца расказаць пра самога сябе"[1]).

„Толькі індывідуалістычна настроены дробны буржуа можа думаць, што расказаць пра самога сябе—значыць культываваць асабовыя настроі і пачуцьці. Пролетары, які расказвае пра самога сябе, расказвае не пра асабовыя пачуцьці і настроі, а пра пачуцьці і настроі асобы, органічна зьлітай са сваім колектывам, якая не супроцьставіць сябе колектыву, а расьце і абагачваецца разам з ростам і абагачэньнем практычнага і тэорэтычнага вопыту гэтага колектыву"[2]).

Пролетарская лірычная поэзія гэта поэзія новага, соцыялістычнага чалавека, гэта поэзія пролетарыя, будаўніка, які расказвае пра самога сябе, г. зн. выражае, у лірычнай, *пачуцьцёвай* форме *думкі*, узьнікаючыя ў практыцы соцыялістычнага будаўніцтва, *думкі поэтычна перарошыя ў пачуцьці, зьлітыя з пачуцьцямі*. Выходзячы з гэтага вызначэньня спэцыфікі поэзіі, неабходна не забываць на тыя цяжкасьці, што ўзьнікаюць у поэтычнай практыцы і тыя небясьпечныя адхіленьні ад гэтага адзіна-правільнага вызначэньня спэцыфічнасьці лірычнай поэзіі.

---

[1]) „Наши творческие разногласия", ст. 65—66.

[2]) Тамсама, ст. 66.

Адхіленьні могуць быць дваякага роду: па-першае, у бок голае рассудачнасьці, голага рацыяналізму, якое сваім выхінам дае схэматызм, штамп, спрошчанасьць, пустую фразавую рыторычнасьць і г. д., па-другое, адхіленьне ў бок адданьня перавагі падсьвядомаму, інтуіцыі, выключна ўнутранаму пачуцьцю, сьветаадчуваньню, ігноруючы сьветапогляд, сьвядомую дзейнасьць, дзейнасьць ідэолёгіі, політыкі, адмаўляючы гегемонію дыялектычна - матэрыялістычнага сьветапогляду, аддаючы догмат падсьвядомай сфэры чалавека, іначай кажучы,—спаўзаньні да рэакцыйнай тэорыі інтуіцывізму Варонскага, спаўзаньне з клясавых, комуністычных рэек да контррэволюцыйнай Вароншчыны (і Праверзеўшчыны). І трэба сказаць, што ў Беларусі мы мелі не праявы Варонщчыны, але і цэлыя сыстэмы, якія ў сваім разьвіцьці змыкаліся з беларускім контррэволюцыйным нацыян.-дэмократызмам як у тэорыі, гэтак і ў практыцы беларускай поэзіі.

Беларускія нацыянал-дэмократы з усіх сіл змагаліся супроць уплываў комуністычнай ідэолёгіі, супроць уплываў марксыцка-ленінскага сьветапогляду. У гэтай барацьбе яны выкарыстоўвалі ўсе сродкі ў мэтах адпору комуністычнай ідэолёгіі, бальшавіцкай сьвядомасьці, яны хапаліся і за Варонщчыну. Прапаведваючы догмат інтуіцыя, падсьвядомага яны гэтым самым імкнуліся адгарадзіцца ад *насову* на іх комуністычна-бальшавіцкага, сьвядомага марксыцка-ленінскага сьветапогляду. Гэтак, да прыкладу, літаратурны агент ад нацыянал-дэмократызму—Язэп Пушча ў сваім артыкуле ва „Узвышшы“ № 1 за 1929 год—„За стыль эпохі“—пакепліваючы з беларускай пролетарскай поэзіі і беларускай пролетарскай культуры наогул, пісаў: „На першым месцы ў поэта, пісьменьніка, мастака, композытара павінны быць творча-мастацкія актыўнасьці (!?), ён не павінен іх *заглушаць халоднымі развагамі розуму* (гэта значыць, пераводзячы на простую мову, бальшавіцкай пролетарскай сьвядомасьцю, не заглушаць“, значыць нацыянал-дэмократычная „творча-мастацкая актыўнасьць“ уплывалі, ненавісная Я. Пушчу, комуністычнай ідэолёгіі.—У. С.), якія адзін крок, і прывядуць да надуманасьці (гэта значыць да пролетарскага характару творчасьці—У. С.). Няхай творы лепш будуць авеяны *наіўным (?) дзіцячым* (!) *характарам* (гэта значыць, самабытна-беларускім, патрыярхальна-кулацкім духам—У. С.), як разважальнымі (!) патугамі (!). Няхай творчасьць вырываецца з гарачага нутра (з нацыянал-дэмократычнага самабытніцтва—У. С.), а не з цяжкай (!) галавы“.

З мэтаю гэтага-ж самага адпору ўплывам комуністычнай ідэолёгіі Пушча даводзіць, што „крытыка найчасьцей больш (!) рэакцыйная (!?) ад творчасьці поэты, гэта ўжо асаблівасьць яе характару“.

Перад намі яскравы прыклад таго, як рэакцыйная Варонщчына працягвалася і спалучалася з контррэволюцыйнай работай беларускіх контррэволюцыйных нацыянал-дэмократаў у іх барацьбе супроць беларускае пролетарскае літаратуры і культуры. Уся поэтычная практыка розных

Пушчаў, Дубоўкаў і К-о, служачы гэтай справе, ішла гэтай пуцінай. Вось чаму пролетарская поэзія павінна весьці самае рашучас выкарчоўваньне рэштак і рэцэдываў рэакцыйнай Варонічыны як у тэорыі, гэтак і ў практыцы.

Для пролетарскага поэты няма ніводнае шчыліны *падсьвядомага* пачуцьцёвага, неасьветленага сьвятлом марксыцка-ленінскага сьветапогляду. У пролетарскай поэзіі няма месца разнузданым разгульваньням падсьвядомых інтуіцый і інстынктаў. Пролетарская поэзія будуецца сьвядома, пад сьвятлом дыялектычна-матэрыялістычнага сьветапогляду. Пролетарская поэзія будуецца на матэрыяле ідэёва асьветленым і ў той-жа час пачуцьцёва адчутым.

Пролетарская поэзія выражае думкі пачуцьцёва-асьмысьленыя і пачуцьцёва ўспрынятыя. Такім чынам пролетарская поэзія не адмаўляе пачуцьцяў, падсьвядомага, у творчым поэтычным процэсе, а наадварот, лічыць неабходнаю прадмоваю, без якое немагчыма разьвіцьцё поэзіі.

Творчы процэс у пролетарскай поэзіі якраз і складаецца з дыялектычнага адзінства сьвядомага і падсьвядомага ў форме вядучай ролі першага.

Недахопы творчага мэтоду ў пэўных колах пролетарскай поэзіі якраз і складаюцца з няхваткі разам з сьветапоглядам і пачуцьцёвага, непасрэднага сьветаўспрыйманьня.

Перад пролетарскай поэзіяй паўстаюць задачы аўладаньня дыялектычна-матэрыялістычным, творчым мэтодам па лініі набыцьця разам з сьветапоглядам і *дыялектычна-матэрыялістычнага сьветаўспрыйманьня, сьветаадчуваньня*. Барацьба за мэтод павінна весьціся па лініі набыцьця ня толькі дыялектычна-матэрыялістычнай мысьлі, але дыялектычна матэрыялістычна адчуваць, па лініі прасякненьня нашых пачуцьцяў дыялектычным матэрыялізмам. Неабходна змагацца за сьветаўспрыйманьне рэчаіснасьці ва ўсіх супярэчнасьцях, конкрэтнасьці, ва ўсёй складанасьці, рознастайнасьці і глыбіні. Пролетарскі поэта нават і ў суб'ектыўнай лірыцы ідзе па шляху раздваеньня адзінага на ўзаемна-супроцьлеглыя часьціны, ускрывае барацьбу ўнутры адзіна-супярэчлівых, узаемна-супроцьлеглых і ўзаемна-выключаючых адзін аднаго тэндэнцый. Пролетарскі поэт ускрывае адзінства супроцьлегласьцяй ва ўзаемна-процілеглым і ўзаемна-процілеглыя тэндэнцыі і іх барацьбу ў адзіным, цэльным. Дыялектычнае ўзаемадзеяньне гэтых момантаў—адзінага ва ўзаемна раздвоеным і раздвоенага, супярэчлівага ў адзіным,—у пролетарскага поэты выступае на першы плян.

Пролетарскі поэта гаворыць і сам пра сябе самога і ў гэты-ж самы час гэтым самым гаворыць і пра сваю клясу. Таму для яго варожай зьяўляецца лякіроўка рэчаіснасьці, глянцаваньне яе. Наадварот, ён „зрывае ўсе і ус кія маскі“; ён ідзе па шляху ўсё большага і большага паглыбленьня ў рэчаіснасьць, спалучаючы гэта з сваёю штодзеннаю практыкаю на франтох барацьбы за соцыялізм.

Але адгэтуль-жа і выцякае яшчэ большае ўзмацненьне барацьбы з об'ектывізмам, калі поэта ў мэтах об'ектыўнасьці выяўленьня сваіх адносін да клясава-соцыяльных фактараў, скатваецца да об'ектывісцкіх (у горшым разуменьні гэтага слова) тэндэнцый, да адыходу ад клясавых суб'ектыўных момантаў, да па-заклясава об'ектывісцкіх тэндэнцый, да эмпірызму.

Пролетарская поэзія змагаецца за клясава-суб'ектыўную, г. зн. бальшавіцка-ленінскую накіраванасьць. Па-заклясавы об'ектывізм у корані варожы пролетарскай поэзіі.

Творчы мэтод пролетарскай поэзіі бярэ ўстаноўку на клясава-суб'ектыўнае, пролетарскае падкрэсьліваньне тэндэнцый разьвіцьця рэчаіснасьці, падкрэсьліваньне тэндэнцый, якія падрыхтоўваюць у сёнешнім дні—заўтрашні дзень, якія ствараюць сабою соцыялізм.

Падкрэсьліваючы, выдзяляючы, выпукляючы ўсе тэндэнцыіі ў разьвіцьці рэчаіснасьці, якія вядуць да соцыялізму, пролетарская поэзія гэтым самым фактычна зьяўляецца і найбольш об'ектыўнай, г. зн. у мастацкім паказе найбольш адпаведнай сапраўднаму стану рэчаў, найбольш адпаведнай об'ектыўнаму цячэньню разьвіцьця рэчаіснасьці. І гэта таму, што ў аснове пролетарскай поэзіі ляжыць сьветапогляд пролетарыяту. А пролетарская філёзофія—марксызм-ленінізм, гэта сьветапогляд клясы, якая зацікаўлена ў найбольшай об'ектыўнасьці, якая зьяўляецца самаю прогрэсыўнаю клясаю з усіх існуючых клясаў, якая перабудоўвае сьвет на новы лад і нясе вызваленьне ўсяму чалавецтву. Таму і высновы сьветапогляду гэтае клясы найбольш адпавядаюць об'ектыўнай рэчаіснасьці і тэндэнцыям яе разьвіцьця.

Пролетарская клясавая суб'ектыўнасьць зьяўляецца проста-пропорцыянальнай об'ектыўнасьці.

* * *

Разгледзім бегла творчасьць беларускіх пролетарскіх поэтаў. Пачнем з аднаго з перадавых сучасных пролетарскіх поэтаў—Андрэя Александровіча.

Творчасьць Андрэя Александровіча ў беларускай поэзіі носіць адменны на фоне ўсяе поэтычнае продукцыі характар. Яна выдзяляецца. А выдзяляе яе перш за ўсё палітычная насычанасьць і накіраванасьць у адпаведднасьці з задачамі рабочае клясы ў соцыялістычным будаўніцтве. Александровічава творчасьць, асабліва творчасьць апошніх год, накіравана і падначалена службе рабочай клясе, службе соцыялістычнаму будаўніцтву. Яна нясе ў сабе зарадку энэргіі, волі, думак і жаданьняў рабочае клясы, партыі, Александровічава творчасьць носіць адзнаку партыйнасьцяй, адзнаку партыйнай поэтычнай публіцыстыкі.

У ідэёвай насычанасьці мотывамі соцыялістычнае рэконструкцыі, мотывамі клясавае барацьбы, мотывамі змаганьня з ворагамі проле-

тарыяту і ляжыць адменнасьць і каштоўнасьць Александровічавай творчасьці ў беларускай пролетарскай поэзіі.

Андрэй Александровіч імкнецца сваёю творчасьцю аддана служыць справе соцыялістычнай перабудовы краіны пад кіраўніцтвам партыі. У творчасьці поэты б'ецца пульс поэтычнага публіцыстага, які цьвёрда стаіць у шэрагах пролетарыяту на падмурках соцыялістычнае будоўлі і, апяваючы соцыялістычную рэконструкцыю, упарта змагаецца з нацыянал-дэмократамі, шкоднікамі, „былымі людзьмі“, якія, прыстасаваўшыся да савецкай улады, перафарбаваўшыся ў „чырвоны колер“, спрабуюць супыніць соцыялістычную рэволюцыю, змыкаючыся ў сваёй дзейнасьці з рэшткамі буржуазна-кулацкае клясы.

У поэме „Цені на сонцы“ Александровіч з усёй сілай пролетарскае нянавісьці да клясавага ворага выводзіць на сьвет пролетарскай грамадзкасьці цэлую плеяду гэтай варожай нам, „зьменавехаўскай“ інтэлігенцыі і выкрывае яе клясавую існасьць, наносячы па ёй руйнуючы ўдар.

У лірыцы поэта сьпявае пра цьвёрды ўздым працоўных мас, што вышлі на штурм старога, і будаваньне новага, пра разгон творчае працы, ударнае рабочае брыгады, соцыялістычнае спаборніцтва:

„Выбухам творчым
як іскрамі горн —
вышлі рабочых
брыгады
на фронт.
Песьні, як вочы,
запалам гарэць.
— Таварыш рабочы,
ты мусіш
— дагнаць.
Краіна ў паходзе.
Рабочых брыгады
фабрыкі ўзводзяць,
нібы барыкады“. („Установка“ ст. 11).

Соцыялістычная рэконструкцыя гаспадаркі, індустрыялізацыя знаходзіць у асобе Андрэя Александровіча свайго песьняра: у „Поэме імя вызваленьня“ поэт пяе пра тое, як

„Іржавы бінт
з ран машын
зьняты
пролетарыятам,
засьпявалі
стальлю
зьмеі —
магістралі
рэек.
Быў завод
зруйнован.

Пусьцілі ў ход —
два
новых.
Уздыхнулі
ў бальшавіцкім
гуле —
камяніцы
вуліц.
Скарыстаем
нетры краю,
ведама,
да дна мы —
і сьвет дала
дынамо".

У „Поэме імя вызваленьня“ поэта апявае новую Савецкую Беларусь, урачыстасьць дзесяцігодзьдзя яе вызваленьня, соцыялістычнае будаўніцтва. У поэме супроцьстаўляюцца дзьве Беларусі:—новая Беларусь, якая дзякуючы правільнай лініі компартыі зьмяніла свой былы патрыярхальны, пакутны, прыгнечаны сваёю і „чужою“ буржуазіяй і памешчыцтвам твар на новы на індустрыяльна-колгасны, электрафікаваны соцыялістычны твар,—старой Беларусі. У поэме пяецца пра колектывізацыю, мэліорацыю, электрыфікацыю, якія нясуць новы росквіт краіны. Поэма наскрозь прасякнута патосам соцыялістычнае рэконструкцыі:

„У балотах
загула была
работа.
праз год
сярод
балот —
пе-
ра-
ва-
рот.

. . . . . . . . .

З балот у гарады
пабеглі правады.
Загудзелі поўным ходам
гмахі фабрык і заводаў,
І ў селяніна
замест лучыны
і карча —
лямпачка Ільліча...
Абвязаў краіне стан
правадамі —
Сталінстан“.

Адклікаецца поэта і на Заходнюю Эўропу, у якой разгараецца полымя рэволюцыі, дзе „блізяцца схваткі—атакі“ і дзе „рэволюцыя зьменіць жыцьця старно“.

Гэткая насычанасьць зьместам нашае сёнешняе рэчаіснаснасьці, насычанасьць мотывамі соцыялістычнага будаўніцтва, прасякнутасьць ідэямі нашае рэконструкцыйнае эпохі ставіць Александровічаву творчасьць у першыя шэрагі беларускай пролетарскай поэзіі. Александровічава творчасьць—гэта баявы заклік на штурм выкананьня пяцігодкі, на штурм соцыялізму.

Адзначаючы гэтыя дадатныя бакі Александровічавай творчасьці, нельга на гэтым і спыніцца. Было-б вялікай памылкай, констатуючы факт вялікае ідэёвае важнасьці Александровічавай творчасьці, абмінуць яе недахопы.

Недахопы Александровічавай творчасьці, асабліва апошняга пэрыоду, зводзяцца да недахопаў творчага мэтоду. І патрэбна пасьлядоўная крытыка гэтых недахопаў, бо недахопы мэтоду выцякаюць з недахопаў сьветапогляду пісьменьніка, абумоўліваюцца недахопамі ў сьветаразуменьні апошняга.

Аналізуючы Александровічаву творчасьць прыходзіш да таго, што ў аснове гэтае творчасьці ляжыць сьветапогляд матэрыялістычны. Гэта бясспрэчна, бо ў праціўным выпадку мы ня мелі-б тае ідэолёгічнае вартасьці, якую мае гэтая творчасьць. У аснове творчасьці поэты ляжыць наша сёнешняя сапраўднасьць, сёнешні рэальны, поўны будаўнічага ўздыму, дзень. Мінулае і будучае, калі яно часамі дзе і зьяўляецца об'ектам Александровічавай творчасьці, асьвятляецца поэтаю пад кутом зроку сёнешніх задач, пад кутом погляду запатрабаваньняў і накіраванасьці сёнешняга дня.

Творчы мэтод поэты знайшоў сваё лепшае выражэньне ў поэме „Цені на сонцы". У гэтым творы супярэчлівыя тэндэнцыі разьвіцьця рэчаіснасьці да пэўнай ступені знайшлі мастацкае конкрэтнае выяўленьне ў пляядзе тыпа-вобразаў жывых носьбітаў ценяй на нашай, сонечнай уцалку краіне. Праўда, у поэме гэтыя вобразы пададзены ў пераважнасьці не паказам, а расказам—характарыстыкай; яны пададзены ня ў дзеяньні, дынаміцы, а ў статыцы, застыўшымі, гатовымі фігурамі, калі ня лічыць нязначных элемэнтаў паказу ў дзеяньні, у другой частцы поэмы (моманты на вуліцы, каля айсора, каля вітрын, ды некаторы паказ гэрояў на вечарыне).

Але „Поэма імя вызваленьня" ўжо гаворыць аб тым, што поэта пры спробе аўладаньня мотывамі рэконструкцыйнага пэрыоду ня здолеў пакуль-што стаць на позыцыю дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтоду, які патрабуе глыбокага ўнікненьня ў рэчаіснасьць, глыбокага пазнаньня і мастацкага раскрыцьця супярэчнасьцяй разьвіцьця гэтае рэчаіснасьці. У дыялектычнай еднасьці супроцьлеглых тэндэнцый.

У „Поэме імя вызваленьня" Александровіч ня здолеў глыбока ў мастацка-вобразным паказе раскрыць твар рэконструкцыйнага пэрыоду, ня здолеў улавіць яго глыбока-супярэчлівы характар, асьвятліць мастацкім паказам усіх яго супярэчнасьцяй і іх перамаганьня.

Поэта ня змог асьвятліць супярэчнасьці сьвятлом пролетарскага сьветапогляду і раскрыць у барацьбе супярэчнасьцяй перамаганьне вядучай з іх процілегласьці, ня змог паказаць як гэтая барацьба супярэчнасьцяй у адзіным рухае процэс рэконструкцыйнага пэрыоду ўперад.

А мастак павінен узыйсьці на вяршыну супярэчнасьці і, асьвятляючы іх марксыцка-ленінскім сьвятлом і паказаць, як праз барацьбу супярэчнасьцяй у іх адзінстве рухаецца і разьвіваецца сапраўднасьць. У „Поэме імя вызваленьня" і ў цэлым шэрагу іншых вершаў, як „Партыя кліча", „Векапомныя паходы", „Устаноўка" і інш. ідэёвая вартасьць зьніжаецца схэматычнасьцю, павярхоўнасьцю і спрошчанасьцю ў творчым мэтодзе поэты.

На „Поэме імя вызваленьня" ляжыць адзнака лефаўскіх творчых прынцыпаў.

У поэме заместа конкрэтна-вобразнага паказу соцыяльных адносін людзей, вобразаў жывых людзей—жывых будаўнікоў соцыялізму, рабочых, як жывых носьбітаў соцыялістычнага будаўніцтва, заместа паказу новых соцыяльных, вытворчых і бытавых адносін гэтых жывых людзей у процэсах соцыялістычнае вытворчасьці і працы,—Александровіч сконцэнтраваў сваю ўвагу на комплексе гістарычных падзей, менавіта, падзей саміх па сябе, а не на актыўных чыньніках гэтых падзей,—жывых клясавых людзях. Заместа мастацка-вобразнага паказу, раскрыцьця (вядома пад кутом зроку пролетарскай ідэолёгіі) асобных, конкрэтных, тыповых прадстаўнікоў клясы пролетарыяту—носьбітаў пролетарскае рэволюцыі і соцыялістычнае рэконструкцыі, заместа паказу жывых людзей партыі—кіраўнікоў гэтай рэволюцыі і рэконструкцыі, як частак агульнага, як асобных сяброў колектыву, з якіх складаецца пролетарскі колектыў,—Александровіч толькі ўспамінае агульныя словы, як партыя, пролетарыят і інш. Мастацкага раскрыцьця, зьместу, які стаіць за гэтымі паняцьцямі, ён не дае. Не дае і мастацкага раскрыцьця, вобразнага паказу нават і гістарычных падзей. Александровіч толькі па-лефаўску констатуе факты гістарычных падзей, накшталт:

„Пілсудзкага выгналі
каленам
пролетарыяту".
„Напорам войск чырвоных
павыганялі вон іх".
Альбо: „Пад сьцяг барацьбы аднаўленьня
вышлі рабочыя сотні".

Трактоўка гэткіх мотываў нашае баявое сучаснасьці, як барацьба за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады, колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы, барацьба з контррэволюцыйным нацыянал-дэмократызмам, супроць шовінізмаў і г. д., знаходзіць выражэньне зноў-такі не ў мастацка-вобразнай трактоўцы, не ў мастацкім раскрыцьці шляхам вобразнага паказу іх клясавае існасьці, не ў мастацкім доказе неабход-

насьці барацьбы, а ў схэматычных, павярхоўных, рыторычных лёзунгах (і тут не выручае тое, што аўтар сам называе іх лёзунгамі):

№ а

„Шчыльней пролетарскія рады,—
Даеш пяцігодку ў чатыры гады.

№ б

Узброім трактарамі колгасы,
ліквідуем кулацтва як клясу.

№ в

На лом заржавелыя краты —
гора-творыяў нац. дэмократаў.

№ г

Сырая вада—
атруты шкадней,
як шовінізм усіх масьцей"... і інш.

Схэматызацыя, абстракцыя, голы рацыяналізм, рыторыка пераважае ў поэме над конкрэтна-вобразным паказам. Скрозь схэмы:

„Супроць—
прарываў,
прагулаў
і браку.
За—
прамфінплян
і высокую якасьць.
Таварыш рабочы,
Таварыш араты —
з заводу
з колгасу
гані бюрократа.
Мільёны краіне дае
без замінкі—
савецкая бесьперапынка".

У выніку схэматычнасьці поэма пакідае вельмі слабое ўражаньне; поэма не заволодвае пачуцьцямі і думкамі чытача як належыць. А задачай пролетарскай поэзіі зьяўляецца максымальная мобілізацыя энэргіі, волі, думак і ўвагі працоўных мас на ліквідаваньне прарываў, на перамаганьне цяжкасьцяй соцыялістычнага будаўніцтва, на ажыцьцяўленьне задач выйсьці пераможцам і з цяжкасьцяй у барацьбе з хістаньнямі ва ўласных шэрагах. А для гэтага патрэбны глыбокі, конкрэтны паказ, раскрыцьцё гэтых супярэчнасьцяй, хістаньняў у адзіным.

А ў Александровіча агульныя словы, як „пяцігодка", „бой навальнічны", „партыя", „фабрыка", „цэх", „межы", „хутар", „шчасьце комуны", „варштат", „штык", „граната", „электраток", „машыны", „колектывы", „колгас", і шмат іншых не раскрываюцца ў іх конкрэтным зьмесьце, а так і застаюцца агульнымі словамі.

Няма і жывога, клясавага чалавека, пролетарыя-будаўніка ва ўмовах конкрэтнага соцыялістычнага будаўніцтва. Жывы чыньнік соцыялістычнага будаўніцтва, рабочы-будаўнік, для якога адбываецца гэтае будаўніцтва, і які сам яго чыніць, выпадае. Формаваньня пад уплывам процэсаў соцыялістычнага будаўніцтва, у якіх будаўнік перарабляе ня толькі акаляючую рэчаіснасьць, але сябе самога, новага соцыялістычнага чалавека, як ён выкарчоўвае ў самім сабе старыя капіталістычныя тэндэнцыі ў ягонай псыхолёгіі—няма.

Галоўнае—жывы чалавек—выпадае з-пад увагі поэты.

А што іншае зьяўляецца об'ектам культурнае рэволюцыі, як ні чалавек?

Разьвіцьцё-ж пролетарскае поэзіі павінна ісьці пад кутом тых задач, якія высоўвае культурная рэволюцыя ў ленінскім разуменьні яе.

Пролетарская поэзія ў сваім разьвіцьці павінна выходзіць толькі з задач культурнае раволюцыі; яе разьвіцьцё павінна ісьці пад знакам задач пераробкі чалавечага матэрыялу на соцыялістычны лад, пад знакам выкарчоўваньня капіталістычных элемэнтаў у псыхоідэолёгіі чалавека нашае эпохі. У асяродку ўвагі пролетарскага поэты павінен стаяць новы соцыялістычны чалавек, чалавек у варунку соцыялістычнага будаўніцтва, новыя соцыялістычныя адносіны паміж новымі людзьмі, што формуюцца ў процэсе соцыялістычнага будаўніцтва.

Пролетарская поэзія вядзе самую рашучую барацьбу з падменаю паказу новага соцыялістычнага чалавека—паказа гістарычных падзей бяз людзей, што рухаюць гэтыя падзеі, паказам процэсаў соцыялістычнага будаўніцтва з яго тэхнічнага боку, выкідаючы адзінага гаспадара і рухавіка гэтага будаўніцтва—жывога клясавага чалавека, жывога будаўніка, жывога рабочага. Пролетарскі поэта концэнтруе ўвагу на комплексе думак і пачуцьцяў жывога чалавека ў процэсе соцыялістычнага будаўніцтва. І ні ў якім разе пролетарская поэзія не дапусьціць падмену жывога чалавека—машынаю, станком, будаўнічымі матэрыяламі, захапленьне тэхніцызмам — гэтым праяўленьнем дробна - буржуазнага дзяляцтва.

Пролетарскі поэта ўзброены матэрыялістычна-дыялектычным творчым мэтодам, адкідаючы ўсякую схэматызацыю, глянцаваньне рэчаіснасьці, усё глыбей і глыбей прасякае ў яе супярэчнасьці, улаўлівае вядучую яе супроцьлегласьць і вядзе чытача да глыбокага пазнаньня сапраўднасьці, пазнаньня з мэтаю зьмены яе. А зьмяняе сапраўднасьць, вядома, толькі жывы чалавек, будаўнік.

Зьмяняючы рэчаіснасьць, чалавек-будаўнік зьмяняе і самога сябе. Адсюль перш за ўсё неабходна пазнаць гэтага самага чалавека-будаўніка з мэтаю зьмены, перабудовы яго самога.

Трэба сказаць, што ў нядаўна закончаным романе „Нараджэньне чалавека“ Андрэй Александровіч паказаў значнае набліжэньне да задачы паказу жывога клясавага чалавека.

У романе трактуецца проблема формаваньня ў чалавеку пролетарскай ідэолёгіі, проблема выпрацоўкі пролетарскае ідэолёгіі ў жанчыны. Роман ахапляе сабою перыод ад грамадзянскае вайны да сёнешняга дня рэконструкцыйнага пэрыоду. Побач з галоўнай проблемай формаваньня пролетарскай ідэолёгіі ў романе закранаюцца іншыя моманты як шкодніцтва, соцыялістычная праца і інш.

Праз роман скрозь праходзіць концэнтрацыя ўвагі на жывым чалавеку—гэроі роману Марылі. Гэта добра.

Але ў романе, па-першае, надзвычайна мала месца адведзена рэконструкцыйнаму пэрыоду, паказу формаваньня ідэолёгіі ва ўмовах узмоцненага соцыялістычнага наступленьня пролетарыяту на капіталістычныя элемэнты.

Трактоўка проблемы галоўным чынам разгорнута ў абставінах аднаўленчага пэрыоду, а не рэконструкцыйнага. І гэта тэматычна зьніжае вартасьць роману. Па-другое, у романе слаба пададзена пролетарскае асяродзьдзе, пад уплывам якое формуецца пролетарская ідэолёгія. Залішне сконцэнтравана ўвага на біолёгічных момантах, якія ў спалучэньні з своеасаблівым романтызмам, патэтычнаю ўзьнятасьцю стылю, у романе зацямняюць соцыяльныя моманты.

Наогул, роман уяўляе сабою больш вартасьці для мінулага аднаўленчага пэрыоду, чымся на сёнешні дзень, бо тэматычна ён амаль поўнасьцю ўкладаецца ў гэты пэрыод.

Але па сваіх спробах даць паказ жывога клясавага чалавека, менавіта паказ (хоць і тут у гэтых адносінах не абышлося бяз зрываў) чалавека ў розных соцыяльных абставінах—заслугоўвае ўвагі.

Набліжэньне да дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтоду пролетарскай поэзіі, да паказу жывога клясавага чалавека ў романе відавочны.

Па гэтай лініі, выходзячы з асноўнае проблемы культурнае рэволюцыі—соцыялістычнай пераробкі чалавека,—па шляху паказу жывога клясавага чалавека ў процэсах соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх ягоных супярэчнасьцях і складанасьці,—і павінна ісьці далейшае разьвіцьцё творчасьці поэты.

Александровічу і ў тэматыцы рэконструкцыйнага пэрыоду неабходна, як мага, пазбаўляцца схэматычнасьці, спрошчанасьці, павярхоўнасьці, якія вядуць да *глянцаванасьці*, і цьвёрда стаць на адзіна-правільны шлях—дыялектычна-матэрыялістычны творчы мэтод пролетарскай поэзіі і літаратуры наогул—„зрываньне ўсіх і ўсякіх масак“ з рэчаіснасьці. І тады Александровічава творчасьць з яшчэ большаю бояздольнасьцю будзе служыць пролетарыяту ў ягонай барацьбе за соцыялізм.

* * *

Нашы поэтычныя сілы стаяць на нізкім культурным ідэёвым узроўні. Яны не стаяць на патрэбным ідэёвым узроўні соцыялістычнага будаўніцтва. Часта няма патрэбнай зьлітнасьці, контакту з поўнакроўнаю сёнешняю

рэчаіснасьцю. Поэты слаба ўзброены патрэбнаю культураю, сьветапогляд часта вельмі мізэрны. Адсюль і наяўнасьць часамі поэтычнага чванства.

Заместа ўпартае вучобы і працы над сабою, сваім сьветапоглядам і творчасьцю, заместа глыбокага ўнікненьня ў сёнешняе жыцьцё, у ягоны супярэчлівы твар,—часта маецца павярхоўнае зьлізганьне, фразавая рыторыка, опэраваньне вычурнымі сказамі, а рэальнымі жыцьцёвымі фактамі. А фраза, хай сабе здавалася-б і рэволюцыйная, бяз уліку об'ектыўных умоў, данага становішча і г. д.,—пэратвараецца ў пусты звон. Аб гэтым вельмі добра сказана ў Леніна: „... вычурными, вымученными, оглушающими и отупляющими рабочего фразами *приходится* оперировать, когда на простые, ясные, близкие... вопросы нет у писателя простого, прямого, ясного ответа“.

Пролетарская поэзія ў барацьбе за дыялектычна-матэрыялістычны мэтод павінны з усіх сіл змагацца з падменаю конкрэтнага, рэчавага зьместу—агульнымі паняцьцямі, фразамі, змагацца з фэтышызацыяй агульнага паняцьця, з падменай конкрэтнага—абстрактным, агульным.

Пролетарская поэзія толькі праз конкрэтнае выяўляе агульнае і ні ў якім разе ні наадварот.

А якраз гэтымі недахопамі найбольш хварэе творчасьць Міколы Хведаровіча. Хведаровіч у апошні час спрабуе адыйсьці ад тых нездаровых мотываў, што былі ў ягоных „Настроях“. Ён імкнецца да мотываў соцыялістычнага сёньня. І трэба сказаць, што некалькі яму гэта і ўдалося. Шэраг вершаў, як „Торф“ і інш., насычаны патосам соцыялістычнага будаўніцтва і маюць пэўную эмоцыянальную зарадку. Але вартасьць Хведаровічавай творчасьці зьніжае схэматызм, павярхоўнасьць, спрошчанасьць, адсутнасьць конкрэтнасьці, фразавая рыторыка, косьмічна-абстрактны яе характар.

У мотывах соцыялістычнага будаўніцтва ў Хведаровічавай творчасьці проста зьдзіўляе адсутнасьць конкрэтна рэчавага паказу, адсутнасьць жывога клясавага чалавека. Агульныя, абстрактныя мотывы абстрактнае патэтыкі і дэкларацыйныя агульныя прызывы—вось што характарызуе Хведаровіча ў рэконструкцыйных мотывах:

„Кіпі-ж ты, маладосьць.
Ўздымайся ў парываньнях,
Бадзёрым (!) поступам
Мы (!) крочым ў новы (!) сьвет.

. . . . . . . . . . . . .

І мы (!) мільёнамі (!)
Да мэты ўпарта (!) йдзем.

. . . . . . . . . . . . .

Сьвідруюць галаву
Змаганьня міражы (!)

. . . . . . . . . . . .

Комуна (!) не памрэ.
Комуна (!) будзе жыць.
. . . . . . . . . . . .
Мы (!) верым (!) у будучнасьць,
І ў нашу перамогу.
. . . . . . . . . . .
Няхай шумяць вятры (!)
Няхай віхура (!) вые,
Нас клічуць ў даль
Прызыўныя агні (!)
. . . . . . . . . .
Няхай у новы (!) век (!)
Краіна йдзе мая"... і г. д.
. . . . . . . . . . .

(„Рытмы", стр. 12, 13, 14).

„Мур узьнімаем комуны (!) сусьветнай (!!)".

(„Рытмы", ст. 30).

Вобразна мастацкага, конкрэтнага, рэчавага паказу гэтага ўсяго „н о в а г а", аб якім аўтар гаворыць амаль у кожным радку, няма. Няма рэальнае сапраўднасьці і на яе конкрэтным зьмесьце раскрыцьця гэтага „новага". Заместа гэтага аўтар дэкларуе:

„Я ўсё жыцьця аддам (!)
За гэту перамогу,
Гатоў (!) на сьмертны бой
Пайсьці пад першы кліч.
Ўздымайся, маладосьць.
. . . . . . . . . .
Хачу (!) з працоўнымі ісьці
Да сьветлае (!) Комуны (!)"
. . . . . . . . . .
Я хочу (!) жыць
Хачу (!) ў жыцьці змагацца.
. . . . . . . . . .
Я маладасьць аддам, (!)
Аддам (!) юнацтва сілу,
Аддам (!) сваё жыцьцё..." і г. д.

І такая абстрактная дэкларацыйнасьць, запэўніваньне ў гатоўнасьці рынуцца ў бой і адсутнасьць конкрэтызацыі гэтых дэкларацыйных лёзунгаў у поэтычнай практыцы прасякае ўсю Хвэдаровічаву творчасьць. Нельга-ж лічыць станоўчым агульныя, абстрактныя, рыторычна-косьмічныя месцы, накшталт:

Гарыць маяк
Сусьветнае (!) Комуны (!)
. . . . . . . . . .
І гімны творчых дум
Імпэтам звонкаструнным
Імкнуцца прывітаць
Вялікі (!) творчы (!) дзень.
. . . . . . . . . .

Мы будзем (!) жыць
І ўсё жыцьцё змагацца. (!)
І, будзем (!) сьмела (!) йсьці
Да новых (!) перамог (!)
. . . . . . . . . .
Мы сьмела прынясём (!)
Комуны (!) вольнай сьцяг".
(„Баявыя песьні" ст. 35, 36).

Поэзіі жывога чалавека-будаўніка соцыялістычнага грамадзтва—тут бясспрэчна няма і знаку.

Часы косьмізму, абстрактнае агульна-фразавае поэзіі (1917—21 г.) у пролетарскай поэзіі ўжо даўно мінулі. Пролетарская поэзія будуецца на аснове рэалізму, на аснове глыбокага і ўсебаковага пазнаньня нашае конкрэтнае рэчаіснасьці. Матэрыялістычны-дыялектычны творчы мэтод пролетарскай поэзіі творыцца на аснове пролетарскага рэалізму ў новым дыялектычным разуменьні апошняга.

Мэтод пролетарскай поэзіі выключае з сябе ўсе элемэнты абстракцыі, агульнасьці, фразы. Пролетарская поэзія—конкрэтная поэзія. І гэта асабліва падкрэсьліваецца складанасьцю перапляценьняў розных клясавых момантаў у клясавай барацьбе ў рэконструкцыйны пэрыод, пазнаньне якога з мэтаю зьмены яго зьяўляецца асноўнай задачай пролетарскай поэзіі.

А ў Хвэдаровіча і цэлага шэрагу іншага гэтага рангу поэтаў гэты бок якраз і кульгае. А калі часам поэта і спрабуе перайсьці да конкрэтных мотываў, то церпіць пэўную няўдачу. Схэматызм, абстракцыя тут ужо пераходзіць у лякіроўку. К прыкладу, Хведаровіч у вершы „Эскізы з організацыі колгасу" („Полымя" № 3, 1930 г.) спрабуе адлюстраваць моманты колектывізацыі і клясавае барацьбы на вёсцы. (Надзвычайна слушная, заслугоўваючая ўвагі пролетарскага пісьменьніка тэма). І вось прыяжджае з мэтаю організацыі колгасу на вёску рабочая брыгада. Не пасьпела брыгада яшчэ, як сьлед, і працу распачаць, як сяляне ўсе ў як адзін—голасам:

„Зьбяром усе палоскі
У адзін паясок.
І дасьць той кусок
Ядраны каласок".
. . . . . . . . . .
„*І тут-жа*:
— Зьнімеце з царквы крыжы.
І вобземлю старое—
Б-р-а-з-ь.
*І тут-жа*—
Агульна парашылі жыць,
*І тут-жа* ўступілі ў колгас.
Няхай кулакі
Абвясьцілі бой,
З абрэзам ідуць на нас.

Таварышы! Агонь!..
Па кулакох,
Па багох..
За трактар,
За колгас".

Што гэта, як не лякіроўка супярэчнасьцяй і цяжкасьцяй колгаснага будаўніцтва? Тут абсолютна змазаны, заглянцаваны супярэчнасьці ў самім селяніне, бедняку і серадняку, у псыхо-ідэолёгіі якога змагаюцца дзьве тэндэнцыі—уласьніцкая, дробна-буржуазная з аднаго боку і—колектывістычная з другога. Дзе паказ таго, як у доўгай, упартай, цяжкай барацьбе гэтых тэндэнцый перамагае колектывістычная тэндэнцыя над уласьніцкай, як у выніку гэтай барацьбы мы маем масавы прыліў бядняцка-серадняцкага сялянства ў колектывы? Хведаровічам змазаны супярэчнасьці ў адзіным—супярэчнасьці колектывізацыі ў уласьніцкім баку псыхоідэолёгіі селяніна. І ў выніку мы маем груба тэндэнцыйны, няправільны паказ момантаў колектывізацыі—змазаны яе цяжкасьці. А таму і нагадвае чытачу гэты верш нешта, накшталт вядомага „Головокружения от успехов".

Хведаровічу неабходна ўзброіўшыся дыялектычна-матэрыялістычным сьветапоглядам, упарта працуючы над ягоным аўладаньнем, над пашырэньнем свайго кругазроку, над набыцьцём ідэёвага багажу,—перабудавацца на рэйкі рэальнага паказу сапраўднасьці, нашай сёнешняй рэчаіснасьці ў яе рэальнасьці і супярэчнасьцях, якія крыюцца ня толькі ў процілегла-супярэчлівым, але і ў адзіным (прыкладам у дваістай псыхоідэолёгіі селяніна). Хведаровічу неабходна рашуча павярнуць ад косьмічна-абстрактнага, агульнага, фразавага апяваньня нашае эпохі насгул да рэалізму, да паказу жывога, клясавага, рэальнага чалавека-будаўніка ў абставінах соцыялістычнага будаўніцтва.

* * *

У гэтых адносінах слаба перабудоўваецца і Алесь Звонак. Апошні доўгі час трымаўся ў полі тэматыкі і мотываў романтыкі грамадзянскае вайны. Усе тры поэмы гэтага поэты („Загай", „Каршун" і „Трэцяя поэма") і шэраг вершаў тэматычна ня выходзілі з колу тэматыкі грамадзянскае барацьбы. І толькі ў самы апошні час поэта робіць некаторы зрух. У апошніх вершах, як „Крокі эпохі" і „Крокі дзён" („Полымя" № 1, 1931 г.) і інш. поэта спрабуе падаць свой голас аб нашай рэконструкцыйнай эпосе. Але наша эпоха выступае ў поэты покуль-што ў агульных, схэматычных рысах. Да гэтага адчуваюцца моцныя павевы Лугаўскога і Суркова:

„Ты праходзіш, мой час,
Нястрыманай цяжкою хадой
На хрыбце рэволюцый,
Уздымаючы нашу эпоху.

На далонях далін,
На сутулых плячох гарадоў
Ты прыносіш
Вялікую нашу эпоху".
. . . . . . . . . .
„І я бачу, мой час,
На штандарах вялікіх тваіх,
На штандарах тваіх,
Што апалены сонцам гарачым,
Чалавечай крывёю
Запісаны нашы баі,
І крывёю і потам,
Адзначаны нашы удачы".
. . . . . . . . . .
„І ў шуме, і ў гуле
гудкоў і трамваяў
Зьвініць і сьпявае,
грыміць і сьпявае
Рэспубліка маладая".
. . . . . . . . . .
„Рэспубліка кліча,
Рэспубліка кліча"... і г. д.
. . . . . . . . . .

Той-жа зварот без аднаўленьня яго да „Рэспублікі маладой", што і ў Лугаўскога. Некаторыя вобразы, накшталт—„Плячэй, што прыносяць Вялікую і суровую нашу эпоху", вельмі нагадваюць капіроўку адпаведных вобразаў расійскага поэты Суркова: „подпирая плечом боевую эпоху" („Стихи о герое").

Звонаку неабходна пазбаўляцца гэтых празьмерных уплываў, некрытычнага насьледваньня і пераходзіць да мотываў сёняшняе конкрэтнае сапраўднасьці; неабходна стаць на шляхі поэтычнага рэалізму.

* * *

Больш удачна перабудоўваецца Пятрусь Броўка. У апошняга менш, чымся ў другіх, агульнае, абстрактна-косьмічнае фразэолёгіі. У Броўкі менш агульшчыны і больш конкрэтнасьці. Броўкіны творы апошняга году, як „Гады, як шторм", „Прамова фактамі" і „Цэхавыя будні" гавораць за бясспрэчны творчы рост поэты. Не кажу ўжо пра формальна мастацкі рост, набыцьцё поэтычнае тэхнікі і некаторае культуры вершу (хоць яе покуль-што поэту, як належыць, і не стае), Броўкіна творчасьць па сваёй ідэёвай насычанасьці становіць аўтара ў першыя шэрагі беларускай пролетарскай поэзіі. За гэта гаворыць насычанасьць яе клясавай ненавісьцю да капіталістычнага сьвету („Прамова фактамі"), насычанасьць ідэямі і зьместам нашай рэконструкцыйнай рэчаіснасьці („Гады, як шторм"), прасякнутасьць задачамі рабочае клясы ў штодзеннай барацьбе за соцыялізм, за выкананьне прамфінпляну і г. д. („Цэхавыя будні").

Кола мотываў Броўкінае творчасьці пашыраецца—ад абмежаванага кола мотываў вёскі поэта зварочваецца да вытворчасьці, рабочых і дае шэраг да пэўнай ступені конкрэтна пададзеных поэтычных малюнкаў з заводзкага жыцьця.

У „Цэхавых буднях“ Броўка выводзіць тыпы зрыўшчыкаў прамфінпляну на вытворчасьці—прагульшчыка, рвача, нядбайцы—і завастрае ўвагу на барацьбу з імі. Броўка, парываючы з беспрадметнай лірыкай, накіроўвае сваю творчасьць на справу службы соцыялістычнаму будаўніцтву.

„Мне трэба, каб слова
падносіла цэглу...
. . . . . . . . .
Я голую лірыку
Выкіну ўночы,
Хай месяц
Халодным агнём яе спаліць.
Муляр—таварыш.
Я твой, я рабочы.
У нашай будоўлі
Мы роўнымі сталі.
Высока стаяць
нам абодвым ня страшна.
Ты клічаш мяне.
І выходжу я першым,
Каб звонкіх поэм
і муроў неабсяжных
З табою ўзносіць
паверх
за паверхам“.

(„Тады пачынаю з пачуцьцямі спрэчкі“, „Полымя“ № 1).
1931 г.

Цыкль вершаў „Цэхавыя будні“ гаворыць аб тым, што поэта гэтую ўстаноўку пачаў ажыцьцяўляць на справе поэтычнай творчасьці. Набліжаючыся да паказу жывога клясавага чалавека ў „Цэхавых буднях“ мы і маем некаторы ўжо вынік. Але ўсё-ж такі яшчэ гэтага жывога клясавага чалавека ў Броўкі, як належыць, не стае. У „Цэхавых буднях“ маюцца і элемэнты дробна-буржуазнага дзяляцтва (захапленьне тэхнікаю і концэнтрацыя ўвагі на вытворчых працоўных процэсах, тэхніцы, але на новых соцыяльных адносінах сярод жывых людзей, рабочых, якія (адносіны) ўзьнікаюць у соцыялістычным будаўніцтве.

Броўку неабходна ў далейшай творчасьці больш концэнтраваць увагу на новых людзкіх адносінах, узьнікаючых у процэсах соцыялістычнага будаўніцтва, концэнтраваць увагу на жывым рабочым будаўніку, на індывідуальных праяўленьнях геройства ў соцыялістычнай працы.

* * *

Апошні час у сувязі з новымі патрабаваньнямі да поэзіі, высунутымі рэконструкцыйным пэрыодам, у сувязі з патрабаваньнямі новае тэматыкі,—у беларускай поэзіі зьявілася шмат лякіроўшчыкаў, па сутнасьці, халтуршчыкаў, якія спэкулююць на патрабаваньні здаровых, новых соцыялістычных мотываў.

Разгарнеце балонкі часопісаў і газэт за мінулы (1930) год і пачнеце перачытваць поэтычную продукцыю, што знайшла там месца. Вы нямінуча сустрэнецеся з фактам таго, што вершаў пра соцыялістычнае будаўніцтва надзвычайна шмат (цяпер ужо амаль усе пішуць аб ім: соцыялістычнае будаўніцтва зьяўляецца цэнтральным мотывам творчасьці ўсіх поэтаў),—але вы амаль ня сустрэнеце поўнакроўнага, сапраўды мастацкага поэтычнага твору, у якім-бы прасьвечвалася тое новае, што прыносіць за сабою соцыялістычнае будаўніцтва. Вы не адчуеце пульсу нашае эпохі: вы ня ўбачыце новага жывога будаўніка, рабочага колгасьніка; вы не прачуеце думак і пачуцьцяў гэтага будаўніцтва. Гэтыя вершы не перададуць вам волі, думак і энэргіі перадавога авангарду пролетарыяту на штурм пяцігодкі. Ĭ гэта ў той час, калі вы ў гэтых вершах знойдзеце ўсе надворныя атрыбуты ідэолёгічнае вытрыманасьці. Тут вам і фабрыкі, і ўдарныя брыгады, і соцспаборніцтва, і заклік на барацьбу з клясавым ворагам, а галоўнае,—шмат „машын“, „станкоў“, „жалеза“, „чыгуну“, „мэталяў“, „фабрычных труб“ і „дыму“,—словам надворная фразавая вытрыманасьць здавалася-б на ўсе 101 проц.

Але няма самага галоўнага—непасрэдна прачутых, пачуцьцёва сагрэтых і ва ўсёй глыбіні і конкрэтнасьці ўспрынятых ідэй соцыялістычнае рэконструкцыі, няма нашае будаўнічае эпохі. Маецца разрыў паміж непасрэднасьцю і апасродкаваньнем, паміж думкаю і словам, фразаю.

Вы ня ўбачыце ва ўсіх гэтых вершах самога будаўніцтва і таго, што яно нясе з сабою. Маецца толькі пусты, слоўны трэск, фразэолёгічная напышчанасьць, але няма самага галоўнага—соцыялістычнага будаўніцтва. Варта паспрабаваць чытаць „вядомага“ Юрку Лявоннага, З. Бандарыну і інш. і інш., каб у гэтым канчаткова ўпэўніцца.

Дзеля прыкладу, возьмем вытрымку з Бандарынай. Колькі вычурнага крыку, надуманасьці, штучнасьці, неपараканаўчага фразавага „словоблудия“, кічлівасьці і г. д., але твараў нашай рэконструкцыйнае рэчаіснасьці няма і знаку:

„Ад варштатаў  
і руйнуючых палёў  
творчых дзён  
імчыцца эшалён.  
. . . . . . . . .  
Мінуты (хвіліны?—У. С.)—  
у хвалі,  
жыцьцё  
ў завіруху...

І блізкая
далеч
кірує
рухам.
. . . . . . . . .
Дні,
гадзіны
і тыдні...
Хто і калі
іх зьлічыў.
Зіма
пагражала
стыньню,
вецер буяніў
злачынцам.
. . . . . . . . .
...няспынна ўдалеч
імчыцца
маладога імпэту (!) хваля.
Па вуліцах роднай сталіцы
выскаляецца (!) рэклямны сьвет.
. . . . . . . . .
Кожнаму з нас,
хто гарыць
зоркай
сусьветнай
Комуны,—
радасьць
нясуць правады,
веру гартуюць
*колюмны* (!?!)
Сэрца
вызваньнявай
радасьць,
вочы,
*глытайце* (!?)
*плянэту.*
*Мудрая* (!?)
*з мудрых* (!)
нарада (??!)
плянуе
імкнённасьць
гэтую".

(„Крок за крокам",
„Полымя" № 9—10, 1930 г.).

Вось і разьбярыся рабоча-сялянскаму чытачу ў гэтых сапраўды „мудрых нарадах".

Пролетарская поэзія змагаецца за злабадзённасьць, за актуальнасьць, але гэтая барацьба за злабадзённасьць сапраўды бальшавіцкую, якая выражае конкрэтную складанасьць нашае сёнешняе рэчаіснасьці ва ўсёй

глыбіні. Пролетарская злабадзённасьць нічога ня мае агульнага з фразёрскай, павярхоўнай чыста надворнай злабадзённасьцю.

А між тым знаходзяцца „добрые молодцы", якія гэтую бальшавіцкую злабадзённасьць падмяняюць „каляндарнай" злабадзённасьцю, „злабадзённасьцю" на фразах.

Так з гэтае К$^0$ у гэтай „каляндарнай" злабадзённасьцю Юрка Лявонны перацягнуў усіх. Няма ніводнае кампаніі, сьвята, ці якога-небудзь здарэньня, каб на яго не адклікнулася „муза" Юркі Лявоннага. Але паспрабуйце чытаць „плоды" гэтай „музы" і вы зжахнецеся. Колькі ў гэтых „творениях" хаўтуры па сутнасьці. Ну каму гэта цікава чытаць у 31 годзе гэткія зборнікі „Собрания сочинений" Юркі Лявоннага, як „Комсамольскія (??) вершы" і „Штурм", у якіх аўтар „зьдзіўляе" чытача гэткаю „навізною" для трэцяга рашаючага году пяцігодкі, як:

„Беларусь—краінаю свабоднай (!)
Эра новая (!)... Вітаньне змагаром".
(„Комсамольскія вершы", ст. 6).

Альбо вось пэрлы Лявоннавай „вобразнасьці":

„дзень ударнасьцю *іржэ* (!!?)
(„Штурм" ст. 21).

Дзіву толькі даешся таму, што гэтую макулатуру БДВ выдае цэлымі асобнымі зборнікамі тады, калі не стае паперы на больш важнейшыя выданьні.

Сакратарыят РАПП'у ў лісьце аб разгортваньні творчай дыскусіі пісаў:

„Неабходна засвоіць усім тым, хто па-сапраўднаму хоча працаваць у галіне „малых жанраў", што пісаць многа і хутка яшчэ зусім не азначае рабіць патрэбную пролетарыяту справу. Хаўтура, траскучы сказ, павярхоўнасьць і інш. толькі компромэтуюць пролетарскую літаратуру ў вачох рабочых чытачоў".

А Лявонны якраз піша і многа і хутка—і галоўнае, зусім не апрацоўваючы, не вынашваючы, органічна не перавярваючы, часта з чужога, гатовага голасу. Таму і атрымоўваецца макулатура; таму і маем тое, што „Комсамольскія вершы" Лявоннага „толькі компромэнтуюць пролетарскую поэзію ў вачох чытачоў—комсамольцаў" і наогул у вачох усёй новай моладзі, а „Штурм" „толькі компромэнтуе пролетарскую поэзію ў вачох рабочых чытачоў".

А ўсё таму, што няма сталае працы над сабою, няма сталае і ўпартае вучобы, сталых адносін да творчасьці, як да сур'ёзнай, надзвычайна адказнай справы, патрабуючай максымума ведаў, культуры і працы.

Маюцца тэндэнцыі поэтычнага чванства, калі мніва аб сабе, як аб пісьменьніку, пераважае над усьведамленьнем патрэбы ўпартае і сталае вучобы і працы над набыцьцём, хоць мінімуму, ведаў, культурных навыкаў, як наогул, так і спэцыяльна літаратурных. Няма належнае працы

над сваім сьветапоглядам, працы над аўладаньнем дыялектычна-матэрыялістычным сьветаразуменьнем, працы па набыцьці мінімальных ведаў з галіны марксыцка-ленінскай навукі. А трэба раз назаўсёды запамятаваць, што, хто не стаіць на культурным і ідэёвым узроўні нашае эпохі, той і ня здолее сваёю творчасьцю быць зброяй у руках пролетарыяту. Творцу пролетарскае поэзіі неабходна стаяць вышэй, у кожным радзе ня ніжэй узроўню задач, высунутых рэконструкцыйным пэрыодам.

Сярод пэўных колаў поэтычнага маладняка (ды і ня толькі маладняка) пачынае нават выпрацоўвацца асобны тып эстэтствуючага дэндзі, які сваё дробна-буржуазнае, выхалашчанае нутро спрабуе прыкрыць надворным мундзірам звыш вытрыманасьці, звыш рэволюцыйнасьці. Заместа пераробкі свае соцыяльнае прыроды дэндзі імкнецца на сваю ідэёвую ўнутраную пустату нацягнуць халат самага вытрыманага поэты. Поэтычны дэндзі кічыцца на кожным кроку сваімі рэволюцыйнымі заслугамі і, становячыся ў позу, аратарствуе:

„...на ветразях
бури
*і славы*
*Я, першы*
поэта-ударнік (!)
на моры
змаганьня
плаваю (!?!)“

Пад прыкрыцьцём гэтае перадавосьці, пад шыльдаю „першага поэта-ўдарніка“ дэндзі спрабуе працягнуць хаўтурка з самага нізкага гатунку. Сваю паўнейшую ідэёвую і мастацкую ўбогасьць дэндзі спрабуе завэлюмаваць часта ў „фабрычна-заводзкія, рабочыя“ фарбы.

Са зьявамі дэндзізму ў беларускай поэзіі неабходна змагацца. Дэндзізм не павінен мець месца ў савецкай і пролетарскай поэзіі. Неабходна памятаць, што „дэндзізм зьяўляецца альбо таму, што поэта хавае за эстэцкім грымам свой сапраўдны твар ворага, альбо таму, што ў поэты няма сіл, няма сродкаў, няма магчымасьцяй для таго, каб даць у сваёй творчасьці новае пролетарскае адчуваньне сьвету. Ён уцякае ў надвонасьць, у эстэтызм, у любаваньне размалёванымі пабракушкамі, бо дэндзізм ёсьць нішто іншае, як той парадны мундзір, які поэта нацягвае на сябе і носіць ва ўсіх выпадках свайго жыцьця. Савецкі дэндзізм— соцыяльна рэакцыйны (бо праз яго давіць на поэзію дробна-буржуазная ідэолёгія) і мастацка-бясплодны: адзін мундзір, узяты з чужога пляча, зьмяняецца другім, таксама не сваім, а чужым“ (Селіваноўскі).

Сваё дробна-буржуазнае нутро дэндзі старанна захоўвае, лякіруе поверху псэўда-рэволюцыйнай фразай. Але якой-бы ступені лякіроўкі ён не дасягнуў, ягоная дробна-буржуазная існасьць белымі ніткамі яскрава выступае наповерх. Марксыцкая крытыка павінна выкрываць дэндзізм ва ўсіх ягоных выглядах і варыяцыях і наносіць руйнуючы ўдар па ўсіх

ягоных формах праяўленьня. Дэндзізм у корні супярэчыць задачам пераробкі соцыяльнае прыроды, задачы аўладаньня сьветапоглядам пролетарыяту і пераходу на пролетарскія рэйкі тых поэтаў-спадарожнікаў, якія яшчэ ня зжылі дробна-буржуазных хістаньняў.

Дэндзізм вядзе на шлях прыстасаваньня, падхалімства і падробкі пад „чырвоны“ колер, а не на шлях органічнай пераробкі псыхо-ідэолёгіі спадарожніка на соцыялістычны лад.

Дэндзізм нараджае хаўтуру; ён нараджае тое, што некаторыя поэты пішуць на два пляны—сабе, уласна-суб'ектыўныя і глыбока лірычныя вершы для „душы“ (і гэта поэта лічыць сапраўды мастацкаю творчасьцю) і вершы для грамэдзтва,—так сказаць, у парадку грамадзкае нагрузкі (і яе поэта збывае абыяк, як нейкую непажаданую павіннасьць, „чорную работу“, на якую глядзіць скэптычна, з вышыні). У выніку, у першым разе атрымоўваецца апалёгетыка дробна-буржуазнае і буржуазнае псыхолёгіі, у другім—хаўтура, траскучая фраза, падробка.

Вось супроць гэтага неабходна павесьці самую непрымірымую барацьбу.

Для пролетарскага поэты існуе толькі адна лінія працы, адзін плян—гэта грамадзкія мотывы, водгук на ўсе злобадзенныя пытаньні рэконструкцыйнай рэчаіснасьці, бо мотывы грамадзкія для яго зьяўляюцца і мотывамі чыста ўласнымі, суб'ектыўна асабовымі, і наадварот, асабовыя мотывы для пролетарскага поэты зьяўляюцца мотывамі і грамадзкімі, злабадзённымі для ўсяго пролетарскага колектыву. Тут як ня трэба лепей знаходзіць сваё конкрэтнае выражэньне ленінскае палажэньне аб тым, што „агульнае існуе ў паасобным, праз паасобнае. Кожнае паасобнае ёсьць так ці інакш агульнае. Кожнае агульнае ёсьць частка, ці бок, ці сутнасьць паасобнага“ (Ленін, „К вопросу о диалектике“).

Мы павінны змагацца менавіта за гэткі новы тып пролетарскага поэты—актыўнага ўдзельніка соцыялістычнага будаўніцтва. Толькі той поэта, які прымае самы чынны ўдзел на перадавых позыцыях барацьбы за соцыялізм, які чарпае энэргію і веды з клясавае практыкі пролетарыяту і разам з тым крытычна авалодвае культурнай спадчынай мінулай літаратуры,—мае права на годнасьць пролетарскага поэты. І малейшаму праяўленьню чванства ў гэтых адносінах з боку любога поэты павінен наносіцца сваячасовы адпор.

Пролетарская поэзія ў змаганьні за ліквідаваньне свайго адставаньня і застою павінна практычна падыйсьці да выпрацоўкі дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтоду. А выпрацоўка творчага мэтоду пролетарскай поэзіі зараз павінна ажыцьцяўляцца перш за ўсё ў „адзям'яньваньні“ пролетарскай поэзіі, у аўладаньні вопытам Дзям'яна Беднага. Гэта значыць, перш за ўсё, пераключэньне ўсіх поэтычных сіл пролетарскай поэзіі на выкананьне задач, высунутых рэконструкцыйным пэрыодам. Гэта значыць ідэёвае пераключэньне поэзіі па сапраўды бальшавіцкаму на службу соцыялістычнаму будаўніцтву. Гэта значыць перш за

ўсё бальшавізацыя поэзіі, ідэёвае і творчае пераўзброеньне поэзіі, як пролетарскае зброі ў клясавым змаганьні. Гэта значыць зрабіць поэзію па форме зразумелай мільёнам працоўных мас Савецкага Саюзу.

Аўладаньне вопытам Дзям'яна Беднага азначае аўладаньне тымі дасягненьнямі на шляху ўтварэньня дыялектычна-матэрыялістычна мастацкага мэтоду, якіх дасягнуў Дзям'ян Бедны ў сваёй творчасьці (асабліва апошняга году) і якія зьяўляюцца покуль што непярэйдзенай нікім ступеньню набліжэньня да дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтоду. І гэта заключаецца ў уменьні паказаць нашу рэчаіснасьць ва ўсіх яе супярэчнасьцях і супроцьлегласьцях, прычым гэтак, як гэтыя супярэчнасьці бываюць у рэальным жыцьці—у іх узаемазалежнасьці, у іх узаемаперапляценьні, у ўзаемапрасякненьні гэтых супярэчнасьцяй і супроцьлегласьцяй, у іх спутанасьці і ў пераходзе аднаго ў другое, словам—у дыялектычным адзінстве і разьвіцьці.

„Дыялектыка ёсьць вучэньне аб тым, як могуць быць і як бываюць (як становяцца) таежсамымі супроцьлегласьці—пры якіх умовах яны бываюць таежсамымі, ператвараючыся адно ў другое, — чаму розум чалавека не павінен браць гэтыя супроцьлегласьці за мёртвыя, застыўшыя, а за жывыя, умоўныя, якія рухаюцца, якія ператвараюцца адна ў другую". (Лензборнік IX, ст. 69).

У Дзям'яна Беднага гэтыя супроцьлегласьці, зьяўляючыся супроцьлегласьцямі соцыялістычнай рэволюцыі, перамагаюцца самой гэтай рэволюцыяй.

Вось гэтага ўменьня паказу дадатнага і адмоўнага нашай рэволюцыі ў перапляценьні, у адзінстве гэтых супроцьлегласьцяй, прычым паказваць іх у форме перамагаючай супроцьлегласьці, у форме перамагаючай соцыялістычнай рэволюцыі, паказу жывога, клясавага чалавека ва ўсіх супярэчнасьцях і закладаных у ім капіталістычных і соцыялістычных элемэнтаў, паказу ў форме перамаганьня аднае супроцьлегласьці—перамаганьне соцыялістычных тэндэнцый над капіталістычнымі—і не стае нашым пролетарскім поэтам. Гэтаму неабходна і вучыцца ў Дзям'яна Беднага.

Посьпехамі аўладаньня вопытам Дзям'яна Беднага будуць абумоўлівацца і посьпехі набліжэньня да дыялектычна-матэрыялістычнага мастацкага мэтоду. Стварэньне дыялектычна-матэрыялістычнага стылю пролетарскай поэзіі і яе творчага мэтоду на даным этапе залежыць ад ступені ажыцьцяўленьня на практыцы пролетарскай поэзіі лёзунгу „адзям'яньваньня".

Але лёзунг „адзям'яньваньня", вядома, зусім не азначае рабскае насьледваньне Дзям'яну Беднаму, некрытычнае копіраваньне ягоных жанраў, прыёмаў, вобразаў і г. д. Зусім не. Вучоба ў Дзям'яна Беднага павінна быць крытычнаю, вучобаю дыялектычна-матэрыялістычнаю, бо ад памылак не застрахаваны і Дзям'ян Бедны. Таму для пролетарскага поэты абаязковым зьяўляецца і перамаганьне памылак Дзям'яна Беднага.

Заклік ударнікаў у поэзіі стварае неабходную базу і ўмовы для пасьпяховага правядзеньня „адзям'яньваньня“ пролетарскае поэзіі.

Усебаковае разгортваньне творчага поэтычнага спаборніцтва ўнутры пролетарскае поэзіі забясьпечыць пасьпяховасьць барацьбы за ідэйную гегемонію пролетарскай поэзіі. Заваяваньне дыялектычна-матэрыялістычнага мэтоду пролетарскай поэзіі,—гэта і галоўнейшая прадумова заваяваньня ідэйнае гегемоніі пролетарскай поэзіі.

„Неабходна працягваць курс на рашучае разгортваньне творчага спаборніцтва ўнутры РАПП, садзейнічаючы адукацыі творчых груповак на аснове адзінай літаратурна-політычнай лініі і ў рамках агульных для ўсіх РАПП установах па творчым пытаньням“—гаворыць ліст сакратарыяту РАПП аб разгортваньні творчай дыскусіі.

У гэтым сьвятле мы павінны вітаць пачынаньне разгортваньня творчага спаборніцтва ўнутры БелАПП'у, пачынаньне ўтварэньня на аснове адзінае літаратурна-політычнае лініі БелАПП'у творчых брыгад (утварэньне творчае брыгады „Ударны пост“ у складзе маладых поэтаў і пісьменьнікаў: Юлі Таўбіна, Зьмітрака Астапенкі, Валерыя Маракова, Аркадзя Куляшова, Барыса Мікуліча, Платона Галавача і Станіслава Шушкевіча).

Гэтыя пачынаньні павінны ўсімі сіламі падтрымлівацца і стымуліравацца. На аснове поэтычнага творчага спаборніцтва пролетарская поэзія будзе ісьці ўсё да новых і новых дасягненьняў.

Разгортваньне соцыялістычнага наступленьня пролетарыяту на поэтычным фронце, уключаючы ў сабе рашучую барацьбу супроць халтуршчыкаў, лякіроўшчыкаў, прыстасавальнікаў, супроць усялякіх скажэньняў прынцыпу дыялектычнага матэрыялізму, супроць вульгалізатараў, вароншчыкаў, пераверзеўцаў, лефаўцаў, формалістаў і г. д., накіроўваючы бязьлітасны агонь на два франты—супроць правых і „левых“ капітулянтаў, разгортваючы непрымірымую барацьбу з тэорыяй і поэтычнай практыкай вялікадзяржаўнага і інш. шовінізмаў і контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму,—стварае вялізарныя рэсурсы для выпрацоўкі марксыцка-ленінскага, дыялектычна-матэрыялістычнага творчага мэтоду і заваёвы ідэёвай гегемоніі пролетарскай поэзіі.

У рашучых клясавых бойках, у практыцы соцыялістычнага будаўніцтва пролетарская поэзія набывае неабходны ёй клясавы гарт. На франтох клясавае вайны загартоўваюцца, растуць і мацнеюць шэрагі творцаў пролетарскай поэзіі.

Заваёўваючы ідэйную гегемонію на рыштаваньнях соцыялістычнага будаўніцтва, пролетарская поэзія прыдзе да новага, нябачнага дасюль росквіту.

*(Канец першага цыклю).*

г. Менск, Студзень, Люты, Сакавік, 1931 г.

# КНІГАПІС

**Алесь Некрашэвіч**. *Беларускі першы дзяржаўны тэатр (1920—1930 г) выд. Б. Д. В. 1930 г.—7 ыр. 3000 экз. стар. 64.*

Сыстэматычнага агляду працы Беларускіх тэатраў, якія пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі пачалі разьвівацца ў БССР—да гэтага часу ня было.

— Паасобныя рэцэнзіі на пастаноўкі беларускіх тэатраў, допісы і артыкулы, якія зьмяшчаліся ў нашых часопісях і газэтах—зразумела, не маглі даць поўнага агляду дзейнасьці таго ці іншага тэатру.

Больш таго—нашай грамадзкасьці вядома, што беларускія нацыянал-дэмакраты і вялікадзяржаўныя шовіністы ўзялі на сябе абавязак інфармаваць замежныя краіны аб стане беларускай культуры і зразумела, што па іх „інфармацыях"—беларускі тэатр быў пасьлядоўцам буржуазнага па сваей прыродзе тэатру Ігната Буйніцкага.

У гэтых рэцэнзіях, якія вельмі часта зьмяшчаліся ў замежных газэтах і часопісях (не камуністычных зразумела—а як „Крывічы" „Slavische Rungschau" і інш.)—беларускі тэатр, разглядаўся як нешта суцэльнае, у якім клясавай барацьбы не існуе і які ідзе сваім самастойным шляхам.

Вядомая ўсім „тэатральная дыскусія" вельмі цікавіла замежных нацыянал-фашыстаў і пасьля таго як наша грамадзкасьць дала рашучы адпор вылазцы нац-дэмаў, яны бяз канца на старонках сваіх газэт трубілі аб заняпадзе беларускай культуры.

Выданьне кнігі А. Некрашэвіча, якая прысьвечана агляду дзейнасьці Першага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру—трэба лічыць вельмі своячасовай зьявай, своячасовай таму, што яна арыентуе нашага чытача аб разьвіцьці пролетарскага мастацтва у БССР і разьбівае ўсе довады і погляды нацыянал-дэмакратаў адносна заняпаду тэатральнай культуры на Беларусі.

— Сапраўды—кніга А. Некрашэвіча дае сталы аналіз разьвіцьця першага Дзяржаўнага Беларускага Тэатру, ад пачатку яго існаваньня, да нашых дзён.

Аўтар на цэлым шэрагу прыкладаў паказвае як гэты раней напоўаматарскі гурток змог вырасьці ў вялікую мастацкую адзінку, пра якую ведаюць ня толькі працоўныя гораду Менску—БССР, а і пролетарыі Масквы і інш.

Вельмі дакладна і стала даны разгляд таго, як тэатр вёў барацьбу за аўладаньне новым рэпэртуарам, як вялася барацьба з нац.-дэмаўскай устаноўкай на самабытнасьць, ці на культурны Захад—якую праводзілі нацдэмы—„прыхільнікі мастацтва", тым больш, што іх у той час не бракавала.

Тэатр ішоў па шляху адрыву ад старога, да аўладаньня новым рэвалюцыйным рэпэртуарам, утвараючы глебу для стварэньня пралетарскай драматургіі ў БССР, якая зараз у БССР — часткова утворана. (Головчынэр, Кобец, Рамановіч, Сташэўскі, Міцкевіч, Стэльмах—і інш.).

Алесь Некрашэвіч у сваёй працы шэрагам прыкладаў гэта даводзіць. Разьвіцьцё тэатру ад „Тутэйшых"—да „Гуты"—ёсьць шлях перамо жны.

На тэатры перамаглі пролетарскія тэндэнцыі і тэатр ідзе па гэтаму шляху далей.

Колектыў артыстаў сам моцна быў зацікаўлены ў перабудове тэатру на новыя рэйкі і як вынік гэтай перабудовы—мы маем тое, што тэатр на першай Тэатральнай Олімпіядзе народаў СССР — атрымаў першае месца — за тое, што „ён падышоў да праблемы нацыянальнага мастацтва ня шляхам падкрэсьліваньня экзотычных дэталяў старасьветчыны (што было раней —Эд. Г.), а шляхам вывучэньня рабочае клясы Беларусі сёнешняга дню.

— Жюрі таксама адзначыла, што наяўнасьць вялікага разьвіцьця тэатральнай справы ў БССР — праца Першага Беларускага Дзяржаўнага Тэатру, служыць ня толькі фактам бурнага росту нацыянальнай культуры ў Савецкай Беларусі, але і бясспрэчна *стымулюе рост нацыянальнай сьвядомасьці беларускага народу за межамі СССР.*

І сапраўды, дзе існаваньне тэатру ці нават беларускага драматычнага гуртка — забараняецца ўладай, дзе зачыняюцца нацыянальныя школы і клюбы, разьвіцьцё ў БССР пролетарскай нацыянальнай культуры служыць добрым прыкладам і штурхачом на барацьбу за права на вольнае культурнае разьвіцьцё.

— У кнізе А. Некрашэвіча—паказана як тэатр у выніку актыўнай працы—прыйшоў да тых дасягненьняў, якія за ім маюцца.

А гэтыя дасягненьні вынікалі з тэй рашучай барацьбы, якую працаўнікі тэатру вялі з рэшткамі нац - дэмократычных тэндэнцый на тэатры, з тымі рэшткамі буржуазнай культуры, якія хацелі спыніць разьвіцьцё сапраўды пролетарскага мастацтва на нацыянальнай аснове, пад кіраўніцтвам КП(б)Б.

Аўтар кнігі — зусім правільна зазначае, што „беларускі тэатр, як высокамастацкі організм, напоўнены ідэйным зьместам з неабмежаванымі пэрспэктывамі, мог нарадзіцца і расьці толькі пасьля перамогі пролетарыяту, толькі пры савецкіх умовах і толькі пры такім вырашэньні нацыянальнага пытаньня, як гэта вырашае комуністычная партыя“.

Супроць гэтага будуць супярэчыць нац - дэмакраты, які за шыльдай, якую яны нясуць, ня бачаць таго, як тэатр ідзе, разьвіваецца зараз і раней, калі ён знаходзіўся пад апякунствам „культурнага пана“ Алексюка, які адвёў, як вядома, тэатру памяшканьне былой стайні на конскім рынку.

— Кніга Алеся Некрашэвіча зьяўляецца каштоўным укладам у гісторыю беларускага мастацтва і культуры.

З задавальненьнем прачытае яе кожны рабочы, селянін, — кожны культ-працаўнік!

---

Як некаторы недахоп, трэба адзначыць тое, што аўтарам цалкам не скарыстаны ўсе матар'ялы, якія маюцца і якія датычацца Б. Д. Т. І. (т. напр. арт. Шамардзінаў—аб тэатры, артыкулы С. Гарадзецкага (Известия) арт. С. Марголіна і інш).

Ня выкарыстаны таксама матар'ялы, якія друкаваліся ў мясцовым друку (Менск, Ворша, Віцебск, Магілеў і інш.), дзе грамадзкая думка значна дапамагала перабудаваць працу тэатру.

— Аўтар не скарыстаў для сваей працы шматлікія адрасы, якія тэатр атрымоўваў ад рабочых, сялян, чырвонаармейцаў, студэнтаў і дзяцей — дзе так-сама можна-б было знайсьці шмат цікавага матар'ялу.

Слаба паказана ў кніжцы грамадзкая праца тэатру па выезду на фабрыкі, у колгасы і г. д. Няма падліку колькасьці паказаў тэатру за дзесяць год.

Але ўсе гэтыя недахопы змогуць быць выпраўлены і яны вартасьці кніжкі А. Некрашэвіча ня зьніжаюць.

— Выдана кніга тэхнічна вельмі добра, у мастацкім афармленьні

мастака Барыса Малкіна і спэцыяльнай брыгады друкароў і наборшчыкаў.

Цану кнікі (1 р. 75) нельга лічыць вялікай, улічваючы тое, што яна зьмяшчае больш 100 ілюстрацый і інш.—(кніга выдана на трох мовах).

Вельмі пажадана надалей выдаваць спэцыяльныя кнігі, якія-б былі прысьвечаны пытаньням працы іншых тэатраў БССР (БДЯТ — БДТ 2— БДВТ і інш).—Гэта дапаможа нам растлумачыць працоўным масам БССР—аб тым росьце і культурным уздыме Савецкай Беларусі, якое было-б немагчыма пры ўмове дыктатуры паноў Алексюкоў і яго лакеяў—нац-дэмакратаў.

**Эд. Галубок.**

13-III 1931 г.

**Сьцяпан Ліхадзіеўскі. Чырванеюць вішні, вершы**. *Белдзяржвыдавецтва. Менск, 1931 г.*

Рэволюцыйная беларуская поэзія ў сучасны момант зьяўляецца моцна літаратурным фактарам, які выцясьняе як тэматычна, так і формальна ўсе іншыя, нерэволюцыйныя сэктары нашай літаратуры. Бязьлітасны бой, які быў дадзен агентам нацыянал-дэмократызму ў літаратуры, ставіць асабліва востра пытаньне аб форсаваньні росту пролетарскага сэктару нашай літаратуры. Таму мы з асаблівай пільнасьцю і дбайнасьцю павінны сачыць за тым процэсам перарастаньня блізкіх пролетарскай літаратуры рэволюцыйных спадарожнікаў, за тым процэсам, які адбываецца зараз у літаратурнай рэчаіснасьці Савецкага Саюзу.

Гэты процэс набліжэньня да пролетарскай літаратуры рэволюцыйных спадарожнікаў ва ўмовах Беларусі ідзе, галоўным чынам, па лініі перарастаньня поэтаў, асноўнай тэмай якіх да гэтага процэсу была вёска. Сьцяпан Ліхадзіеўскі, яго кніжка „Чырванеюць вішні", зьяўляецца яскравейшым доказам таго, што такі процэс перарастаньня сялянскага поэта ў блізкага справе пролетарыяту пісьменьніка зьяўляецца тыповым для большасьці нашых маладых поэтаў.

Тэматычная еднасьць кніжкі Ліхадзіеўскага ў наступным: вясковы хлапец, бядняк ідзе ў горад на вучобу. За плячыма ў яго засталася вёска, дзе гэты вясковы хлапец, сьвядомы ўдзельнік рэволюцыянізаваньня гэтае вёскі, паклаў багата працы, а ўпэрадзе—горад, які таксама здаўся яму родным, у якім ён знайшоў сваё месца:

Я вёску ведаю,
Ранюткаю вясною:
Вада бліскучая
У стужачных разорах.
Сягоньня-ж радуе
Мае настроі
І прытуліў мяне
Вясновы горад (стар. 16).

Вёска засталася за плячыма, і цяпер поэт пакладае ўсе свае сілы для таго, каб зразумець сутнасьць гораду, каб зрабіцца актыўным змагаром за справу соцыялізму тут, у горадзе, як гэта было ў вёсцы.

Зьвернемся да вершаў, якія адлюстроўваюць горад, і гэтым самым праілюструем нашу асноўную ўстаноўку: як жа ўспрымае поэт сучасны горад, дзе концэнтруецца асноўная яго ўвага, які ў яго зрух у сьветаадчуваньні. Горад успрымаецца Ліхадзіеўскім наступным чынам:

Горад гульлівы... Каменны горад...
Колісь спавіты, атулены горам—
Каменны горад.
Шпаркі рух, шпаркі па вулічным бруку,
Чуецца, сьцелецца стукат і грукат,
Грукат па бруку (стар. 19).

Далей гэты верш „Горад гульлівы" ідзе па лініі апісаньня вуліцы, тых зьмен, якія кідаюцца адразу ў вочы, зьмен вонкавых:

Вуліцы ў гомане, гомане новым...
Чуецца зьдзіўлены шэ т каштановы—
Горад стаў новым (стар. 20).

Гэткае-ж вонкавае адлюстраваньне вытворчага працэсу гораду мы маем і ў вершы „У цагельні“:

Жвава працуюць рукі,
Сочыцца горкі пот.
Кожнаму праца рупіць,
Кожны да працы ахвоч. (стар. 7).

Падыходзячы больш блізка да рабочае тэмы, Ліхадзіеўскі таксама ня ўнікае гэтага знадворнага ўспрыманьня. Ён паўстае ў гэтых вершах як старонны сузіральнік, як чалавек, які *стараецца* зрасьціся з рабочым колектывам, але які яшчэ ня здолеў дзякуючы свайму сьветаўспрыманьню ўвасьці ў гэты колектыў. Характэрным прыкладам можа быць верш „Рабочае сьвята“ (стар. 9):

Клюб заводу
Звоніць галасамі.
Ну, а *мне здаецца —*
*Шалясьцяць аўсы.*
Сёньня горад
Родны мне таксама,
*Хоць я й вёскі*
Саламянай сын.
(Усюды падкрэсьлена мною. *Б. М.*).

Гэты верш характэрны ня толькі таму, што ён паказвае ўспрыманьне Ліхадзіеўскім рабочага клюбу звонку, паказвае рабочае сьвята з пункту гледжаньня, прынамсі, гасьця, але ён характэрны яшчэ і таму, што ўспрыманьне гуду, гоману ў заводзкім клюбе ідзе па лініі асоцыяцыі з вёскай: галасы—гэта шалясьценьне аўсоў. Горад родны, але абавязкова прысутнічае напамінак аб тым, што „вёскі саламянай сын“. Вось якраз усе вершы, якія прысьвечаны гораду, характэрны сваёй павярхоўнасьцю, сваім няглыбокім падыходам да тэмы. Да гэтага-ж вобраз, пісьменьніцкія сродкі адлюстраваньня ў Ліхадзіеўскага заусёды зьяўляюцца вытокай яго вясковага, калі можна гэтак сказаць, парыоду.

Затое вершы, у якіх тэмай—вёска, у якіх тэмай новае, што ідзе з рэволюцыяй, на вёсцы, гэтыя вершы ў Ліхадзіеўскага моцныя, глыбокія, поўнакроўныя.

На балоце, на балоце—чорны торф,
На балоце, на балоце—ячмяні.
Звонка, гучна прагудзеў мотор,
Сьпеў былога, сьпеў старога замяніў.
(стар. 21).

У гэтым вершы—„Музыка балот“ Ліхадзіеўскі з эпічнай выразнасьцю паказвае тыя грандыёзныя работы, якія праводзіць савецкая ўлада на балотных масывах Беларусі для скарыстаньня вялізарных крыніц энэргіі. Або возьмем другі верш („Радасныя весьці“), дзе аўтар паказвае вёску, савецкую вёску з усімі падзеямі ў соцыяльным яе жыцьці, якія зьявіліся вынікам рэволюцыі. І верш „Сельсавет“, і „Настаўнік“, і „У школе“, дый шмат іншых прысьвечаны выключна вёсцы. Сьветаадчуваньне аўтара ў гэтых вершах надзвычай выразнае. Як ні здаецца Ліхадзіеўскаму, што горад для яго зрабіўся родным, што ён знайшоў сабе месца ў гэтым горадзе, роўны сярод пролетараў, але ўсё-ж яго цягне да вёскі, ён пакінуў сваё сэрца іменна ў гэтай вёсцы.

І шумяць і шумяць каласы
І цьвітуць—расьцьвітаюць куколі...
*Так і вабіць раздольнае поле—*
Эх, пары загарэлай часы!
І шумяць, і шумяць каласы... (стар. 23).

Вобразы вясковага жыцьця, крочаньня вёскі па шляху да сацыялізму ў Ліхадзіеўскага сакаўныя, бадзёрыя, рэчавыя. Параўнаньне ў яго заўсёды зьвязана з чым-небудзь конкрэтным, іменна такім, што зьяўляецца неадымнай часьцінай усіх сялянскіх поэтаў. Вось прыклад:

Каласы пералічыш у полі—
Будзеш знаць,
Колькі нашай сям'і.
Мы юнацтвам, прыдзеш, упоім.
Весялосьцю надзелім сяліб. (стар. 51).

Або:

Мае думкі спяліся ў рой,
Быццам пчолы, зраіцца гатовы:
(стар. 53).

Такіх прыкладаў можна было-б прывесьці дужа шмат. Слоўны матэрыял, выкарыстаньне фольклёру, слоўны вобраз, якімі карыстаецца Ліхадзіеўскі, яшчэ раз падмацоўваюць тую думку, што ён (поэт) моцна ўрос у вясковы побыт, што ён зьяўляецца выключна рэволюцыйным поэтам новай вёскі, якая колектывізуецца. Аб Ліхадзіеўскім можна дужа трапна сказаць словамі расійскага поэта Дароніна: „Я певец полевой машины“.

Вершы аб горадзе ў Ліхадзіеўскага носяць нейкі выпадковы характар. Калі Ліхадзіеўскі разумее пытаньне перабудовы сваёй поэзіі на рэйкі пролетарскай літаратуры толькі як абавязковае асьвятленьне гораду, дык ён бязумоўна робіць памылку. Справа ня ў тэме, а ў перабудове сьветапогляду, сьветаадчуваньня.

А вершы аб вёсцы — сакаўныя, бадзёрыя, уздымныя. У іх — стыхія Ліхадзіеўскага. У іх — Ліхадзіеўскі сапраўдны поэт[1]).

**Барыс Шікуліч.**

[1]) Ліхадзіеўскаму варта зьвярнуць увагу на больш выразную інструмантоўку сваіх вершаў.

## БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* 12—15 мая будзе працаваць пленум праўленьня беларускай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў. На павестцы дня пленуму стаяць гэткія пытаньні:

1. Політычны даклад—дакладчык тав. Будзінскі.

2. Справаздача сакратарыяту БелАПП—дакладчык тав. Ліманоўскі.

3. Творчая дыскусыя ў РАПП'е—дакладчык прадстаўнік РАПП.

4. Творчыя пытаньні—дакладчыкі: Гальперына, Бэндэ, Аляхновіч, Бронштэйн.

5. Організацыйныя пытаньні.

На пленуме будуць прадстаўнікі ВОАПП'у, РАПП'у, ВУСПП'у, ЗАКАПП'у.

Удзельнічаюць прадстаўнікі філіі і рабочыя ўдарнікі ад Менскай, Бабруйскай, Гомельскай, Віцебскай і Полацкай філіі, а таксама прадстаўнікі літгурткоў: Барысава, Слуцку, Магілева, Горак і Воршы.

Для ўдзелу ў працы пленуму запрошаны прадстаўнікі ад Менскай і Бабруйскай сэкцыі БелЛАЧАФ'у.

Пленум будзе адбывацца ў Доме пісьменьніка.

* *Утварылася беларускае аб'яднаньне пролетарска-калгасных пісьменьнікаў.*

25 красавіка гэтага году адбыўся агульны сход пісьменьнікаў г. Менску, які ўхваліў організацыю новага аб'яднаньня пролетарска-колгасных пісьменьнікаў БССР.

Сход заслухаў даклады прадстаўнікоў ЦК „ВОПКП“ т.т. Багданава і Ягорашвілі і паведамленьне організацыйнага камітэту па стварэньні аб'яднаньня.

Тав. А. Багданаў падзяліўся вопытам работы ўсерасійскага аб'яднаньня пролетарска-калгасных пісьменьнікаў (ранейшае „ВОПКП“), якое існуе ўжо каля 6 год. Ён адзначыў, што „ВОПКП'у прыходзілася ўвесь час весьці барацьбу на два франты. З аднаго боку, з так званай палоншчынай, якая імкнулася разуменьне „сялянская літаратура“ падмяніць разуменьнем „вясковае“ літаратуры, адносячы да сялянскіх такіх кулацкіх пісьменьнікаў, як Клюеў, Клычкоў, Есенін. З другога—з меншавіцка-трацкісцкімі ўстаноўкамі адмаўленьня ролі і значэньня сялянскай літаратуры, са спрашчэнствам, падзелам усяе літаратуры толькі на пролетарскую і буржуазную. Трэба было даводзіць, што сялянская літаратура—гэта літаратура тэй групы, якая ідзе разам з пролетарыятам пад яго кіраўніцтвам.

Зусім зразумела, што прад ВОПКП'ам заўсёды стаяла задача, пастаўленая яшчэ ў 1925 г. Цэнтральным Камітэтам УсеКП(б), „аб пераводзе сялянскіх пісьменьнікаў на рэйкі пролетарскай ідэолёгіі“. Гэта задача зьяўляецца актуальнейшай і зараз.

— За апошні час вельмі зьмяніўся твар нашых кадраў,—гаворыць тав. Багданаў:—зараз мы, пролетарска-колгасныя пісьменьнікі, апіраемся, галоўным чынам, на сельска-гаспадарчых рабочых і членаў колгасу. Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі, магутная хваля кол-

гаснага прыбою дыктуюць неабходнасьць шырокага ахопу і кіраўніцтва новымі літаратурнымі сіламі, што ідуць з нашых саўгасаў і колгасаў. Вядома, мы не адмятаем і аднаасобніка-бедняка і серадняка—нашага саюзьніка, заўтрашняга колгасьніка.

Бязумоўна, на Беларусі таксама насьпела патрэба ў стварэньні адпаведнай пісьменьніцкай організацыі.

Далей тав. Багданаў спыняецца на ідэолёгічнай пляцформе аб'яднаньня пролетарска - колгасных пісьменьнікаў, на творным мэтодзе, на спэцыфіцы, тэматыцы і форме пісьменьнікаў гэтага атраду савецкай літаратуры. Тав. Багданаў гаворыць, што перад новай організацыяй стаяць адказьнейшыя грамадзка-політычныя задачы

Тав. Ягорашвілі расказвае аб рабоце пролетарска-колгасных пісьменьнікаў іншых нацыянальных рэспублік Савецкага Саюзу. Значную частку свайго дакладу ён прысьвяціў нацыянальнаму будаўніцтву ў саюзных рэспубліках, барацьбе з ухіламі ад генэральнай лініі партыі ў нацыянальным пытаньні. Нацыянал-дэмократычныя тэндэнцыі былі і ў Грузіі (орыентацыя на буржуазны захад), і ў Казакстане, Татарыі, Узьбекістане (панісламізм, імкненьне да адзінай Іранскай дзяржавы ад Волгі да Пэрсіі і Аўганістану).

У грузінскай літаратуры з абмежаваньнем капіталістычных элемэнтаў у краіне, з правядзеньнем суцэльнай колектывізацыі, правапапутніцкія групы пісьменьнікаў рэзка зьмянілі свой курс, сталі на шлях незамаскаванае барацьбы супроць політыкі комуністычнай партыі і савецкай улады. Яны сталі выступаць супроць змычкі гораду з вёскай, узводзячы паклёпы на колгаснае будаўніцтва і інш.

Організацыя аб'яднаньня пролетарска-колгасных пісьменьнікаў — магутны ўдар па рэштках нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіі. Тав. Ягорашвілі вызначае рад практычных мерапрыемстваў, якія стаяць на сёняшні дзень перад Беларускім аб'яднаньнем пролетарска-колгасных пісьменьнікаў.

Пасьля прамовы маскоўскіх таварышоў слова ад імя організацыйнага камітэту даецца Іл. Барашку.

Організацыйны камітэт пачаў сваю работу 21 красавіка. У склад яго ўвайшлі т.т. Галавач, Барашка, Баранавых,Шукевіч-Трацьцякоў і радактар газ. „Колгасьнік Беларусі". Організацыйны камітэт вызначыў орыентыровачны плян работы, які падаецца на абгаварэньне агульнага сходу пісьменьнікаў.

Паводле гэтага пляну ўхвалена стварыць філіі аб'яднаньня пролетарска-колгасных пісьменьнікаў у першую чаргу там, дзе існуюць філіі БелАПП'у — у Віцебску, Полацку, Бабруйску, Гомелі, Горках. Асноўнае ядро аб'яднаньня складуць белапаўцы, у яго ўвойдуць таксама пісьменьнікі з „Полымя" і „Узвышша", найбольш блізкія да задач пролелетарска-колгаснай літаратуры. Распачата работа па ўцягненьні ў рады аб'яднаньня ўдарнікаў першым чынам буйнейшых гаспадарак: колгасу „Расьсьвет Пераможца", комуны імя БВА, Койданаўскай МТС. Наладжваецца сувязь з гаспадарчымі організацыямі—Белколгасцэнтрам, Бельсельтрэстам.

Уся дзейнасьць новага аб'яднаньня будзе праходзіць у шчыльнай сувязі з брацкімі організацыямі РСФСР, УССР, ЗСФСР „ВОПКП", „Плуг" і інш.).

Аб'яднаньне будзе мець свой орган—штомесячную часопісь памерам у тры друкаваныя аркушы. Аднэй з важнейшых галін работы Беларускага аб'яднаньня пролетарска-колгасных пісьменьнікаў, будзе сыстэматычнае асьвятленьне ў ім фашыстоўскага тэрору ў Заходняй Беларусі.

У спрэчках выказаліся т.т. Ліманоўскі, Процька, Кучар і Галавач. Усе прамоўцы падкрэсьлілі актуаль-

насьць організацыі новага аб'ядканьня і вялікую адказнасьць задач, што стаяць перад ім.

Сход пісьменьнікаў паслаў прывітальную тэлеграму Максіму Горкаму.

* Беларускай Акадэміяй і інстытутам літаратуры, мастацтва і мовы комакадэміі пры ўдзеле ВОАПП і БЕЛАПП з 15 па 25 мая будзе праводзіцца ў БССР дэкада пад агульным лёзунгам: „За марксызм-ленінізм у літаратурнай навуцы". Інстытут літаратуры мастацтва і мовы вылучыў для паездкі ў БССР дэлегацыю ў складзе Ан. Луначарскага. І. Нусінава, В. Каваленка і інш. Старшынёй дэлегацыі і прадстаўніком прэзыдыуму комакадэміі зацьверджаны т. С. Дзінамаў. Сябры дэлегацыі зробяць шэраг дакладаў у Беларускай Акадэміі Навук, на рабочых і чырвонаармейскіх сходах і прачытаюць сэрыю лекцый у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце.

* У красавіку гэтага году праз Менск у Маскву праехаў з Бэрліну вядомы нямецкі пролетарскі пісьменьнік Іоганэс Бэхэр. На станцыі Негарэлае тав. Бэхэра спаткала дэлегацыя беларускіх пісьменьнікаў у складзе т.т. П. Галавача, Я. Лімаоўскага, Іл. Барашкі, Л. Бэндэ, М. Чарота, К. Крапівы, Юр. Лявоннага і работнікі цэнтральных газэт. Тав. Бэхэр паведаміў, што ў Савецкім Саюзе ён прабудзе 4-5 тыдняў. Яго вельмі цікавіць гаспадарча-культурнае будаўніцтва БССР. Магчыма, што, вяртаючыся ў Нямеччыну, Іоганэс Бэхэр наведае Менск.

* *Літаратурная брыгада газэты „Піонэр Беларусі" у пісьменьнікаў.*

З мэтай прыцягненьня беларускіх пісьменьнікаў да напісаньня твораў для дзяцей, рэдакцыя „Піонэр Беларусі" паслала літаратурныя брыгады да іх. Першым літбрыгада „Піонэр Беларусі" наведала Андрэя Александровіча. Александровіч напісаў наступнае:

— „Наша літаратура адстае ад нястрымна-шпаркіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, узьнятых энтузіязмам рабочае клясы. Пераходзячы на новыя комуністычныя мэтоды працы ў справе зьнішчэньня адставаньня літаратуры ад ходу соцыялістычнага будаўніцтва — мы абавязаны асабліва востра паставіць пытаньне аб мастацкай літаратуры для трэцяга пакаленьня бальшавікоў. Тыя выданьні, што на сёньня мы маем для акцябрат—зорак, піонэраў—школьнікаў, якасна, тым больш колькасна, ня могуць нікога задаволіць. Конкрэтна, напісаўшы ўжо некалькі кніжачак для школьнікаў, няспыняючыся на гэтым, я абавязваюся да 15 мая 1931 г. напісаць яшчэ адну кніжачку для дашкольнікаў і да 11 ліпеня 1931 г.—поэму для піонэраў школьнікаў.

Даючы гэта абяцаньне я выклікаю напісаць для дзяцей па аповесьці пісьменьнікаў: Міхася Лынькова і Платона Галавача, а ў вершаванай форме выклікаю поэтаў Міхася Чарота і Ізі Харыка. Справу атрыманьня рукапісаў ад гэтых аўтараў і справу організацыі чыткі гэтых твораў сярод піонэрскае масы—думаю не адмовіцца ўзяць на сябе рэдакцыя „Піонэр Беларусі".

Пасьля Александровіча літбрыгада наведала Міхася Чарота. Міхась Чарот напісаў наступнае:

„Мне часта задаюць пытаньні: чаму я зараз нічога ня пішу для дзяцей? Чаму не даю мастацкіх твораў для піонэрскай і комсамольскай моладзі?

Пры гэтых запытаньнях я заўсёды адчуваю сябе вінаватым і адказваю: так, зьбіраюся напісаць, хутка напішу. Думаю, што многія беларускія пісьменьнікі даюць такія самыя адказы і таксама адчуваюць сябе вінаватымі перад магутнай і надзейнай зьменай—рабочай і колгаснай моладзі.

Мы—беларускія пролетарскія і савецкія поэты і пісьменьнікі—у першую чаргу вінаваты, што дзіцячая і юнацкая беларуская, мастацкая літа-

ратура далёка адстала ад агульнага росту нашае літаратуры. Ліквідаваць гэты прарыў на літаратурным фронце—наша першачарговая і неадкладная задача. Я абвяшчаю сябе мабілізаваным з 1 мая па 1 жніўня для напісаньня мастацкага твору з жыцьця піонэрыі. Заклікаю беларускіх, пролетарскіх і савецкіх пісьменьнікаў таксама мобілізавацца на гэты дужа важны і адказны фронт".

Пісьменьнік Міхась Лынькоў на заклік папярэдніх т.т. і рэдакцыі „Піонэр Беларусі" адзначыў:

„Орыгінальнай беларускай і дзіцячай літаратуры ў нас бадай што няма. Лік аўтараў у гэтай галіне літаратуры надзвычайна абмежаваны і мы маем амаль што адзінкі. А таму задача організацыі моцнай беларускай юнацкай і дзіцячай літаратуры зьяўляецца аднэй з актуальных задач нашага часу. Вось, на мой погляд, некаторыя мерапрыемствы, якія-б дапамаглі ў вырашэньні гэтай задачы.

1. Беларускія літаратурныя організацыі і ў першую чаргу БелАПП павінны вылучыць кадры юнацкіх і дзіцячых пісьменьнікаў, організаваць іх у асобную сэкцыю і аказваць усямерную дапамогу ў іх творчай працы.

2. Усе пісьменьнікі ў свой гадавы „прамфінплян" абавязкова павінны ўключыць па адным творы спэцыяльна для нашага падрастаючага пакаленьня

3. Органы комсамольскага друку, а таксама „Піонэр Беларусі" і „Іскры Ільліча" павінны праводзіць штодзенную працу па вылучэньню са сваіх юнкораў і дзяткораў таварышоў, якія маюць нахіл да мастацкай творчасьці і аказваць ім усямерную дапамогу, спрыяць іх творчаму росту, падрыхтоўваючы такім чынам маладыя кадры будучых юнацкіх і дзіцячых пісьменьнікаў.

4. Комсамольскай організацыі трэба значна бліжэй падыйсьці да справы з юнацкай і дзіцячай літаратурай, больш кіраваць гэтай справай, больш цікавіцца ёю і, у прыватнасьці, наладзіць нарэшце сталае, ідэёвае кіраўніцтва сэктарам юнацкай і дзіцячай літаратуры ў БДВ.

Памеры анкетнай нататкі не даюць магчымасьці шырока выказацца па закранутым пытаньні, а таму і спыняюся на гэтым з свайго боку, як пісьменьнік, я абавязуюся на працягу лета даць адно апавяданьне альбо аповесьць для чытачоў „Піонэра Беларусі".

Дзіцячы пісьменьнік Янка Маўр адказаў:

— „Мяне прасіць ня трэба. Я сам працую галоўным чынам у галіне дзіцячай літаратуры. Не адна кніга задумана мною, і матэрыялу сабрана шмат. Толькі часу не хапае. У даны момант мяне цікавіць напісаць працяг „Палескіх робінзонаў", паказаць, як першабытны куток ператварыўся ў соцыялістычны. А дзеля гэтага трэба ехаць і на месцы вывучыць справу. А ехаць не заўсёды магчыва... Адным словам, у нашай працы аднаго жаданьня і абяцаньня мала. Часам і жаданьне і мажлівасьць ёсьць, ды праца ня йдзе. А другі раз яна і пайшла-б, дык мажлівасьці няма. Улічвайце гэта, калі будзеце даваць „заказы" пісьменьнікам. У кожным разе першую сваю пяцігодку (у год па кнізе) я выканаў на сто процантаў. Спадзяюся не адстаць і надалей.

* *Пролетарскае мастацтва—на дапамогу друку.* 20 мая пачынаецца месячнік друку. Гарком КП(б) ухваліў правесьці за адзін-два дні да пачатку месячніка ўрачыстае пасяджэньне гарадзкога партактыву разам з рабкорамі ўдарнікамі і рабочымі менскіх прадпрыемстваў. На гэтым паседжаньні—мітынгу будзе ўпяршыню ў Менску організавана масавае мастацкае дзеяньне, якое мае мэтай шляхам тэатралізацыі мітынгу з найбольшай пераканальнасьцю адлюстраваць баявыя моманты кампаніі месячніку друку. Для

правядзеньня гэтага мерапрыемства вызначана спэцыяльная брыгада. У склад брыгады ўваходзяць пісьменьнікі А. Александровіч, Юр. Лявончы, Аўг. Сьцяпной. Афармляе тэатральнае дзеяньне рэжысэр Халізяў.

У рабоце па афармленьні тэатралізаванага мітынгу прымаюць удзел менскія тэатры рабочай моладзі беларускі і яўрэйскі) і студэнты дзяржаўных драматычных курсаў.

* *10 год Беларускага Дзяржаўнага Вандроўнага тэатру.* 4 мая адбыўся ўрачысты сход прысьвечаны дзесяцігодзьдзю БДВТ.

Сход адчыніў прадстаўнік галоўмастацтва БССР тав. Шамшур. Даклад аб дзесяцігадовай працы зрабіў народны артыста Галубок. Спробы стварыць Беларускі тэатр, зазначыў тав. Галубок,—былі і ў часе нямецкай і белапольскай окупацыі. Але толькі Кастрычніцкая рэволюцыя дала магчымасьць стварэньню і росквіту нашага тэатру. БДВТ заснаваўся ў 1921 г. У акторскі склад яго ўвайшлі галоўным чынам рабочыя і вучнёўская моладзь. Тэатр адразу ўзяў курс на абслугоўваньне рабочых ваколіц Менску. Паступова пачаў ён рабіць вылазкі і на пэрыфэрыю. Шмат труднасьцяй пераж..ыў за гэты час тэатр. Часта-густа артыстам прыходзілася цягнуць на сабе дэкарацыю, рэквізіт, бутафорыю. Шмат прарабіў вандроўны тэатр на вёсцы, дапамагаючы соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Ён моцна быў зьвязаны з часьцямі Чырвонае арміі. Але тэатр ня мінуў пэўных ідэолёгічных памылак. Ён не заўсёды стаяў на вышыні пастаўленых перад ім комуністычнай партыяй і савецкай уладай задач, паддаючыся клясава-варожым, нацыянал-дэмократычным плыням. Пры дапамозе пролетарскай грамадзкасьці, пад кіраўніцтвам партыі тэатр змог пазбыцца гэтых хібаў.

Увядзеньнем у яго такіх п'ес як „Ярасьць", „Дыктатура", „Гальштук" і інш. БДВТ становіцца на правільны шлях сапраўды пролетарскага мастацтва.

З прывітаньнямі выступілі т.т. Шпэктараў (гарком КП(б)Б), Рычкоў (культпроп ЦК КП(б)Б), Бусьнін (газ. „Бальшавік"), Марголін (ЦП саюзу працмастацтва), Вольскі БДТ 2), Крапіва („Узвышша").

Таварыш Платун вітае юбіляра ад імя ўраду БССР. Ён зачытвае тэкст ганаровай граматы, выданай тэатру Саветам народных камісараў.

„На Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр,—гаворыцца ў грамаце,—выпала вельмі адказная культурная і палітычная задача. Ён у сваёй дзейнасьці павінен быць праваднікам пролетарскай культуры, у першую чаргу сярод колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства, якіх дагэтуль тэатр і абслугоўваў. У справе выкананьня гэтага Вандроўны тэатр за апошні час мае значныя посьпехі. Шпаркія тэмпы індустрыялізацыі і соцыялістычнае рэконструкцыі сельскай гаспадаркі патрабуюць ад усяго колектыву тэатру напружаных тэмпаў у галіне далейшага разгортваньня пролетарскага мастацтва... Колектыў тэатру ў сваёй дзейнасьці павінен адлюстраваць вялізарныя процэсы соцыялістычнай рэконструкцыі усёй народнай гаспадаркі, спрыяць яшчэ большаму ўмацаваньню сувязі рабочае клясы з працоўным сялянствам. Паказаць бядняцка-серадняцкаму сялянству, якое яшчэ не ўвайшло ў колгасы, перавагу апошніх перад індывідуальнымі гаспадаркамі".

Савет народных камісараў заклікае колектыў тэатру да далейшай пасьпяховай работы пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго бальшавіцкай партыі на выкананьне вялізарных задач, што стаяць на шляху разьвіцьця соцыялістычнай культуры.

У канцы тав. Платун паведаміў, што старэйшыя акторы БДВТ т.т. Бусел, Згіроўскі, Лазарчык, Дзядзюшка, Быліч і Качынская за шчы-

рую і адданую работу ўзнагароджваюцца прэміяй—па 200 руб. У адказным слове тав. Галубок паведаміў, што колектыў работнікаў БДВТ абвясьціў сябе ўдарным. Вечар скончыўся багатай мастацкай пастаноўкай.

* *Прывітаньне БДВТ ад НКА БССР.* Горача вітае колектыў тэатру з дзесяцігодзьдзем работы. Упэўнен, што пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі БДВТ будзе ствараць пролетарскае па зьмесьце, нацыянальнае па форме мастацтва—непасрэдную частку соцыялістычнага будаўніцтва БССР. Народны камісар Асьветы—Платун.

* *Прывітаньне ад БДТ-2.* Беларускі 2-гі Дзяржаўны Тэатр шле гарачае прывітаньне ў дзень дзесяцігадовага юбілею свайму субрату па зброі — Беларускаму Дзяржаўнаму Вандроўнаму тэатру, на долю якога прыпала цяжкая, але адказная і ганаровая задача—прасоўваць пролетарскае мастацтва ў самыя глухія і далёкія куткі БССР. Нас радуюць вашы бясспрэчныя посьпехі апошняга часу—як мастацкія, так і грамадзка-палітычныя. Мы ўпэўнены ў тым, што БДВТ будзе і ў далейшым, разам са сваім мастацкім кіраўніком тав. Галубком, цьвёрда ісьці па шляху служэньня справе культурнага ўздыму беларускіх працоўных мас.

Няхай жыве Беларускі Дзяржаўны Вандроўны тэатр! Няхай жыве комуністычная партыя—правадыр і організатар культурнай рэволюцыі! Няхай жыве соцыялістычнае будаўніцтва!

* *Прывітаньне ад групы мастацтва НКА БССР.* Таварыскае прывітаньне ад працаўнікоў групы мастацтва НКА БССР у дзень сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя вашай творчай работы. БДВТ павінен стаць суцэльнай ударнай брыгадай у барацьбе за пяцігодку ў чатыры гады, у барацьбе за ленінскую нацполітыку супроць вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе, беларускага контррэволюцыйнага нацдэмократызму і шовінізму розных колераў у справе стварэньня пролетарскага па зьмесьце, нацыянальнага па форме мастацтва БССР.

Няхай жыве БДВТ — праваднік ідэй пролетарыяту ў шырокія масы працоўных! Няхай жыве КП(б)Б—адзіны кіраўнік соцыялістычнага будаўніцтва БССР.

*І. Гурскі, П. Шамшур, І. Любан.*

* *Выстаўка тэхнічных кніг у БДБ.* У Беларускай дзяржаўнай бібліотэцы 15 красавіка гэтага году адчынілася выстаўка тэхнічнай кнігі. Выстаўка складаецца з агульнага аддзелу і спэцыяльных. У агульным аддзеле паказана літаратура дасягненьняў соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне рэконструкцыі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі на соцыялістычных пачатках і па выкананьню пяцігодкі ў чатыры гады. У спэцыяльных аддзелах паказана літаратура важнейшых відаў прамысловасьці ў БССР.

Аддзелы мяняюцца падэкадна: з 15 красавіка па 25 красавіка—мэталюргічны і транспартны, з 25 красавіка па 5 мая—сельскагаспадарчы; з 5 мая па 15 мая—харчовай і хэмічнай прамысловасьці, з 15 па 25 мая—па дрэваапрацоўчай і хэмічнай апрацоўцы дрэва; з 25 мая па 5 чэрвеня—тэкстыльнай і скураной прамысловасьці і з 5 па 15 чэрвеня—вайсковай справы.

Першыя дні адчыненьня выстаўкі далі багата экскурсантаў з якіх на першым месцы—рабочыя, колгасьнікі і настаўніцтва.

## ДА ПРЫЕЗДУ ГОРКАГА Ў СССР

### БССР

* Культсэктар ЦСПСБ даў паказаньне бібліотэкам клюбаў мэталістаў, харчавікоў, саўгандальслужачых, друкароў і інш. аб організацыі выставак твораў Максіма Горкага. Спэцыяльных вітрын і кутков, дзе-б адлюстроўвалася мажліва паўней літаратурная і грамадзка-палітычная дзейнасьць вялікага пролетарскага пісьменьніка.

* Вылучана дэлегацыя з прадстаўнікоў усіх пісьменьніцкіх організацый (БелАПП, „Полымя“, „Узвышша“, БелЛАЧАФ) для сустрэчы Горкага на ст. Негарэлае.

* Праўленьне Дому пісьменьнікаў організуе ў першых лічбах мая вялікі вечар, прысьвечаны прыезду Максіма Горкага ў СССР. Для ўдзелу ў вечары прыяжджаюць з Масквы прадстаўнікі інстытуту літаратуры, мастацтва і мовы Комакадэміі.

* *Пісьменьнікі Менску — Максіму Горкаму.* Агульна-грамадзкі сход пісьменьніцкіх організацый Менску вітае вас—нязломнага барацьбіта за пролетарскую рэволюцыю, старэйшага пролетарскага пісьменьніка.

Чакаем вас у Менску—сталіцы Савецкай Беларусі. Просім заехаць да нас.

Мы ўпэўнены, што і надалей голас Максіма Горкага будзе магутна гучэць у баёх за справу сусьветнага Кастрычніка. *Прэзыдыум.*

### РСФСР

* Камітэт ФОСП вылучыў дэлегацыю для сустрэчы Максіма Горкага. У дэлегацыю ўвайшлі: А. Серафімовіч, Л. Авербах, Усев, Іваноў, Матэ Залка, С. Дзінамаў Ф. Гладкоў, І. Батрак, Г. Коранёў, М. Рассоўскі, М. Слонінскі, Юр. Лебедзінскі, тав. Санаў (зав. „АМО“) і М. Цэйтлін (Літгазэта).

* Інстытут ЛІМ Комакадэміі, разам з РАПП, выпускае тэзісы для дакладаў аб Горкім.

* Працаўнікі ЛІМ Комакадэміі скончылі вялікую працу — поўную бібліографію пра Максіма Горкага, якая будзе здадзена у друк. Да 10 мая інстытут здасьць у друк масавую брошуру „Максім Горкі“ (жыцьцё Горкага, ленінская ацэнка Горкага, што чытать ударніку пра Горкага), астатнія брошуры пра Горкага будуць здадзены інстытутам ЛІМ Комакадэміі ў сярэдзіне мая.

* ЛАЧАФ ладзіць 8 мая ў ЦДЧА для дэлегатаў усеармейскага зьезду сакратароў парт'ячэяк вялікі літаратурны вечар, прысьвечаны Горкаму.

* Военгіз выпускае з друку брошуру „Максім Горкі ў барацьбе за СССР“.

* Літаратурны музэй пры ўсесаюзнай ленінскай публічнай бібліотэцы сумесна з ВССП організуюць выстаўку, прысьвечаную Максіму Горкаму. На выстаўцы будзе паказана каля 100 лістоў — перапіска Горкага з папутчыкамі, галоўным чынам з пачынаючымі пісьменьнікамі за час прабываньня Горкага за граніцай.

* „ВОПКП“ ладзіць на падшэфным Любарэцкім заводзе і ў Ногінскім раёне даклады аб Горкім.

* Сэктар дзіцячае літаратуры выдавецтва „Маладая Гвардыя“ выдае кніжку, прысьвечаную М. Горкаму,

для дзяцей сярэдняга і старэйшага ўзросту.

* Дзіцячую „кніжку-газэту“ выдае выдавецтва „Маладая Гвардыя“ да прыезду Максіма Горкага. У „кніжцы-газэце“ будзе зьмешчаны шэраг нарысаў пра Горкага, некалькі урыўкаў з яго твораў, вытрымкі з палітычных артыкулаў Горкага, а таксама багатым фото-матэрыялам, што адлюстроўвае жыцьцё і дзейнасьць М. Горкага.

* У цэнтральным доме навуковага работніка адбыўся 29 красавіка вечар, прысьвечаны М. Горкаму. Тав. І. Нусімаў выступіў з дакладам на тэму: „Горкі і яго літаратурная эпоха“. Супастаўляючы Горкага з Талстым, Дастаеўскім і Чэхавым, І. Нусімаў падкрэсьлівае сілу і актыўнасьць гэрояў Горкага побач з дэпрэсыяй Чэхаўскага - Іванова, заклікаючага „Жить серой жизнью“.

Упадніцтву рускае інтэлігенцыі, якое апраўдвае талстоўскую тэорыю „непротивление злу“, супроцьпастаўляецца у творах Горкага ўзрастаючы рэволюцыйны ўздым пролетарыяту. Горкі на справе паказаў, як, выкарыстоўваючы свой творчы талянт, пісьменьнік можа быць верным барацьбітом за соцыялістычную праўду. Пасьля дакладу тав. Нусімава было паслана Максіму Горкаму прывітаньне ў зьвязку з надыходзячым яго прыездам у СССР.

## УССР.

У выдавецтве „Пролетары“ вышлі на украінскай мове „Трое“, „Фома Гардзееў“, „Маці“. Да прыезду Горкага ў СССР выдавецтва мастацкай літаратуры на Украіне выдае зборнік італьлянскіх новэлл пісьменьніка і распрацавала плян выданьняў на украінскай мове, пяцітомнага збору выбраных твораў Горкага.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* Заходняя АПП сумесна з ЛАЧАФ організує масавы паход-конкурс ЛАЧАФ і АПП за аўладаньне тэхнікай. Усе сябры АПП і ЛАЧАФ Заходняй вобласьці мобілізуюцца на ліквідацыю тэхнічнай няпісьменнасьці. Для пісьменьнікаў будуць зроблены даклады пра задачы літаратуры ў галіне аўладаньня тэхнікай і конкурс на лепшае правядзеньне паходу. Заходняя АПП і ЛАЧАФ будуць праводзіць літаратурную пераклічку з ЛАЧАФ Беларусі.

* У рэдакцыі часопісу „Новый мир“ адбылося чарговае літаратурнае пасяджэньне, на якім Арцём Вясёлы чытаў урывак з роману „Россия, кровью умытая“. Пасьля А. Вясёлага з чытаньнем вершаў выступілі поэты: П. Антакольскі, Н. Асееў, С. Кірсанаў, Ів. Малчанаў і Бор. Пастэрнак. На літаратурным пасяджэньні прысутнічаў т. М. І. Калінін.

* Дырэктарыят інстытуту літаратуры, мастацтва і мовы Комакадэміі зацьвердзіў старшынёю сэкцыі і публіцыстыкі тав. Кірпоціна, дырэктара інстытуту літаратуры, мастацтва і мовы ленінградзкага аддзяленьня Комакадэміі.

* 20 красавіка адчынілася першая конфэрэнцыя Урал.АПП. З вялікім палітычным дакладам выступіў член бюро Абкому ВКП(б) т. Маркус.

* Тав. Г. Корнеў коаптаваны ў склад праўленьня ВССП.

* У начальніка вайскова - паветраных сіл і члена рэволюцыйна-вайсковага савету СССР т. Баранава адбылася нарада ЛАЧАФ, прысьвечаная пытаньню асьвятленьня ў літаратуры жыцьця і працы працаўнікоў авіяцыі. Пісьменьнікі — сябры ЛАЧАФ заявілі аб тым, што яны творча самамобілізуюцца для стварэньня твораў пра Чырвоны паветраны флёт. Тав. Баранаў абяцаў усебакова дапамагаць у працы.

* Сябры МАПП В. Дзьмітраў, Л. Ошанін, К. Мітрэйкін, Ул. Лугаўскі, Сідараў, Рэшчыкаў, Сідарэнка, Цыганіцкі, І. Міхайлаў, Крэндзін, Пугачоў, Лінкінд, Міх. Галодны, Дж. Алтаўзен, Ал. Жараў, Падзьдзелкаў, Галовін, Юрын, Сіткоўскі і Тамашэўская мобілізаваны сакратарыятам МАПП для выступленьня ў першамайскія дні.

* Бюро літ. консультацыі ГІХЛ з чэрвеня бягучага году пачне выдаваць часопіс „На дапамогу ўдарніку“. У задачы часопісу ўваходзіць выяўленьне творчасьці пачынаючага пісьменьніка-ўдарніка, літаратурная вучоба, перадача вопыту высокакваліфікаванага пісьменьніка - профэсыянала рабочаму-ўдарніку і азнаямленьне ўдарніка з гісторыяй пролетарскага руху. Часопіс будзе выходзіць кожныя 20 дзён, памерам у 2 друкаваныя аркушы.

* У склад праўленьня выдавецтва Акадэміі уведзены галоўны рэдактар выдавецтва А. В. Луначарскі.

* Літаратурнае аб'яднаньне рабочых-пісьменьнікаў (ЛОРП) пры „Производственном журнале“ заключыла ўмову з выдавецтвам ВЦСПС на выданьне літаратурна - мастацкага зборніку. Зборнік будзе напісаны рабочымі-сябрамі ЛОРП. У яго ўвойдуць нарысы, апавяданьні і вершы, пабудаваныя на фактычным матэрыяле.

* 15 мая у Маскве адбудзецца

пашыраны пленум праўленьня маскоўскага і ленінградзкага аддзелу ВССП. Пленум абмяркуе асноўныя пытаньні павесткі дня Ўсерасійскай конфэрэнцыі ВССП. На пленуме будуць абмяркованы мэтоды разгортваньня творчай дыскусыі ў ВССП.

* Паміж Цэнтральным саветам ЛАЧАФ, ОГІЗ і ГІХЛ заключана генэральная ўмова на выданьне сэрыі літаратурна-мастацкіх твораў, што зьявіліся вынікам творчай мобілізацыі 70 пісьменьнікаў, якія абавязаліся напісаць пра Чырвоную армію, ГІХЛ асыгнуе 60 тыс. рублёў на авансаваньне аўтараў гэтай сэрыі ЛАЧАФ у працягу мая—сьнежня 1931 г. З гэтага фонду ГІХЛ выдзяляе 10 тыс. руб. у якасьці трох прэмій—у 5 тыс. руб., 3 тыс. руб. і 2 тыс. руб.—за лепшыя творы на тэму пра Чырвоную армію.

## УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* У Харкаве пачынае выходзіць новы орган ВУСПП'у—масавы двухтыднёвік „Літаратурны заклік", прысьвечаны пытаньню літаратурнае вучобы. Рэдактарам часопісу прызначаны сакратар ВУСПП Р. Кушнарэў-Прымер, рэдакцыйная колегія—т.т. Мікітэнко, Кірыленко, Любчонко і інш.

* У маі м-цы адбудзецца ў г. Харкаве Ўсеукраінскі зьлёт ударнікаў, закліканых у літаратуру. Зьлёт склікаецца па ініцыятыве ВУСПП'у.

* Па ініцыятыве Кіеўскай філіі ВУСПП'у 9 красавіка агульны сход організаваных пісьменьнікаў г. Кіева, заслухаўшы даклад тав. Шчупака, ухваліў увайсьці у склад фэдэратыўнага аб'яднаньня рэволюцыйных пісьменьнікаў Украіны. У склад бюро філіі ФОРПУ абралі 13 таварышоў. ад ВУСПП'у—Шчупак, Ів. Ле, Цярэшчэнка, Карнейчук; ад „Маладняка"—Пронь; ЛАЧАФ'у—Якіські; рабочых-ударнікаў—Кыслыцкі, Салавей; ад „Плуга"—Касарык-Каваленка, Гр. Яковенко; „Заходняй Украіны"—Козорыс; комуны рас. пісьменьнікаў—М. Ушакоў і сэкцыі яўрэйскіх пісьменьнікаў—Гофштэйн.

У склад прэзыдыуму бюро абралі 4 таварышоў: Шчупак—старшыня: Карнейчук і Козорыс—намесьнікі і Гр. Яковенко—сакратар філіі.

**У аб'яднаньні пісьменьнікаў „Плуг".**

Прэзыдыум і ЦБ „Плуга" у першых лічбах мая склікае:

Першы зьезд нямецкай сэкцыі „Плуга" і пашыраны пленум ЦБ „Плуга" разам са зьлётам ударнікаў закліканых да літаратуры ад соцыялістычнага сэктару вёскі.

Зьезд нямецкай сэкцыі „Плуга" пачне працаваць 7 мая вечарам. Будуць абмяркованы наступныя пытаньні:

1. Даклад пра нацполітыку партыі ў нямецкай вёсцы ў пэрыяд соцрэконструкцыі.

2. Сучасны стан украінскай літаратуры (дакладчык ад „Плуга").

3. Творчая работа нямсэкцыі:

а) проза (Кнорэ);

б) поэзія (Люфт);

в) дзіцячая літаратура (Баўмгертнэр).

4. Прызыў ударнікаў і пытаньні кадраў (Бахман).

5. Організацыйныя пытаньні.

У працы зьезду прымуць удзел усе сябры нямецкай сэкцыі „Плуга", ударнікі з 5 нямецкіх раёнаў, прадстаўнікі АПП нямецкай рэспублікі Паваложжа, прадстаўнікі нямсэкцыі МАПП, прадстаўнікі нямецкіх работнікаў харкаўскіх прадпрыемств і прадстаўнікі ад літаратурных аб'яднаньяў Украіны. Апрача таго на гэты зьезд запрошаны нямецкія літаратурназнаўчыя сілы: профэсар Міквіца і Штрэма.

Пашыраны пленум „Плуга" і зьлёт ударнікаў будзе праведзены разам. Работа пачнецца 10 мая вечарам. Удзельнікаў разам з гасьцямі павінна быць каля 150 чалавек. У гэтым ліку прыежджых з пэрыфэрыі пісьменьнікаў сяброў „Плуга", ударнікаў, прадстаўнікоў літгурткоў, сяброў літгрупы „Трактар", „Заграва", „Цэнтрафуга" і прадстаўнікоў літаб'яднаньня пролетарска-колгасных пісьменьнікаў РСФСР, АНСР і БССР—прыбудзе 60 чалавек.

Будуць абмяркованы наступныя пытаньні:

1. Палітычны даклад ад ЦК КП(б)У.

2. Трэці рашаючы год у сельскай гаспадарцы. Даклад ад НКЗ УССР.

3. „Плуг“ на новым этапе (Піліпенко);

а) садаклад нямецкай сэкцыі (Фіртнэр);

б) садаклад літгрупы „Трактар“ (Даніленко);

4. Прызыў ударнікаў у літаратуру (Гаврыленко).

5. Мэтоды і формы работы ў літгуртках (Паніў і Заяц).

6. Наша крытыка і самакрытыка (Саўчэнка, Лаўрыненко, Ярмоленко).

7. Бягучыя справы:

а) асабовы склад „Плуга“ (Штангей);

б) зацьверджаньне рэзолюцыі 1-га зьезду нямсэкцыі;

в) пытаньне пра Ўсесаюзнае аб‘яднаньне пролетарска - колгасных пісьменьнікаў (Пілiпэнко);

г) справаздача рэдколегіі часопісу „Плуг“ (Штангей);

д) падрыхтоўка да 10-гадовага юбілею „Плуга“ (Штангей);

е) справаздача рэвкамісіі.

* 27 красавіка адбылася другая Ўсеукраінская конфэрэнцыя яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў у г. Харкаве. Абмяркоўваўся стан і пэрспэктывы украінскай пролетарскай літаратуры (даклад ВУСПП).

Тав. Фефер зрабіў даклад на тэму „Задачы яўрэйскай пролетарскай літаратуры ў рэконструкцыйны пэрыод“. Таксама абмяркоўваліся творчыя проблемы пролетарскай літаратуры і стан і задачы марксыцкай крытыкі.

Першая Ўсеукраінская конфэрэнцыя яўрэйскіх пісьменьнікаў адбылася таксама ў Харкаве ў 1927 г.

* На украінскай мове вышла поўнасьцю „Вайна“ Людвіга Рэнна з прадмоваю Белы Ілеша і пасьляслоўем аўтара. Друкуюцца новыя рэчы Эгона, Эрвіна, Кіша, Глезера, Вайскопфа і Майк Голда.

* ЦБ „Плуга“ даручыла тав. Ярмоленкаву і Лаўрэнкову скласьці чытанку з украінскае літаратуры, якая магла-б быць падручнікам для ўдарнікаў—пачынаючых, літгуртка і самаасьветы. Гэта кніжка разрахована і на ўдарніка індустрыяльнага сэктару і на ўдарніка соцыялістычнага сэктару вёскі. У аснову паложана програма для літгурткоў, якую апрацавалі крытычна-мэтодолёгічны сэктар „Плуга“ і мэтодбюро ВУСПП‘а. Кніжку выдае Дзяржвыдавецтва „Радзянска Школа“.

## ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* У канцы красавіка адбыўся вечар прысьвечаны нямецкай, польскай і заходня - беларускай фашыстоўскай літаратуры ў інстытуце літаратуры, мастацтва і мовы Комакадэміі.

— Фашыстоўская літаратура Нямеччыны,—адзначае дакладчык таварыш Шылер,—узьнікла яшчэ ў 1918 годзе як літаратура юнкерскачыноўніцкага пазадзьдзя монархізму, што вёў барацьбу за рэстаўрацыю. Расавая тэорыя як „тэорэтычнае" апраўданьне агалелага нямецкага шовінізму, антысэмітызму, пропаганда вайны, романтыка „Чорнага рэйхсвэра", утопічны фашыстоўскі роман, перасьцерагаючы капіталістычны сьвет ад надыходзячай перамогі комунізму—вось тыя асноўныя прылады, якімі літаратура буржуазнае Нямеччыны карыстаецца для пропаганды фашызму.

— У Польшчы літаратурны фашызм выяўляе ідэолёгію пілсудчыны,—падкрэсьлівае ў сваім дакладзе Бруно Ясенскі. У большым выпадку гэта бяздарная пісаніна. Найбольш буйнымі прадстаўнікамі польскай фашыстоўскай літаратуры зьяўляецца Стэфан Жэромскі (памёр у 1926 г.) і яго эпігон К. Бандроўскі. Стэфан Жэромскі, творчасьць якога мела ў свой час нават рэволюцыйную значнасьць, пасьля паўстаньня кракаўскага пролетарыяту ў 1923 г., што было пераломным момантам у гісторыі пасьляваеннай Польшчы, робіцца яўным фашыстам: у кнізе „Przedwiośnie" ён выхваляе ідэю майскага перавароту, зробленага Пілсудзкім. К. Вандроўскі таксама як і Жэромскі ў цэнтры сваіх романаў ставіць моцную асобу і, зьдзекваючыся над пролетарыятам, заклікае польскую буржуазію „вырашыць" рабочае пытаньне, каб пролетарыят не зьвярнуўся да комунізму. Фашыстоўская літаратура Заходняй Беларусі (даклад тав. Якаўлева) зьяўляецца колёніяльнай літаратурай польскага фашызму. Яе асаблівасьць у тым, што нацыянал-фашызм зьяўляецца ў ёй адбіцьцём ідэолёгіі кулацтва: поэты нац. фашысты Заходняй Беларусі апяваюць вёску—аснову кулацкага панаваньня і са страхам і ненавісьцю пішуць пра горад, пра машыну. Асноўныя ідэі іх творчасьці—барацьба з рэволюцыйным пролетарыятам і гістарычная роля Польшчы ў справе падрыхтоўкі наступленьня на СССР.

### Амэрыка

* Рэволюцыйнае аб'яднаньне пісьменьнікаў і мастакоў у Амэрыцы, вядомая пад назваю „Клюб імя Джон Рыда", увайшло цалкам у МОРП, утварыўшы, такім чынам, амэрыканскую сэкцыю.

* Амэрыканскія і савецкія мастакі мяняюцца сваім мастацкім вопытам. Вільям Гроппер, які вярнуўся з Харкаўскай конфэрэнцыі, прывёз цэлы шэраг малюнкаў савецкіх мастакоў. Хутка ў Нью-Ерку адбудзецца выстаўка савецкага мастацтва. У сваю чаргу ў Маскве адбудзецца выстаўка малюнкаў мастакоў Нью-ёрскага клюбу Джон Рыда.

### Англія

* Вядомы пісьменьнік Бэрнард Шоу, выступаючы ў таварыстве пісьменьнікаў у Лёндане, рэзка кры-

тыкаваў позыцыю, якую займае ангельскі друк у адносінах да СССР.

„Друк,—заявіў Шоу,—да гэтага яшчэ не зразумеў, што ў сьвеце адбылася савецкая рэволюцыя. Мы яшчэ да гэтага часу не ўсьвядомілі таго, што савецкая ўлада ўмацавалася, і ў рэзультаце мы ня толькі трацім адну з найвялікшых магчымасьцяй для гандлю, на якую ніхто з нас ня мог ніколі спадзявацца, але таксама вялікую магчымасьць аказаць дапамогу будаўніцтву ў Савецкай рэспубліцы".

* Адна з раньніх п'ес Бэрнарда Шоу „Як ён хлусіў яе мужу" ідзе ў гукавым кіно. Шоу дазволіў перарабіць сваю п'есу для кіно ўпяршыню.

* У выдавецтве „Мартэн Шэкэр" у хуткім часе выйдзе пераклад кнігі расійскага пісьменьніка Леаніда Леонава „Злодзі".

* Лорд д'Абернон выпусьціў у Лёндане новую кніжку „Васемнаццатая рашучая сусьветная бойка". Кніга прысьвечана бойкам пад Варшавай паміж польскай і Чырвонай арміяй у 1920 г.

### Нямеччына.

* У Нямеччыне разгарэлася заядлая барацьба вакол апошняга роману Ліона Фейхтвангера „Посьпех", у якім ён выводзіць у адмоўных рысах гітлераўцаў. Апошнім удалося дамагчыся таго, што шмат кнігагандляроў аб'явіла бойкот ня толькі гэтаму роману Фейхтвангера, але іншым яго творам.

* Другі вечар масавай крытыкі, наладжаны саюзам пролетарскіх пісьменьнікаў Нямеччыны 6 красавіка, быў прысьвечаны, у сувязі з міжнародным днём жанчыны, разгляду твораў, якія адлюстроўваюць жыцьцё працоўнае жанчыны ў капіталістычных краінах. На сходзе разглядаліся кнігі: „Вуліца бяз сонца" японскага пісьменьніка Н. Такунага, „Марыя і Параграф" Фр. Крэй, „Баркас ХФ 13" Альбэрта Гошшона і „Ганна" Івана Ольбрахта.

* „Нейер Дэйтшэр Фэрляг" (новае нямецкае выдавецтва) аб'явіла конкурс на лепшы роман супроць фашызму. Прэмія—400 марак.

### Францыя.

* У выдавецтве „Валюа" выходзіць шыкоўна афармлены часопіс „Клян", які рэдагуе Філіп Ламур і ў якім сярод надзвычайнай блытаніны ўсё-ж ярка выступае асноўная тэндэнцыя сур'ёзнай ацэнкі плянавай эканомічнай політыкі СССР.

* Буржуазнае выдавецтва „Лекарэфюр", дырэктарам якога зьяўляецца П'ер Леві пачынае друкаваць пад рэдакцыяй тав. Нізана сэрыю гістарычных і тэорэтычных прац, у якіх выказваюцца акрэсьленыя дадатныя адносіны да комунізму і СССР.

* Часопіс „Монд", што выдаецца пад рэдакцыяй Барбюса, дае шырокую інформацыю пра СССР. Тыраж часопісу—4.000 экз.

### Японія.

Японскі саюз пролетарскіх пісьменьнікаў, які ўваходзіць у склад Усеяпонскай фэдэрацыі пролетарскага мастацтва (НАПФ), налічвае звыш 250 сяброў, што далі ўжо багатую па тэматыцы і ідэолёгічна вытрыманую пролетарскую літаратуру.

### Sovietica

У апошні час вышлі з друку ў перакладзе на нямецкую мову наступныя кніжкі савецкіх пісьменьнікаў РСФСР:

У юнацкім выдавецтве Jugendinternationale „Die Uhr"—Часы—Пантелеева, „Die Fabrik im Walde"—Лесазавод—Анны Караваевай і „Das erste Mädel"—Першая дзяўчына—Багданава.

У выдавецтве Literatur und Politik „Die Kommune der Habenichtse"—Панфёрава і ў выд-ве Kiepenheuer—

„Küchelbecker — Кюхельбэкэр — Тынянава.

У выдавецтве Брокгауза выдадзена кніжка Фрыціёфа Нансена — „Durch den Kaukasus zur Wolga“.

Выдавецтва Zenith у Мадрыдзе выдала ў гішпанскім перакладзе „Цэмэнт“ Гладкова і „Жалезны паток“ Серафімовіча.

**Гішпанія.**

За апошні час у выдавецтве Zenith у Мадрыдзе вышлі наступныя кніжкі, якія заслугоўваюць увагі:

„Tres Dias con los Endemoniados“ (Тры Діаса і тутэйшыя).—Пратса Бэльтрама малюе барбарскія рэлігійныя звычкі аднае горнае вобласьці Гішпаніі і вызначаецца сваім вострым антыклерыкальным напрамкам.

„Sman“—Р. Зэндэра на тэму аб гішпанскай інтэрвэнцыі ў Марока. Аўтар выяўляе свой адмоўны погляд на гэтую вайну. „Sangre en el Tropico“—Роблета (кроў у тропіках) дае вельмі ўдалыя малюнкі змаганьня нікарагуанскіх паўстанцаў на чале з Сандыно супроць паўночна-амэрыканскага імпэрыялізму.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**Паважаны т. рэдактар!**

Прашу зьмясьціць у В|часопісі наступнае:

У № 1 „Полымя“ за 1931 г. зьмешчаны вянок маіх вершаў „Экзамэн“ з шэрагам прыкрых друкарскіх памылак. На галоўную павінен адзначыць:

Вершаваная заўвага:

1) Гётэ—гэты адменна мы.
Пачытайце каму ў ахвоту
Іфігеніі моноліч
У старога Вольфганга Гётэ
(стар. 42)

адносіцца не да страфы—

Дзень асеньні на сэрца лёг
І выходзіць няма ахвоты
Іфігеніі монолег
Я чытаю ў старога Гётэ
(стар. 42),

Як гэта надрукавана ў часопісі, а да страфы:

„Слова—каліва. Слова—меч.
Абтачыць яго—асалода,
Бо аднолькава трэба ўмець,
І мячом, і сяўнёй валодаць“.

У тым контэксьце, у якім гэтая заўвага надрукавана ў часопісі, яна траціць свой сэнс.

*Юлі Таўбін.*

1/III 1931 г.
Менск.

*Рэдакцыйная колегія*: Ал. Сянкевіч, А. Некрашэвіч, Р. Мурашка, П. Галавач, С. Рычкоў,

*Выдавец*: Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва

# ЗЬМЕСТ

 ЦАНА 1 руб.



# АДКРЫТА ПАДПІСКА НА [illegible] ГОД

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ
БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

# „ПОЛЫМЯ“

X-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
А. СЯНЬКЕВІЧА, П. ГАЛАВАЧА,
А. НЕКРАШЭВІЧА, Р. МУРАШКІ,
С. РЫЧКОВА

X-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ

ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“ ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЦ,
12 КНІЖАК НА ГОД, памерам кожная ў 10—12 аркушоў.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 12 мес. . . . . . . . 10 руб.
„ 6 „ . . . . . . . . 5 „ 50 кап.
„ 3 „ . . . . . . . . 3 „

КОШТ АСОБНАГА НУМАРУ 1 руб.

ПАДПІСЧЫКІ, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымаюць у 1931 годзе ДАРМОВЫ ДАДАТАК—літаратурна-мастацкую часопісь „УЗВЫШША“ за 1927 або 1928 год, па жаданьню.

**НА ВЫПЛАТУ МОЖНА ПАДПІСАЦЦА:**

ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 3 тэрміны: пры падпісцы—4 р. 50 к., да 1-га красавіка—3 руб. і да 1-га ліпеня—2 руб. 50 кап.

ПОЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 2 тэрміны: пры падпісцы—3 р. 50 к. і да 1-га красавіка—1 руб. 50 кап.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: У аддзеле падпісных і пэрыодычных выданьняў БДВ (Менск, Савецкая, 79, тэл. 17-12); Цэнтральнай Кнігарняй Белдзяржвыдавецтва (Менск, рог Ленінскай і Савецкай); усімі гарадзкімі аддзяленьнямі Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва; аддзелам падпіскі пэрыодсэктару ГІЗ'у РСФСР (Менск, Савецкая, 54); усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і ўсімі кніжнымі крамамі спажывецкіх таварыстваў БЕЛКООПСАЮЗУ.